У. І. Коваль

# НАРОДНЫЯ ЎЯЎЛЕННІ, ПАВЕР'І І ПРЫКМЕТЫ

## Даведнік па ўсходнеславянскай міфалогіі



Беларускае Агенцтва навукова-тэхнічнай
і дзелавой інфармацыі

Гомель 1995

ББК 82.3 Бел+81.2 Бел—4
К56

Работа рэкамендавана да выдання ў якасці дапаможніка па курсу «Усходнеславянская міфалогія» для студэнтаў філалагічных спецыяльнасцей Саветам філалагічнага факультэта Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф. Скарыны.

Рэцэнзенты: доктар філалагічных навук **І. Ф. Штэйнер**,
кандыдат філалагічных навук **В. С. Новак**.

**Коваль У. І.**

К56 **Народныя ўяўленні, павер'і і прыкметы: Даведнік па ўсходнеславянскай міфалогіі.** Гомель, Беларускае Агенцтва навукова-тэхнічнай і дзелавой інфармацыі, 1995. — 180 с.

ISBN 985-415-005-4

Народная міфалогія ўсходніх славян — сукупнасць уяўленняў аб прыродзе і прыродных з'явах, заснаваных на архаічных язычніцкіх вераваннях. Ахопліваючы шырокае кола самых розных з'яў і прадметаў, міфалогія па-свойму тлумачыць рэчаіснасць, падкрэсліваючы яе супярэчлівасць, складанасць, прыгажосць і гармонію. З глыбінь вякоў праз рэлігійны, адміністрацыйны і ідэалагічны ўціск да нас дайшлі толькі рэшткі старажытных народных уяўленняў, павер'яў і прыкмет. «Міфалагічная перспектыва» дазваляе не толькі ўбачыць іх арганічную ўзаемасувязь, але і вызначыць іх вытокі, суаднесці са шматлікімі абрадамі і звычаямі.

Прапануемая кніга з'яўляецца адной з першых спроб стварэння даведніка па ўсходнеславянскай міфалогіі. У рабоце ўтрымліваюцца звесткі больш чым аб 180 міфонімах — назвах міфічных істот, хатніх і дзікіх жывёл, раслін і неадушаўлёных прадметаў, народных свят, стыхій і некаторых колераў. Народнаміфалагічныя ўяўленні, павер'і і прыкметы падаюцца з выкарыстаннем фальклорных і літаратурных матэрыялаў, а таксама дадзеных роднасных усходнеславянскіх моў.

Прызначаецца для студэнтаў гуманітарных і іншых спецыяльнасцей, настаўнікаў і выкладчыкаў ВНУ, работнікаў культуры і ўсіх, хто цікавіцца багатай духоўнай спадчынай усходнеславянскіх народаў.

ББК 82.3 Бел+81.2 Бел—4

ISBN 985-415-005-4

*Бацьку, маці, маім родным*
*і ўсім землякам з дарагой Брагіншчыны*



## УСТУП

Час, у які мы зараз жывем, — час напружаных, пакутлівых спробаў знаходжання выйсця не толькі з эканамічнага заняпаду, але і з глыбокага духоўнага крызісу. І ў магутным усеабдымным, разнастайным інфармацыйным патоку, які літаральна абрынуўся на людзей ў апошнія гады, вельмі цяжка зарыентавацца, каб адшукаць тыя «залатыя зярняты», што так неабходны сёння кожнаму з нас. Але ўсё ж у інфармацыйным «буме» нельга не заўважыць з'яўленне літаратуры (рознай, дарэчы, па зместу), так ці інакш звязанай з духоўнай спадчынай нашых продкаў — іх паэтычнымі ўяўленнямі аб навакольным асяроддзі, абрадамі, звычаямі, павер'ямі і паданнямі. Аўтары гэтых работ — розных па зместу і накіраванасці — спрабуюць «рэканструяваць» светапогляд мінулых эпох (ці хаця б яго асобныя часткі).

Якія ж асаблівасці гэтага светапогляду, што ляжыць у яго аснове? Калі абагульніць выказванні розных даследчыкаў па гэтай складанай праблеме, можна адказаць прыблізна такім чынам: нашы продкі не выдзялялі сябе з акаляючага іх свету (і Сусвету ў цэлым), яны адчувалі сваю кроўную, непарыўную еднасць з усёй прыродай, наіўна, але прыгожа, паэтычна «ачалавечваючы» не толькі жывёл, расліны, але і «нежывыя» прадметы (напрыклад, сякеру, дзяжу, печ). Вельмі дакладна вызначае сутнасць традыцыйнага народнага светапогляду Т. Шамякіна, якой нале-

жыць серыя цікавых і грунтоўных публікацый па агульных і прыватных праблемах міфалогіі: «Увесь навакольны свет народная фантазія насяляла добрымі і злымі духамі. Кожны з іх мае свае прыкметы, свой характар і паводзіны, патрабуе пэўных ахвяраў. Мірыяды гэтых істотаў, што суправаджалі чалавека паўсюль, разам з тым выхоўвалі ў ім беражлівае стаўленне да прыроды, якая знаходзілася пад аховай духаў, да ўласнай гісторыі, бо частка гэтых духаў па паходжанні — ад душаў продкаў. Адухаўленне рэчак, азёраў, лясоў нараджае і любоўнае стаўленне да іх, а адчуванне сваёй еднасці з продкамі — Дзядамі — дае Традыцыю ў вышэйшым значэнні гэтага слова»[1].

Чым жа з'яўляюцца звесткі аб старажытным народным светапоглядзе, як нам, уступаючым у XXI стагоддзе, да іх трэба адносіцца — як да бабульчыных забабонаў, наіўных казак, як да вынікаў адвечнай прыгнечанасці людзей ці як да пэўнай сістэмы — са сваёй (хоць і наіўнай) філасофіяй, мудрасцю і ўнутранай гармоніяй? Слушныя думкі ў сувязі з гэтым выказвае сучасны даследчык духоўнай культуры беларусаў У. А. Васілевіч: «Няма гаворкі, любы народ у сваёй свядомасці носіць вялікі запас забабонаў і павер'яў — вынік шматвекавой забітасці, прыгнечанасці. Але пранікненне за абалонку гэтай сферы дапаможа адчуць паэтычнае, казачна-фантастычнае пераўтварэнне навакольных з'яў; неразуменне таямніц прыроды, таямніц жыцця прыводзіць да алегарычнага тлумачэння свету. І таму вельмі важна не сарамліва замоўчваць выдаткі змрочнага мінулага ў свядомасці народа, не накідвацца паспешліва з ваяўнічым запалам на развянчанне таго, што абверг адукаваны век, а паспрабаваць пранікнуць у глыбіню народнай думкі, прайсціся па зарослых сцежках народных уяўленняў. Такое вывучэнне адкрыла б іншую грань светаўспрымання нашых продкаў, і мы б убачылі тыя непасрэдныя сувязі (па-свойму лагічна абумоўленыя!), якія яднаюць жыццё рэальнае з міфічным, выдуманым светам».

Сукупнасць традыцыйных народных уяўленняў прынята называць народнай міфалогіяй. Само ж слова *міфалогія* непарыўна звязана ў большасці з нас са старажытнымі грэчаскімі ці рымскімі багамі і героямі. Але і ў нашых продкаў — старажытных славян-язычнікаў — існавала свая, вельмі складаная, даволі разгалінаваная і па-свойму багатая міфалогія — з багамі і «антыбагамі», з адвечнай ідэяй барацьбы дабра са злом. Да нас, да сённяшніх часоў дайшлі толькі асобныя фрагменты, рэшткі некалі цэласнай міфалагічнай сістэмы. Міфалогія, такім чынам, — гэта не толькі сукупнасць міфаў, але і пэўны тып мыслення, спецыфічны спосаб «асваення» рэчаіснасці. У гэтым сэнсе маючыя све-

[1] Шамякіна Т. Міфалогія і яе значэнне // Роднае слова, 1993, № 7. С. 50.

тапоглядны характар народныя ўяўленні даюць падставу для ўзнікнення самых розных павер'яў (канкрэтных рэалізацый уяўленняў) і народных прыкмет — тых ці іншых з'яў, што прадвяшчаюць што-небудзь. Так, на аснове ўяўлення аб сувязі зайца з нячыстай сілай ўзніклі павер'е (злыя духі могуць ператварацца ў зайца) і прыкмета (сустрэча з зайцам прадвяшчае бяду, няўдачу).

Часцей за ўсё тэрмін *міфалогія* разумеецца ў «вузкім» сэнсе гэтага слова, калі маюцца на ўвазе міфалагічныя істоты (Чорт, Дамавік, Лясун, Вадзянік, Русалка, Лазнік, Балотнік і інш.). Менавіта такі матэрыял уключаны ў выдадзеныя нядаўна цікавейшыя кнігі «Персонажи славянской мифологии» (аўтары А. А. і С. А. Кананенка; Кіеў, 1993 г.) і «Міфы бацькаўшчыны» (складальнік У. А. Васілевіч; Мінск, 1994 г.). Разам з тым існуе і больш шырокае разуменне міфалогіі: міфалогія як тып мыслення, што дазваляе адухаўляць усю прыроду, бачыць, адчуваць не толькі міфічныя істоты, але і самыя розныя прадметы і з'явы. З гэтага пункту погляду ў сферы міфалогіі аказваецца ўвесь навакольны свет (як прынята зараз гаварыць, мікра- і макракосмас). Напрыклад, уяўленні аб Чорце як абагуленым увасабленні нечысці, зла будуць няпоўныя без выкладання звестак аб тым, што яму супрацьстаіць у народнай свядомасці: аб **Перуне** — богу нябеснага агню, аб асвечанай вадзе і **Вадохрышчы,** а таксама аб істотах і прадметах, маючых дачыненне да Чорта: аб **зайцу, вераб'і,** аб **пекле і балоце.** У сваю чаргу, міфічны персанаж **Пярун** мае выразнае дачыненне да **дуба, сякеры, пеўня, агню...**

Міфалагічнае светаўспрыманне мае выразную дахрысціянскую, язычніцкую аснову; язычніцтва ж (гэтае, па трапнай заўвазе Т. Шамякінай, «дзяцінства чалавецтва, народа, прыгожае, мілае, настальгічнае»), у сваю чаргу, уяўляе сабой адушаўленне, абагаўленне ўсіх прадметаў і істот — цалкам усёй прыроды.

Такога «шырокага» падыходу да разумення міфалогіі прытрымліваецца і аўтар гэтай работы. Са 182 назваў значную частку (прыкладна 70 найменняў) складаюць розныя міфічныя істоты. Пры гэтым у даведнік уключаны прадстаўнікі як «ніжэйшай» міфалогіі (**Аржавенік, Багнік, Лазнік, Палудніца, Пятніца** і інш.), так і «вышэйшыя» язычніцкія бостыы, звесткі аб якіх амаль не захаваліся ў народнай памяці (**Пярун, Велес, Мокаш, Дажбог** і інш.). Акрамя таго, у міфалагічным аспекце разглядаюцца назвы жывёл і птушак (**сабака, кот, конь, воўк, заяц, верабей, бусел, зязюля**), раслін (**гарох, дуб, асіна, вярба**) і многіх неадушаўлёных прадметаў, якія надзяляюцца міфалагічнымі ўласцівасцямі (**дзяжа, сякера, печ, парог, патэльня, качарга, люстэрка**). Разглядаюцца таксама асноўныя святы народнага календара (**Каляды,**

**Вадохрышча, Вялікдзень, Купалле, Дзяды**), у якіх адлюстраваліся шматлікія элементы міфалагічнага светапогляду, а таксама назвы дзён тыдня (звязаныя з імі ўяўленні і прыкметы), назвы некаторых колераў і асноўных стыхій.

У дадзенай рабоце разглядаемыя назвы (словы-міфонімы) ў большасці выпадкаў суадносяцца з адлюстраваннем іх у мове (са словамі, устойлівымі словазлучэннямі), у літаратуры (з літаратурнымі вобразамі і сюжэтамі), у фальклоры (з прыказкамі, прымаўкамі, паданнямі, легендамі, быліčкамі і казкамі). Слоўнікавыя артыкулы адрозніваюцца паміж сабой па форме выкладання (гэта, зразумела, залежыць ад колькасці сабранага аўтарам матэрыялу і глыбіні яго асэнсавання): ад сціслага, лаканічнага, уласна слоўнікавага да разгорнутага апісання (у форме нататкаў). Частка міфонімаў апісана ці апісваецца аўтарам упершыню (**барана, венік, верабей, гарох, дзяжа, кажух, калода, лапці, месяц, печ, хамут, яйцо** і некат. інш.); большасць назваў даецца са спасылкай на аўтараў. У тэкстах выдзелены словы, якія ўключаны ў даведнік і разглядаюцца ў міфалагічным асвятленні; курсівам падаюцца асобныя словы, тэрміны і ўласныя імёны.

Зразумела, што паняцце «ўсходнеславянская міфалогія» ў пэўнай ступені з'яўляецца ўмоўным: большасць з разглядаемых у рабоце міфонімаў мае агульнаславянскі характар, а некаторыя з іх могуць быць аднесены да міфонімаў-індаеўрапеізмаў. Разам з тым відавочна, што побач з уласна беларускімі, рускімі і ўкраінскімі міфалагічнымі ўяўленнямі рэальна існуе значны «міфалагічны пласт», які адлюстроўвае светапогляд далёкіх продкаў гэтых роднасных народаў.

Аўтар добра ўсведамляе таксама, што прыведзеныя ў гэтай рабоце звесткі далёка не поўныя, а ў асобных выпадках — у нечым і суб'ектыўныя, аднабаковыя; таму ён з удзячнасцю прыме заўвагі і пажаданні, накіраваныя на пашырэнне і паглыбленне ведаў у галіне ўсходнеславянскай міфалогіі.

## ТЛУМАЧЭННЕ ТЭРМІНАЎ

У рабоце нярэдка сустракаюцца спецыяльныя словы — тэрміны, кароткае тлумачэнне якіх прыводзіцца ніжэй:

*Абрад* — сукупнасць строга акрэсленых дзеянняў, якімі суправаджаецца выкананне рытуалаў.

*Амбівалентны* — проціпастаўлены; такі, які выклікае процілеглыя ўяўленні.

*Антрапаморфны* — чалавекападобны.

*Апатрапей* — прадмет, які надзяляецца ўласцівасцямі магічнай засцярогі.

*Апостал* — паводле Евангелля — адзін з дванаццаці вучняў Хрыста, прапаведнікаў яго вучэння.

*Атрыбут* — неад'емная ўласцівасць, пастаянная прыналежнасць, характэрная прыкмета прадмета ці з'явы.

*Былічка* — вусны расказ-успамін пра быццам бы меўшыя месца звышнатуральныя з'явы (сустрэчы з дэманічнымі істотамі, ведзьмамі, калдунамі, вупырамі, ваўкалакамі і інш.).

*Дэман* — у хрысціянскай міфалогіі д'ябал, злы дух, нячыстая сіла.

*Дэміург* — тварэц, міфічны стваральнік сусвету ў антрапаморфным ці зааморфным выглядзе; актыўная творчая сіла.

*Зааморфны* — жывёлападобны.

*Звычай* — агульнапрыняты парадак; правіла, якое здаўна ўкаранілася ў народным светапоглядзе і быце.

*Культ* — служэнне, пакланенне хрысціянскаму святому, язычніцкаму бажаству або прадмету, стыхіі, прыроднай з'яве.

*Магія* — сукупнасць прыёмаў, дзеянняў (дзеянняў і слоў), якія, паводле народна-міфалагічных уяўленняў, здольныя выклікаць звышнатуральныя з'явы.

*Магічны* — цудадзейны, маючы адносіны да магіі.

*Міф* — старажытнае народнае паданне аб паходжанні свету і з'яў прыроды, прадметаў, жывёл і раслін.

*Міфалогія* — сукупнасць міфаў; навука, якая вывучае міфы.

*Міфонім* — слова, якое называе прадмет ці з'яву, што маюць дачыненне да міфалогіі.

*Павер'е* — паданне, заснаванае на народна-міфалагічных уяўленнях.

*Пантэон* — агульная назва ўсіх язычніцкіх багоў.

*Персаніфікацыя* — увасабленне неадушаўлёных прадметаў, абстрактных паняццяў або міфічных істот у вобразе чалавека.

*Прыкмета* — у народных уяўленнях — рыса, з'ява, якая прадвяшчае, прадказвае што-небудзь.

*Рытуал* — сукупнасць абрадаў.

*Сакральны* — які мае адносіны да культу; абрадавы, рытуальны.

*Сімвал* — умоўнае абазначэнне, знак якога-небудзь прадмета ці з'явы.

*Уяўленне* — стварэнне новых вобразаў на падставе існуючых.

*Этнаграфія* — навука аб матэрыяльнай і духоўнай культуры народаў.

*Этымалогія* — навука аб паходжанні слоў.

*Язычніцтва* — старажытная (дахрысціянская) форма рэлігіі, якая характарызавалася мнагабожжам, адухаўленнем прыроды.

## ЗВЕСТКІ АБ ЭТНОГРАФАХ, ФАЛЬКЛАРЫСТАХ І МІФОЛАГАХ

Ніжэй прыводзяцца кароткія звесткі аб этнографах, фальклярыстах і міфолагах, на працы якіх робяцца спасылкі ў гэтай рабоце:

*БАГДАНОВІЧ Адам Ягоравіч* (1862—1940) — беларускі этнограф і фальклярыст, бацька беларускага паэта Максіма Багдановіча. Скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. З'яўляўся карэспандэнтам П. В. Шэйна, у зборніках якога змешчаны фальклорныя творы, апісанні абрадаў, вераванняў і прыкмет, сабраных А. Я. Багдановічам у Барысаўскім павеце. Найбольш вядомая праца — «Пережитки древнего миросозерцания у белорусов» (1895). Вялікі і разнастайны матэрыял, сабраны аўтарам, класіфікаваны ў асобныя раздзелы (перажыткі фетышызму, анімізму, пераўвасабленняў, культаў сонца, нячыстай сілы).

*ДАБРАВОЛЬСКІ Уладзімір Мікалаевіч* (1856—1920) — беларускі і рускі этнограф і фальклярыст. Скончыў Маскоўскі універсітэт. Збіраў і запісваў народныя песні, казкі, легенды і паданні Смаленшчыны, вывучаў народныя абрады, святы, вераванні. Друкаваўся ў часопісах «Живая старина» і «Этнографическое обозрение». Аўтар фундаментальнай працы «Смоленский этнографический сборник» (ч. 1—4, 1891—1903), артыкулаў «Смерть, похороны, причитания» (1900), «Отличия в верованиях и обычаях белорусов и великорусов Смоленской губернии» (1903), «Нечистая сила в народных верованиях» (1908). Каштоўнай крыніцай народна-міфалагічных уяўленняў беларускага і рускага народаў з'яўляецца «Смоленский областной словарь» (1914) У. М. Дабравольскага.

*ДЗЕМІДОВІЧ Павел Пятровіч* (1871—1931) — беларускі этнограф і фальклярыст. Скончыў Віленскі настаўніцкі інстытут. Вывучаў сямейны побыт, вераванні, абрады і звычаі беларусаў. Друкаваўся ў часопісах «Живая старина» і «Этнографическое обозрение». У апошнім ён апублікаваў буйную працу «Из области верований и преданий белорусов» (1896), дзе апісаны народныя вераванні пра нячыстую сілу, ведзьмаў, знахароў, ваўкалакаў, заклятыя мясціны, замовы.

*ЛЯЦКІ Яўген Аляксандравіч* (1868—1942)—даследчык беларускага фальклору і этнаграфіі. Скончыў Маскоўскі ўніверсітэт. Збіраў і даследаваў беларускі фальклор і народную міфалогію,

У часопісе «Этнографическое обозрение» ім апублікаваны працы «Представления белоруса о нечистой силе» (1890) і «Болезнь и смерть в представлениях белорусов» (1892).

*НІКІФАРОЎСКІ Мікалай Якаўлевіч* (1845—1910)—беларускі этнограф і фалькларыст. Скончыў Віцебскую духоўную семінарыю. З'яўляўся карэспандэнтам П. В. Шэйна. Апублікаваў каля 20 прац па этнаграфіі, фальклору і міфалогіі Віцебшчыны. У часопісе «Этнографическое обозрение» на працягу 1892—1899 гадоў ім была апублікавана серыя артыкулаў пад агульнай назвай «Очерки Витебской Белоруссии». Апісанню народных вераванняў, абрадаў і ўяўленняў прысвечана праца М. Я. Нікіфароўскага «Простонародные приметы и поверья, суеверные обряды и обычаи, легендарные сказания о лицах и местах» (1897). У працы «Нечистики. Свод простонародных в Витебской Белоруссии сказаний о нечистой силе» (1907) М. Я. Нікіфароўскі выступіў як першы грунтоўны даследчык беларускай народнай дэманалогіі.

*НІКОЛЬСКІ Мікалай Міхайлавіч* (1877—1959)—беларускі даследчык фальклору і этнаграфіі. Скончыў Маскоўскі універсітэт. Старажытныя міфалагічныя вераванні і абрады беларусаў разгледжаны ім у працы «Міфалогія і абраднасць валачобных песень» (1931), «Жывёлы ў звычаях, абрадах і вераваннях беларускага сялянства» (1933), «Паходжанне і гісторыя беларускай вясельнай абраднасці» (1956).

*ПЯТКЕВІЧ Чэслаў* (1856—1936) — беларускі і польскі этнограф і фалькларыст. Атрымаў дамашнюю адукацыю. Даследаваў народныя ўяўленні і павер'і насельніцтва беларускага Палесся. У польскім часопісе «Зямля» надрукаваў артыкулы і нарысы «Душа і смерць у вераваннях беларусаў» (1930), «Вялікдзень на Беларусі» (1932). Найбольш значная манаграфічная праца Ч. Пяткевіча, у якой асвятляюцца розныя бакі народнай міфалогіі, — «Духоўная культура Рэчыцкага Палесся» (1936).

*РАМАНАЎ Еўдакім Раманавіч* (1855—1920) — беларускі этнограф і фалькларыст. Скончыў Гомельскую прагімназію і курсы настаўнікаў рускай мовы і гісторыі. Апублікаваў больш за 10 тысяч фальклорных твораў. Асноўная фальклорна-этнаграфічная праца Е. Р. Раманава «Беларускі зборнік» (вып. 1—9, 1886 — 1912) — своеасаблівая энцыклапедыя побыту і культуры беларусаў дарэвалюцыйнага часу.

*СЕРЖПУТОЎСКІ Аляксандр Казіміравіч* (1864—1940)—беларускі этнограф і фалькларыст. Скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю і Пецярбургскі археалагічны інстытут. У этнаграфічным нарысе «Беларусы-палешукі» (1908) апісваў побыт, звычаі і вераванні сялян Мазыршчыны і Случчыны. Найбольш значная праца А. К. Сержпутоўскага, прысвечаная апісанню народна-міфалагічных уяўленняў беларусаў, — «Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў» (1930).

*ШЭЙН Павел Васільевіч* (1856—1936)—беларускі і рускі этнограф і фалькларыст. Вучыўся ў нямецкім вучылішчы пры лютэранскай царкве св. Міхаіла ў Маскве. Меў шырокую сетку карэспандэнтаў, сярод якіх былі А. Я. Багдановіч, Я. Ф. Карскі, М. Я. Нікіфароўскі, З. Ф. Радчанка і інш. У кнізе П. В. Шэйна «Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края» (т. 1—3, 1887—1902) змешчаны апісанні хрэсьбін, калядных, масленічных, купальскіх, жніўных, вясельных, пахавальных абрадаў беларусаў з песнямі і фальклорнымі тэкстамі, міфалагічныя і бытавыя казкі, легенды і паданні.



## НАРОДНЫЯ ЎЯЎЛЕННІ, ПАВЕР'І І ПРЫКМЕТЫ ДАВЕДНІК ПА УСХОДНЕСЛАВЯНСКАЙ МІФАЛОГІІ





# А

**АБВОРВАННЕ** — магічнае дзеянне-засцярога, якое, па народных павер'ях, спыняла распаўсюджванне эпідэмій (гл. **Каровіна смерць, Пошасць, Халера**). Параўн. **Абыдзённік, Агонь.**

Абрад абворвання заключаўся ў правядзенні магічнай баразны вакол вёскі; праз гэтую мяжу, па народных уяўленнях, хвароба не магла трапіць у вёску. Абворванне праводзілася з дапамогай жывёл — на сівым вале, аб чым расказваецца ў беларускай легендзе «Баб'ягорац і Пошасць» (гл. **Абыдзённік**), ці, як сведчыць яшчэ адна беларуская легенда, на валах-блізнятах: «Жыхары вёскі, шукаючы паратунку ад Халеры, адшукалі пару блізнят-валоў, а адзін гаспадар, таксама блізнец, залажыў валоў у саху і пайшоў абворваць вакол сяла, а за ім з крыжам у руках ішоў святар і ўвесь народ з крэсным ходам».

Але звычайна адзінымі выканаўцамі гэтага абраду былі людзі—удовы ці дзяўчаты (радзей — яны ж разам з мужчынамі), якія ўпрагаліся ў саху і самі абворвалі вёску, выконваючы пры гэтым розныя рытуальныя дзеянні. Вось як апісваецца абрад абворвання, які адбываўся ў канцы мінулага стагоддзя ва Уладзімірскай губерніі. (У наступным апісанні варта звярнуць увагу на тое, што магічнасць абраду ўзмацняецца незвычайнасцю яго галоўных выканаўцаў — маці-ўдавы і дачкі-ўдавы): «Около полу-

ночи бабы, девки и мужики собираются за селом; все вооружаются топорами, мотыками и т. п. и берут с собой соху. Одна вдовая баба (дочь) впрягается в соху, а вдова-мать пашет. На перекрёстке толпа останавливается, и одна из баб спрашивает: «Кто на ком пашет?». Ей отвечают: «Мать на дочери». После этого все оборачиваются назад и с криками «Руби его! Секи его!» начинают рубить землю. Так делают на всех перекрёстках, пока не опашут всё село» (гл. **Сякера**).

**АБРУС** у народных павер'ях успрымаўся як магічны прадмет, які праз сваю сувязь са **сталом** і **хлебам** надзяляўся прадуцыруючымі і засцерагальнымі ўласцівасцямі. Абрус — абавязковы атрыбут сямейных і каляндарных святаў: ім накрывалі стол не заўсёды, а толькі ў рытуальна адзначаных выпадках (у час сватання, вяселля, на **Каляды, Вялікдзень** і інш.). Па беларускаму звычаю, засціланне дзяўчынай абрусам стала, за якім сядзелі сваты, сведчыла аб тым, што яна прымае іх прапанову. У Расіі (Яраслаўская губернія) на вяселлі стол засцілалі абрусам навыварат, што, па павер'і, павінна было засцерагчы маладых ад сурокаў. Асаблівую магічную вартасць меў абрус, якім засцілалі стол на Вялікдзень. Велікодны абрус выкарыстоўвалі як засцярогу ад градавай хмары: яго выносілі з хаты і махалі ім у той бок, адкуль набліжалася хмара. На Гродзеншчыне гаспадар, які выязжаў сеяць хлеб, рассцілаў велікодны абрус на полі, клаў на яго хлеб і толькі пасля гэтага, памаліўшыся і перахрысціўшы ніву, пачынаў сеяць. На Беларусі быў вядомы таксама звычай, у адпаведнасці з якім зерне новага ўраджаю везлі ў двор праз абрус, які захоўваўся ад Вялікадня. Гэта, на думку сялян, павінна было забяспечыць добрае захаванне зерня і спрыяць сямейнаму дабрабыту.

**АБЫДЗЁННІК** — па ўсходнеславянскіх павер'ях — ручнік, выраблены жанчынамі адной вёскі на працягу аднаго дня (або на працягу адной ночы) для магічнай засцярогі ад эпідэміі (гл. **Халера, Пошасць, Мара**), засухі, граду. Згодна з народнымі вераваннямі, «навізна, а значыць, асаблівая чысціня надавалі абыдзённіку магічную сілу супраць розных няшчасцяў» (В. Я. Фадзеева).

Абыдзённік, вытканы, як правіла, няцотнай колькасцю ўдоў ці дзяўчат, абносілі ў час эпідэміі ці засухі вакол вёскі, вешалі на крыжах, што стаялі пры ўваходзе ў вёску, праганялі праз расасланы абыдзённік дамашнюю жывёлу; часам пад ім праходзілі і ўсе людзі — жыхары пэўнай вёскі.

У беларускай легендзе «Баб'ягорац і Пошасць» наступным чынам апісваюцца спосабы барацьбы з эпідэміяй: «Калі даходзіла чутка да вёскі, што недзе непадалёк паявілася пошасць, мужчыны запрагалі ў ярмо сівога вала і абворвалі сахою навакол вёску,

каб хвароба не перайшла цераз баразну. У тым жа часе жанчыны і дзяўчаты збіраліся разам і за адну ноч напрадалі з ільну нітак і вытыкалі з іх ручнік-ахвяру, які перад узыходам сонца павязвалі на крыжы, што стаяў на канцы вёскі».

Рускім быў вядомы звычай будаваць (па названых прычынах) абыдзённыя храмы. Гл. **Абворванне**.

**АГОНЬ** — ва ўяўленнях і павер'ях усходніх славян — грозная стыхія, якая адначасова засцерагае ад нячыстай сілы, хваробы і смерці. Богам агню ў старажытных славян-язычнікаў з'яўляўся **Пярун**, ролю якога пасля прыняцця хрысціянства стаў выконваць святы прарок **Ілля**. На думку некаторых этнографаў і міфолагаў, агонь увасабляе мужчынскі, а **вада** — жаночы пачатак; у абрадах і розных рытуальных дзеяннях мужчыны і хлопцы звычайна знаходзяцца каля вогнішча, а жанчыны і дзяўчаты — каля вады. Па народных павер'ях, бліжэй за ўсіх да стыхіі агню знаходзяцца кавалі, якія з-за гэтага з'яўляюцца недасягальнымі для нячыстай сілы; менавіта таму сава («чортава птушка») не можа садзіцца на дом, дзе жыве каваль.

Пакланенне агню выражалася, у прыватнасці, у абрадзе пераносу яго рэшткаў са старога селішча ў новы дом (гл. **Дамавік**), але асабліва—у шанаванні **печы** і павазе да **Дамавіка**. З надыходам прыцемкаў агонь распальвалі з малітваю; пры гэтым катэгарычна забаранялася сварыцца (параўн. выслоўе, што ўжываецца ў сувязі з культам **печы**: *«Нельга казаць, бо печ у хаце»)*. Не дазвалялася таксама абражаць агонь, плюючы на яго: лічылі, што ад гэтага можа з'явіцца скурная хвароба «вогнік» або на языку будуць «болькі». Падрабязна апісаў гэтае павер'е рускі этнограф С. В. Максімаў: «Коренной русский человек, с малых лет приглядывающийся к родным обычаям и привыкший их почитать, не осмелится залить или плюнуть в огонь, хотя бы он убедился на чужих примерах, что за это не косит на сторону рот и виноватые в этих проступках не чахнут и не сохнут. Точно так же те, которые придерживаются старых отеческих и прадедовских правил, не бросят в затопленную печь волос (чтобы не болела голова), не перешагнут через костер, не сожгут в нем экскрементов человеческих из боязни корчей и судороги тем людям. Почтение к огню во многих местностях Великороссии (а в Белоруссии повсюду) доведено до того, что считают великим грехом тушить костер на полях, теплины на ночном и т. п., предоставляя самому огню изнывать в бессилии и тухнуть».

Усім усходнім славянам быў вядомы звычай, згодна з якім маладыя ў час вяселля павінны былі праехаць праз пакладзены на зямлі агонь для засцярогі ад уздзеяння злых сіл, ачышчэння ад грахоў і ўвогуле, каб пашчасціла ў будучым жыцці. Асабліва й ачышчальнай сілай надзяляліся купальскія вогнішчы (гл.

**Купалле**): скаканне праз іх дзеля ачышчэння ад хвароб і абароны ад нячысцікаў лічылася абавязковым элементам купальскай абраднасці. Праз купальскі агонь праганялі таксама жывёлу для абароны яе ад магчымых эпідэмій. Жанчыны спальвалі ў гэтых вогнішчах знятыя з хворых дзяцей сарочкі, каб разам з бялізнай згарэлі і хваробы.

Праз «жывы агонь», які здабывалі трэннем двух бярвенняў, праводзілі людзей і праганялі жывёлу ў час эпідэмій (гл. **Халера**): «Крутили мужики около палки веревку: веревка загорелась. Приняли огонь на сухую смоляную спицу — развели костер. Разобрали огонь по домам и старались его долго поддерживать. Очень его ценили и почитали, потому что это был именно «живой огонь», из дерева вытертый, свободный, чистый и природный» (С. В. Максімаў).

Вялікая роля ў народных уяўленнях аб вогненнай стыхіі адводзілася таксама «нябеснаму агню» — маланкам, якія насылае на зямлю грозны **Ілля-прарок**. Для засцярогі ад маланкі раілі трымаць у хаце «чортавы палец» (белемніт — конусападобны камень, утвораны на месцы ўдару маланкі ў зямлю), развешваць у хаце галінкі **вярбы**, асвечанай у Вербную нядзелю, мазаць малаком касякі дзвярэй і вокнаў, вывешвалі за вакно ручнік, які знаходзіўся побач з нябожчыкам. Асабліва ж часта ў такіх выпадках запальвалі свечы, якія асвячаліся ў **чацвер** перад Вялікаднем або на **Грамніцы**.

**АЛЕШЫНА** — дрэва, якое, згодна з народнымі павер'ямі, з'яўляецца «праклятым» і звязаным з нячыстай сілай. У адпаведнасці з гэтымі ўяўленнямі алешыну, як і **асіну**, не выкарыстоўваюць у якасці будаўнічага матэрыялу, а ўжываюць толькі як паліва. У народнай легендзе, запісанай у канцы мінулага стагоддзя П. П. Дземідовічам, даецца наступны адказ на пытанне аб тым, чаму ў алешыны кара чырвоная: «Зрабіў Чорт з гліны воўка. Ішоў Бог. Чорт стаў ім скаваць Бога: «Кусі Бога!» А Бог тады заскаваў Чорта: «Кусі Чорта!» Воўк зрабіўся жывым і пагнаўся за Чортам. Чорт уцякаў-уцякаў, а воўк-такі злавіў яго і ўкусіў за лытку. Чорт ледзьве-няледзьве неяк узлез на алешыну. Вот алешына ад таго і стала чырвонаю».

**АНДРЭЙ** — свята народнага календара ўсходніх славян, якое адзначаецца 13 снежня і ўшаноўваецца царквою як дзень памяці аднаго з апосталаў Ісуса Хрыста — святога Андрэя Першазваннага.

Гэты дзень непарыўна звязаны з любоўна-шлюбнай сімволікай і найперш — з дзявочымі варожбамі (гл. таксама: **Дзяжа, Комін, Люстэрка, Пояс** і інш.). Найбольш пашыраны від варажбы на святога Андрэя — «сеянне» ільну ці канапель. Напрыклад, напярэдадні гэтага свята дзяўчына тройчы перад сном «абсявала»

свой ложак каноплямі, прыгаворваючы: «Святы Андрэю, канапельку сею. Дай мне знаць, з кім век каратаць». Пасля гэтага, па народных перакананнях, ноччу абавязкова прысніцца суджаны. З прыгаворам «Дай Божа знаць, з кім век каратаць» дзяўчаты вечарам перад Андрэем «сеялі» каноплі ці лён каля палонкі ці калодзезя. Каб пажаданні збыліся, удзельніцы варожбаў на працягу ўсяго дня строга пасцілі і пазбягалі размоў. У дзень святога Андрэя дзяўчына, якая жадае, каб ёй прысніўся суджаны, у час захаду сонца станавілася сярод гумна і, трымаючы над галавою жменю льнянога насення, тройчы гаварыла: «Андрэю, Андрэю, на цябе лён сею!». Частку гэтага насення яна брала з сабою і клала сабе пад падушку ва ўпэўненасці, што ноччу прысніцца суджаны. Некаторыя дзяўчаты (нават калі ў гэты дзень ужо ляжыць снег) засявалі ў агародзе трохі ільну і канапель. Калі вясною ўсё гэта рана і хораша вырасце, то дзяўчына ў шлюбе будзе шчаслівая; калі парасткі будуць кволыя, то лёс яе будзе нешчаслівы; калі ж зусім не ўзыдзе, то варажбітка захварэе ці на працягу года памрэ.

А. К. Сержпутоўскім занатаваны цікавы від варожбаў, заснаваны на веры ў магічную сілу **вады**: «На Андрэя дзеўка посціць шчырым постам увесь дзень, а вечарам, як зайдзе сонейка, бярэ вядро да й бяжыць па воду. Каля калодзезя яна чапляе вядро на крук і кажа: «Святы Андрэй, дай мне знаць, з кім я буду жытку гараваць»—і, выцягнуўшы вядро, п'е воду. Каго яна пасля таго першага ўбачыць, то па ём судзіць, хто будзе суджаны. Калі хлопец, то і сама пойдзе замуж за хлопца, а калі ўдавец, то за ўдаўца, а калі жанчына, то хтось адаб'е жаніха». Яшчэ больш складаны варыянт дзявочай «андрэеўскай» варажбы быў запісаны ў канцы мінулага стагоддзя М. Я. Нікіфароўскім: «Дзяўчына пячэ два хлябцы (гл. **Хлеб**), ці «лапуны», з двух напарсткаў мукі і строга посціцца цэлы дзень. Перад сном яна, голая, аббягае вакол дома тры разы, трымаючы ў левай руцэ спечаныя ляпёшкі, а ў правай — льняное насенне, якое пакрысе рассыпае са словамі: «Андрэю! Я лён сею, патурбуйся сказаць, з кім буду сабіраць!» Лежачы ў пасцелі без кашулі, дзяўчына качае па целе ляпёшкі, з якіх адну з'ядае, а другую кладзе пад падушку: ноччу абавязкова прысніцца суджаны». Увечары перад Андрэем дзяўчаты таксама вылівалі на ваду волава ці воск: калі выльецца **вянок**, то дзяўчына пойдзе замуж, а калі крыж — памрэ.

У рускай традыцыі таксама на Андрэя дзяўчаты варажылі, прычым варожбы гэтага дня ўсведамляліся як своеасаблівая рэпетыцыя перад вялікімі, разнастайнымі варожбамі на **Каляды**. Напярэдадні гэтага дня рускія дзяўчаты таксама пасцілі, але так, каб гэтага ніхто не заўважыў. Сеўшы за стол вячэраць, дзяўчына адламвала кавалачак **хлеба** ад свайго куска і, каб ніхто не

бачыў, клала яго пад **абрус,** а выходзячы з-за стала, брала яго з сабою. Калі клаліся спаць, гэты кавалачак хлеба клалі пад падушку з прыгаворам «Суженый-ряженый, приходи ко мне ужинать»: *былі перакананы, што ў такім* выпадку абавязкова прысніцца жаніх. У некаторых рускіх вёсках дзяўчаты ў дзень святога Андрэя вымаўлялі спецыяльныя замовы, каб «прысушыць» хлопцаў. Для гэтага ў той час, калі топіцца печ, гавораць, гледзячы ў **комін:** «Дымы вы, дымы, пойдите вы, дымы, по высоким горам и по синим морям, разыщите вы, дымы, раба Божия Алексея и разожгите вы, дымы, у раба Божия Алексея печень и лёгкие, чтобы раб Божий Алексей не мог без рабы Божьей Лидии ни жить ни есть, чтобы не было ему спокою, чтобы думал всё, скорбел о рабе Божьей Лидии».

На Украіне ў дзень святога Андрэя дзяўчаты, «засяваючы» каноплі, вымаўлялі: «Андрію, Андрію! Я на тебе коноплі сію; спідніцею волочу, бо дуже заміж хочу». У ноч на Андрэя ва ўкраінскіх вёсках моладзь нярэдка «жартавала»: хлопцы здымалі вароты і заносілі іх на край вёскі, падпіралі колламі дзверы хат; затыкалі коміны, кідалі ў комін **вераб'ёў** і інш. Усе гэтыя *штукарствы, «бясчынствы»* асэнсоўваліся як старажытны рытуал, як даўняя традыцыя і ўчыняліся звычайна на тых дварах, дзе жылі дзяўчаты-нявесты.

**АРЖАВЕННІК** — у беларускай міфалогіі — дух, які жыве ў балоце, у *аржавенні* (месцы, пакрытым іржою). На выгляд ён брудна-руды, з надзвычай тоўстым жыватом і тонкімі нагамі, з *іржавымі прыліпамі па* ўсяму целу; увесь час Аржавеннік рыгае. З-за свайго пачварнага выгляду ён не можа прыцягнуць да сябе ўвагі ніводнай ахвяры—усе жывыя істоты абыходзяць яго жытло. У адрозненне ад **Багніка** і **Балотніка,** якія могуць атрымаць ахвяру і зімою, падмануўшы прахожага і праезджага, Аржавеннік увесь час застаецца без здабычы: аржавенне сваёй бура-жоўтай афарбоўкай заўсёды выдае яго месца знаходжання. Аржавеннік вядзе спакойны лад жыцця: спякотнае лета не высушвае аржавенне, а людзям непатрэбна гэтая неўрадлівая зямля. Нячысціку застаецца валяцца на дне свайго жытла, абрастаць ліпкімі слаямі і падтрымліваць каламуць у аржавенні (паводле М. Я. Нікіфароўскага).

**АСІЛКІ** — ва ўсходнеславянскай (пераважна—у беларускай) міфалогіі — дужыя веліканы, надзеленыя велізарнай сілаю. Згодна з народнымі легендамі, «яны былі такія велізарныя, што чуць-чуць не раўняліся з лесам». Асілкі «папракопвалі рэкі, панасыпалі горы ды параскідалі ўсюды каменне». На тых месцах, дзе асілкі мераліся сваёю сілаю ці біліся, яны так вытапталі зямлю, што пры гэтым утварыліся азёры і рэкі. З цягам часу, як сведчаць легенды, асілкі сталі празмерна сваволіць, рабіць ліхія спра-

вы: «пачалі губіць на зямлі ўсялякую жывёлу і ўсялякую расліну, а ў неба шыбаць каменнем». За гэта Бог большасць з іх знішчыў, а астатніх ператварыў у звычайных людзей. Пакаранне асілкаў Богам тлумачыцца і наступным чынам: «Даўней людзі былі такія велізарныя, бы дуб, ды дужыя, што хацелі з Богам дужацца. Дак за тое Бог іх пакараў і абярнуў у малых і кволых людзей, якія й цяпер жывуць...»

**АСІНА.** Вытокі адмоўных народных уяўленняў аб асіне звязаны з характэрнымі асаблівасцямі гэтага дрэва: асінавае лісце калышацца і трасецца нават у бязветранае надвор'е (параўн. устойлівае словазлучэнне *трасецца як асінавы ліст*), асінавы сок мае непрыемны, горкі смак.

Згодна з агульнапашыраным усходнеславянскім павер'ем, на асіне жывуць трасцы-**Ліхаманкі:** «На асіне заўжды сядзяць трасцы, от затым гэтае дрэва заўсёды дрыжыць, бо яго трасца трасе» (А. К. Сержпутоўскі). Пад асінай, па народных павер'ях, сядзіць д'ябал, таму пад яе небяспечна станавіцца ў час навальніцы: стрэлы **Перуна,** накіраваныя ў нячысціка, могуць трапіць і ў нявіннага чалавека. Па гэтай жа прычыне пазбягалі выкарыстоўваць асіну пры будаўніцтве дома і саджаць яе паблізу дома: баяліся, што ў дом трапіць маланка. Звычайным месцам знаходжання ляснога духа — **Лесуна, Лесавіка** — з'яўляецца асінавы пень або вывернутая ветрам асіна. Каб уступіць у змову з **Лесавіком,** трэба яго выклікаць з лесу, стаўшы на дзве папярэдне зламаныя асіны.

Па вядомаму хрысціянскаму паданню, на асіне пасля раскаяння і пакутаў сумлення павесіўся здраднік Іуда Іскарыот, які выдаў карнікам Ісуса Хрыста: менавіта таму ў асіны горкая кара, а лісце восенню становіцца крывава-чырвоным як напамін аб няправеднай крыві Іуды. Па другому паданню, асіна з'яўляецца паганым дрэвам з-за таго, што яе праклінаў Бог па той прычыне, што яна не пакланілася, як іншыя дрэвы, Хрысту пад час яго ўцёкаў ў Егіпет.

Адначасова асіна асэнсоўвалася як надзвычай эфектыўны апатрапей, накіраваны супраць нячыстай сілы ў самых розных яе праяўленнях. А. М. Афанасьеў звярнуў увагу на тое, што ў рускай народнай казцы Дабрыня, забіўшы **змея,** павесіў яго на асіне, каб канчаткова пазбавіцца ад яго ўздзеяння. Для засцярогі ад **ведзьмаў** (асабліва ў ноч на Купалу), каб яны не адабралі ў кароў малако, у хлявах ставілі маладыя вырваныя з коранем асінавыя дрэўцы. У гэтую ж ноч па краях поля ўтыкалі асінавыя галінкі, каб ведзьмы не пазбавілі поля сілы ўрадлівасці.

Асінавымі паленнямі рускія сяляне размахвалі ў паветры, праганяючы з вёскі **«коровью смерть».** Па ўкраінскіх павер'ях, Халера, якая ходзіць па вёсках у выглядзе старой страшнай жанчыны, таксама баіцца асіны. У беларускай быліччы гаспадар,

імкнучыся адагнаць ад каня нячысціка, б'е яго апоўначы асінавым дубцом. Для засцярогі купленага **каня** ад сурокаў яго праводзілі ў двор праз пакладзенае ў варотах асінавае палена. Для таго, каб ліквідаваць **залом,** яго трэба вырваць з зямлі асінавымі трэскамі.

Надзвычай распаўсюджаным магічным прыёмам барацьбы з памершымі **калдунамі** і **ведзьмамі,** якія і пасля пахавання ўстаюць з магілы і шкодзяць людзям, было забіванне ў іх магілу асінавага кала. Е. Р. Раманаў у пачатку гэтага стагоддзя занатаваў і больш «радыкальны» варыянт названага звычаю: «Людзі вераць, што памершы пасля пахавання ходзіць па зямлі; каб прымусіць нябожчыка не бадзяцца, неабходна раскапаць магілу, раскрыць труну і асінавым калом прабіць грудзі нябожчыка». З названым звычаем звязана паходжанне ўстойлівага звароту *забіць асінавы кол* «канчаткова пазбавіцца каго-небудзь або чаго-небудзь».

Шырока выкарыстоўвалася асіна і ў народнай медыцыне. Так, разбітаму паралічом чалавеку раілі ўпірацца нагамі ў асінавае палена. Хворыя суставы таксама лячылі прыкладаннем да іх асіны. Для вылячэння ад **ліхаманкі** прапаноўвалі піць пасычаны адвар з асінавай кары. Асіна асэнсоўвалася і як дрэва, якое можа «забраць» на сябе хваробу: ногці і валасы хворага забівалі ў дзірку, высвідраваную ў асіне; сагнуўшы ў кальцо маладую асіну, хворыя пралазілі ва ўтвораную адтуліну; праводзілі хворага праз шчыліну расшчэпленага ўдаўжыню асінавага дрэўца. Пры лячэнні ад зубнога болю выкарыстоўвалі асінавыя калкі: імі датыкаліся да хворых зубоў і, прамовіўшы замову, забівалі гэтыя калкі ў зямлю пад яблыняй.

**АЎСЕНЬ** (**Таўсень, Усень**) — ва ўсходнеславянскай міфалогіі—рытуальны персанаж, звязаны з Новым годам (ці **Калядамі**), з пачаткам веснавога сонечнага цыклу; персаніфікаваны пачатак года. Аўсень сустракаецца ў песнях каляднага цыкла, якія выконваюцца на мяжы старога і новага года. У песенных тэкстах Аўсень ідзе па дарозе, знаходзіць (або вырабляе) **сякеру,** ссякае сасну, робіць мост, па якому едуць тры браты (увасабленні калядных свят) — **Ражаство** Хрыстова, Новы год, **Вадохрышча.**

**АЎТОРАК** — другі дзень тыдня, які ў народна-міфалагічнай традыцыі асэнсоўваўся як «лёгкі», шчаслівы, спрыяльны дзень. Верылі, што той, хто народзіцца ў гэты дзень, будзе працавіты, старанны, пражыве да глыбокай старасці. Аўторак лічыўся спрыяльным днём для адлучэння дзяцей ад грудзей; у аўторак (як і ў **чацвер, суботу**) пачыналі веснавы сеў, хадзілі ў сваты. Яйкі, знесеныя курыцай у аўторак, адкладвалі асобна і падкладвалі пад квактуху (з яек, знесеных у **сераду** і **пятніцу,** выводзіліся, як лічылі, толькі **пеўні**).

У язычніцкай традыцыі аўторак лічыўся днём, прысвечаным **Стрыбогу.**

## Б

**БАГНІК** — у міфалагічных павер'ях беларусаў — істота, якая жыве ў багне, у тарфяным балоце, якое ніколі не пакрываецца расліннасцю. Багнік ніколі не падымаецца на паверхню і выдае сваю прысутнасць толькі бурбалкамі на паверхні багны і зрэдку — дробненькімі агеньчыкамі. Бурбалкі і агеньчыкі суправаджаюцца асаблівым «пуктаннем» — уздрыгваннем паверхні. Гэта, як лічылі, дыхае і пыхкае вечна бяздзейны Багнік, які не падымаецца з мяккага ложа і тады, калі ахвяра трапіла ў багну і гіне ў гразі. Ён упэўнены, што ёй не вырвацца адсюль, што ахвяра сама пападзе да яго. Не толькі людзі, але і шматлікія жывёлы асцерагаюцца багны, якая забівае атрутнымі газамі, што выпускае час ад часу Багнік. Як і **Балотнік,** ён баіцца асушэння, але яго не палохаюць маразы, якім рэдка ўдаецца закрываць багну — яна абатраваецца цёплым пыхканнем Багніка. Найбольшы страх для яго — калі прадпрымальныя людзі вычэрпваюць багністую гразь для вырабу з яе паліва, угнаення палёў і агародаў і гэтым вельмі трывожаць нячысціка, які застаецца без багны. У сухое ж лета, калі багна не толькі падсыхае, але і дзе-нідзе гарыць, паўмертвы Багнік мучыцца на дне свайго жытла і ледзьве пераважывае да новага разбаўлення багны дажджамі і ручаямі (паводле М. Я. Нікіфароўскага).

**БАЛОТА** — у народных павер'ях усходніх славян — небяспечнае, нячыстае месца, звязанае з дзейнасцю нячыстай сілы (гл. **Балотнік**). Балота—звычайнае месца знаходжання **Чорта** (параўн. прыказку *Абы балота, то і чорт будзе)*.

У шматлікіх народных легендах балота асэнсоўваецца як вынік дзейнасці чорта, які стварыў гэтыя небяспечныя месцы наперакор дабратворнай дзейнасці Бога: «Рабіў Бог **зямлю.** Выгладзіў, выдзелаў — люба паглядзець. Гладзенькая, кругленькая, як шпакова яйка. Адляцеў троху воддаль дый дзівіцца з сваёй працы, што добра ўдалося. Тым часам Чорт ужо быў, сядзеў ён за кустом і ад злосці аж тросся. Зайздрасць яго брала, што Бог гэтак добра зрабіў. Як толькі Бог схаваўся за нябеснымі брамамі, Чорт давай са злосці кіпцямі зямлю дзерці ды кідаць. Куды кіне — гара, куды са злосці плюне — балота. Зрабіў зямлю такой, як мы зараз бачым...» У наступным варыянце гэтай легенды выяўляюцца іншыя абставіны стварэння балот: «Балота да ўсялякую тхланю да нетра зрабіў Чорт. Ён падгледзеў, што Бог сее зямлю, от ён схапіў трохі зямлі да й схаваў яе ў горла. Азірнуўся Бог да й пытае, што ён есць. Чорт, каб адперціся, хутчэй праглынуў тую зямлю. Толькі ён тое зрабіў, як у ём зямля пачала расці. Бачыць Чорт, што зямля распёрла яго, от ён давай рыгаць. От

дзе толькі Чорт рыгнуў, там і зрабілася балота да такая нетра, што там і да тых часоў толькі й жывуць Чэрці». Гл. **Балотнік.**

**БАЛОТНІК** — у павер'ях усходніх славян — дух, які жыве ў **балоце,** увасабленне небяспечнасці балота. Знешне Балотнік — страшэнны непаваротлівы таўстун, без вачэй, пакрыты тоўстым слоем гразі, да якой у беспарадку наліплі водарасці, мох, смаўжы і жукі. Балотнік адрозніваецца каварствам сваіх паводзін: паміж балотнай расліннасці, ягад і грыбоў ён патаемна вырошчвае адурманьваючую траву *багун,* якая, нібы чадам, задурвае чалавеку галаву. Балотнік, акрамя таго, стварае сатанінскія пасткі — балотныя вокны, акружае расліннасцю, падганяе туды рыбу. Па вечарах і раніцах ён раве, як карова, кракае па-качынаму, булькае, нібы цецярук, каб заманіць сюды паляўнічага ці драпежніка. Балотнікі, як **Аржавеннікі** і **Багнікі,** не паражаюцца грамавымі стрэламі, якія губляюць забойную сілу пры першым судакрананні з паверхняю іх жытла (паводле М. Я. Нікіфароўскага).

**«БАРАДА»** — невялікі кусцік, пучок апошніх каласоў жыта, які пакідалі на полі ў магічных мэтах. Людзі верылі, што менавіта ў апошніх каласах хаваецца «дух поля» (параўн.: **Заяц, Каза**), ад якога залежыць будучы ўраджай. Менавіта таму пакіданне ў полі «барады» адбывалася ў час дажынак, змест якіх — аддзячкаваць полю, зямлі за сабраны ўраджай і забяспечыць добры вынік у будучым годзе. Прадуцыруючая роля «барады» выразна адлюстравана ў адным з вершаў М. Калачынскага:

З каласоў завязалі
Бараду, як вялося,
Каб трубою, казалі,
Штогод жыта вілося.

Старая сялянка адной з вёсак Гомельшчыны так апісвае пакіданне «барады» ў полі: «Дажынаем жыта, пакідаем кусочак недажатага, нясом хлеба краюшку, солі і звяжам лентачкай; вяршок звяжам, а прынізу выскубаем травачку і ложым туды хлеб с соллю. Вот і дажалі, вот і рады. Вот гэта і барада». У некаторых мясцовасцях Беларусі «бараду» зжыналі і неслі ў хату да гаспадара, дзе яе ставілі на **покуці** і захоўвалі на працягу ўсяго года.

«Барада» можа мець розны выгляд. Часцей за ўсё — гэта некалькі няжжатых каласоў, перавязаных **чырвонай** стужкаю (або без стужкі); радзей — гэта калоссі, скручаныя жгутом; надламаныя калоссі, апушчаныя да зямлі; калоссі, заплеценыя ў касу.

Рускія сяляне звычайна прысвячалі «бараду» якому-небудзь святому або Ісусу Хрысту. Адсюль — адпаведныя рускія назвы: *борода Илье-пророку, Ильюшкина борода* (гл. **Ілля**), *Николе на бороду* (гл. **Мікола**), *борода Фролам-Лаврам, Христу на бородку* і інш. Сэнс адной з назваў «барады» — *Христу на постельку* — сялянка з Уладзімірскай губерніі тлумачыла ў канцы мінулага стагоддзя наступным чынам, па-свойму ачалавечваючы Хрыста:

«Устанет он, батюшко, ходя-то, может, и прилечь захочет, может, и на моей соломке приляжет». На Украіне вядома назва *Спасова борода* (гл. **Спас**).

У беларусаў «барада» нярэдка звязвалася з культам продкаў (гл. **Дзяды**), а выкананне гэтага абраду называлася «дзеда палоць». Для гэтага апошні кусцік жыта старанна аполвалі, клалі паміж каласоў кавалачак хлеба, соль, ставілі гарэлку ў шклянцы, цукеркі; упрыгожвалі ўсё гэта кветкамі, каляровымі стужкамі. Каля гэтага кусціка («дзеда») спявалі жніўныя песні.

Рускім сялянам былі вядомы павер'і аб уплыве «барады» на дзетанараджэнне і плоднасць жывёлы (параўн. звесткі пра **закрутку** і **пута**, звязаных з сімволікай вузла, завязвання). Лічылі, напрыклад, што калі *«вязанку»* (г. зн. «бараду») пераступіць жанчына, то народзіць хлопчыка; калі яе з'есць карова — прынясе цялушку, калі кабыла — народзіць жарэбчыка.

**БАРАНА.** У народна-міфалагічнай традыцыі найбольш пашырана ўяўленне аб бароне як аб прадмеце, з дапамогай якога можна ўбачыць розных нячысцікаў. Напрыклад, паводле запісанага А. К. Сержпутоўскім павер'я для таго, каб убачыць **ведзьму,** калі тая прыходзіць у хлеў да кароў з мэтай «адабраць» у іх малако, «трэба каля сцяны паставіць барану да й сесці за яе; адтуль можна ўбачыць, як ведзьма будзе бегчы ў постаці якога-небудзь звера або жабы-рапухі». У адной украінскай былічцы расказваецца аб тым, як гаспадар, заўважыўшы, што карова губляе малако, вырашыў адпомсціць ведзьме. Для гэтага ён схаваўся за стаячую ў хляве барану і неўзабаве ўбачыў, як ведзьма ў выглядзе **кошкі** пралезла ў хлеў і пачала даіць карову. Не разгубіўшыся, гаспадар выскачыў з-за бараны і **сякерай** адсек ведзьме руку (кацінную лапу). Назаўтра высветлілася, што ведзьмаю была яго кума, таму што ў яе аказалася адсечаная рука.

У дзень святога **Юр'я** чэхі і славакі падпіралі вароты сваіх хлявоў баранамі дагары зубамі, каб ведзьмы не мелі доступу да жывёл. Відавочна, з гэтым старадаўнім звычаем звязана паходжанне зафіксаванай у слоўніку У. І. Даля прыказкі *Он бороной ворота запирает* «пра гаспадара, у якога дом і гаспадарка знаходзяцца ў поўным парадку». Немцы ў ноч перад 1 мая, якая лічылася часам разгулу нячыстай сілы, таксама «зачынялі» дзверы хлявоў баранамі, а для засцярогі вёскі ад уздзеяння хвароб і ўсялякай нечысці абыходзілі вакол яе, трымаючы ў руках барану. Рускія сяляне верылі ў тое, што **Дамавіка** (дедушку-домового) можна лёгка ўбачыць з дапамогай бараны. Для гэтага варта толькі апоўначы залезці за стаячую каля сцяны якой-небудзь пабудовы барану і паглядзець праз яе. Немцы лічылі, што той, хто ноччу на Новы год сядзе на перакрыжаванне дарог паміж дзвюх прыстаўленых адна да другой барон, убачыць, як скачуць на дарозе **чэрці.**

Цікавае народнае павер'е аб засцерагаючай магічнай сіле бараны занатаваў у канцы мінулага стагоддзя рускі этнограф Д. І. Успенскі. У ім робіцца спроба з народна-міфалагічных пазіцый растлумачыць прычыну засухі 1891 і 1892 гадоў. Яна (засуха), на думку сялян з Уладзімірскай губерніі, адбылася з-за таго, што ведзьмы вырывалі ў спячых пеўняў некалькі чароўных пер'яў, пазбаўляючы пеўняў уласцівай ім магчымасці ўплываць на надвор'е (выклікаць дажджавыя хмары) (гл. **Певень**). Выратаваліся ад ведзьмаў толькі тыя пеўні, якія садзіліся на барану. Далей тлумачацца міфалагічныя вытокі чароўнай, засцерагаючай ролі гэтай сельскагаспадарчай прылады: барана, якая складаецца з крыжападобна звязаных частак, не дапускае да сябе «бесова отродья», якое вельмі баіцца крыжа (параўн. уяўленні аб лісці **рабіны** і аб проціластаўленні «крыж-**чорт**»).

Магчыма, барана ўсведамлялася людзьмі ў якасці прадмета, які абавязкова павінен зачапіць, закрануць нячыстую сілу; прадмета, ад якога ёй няма паратунку, па наступнай прычыне: зубы ў баране размешчаны такім чынам, што пры выкарыстанні яе «па прамому прызначэнню» яна поўнасцю апрацоўвае паверхню зямлі, пакідаючы на ёй раўнамерны і глыбокі след. Невыпадкова, што ў народных выслоўях барана звязваецца з уяўленнямі аб лёсе, аб непазбежнасці цяжкіх жыццёвых выпрабаванняў. Параўн.: *Промеж сохи да бороны не схоронишься; Знать, по судьбе нашей бороной прошли; Грех да напасть бороною ходит: кого зацепит* і інш. Зубы бараны пераплецены на ёй, па народных уяўленнях, такім чынам, што яна здольная затрымаць нават такую хітрую і каварную міфалагічную істоту, як **Русалка**. Вось як расказваецца аб затрыманні бараной Русалкі ў адным беларускім паданні: «Мой бацька на полі працаваў ля лесу, на Гранай (на Русальным тыдні.—У. К.). І паставіў барану ў бярэзніку. Дык яна (Русалка—У. К.) злезла з бярэзіны ды з бараной стала гуляць. Гуляла-гуляла, дый ушчамілася. Цягае барану. Прыходзіць бацька, а яна ўжо і сядзіць. Ну, дык ён яе дадому і прывёз».

У некаторых сямейных і каляндарных абрадах баране адводзіцца роля магічнага прадмета, на якім паравозілі або пераносілі каго-небудзь. Напрыклад, у некаторых мясцовасцях Беларусі на другі дзень пасля хрэсьбін бабку-павітуху садзілі на барану і везлі яе на сабе ў бліжэйшую карчму, дзе весяліліся і спявалі песні. На Украіне (Чарнігаўская вобласць) на другі дзень вяселля сябры з боку маладога, «штоб шутак болей было», паравозілі на баране цешчу ў дом да зяця. У час такога «падарожжа» цешча частавала хлопцаў гарэлкай і прысмакамі. Прыбыўшы такім чынам у дом зяця, цешча частавала маладых (зяця і сваю дачку), бацькоў маладога, яго родзічаў, а таксама тых, хто вёз яе на баране праз вёску. З апісаным звычаем, як можна меркаваць,

звязана паходжанне вядомага некаторым украінскім гаворкам фразеалагічнага зварота *затягати борону* за кім-небудзь, які ўжываецца ў значэнні «ліслівіць перад кім-небудзь».

Румынам у канцы мінулага — пачатку гэтага стагоддзя быў вядомы абрад «плугарул», у якім барана таксама выконвала магічную ролю. Для выканання гэтага абраду сяляне лавілі хлопца, які ўпершыню выйшаў араць, ставілі яго на барану і ў суправаджэнні музыкантаў неслі яго да ракі або да ручая, імкнучыся выкупаць яго ў адзенні. Пасля купання яго зноў ставілі на барану і неслі да хаты.

Толькі ў адзінкавых выпадках можна гаварыць аб магічным выкарыстанні бараны ў нейкіх адмоўных, шкодалюсных мэтах. Так, А. К. Сержпутоўскі апісвае наступны спосаб вядзьмарства з дапамогай бараны: каб пазбавіць пэўную карову малака, **чараўнік** садзіўся пад стаячую барану, нібы пад карову, і, дакранаючыся да яе зубоў, імітаваў даенне. «Тады прападае малако ў тых кароў, аб каторых чараўнік падумае, на каторых ён заложыць».

Негатыўныя ўяўленні аб баране як аб небяспечным прадмеце адлюстраваліся ў асобных прыказках: *Старому калі ўпадаець, дак чорт барану падкідаець; Дитя падает — Бог перинку подстилает, стар падает — чёрт борону подставляет; На чужой стороне поклонишься и бороне.*

**БЕЛАБОГ** — бог дабра ў старажытных славян-язычнікаў, які жыве на небе; увасабленне святла, дня, цяпла. Уяўляўся старым чалавекам у белай вопратцы, з доўгай сівой барадой, з посахам у руцэ. Сваім посахам Белабог збірае дажджавыя хмары, калі іх разганялі вятры, і пратыкае іх посахам, каб пайшоў дождж. Белабог знаходзіцца ў пастаяннай барацьбе з **Чарнабогам** — сваім адвечным ворагам і праціўнікам.

Па ўкраінскіх павер'ях, Белабог — стваральнік зямлі, вады, святла, бацька **Перуна,** гаспадар **выраю** і іншых багоў, што дапамагаюць людзям.

**БЕЛЫ** колер у павер'ях усходніх славян (як і іншых славянскіх народаў) звязваўся з процілеглымі ўяўленнямі. З аднаго боку (у першую чаргу), гэты колер асацыіруецца з дзённым святлом, з жыццём і жыццёвай сілай, якая ўвасабляецца ў малацэ і яечным бялку (гл. **Яйцо**). У гэтым сэнсе белы колер процістаўлены **чорнаму** і змрочнасці, «царству цемры» наогул (як белы дзень процістаўлены чорнай ночы — часу актыўнай дзейнасці нячыстай сілы). Персаніфікаваным увасабленнем гэтых уяўленняў у старажытных славян-язычнікаў быў **Белабог** (параўн. таксама выключна станоўчыя ўяўленні аб **Белуне** і белым колеры як яго абавязковым атрыбуце). Хрысціянскія святыя малююцца на абразах у вопратцы таксама белага колеру.

Разам з тым белы колер можа атрымліваць і процілеглае сімвалічнае значэнне: ён як бы «нейтралізуе» ўсе іншыя колеры і суадносіцца з пустатой, безжыццёвасцю, замагільным светам і смерцю. Белы колер — нязменны атрыбут прывідаў, **Смерці, Пошасці,** іншых міфічных істот.

**БЛАГАВЕШЧАННЕ** — свята ў народным календары ўсходніх славян, якое адзначаецца 7 красавіка. У хрысціянскай традыцыі гэтае свята звязваецца з цудоўным зачаццем дзевы Марыі, якая стала маці Ісуса Хрыста. У народзе тэты дзень лічыўся днём надыходу вясны і звязваўся з культам **бусла.** Па народных прыкметах, пашчасціць таму, хто ўбачыць у тэты дзень бусла ў палёце; у таго ж, хто ўбачыць на Благавешчанне стаячага, нерухомага бусла, будуць балець ногі. На Благавешчанне забаранялася выконваць якую б то ні было работу: *«На Благавешчанне дзеўка касу не пляце, птушка гнязда не ўе».* Да Благавешчання прадпісвалася не капаць зямлю: «нельга чапаць **зямлі**-маткі, бо яна можа пакрыўдзіцца ды й не зарадзіць» (Л. К. Сержпутоўскі). Да гэтага дня забаранялася таксама забіваць колле ў зямлю (пры пабудове агароджы): каб не забіць «спор» у зямлі і не выклікаць тым самым улетку засухі.

**БЛУД** — ва ўкраінскай міфалогіі — нячысцік, які звычайна жыве на раздарожжы (гл. **Ростань)** і прымушае сустрэчнага чалавека блукаць да поўнага знясілення на адным месцы або заводзіць яго ў **балота.** Блуд можа мець выгляд не толькі чалавека, але і **ката, сабакі** або **птушкі.** Сродкам абароны ад Блуда лічылася выварочванне адзення (параўн. **Лясун**), а таксама веданне свайго дня нараджэння і дня ўласных хрэсьбін. Як і іншая нячыстая сіла, Блуд спыняе сваю дзейнасць з першым крыкам **пеўня.** Гл. таксама **Чорт.**

**БУСЕЛ** — у народных павер'ях — птушка, якая прыносіць шчасце, спрыяе сямейнаму дабрабыту і дзетанараджэнню (параўн. уяўленне аб тым, што дзяцей прыносіць бацькам менавіта бусел). Верылі, што шчасце будзе спадарожнічаць тым, на чыім падвор'і бусел зрабіў гняздо. Агульнавядомая і забарона разбураць буслінае гняздо: бусел можа жорстка адпомсціць — прынясе галавешку і спаліць хату або пакліча градавую хмару. На беларускім і ўкраінскім Палессі існаваў звычай выпякаць на **Благавешчанне** рытуальнае печыва—*буськовы лапы*—ў выглядзе адбітка следа бусла. З гэтым печывам дзеці сустракалі прылятаючых з выраю буслоў.

Адносна паходжання буслоў існуе мноства легенд, якія ў розных варыянтах пераказваюць вядомы сюжэт аб ператварэнні Богам чалавека ў бусла ў пакаранне за тое, што ён не выканаў Божага загаду. Тыповы варыянт легенды быў запісаны на Віцебшчыне М. Я. Нікіфароўскім у канцы XIX стагоддзя: «Етае было тады,

як Бог хадзіў па зямлі. На зямлі развялася такая мнюгасць гадаў, што не стала ад іх жыцця ні людзям, ні жывёле, і парашыў Бог знішчыць іх, патапіўшы ў якойсьці бяздонніцы. Бог сабраў гадаў у торбу, завязаў яе, узваліў на плечы аднаму неразумнаму чалавеку і загадаў укінуць у паказанае месца. Як толькі чалавек рушыў, то ўся сволач, якая была ў торбе, засквірчэла, засіпела, засвістала, і ўзяло яго цікаўства, што ён такое прэць. Чалавек развязаў торбу ды і аслупянеў ад страху. Гады ж тым часам вылезлі з торбы і распаўзліся ізноў па зямлі. Бог не захацеў другі раз збіраць гэтую дрэнь, і ён накінуў на чалавека парожнюю торбу і загадаў збіраць у яе паўцякаўшых гадаў; дзеля гэтага ён дапасаваў цела неразумнага чалавека так, каб той мог даступіцца да гада на любым месцы. І ходзіць гэты ператураны чалавек з накінутай паміж плеч торбай па лугах, палях, балотах ды збірае гадаў, але да гэтай пары ніяк сабраць не можа, нягледзячы на тое, што Бог для дапамогі паслаў яму жонку і дзяцей. З прычыны сваёй крэўнасці з чалавекам гэты пераварацень не адыходзіць далёка ад людскіх сяліб і мала баіцца людзей».

**БЯЛУН** — па беларускіх павер'ях — дух жніва ў вобразе старога чалавека з сівой барадою, у белай вопратцы. Бялун вельмі стары, глухаваты, вельмі добры. Над ім заўсёды ўюцца **пчолы**, на плечы садзяцца птушкі. Ён дапамагае людзям жаць, узнагароджвае таго, хто яму служыць, выводзіць з лесу тых, хто заблудзіў. *«Ён пасябрыўся з Белуном»* — гавораць пра таго, каму ў нечым вельмі пашчасціла, пашанцавала (параўн. **Жыцень**).

**БЯРОЗА** — ва ўяўленнях усходніх славян — дрэва, якое сімвалізуе раслінную сілу (параўн. **Вярба**), дзявочую прыгажосць, каханне і шлюб. Бяроза, як падкрэсліваецца ў кнізе «Беларускія народныя абрады», знаходзілася ў цэнтры розных абрадаў і магічных дзеянняў у час Сяміка **(Троіцы)** — на сёмым тыдні пасля Пасхі (гл. **Вялікдзень**).

Напярэдадні Троіцы выбіралася маладое бярозавае дрэўца, якое заломлівалі (загіналі галінкі), а на наступны дзень «завівалі»: канцы галін апляталі так, каб утварыліся **вянкі**. У Беларусі часцей за ўсё верхнія галінкі дзвюх бяроз апляталі ў выглядзе своеасаблівых варот-аркі, праз якія дзяўчаты праходзілі з песнямі. Як сведчаць запісы адпаведных песен, зробленыя на Смаленшчыне У. М. Дабравольскім, удзел ці няўдзел у абрадзе звязвалі з лёсам родных:

Хто ня йдзець вянкоў завіваць,
Палож таго калодаю дубоваю,
Дзяцей яго курчыжкаю сасноваю.
Хто вянкоў ня ўець, таго матка ўмрэць.
А хто віць будзіць, таго жыць будзіць.

У народных песнях выразна праяўляецца магічны сэнс завівання бярозы — захаванне яе веснавой раслiннай сілы, якая павінна перайсці да зямлі і людзей. У гэтых песнях бярозавыя вянкі, якія выпрабляюцца шляхам перапляцення, завязвання, асэнсоўваюцца як сакральныя прадметы, уплываючыя на ўраджай, плоднасць жывёлы і нараджэнне дзяцей (параўн.: **Капуста, Закрутка, Пута, Лапці, Павук**):

Мы заўём вяночкі
На годы добрыя, на жыта густое,
На ячмень каласісты,
На авёс расісты,
На грачыху чорную,
На капусту белую.

Завітую бярозку ўпрыгожвалі: навешвалі рознакаляровыя стужкі, шнуркі, абрэзкі, вянкі з галінак іншых бяроз, кветак і траў, абвязвалі **поясам** ля кораня. Вакол бярозы раскладалі прынесеную рытуальную ежу, вадзілі карагоды з песнямі. З завіваннем вянкоў на бярозе быў цесна звязаны сяміцкі абрад — кумленне: дзяўчаты, якія пацалаваліся праз вянок з бярозы ці прайшлі праз вароты, сплеценыя з бярозавых галінак, лічыліся кумамі, неразлучнымі сяброўкамі на ўсё жыццё або толькі на час свята. Пры кумленні абменьваліся кольцамі, крыжамі, яйкамі. Сам абрад быў своеасаблівай формай прыняцця «ў род жанчын» дзяўчат, якія дасягнулі шлюбнага ўзросту. Скідваючы з галавы вянок — сімвал дзявоцтва — дзяўчаты гадалі на ім аб замужжы. Кумленне з'яўлялася абрадавай формай падбору кумы, хроснай мацеры будучага дзіцяці.

У апошні дзень сяміцкіх святаў бярозку выносілі да ракі, дзе, папярэдне зняўшы з яе аздабленні і растрапаўшы, патаплялі ў вадзе. У іншых выпадках дрэва выносілі і кідалі на ржаным полі. Развітваючыся з бярозкай, нашы продкі верылі, што пакінутая ў полі ці кінутая ў ваду, яна павінна перадаць сваю раслінную сілу зямлі, садзейнічаць росту хлябоў, забяспечыць летам вільгаць у полі. Спрадвечным сэнсам патаплення бярозы было старажытнае магічнае заклінанне дажджу. У беларусаў паміж ушанаваннем дрэва і яго абрадавым знішчэннем праходзіў пэўны тэрмін: «май» (зеляніну) захоўвалі да **Купалля** і спальвалі на кастры. Попелам, які заставаўся пасля спальвання рытуальнай троіцкай зеляніны, угнойвалі палі, абсыпалі жывёлу для засцярогі ад хваробы, лячылі раны. Гэтую ж зеляніну спальвалі ў печы ў тым выпадку, калі імкнуліся спыніць дождж: гэтым магічным дзеяннем імкнуліся проціпаставіць дзве магутныя стыхіі — **агонь** і **ваду**.

# В

**ВАДА** — у народных павер'ях усходнеславянскіх і іншых славянскіх народаў — адна з асноўных стыхій (разам з **агнём** і **зямлёю**), першакрыніца жыцця, увасабленне жаночага (нараджаючага) пачатку. Разам з тым вада асэнсоўвалася як грозная, раз-

буральная стыхія. Небяспечнасць, звязаная з вадой, увасобілася ў вобразе **Вадзяніка.**

У народных легендах і паданнях паходжанне рэк нярэдка звязваецца з лёсам асобных людзей: «Маці пракляла сваю дачку за дзёрзкі адказ, і яна разлілася ракою, якую назвалі Віліяй...» Звычайная рачная вада лічылася часта чыстаю і святою ў такой ступені, што пад яе «ахову» аддавалі старыя абразы: іх не кідалі ў **агонь,** а пускалі на ваду. Не дазвалялася таксама пляваць у ваду (параўн. **Агонь**), каб не выклікаць гневу **Вадзяніка.** У некаторых рускіх мясцовасцях раней існаваў звычай, згодна з якім хворыя прыходзілі да ракі, каб прасіць прабачэння ў вады за зняважу яе: «Прощение у воды испрашивается больным и обездоленным. Обычай этот покоится на том убеждении, что вода мстит за нанесенные ей оскорбления, насылая на людей болезни. Поэтому, чтобы избавиться от таких болезней, на воду пускают кусочек хлеба с низким поклоном: «Пришёл я к тебе, матушка-вода, с повислой да с повинной головой — прости меня, простите и вы меня, водяные деды и прадеды». Отступая по одному шагу, до трёх раз повторяют этот приговор с поклоном и во все времена заклинаний стараются ни с кем не разговаривать» (С. В. Максімаў).

Вялікай павагаю карысталіся ў пародзе крыніцы; каля іх, у прыватнасці, праводзіліся набажэнствы: людзі маліліся аб тым, каб пайшоў дождж. У некаторых народных легендах расказваецца аб крыніцах з цудадзейнай, гаючай «жывой вадою». Адна з іх так і называецца — «Жывая вада»: «Калі ў вёсцы Сасіны стаяла яшчэ старая царква, каля яе біла крыніца з жывою вадою. Прыходзілі сюды людзі хворыя і храмыя, а калі памыліся жывою вадою, дык адыходзілі здаровымі. Слава аб цудоўнай крыніцы ішла далёка па свеце. Усё больш і больш прыходзіла з розных краёў людзей няшчасных на вылячэнне. Аднойчы прыйшла да крыніцы знатная пані з хворым сабакам. Яна без спросу ў людзей выкупала сабаку ў жывой вадзе...» Далей распавядаецца аб тым, як крыніца раптоўна перасохла ад такой абразы, а людзі — жыхары вёскі Сасіны — пачалі хварэць і паміраць.

Асаблівае месца ў народных павер'ях займае «святая вада» — вада, да якой у час вялікіх царкоўных свят дакранаецца крыж святара і над якой чытаюць малітвы (гл. **Вадохрышча**). Гэтую ваду захоўвалі ў хатах на працягу доўгага часу па пачэсным месцы (звычайна побач з абразамі) і выкарыстоўвалі толькі пры выкананні асобных рытуальных дзеянняў: давалі піць хворым людзям і жывёле, ёю апырсківалі зерне перад пасевам, дом перад наваселлем, а таксама магілу і труну перад тым, як пакласці ў яе нябожчыка. На Украіне «святую ваду» выкарыстоўвалі пчаляры для засцярогі сваіх **пчол** ад чужых.

З дапамогай вады лячылі хворых ад пужання. Абліваючы чалавека вадой, **знахары** звычайна вымаўлялі замовы адпаведнага зместу. Асабліва выразна магічная роля вады («вадзіцы-царыцы») праяўляецца ў наступнай замове («Ад ляку»): «Вадзіца-царыца, божая памашніца, ідзеш ты лясамі, палямі, крутымі берагамі, жоўтымі пяскамі. Абмываеш ты пяскі, мхі, балаты — абмый у рабы божай (імя) усе іспугі, каб яны па касцям не хадзілі, касцей не ламалі, алае крыві не распалівалі».

Вада часта выкарыстоўвалася і ў дзявочых варожбах: пільна ўглядаючыся ў ваду, дзяўчына імкнулася ўбачыць суджанага. У асобных выпадках **калдуны** праз ваду насылалі хваробу на людзей.

**ВАДЗЯНІК — ва** ўсходнеславянскай міфалогіі — злы дух, увасабленне вады як небяспечнай для чалавека стыхіі. Руская назва — *Водяной,* украінская — *Водяник.*

Знешнасць Вадзяніка ўяўлялася па-рознаму. У адных выпадках яго ўяўлялі старым чалавекам вялікага росту з зялёнымі або чорнымі валасамі, з чырвонымі, як вуголлі, вачыма, з барадою з водарасцей; усё цела Вадзяніка пакрытае цінай і граззю. Вадзянік мог мець выгляд сівога дзеда ў чырвонай сарочцы, або схуднелага старога з сіняй скурай. У другіх выпадках Вадзяніка ўяўлялі як чалавека з адзнакамі рыбы ці жывёлы: у яго хвост рыбы, на пальцах ног і рук — перапонкі, у яго вялікі хвост і доўгая шэрсць па ўсяму целу, на галаве — рогі. Нарэшце, лічылі, што Вадзянік можа быць любой рыбаю, але найчасцей — сомам або шчукаю. Іспавала таксама павер'е аб тым, што Вадзянік ездзіць на соме; з-за гэтага ў многіх мясцовасцях гэтую рыбу не ўжываюць у ежу, таму што гэта — «чортаў конь». Месца знаходжання Вадзяніка — глыбокія месцы, віры, ямы ў рэках ці ў азёрах. У залежнасці ад таго, дзе жыве Вадзянік, ён можа мець і розныя назвы: Вадзянікі, што жывуць у вірах, называюцца *вірнікамі,* а Вадзянікі — жыхары азёраў, крыніц і глыбокіх калодзежаў называліся *ціхонямі.*

Вадзянік, па народных павер'ях, мог дапамагаць рыбакам, заганяючы ў іх сеці рыбу, або садзейнічаць млынарам, каб добра працаваў вадзяны млын, былі цэлымі плаціны. У блізкіх адносінах да Вадзяніка знаходзяцца млынары, якія звычайна з'яўляюцца **ведзьмарамі:** яны ахвяравалі Вадзяніку (тапілі ў рацэ) **чорнага казла** ці **чорнага пеўня.** З-за сваіх сувязей з Вадзенікам млынар, як лічылі, нікулі не тоне ў вадзе.

Аднак Вадзянік звычайна асэнсоўваўся менавіта як злы дух, які выключна варожа ставіцца да чалавека. Ён топіць людзей, асабліва тых, хто заходзіць у ваду без крыжа або не перахрысціўшыся, хто купаецца ў небяспечныя часы — апоўдні або апоўначы (гл.: **Палудніца**). Прычым, па агульнавядомаму павер'ю,

выратоўваць тапельца нельга, бо Вадзянік разгневаецца і ўтопіць самаго выратавальніка. Вызначаючы адносіны Вадзяніка да іншых нячысцікаў, У. І. Даль адзначаў: «Водяной — товарищ Лешему и Полевому, недруг Домовому, но злее всех их и ближе в родстве с нечистой силой» (Гл. **Дамавік, Лясун, Палявік**). Варожую ў адносінах да чалавека сутнасць Вадзяніка падкрэсліваў у сваёй кнізе «Крестная сила. Нечистая сила. Неведомая сила» рускі этнограф С. В. Максімаў: «С Домовиками-добряками Водяные не сходятся характером, оставаясь злобными духами, а потому всеми и повсюду причисляются к настоящим чертям. Людям приносят они один лишь вред и радостно встречают в своих владениях всех оплошавших, случайных и намеренных утопленников (самоубийц). На утопленницах они женятся, и ещё охотнее на тех девицах, которые прокляты родителями». Па рускіх жа павер'ях, дзецьмі Вадзяніка з'яўляюцца **Шулікуны**.

Згодна з беларускімі ўяўленнямі, шкоднае і згубнае ўздзеянне Вадзяніка на людзей можа пераадолець знахарка (гл. **Знахар**) з дапамогай «гарохвін» (г. зн., гарохавых сцяблоў; параўн. уяўленні аб сувязі **гароха** з **Перуном**): «У Беларусі паказваюць шмат мясцін, на якіх, згодна з паданнямі, былі некалі азёры, і ў іх жылі вельмі прагныя Вадзянікі. Яны вельмі часта цягалі людзей у вір. Тады навакольныя жыхары звярталіся да якой-небудзь знахаркі, і яна, адшукаўшы вір, смела ныpала на дно, затыкала жэрла — галоўны выток возера — «гарохвінамі» і закладвала зверху каменем. Вада ў возеры мала-памалу знікала, і Вадзянік перасяляўся куды-небудзь у іншае месца» (А. Я. Багдановіч).

Пад уладаю Вадзяніка знаходзяцца вадзяныя **Русалкі**.

**ВАДОХРЫШЧА** (рус. *Крещение,* укр. *Хрещення)* — свята народнага календара, звязанае з культам **вады** і яе асвячэннем. У хрысціянскай традыцыі ў гэты дзень адзначаецца хрышчэнне Ісуса Хрыста ў рацэ Іардан Іаанам Хрысціцелем.

Народ верыў у цудадзейную сілу вады, асвечанай на Вадохрышча — 19 студзеня; такую ваду давалі піць хвораму і паміраючаму, ёю апырсківалі новую хату перад засяленнем і вуллі, каб лепш вяліся **пчолы**; хрышчэнскаю вадою асвячалі поле перад сяўбою і труну, перш чым пакласці ў яе нябожчыка.

На Вадохрышча засцерагалі дом і гаспадарку ад уздзеяння нячыстай сілы. Для гэтага гаспадар дома ставіў крэйдай крыжыкі над варотамі, дзвярыма, вокнамі, над уваходам у хлеў.

У Расіі вечарам перад Вадохрышчам збіралі снег са стагоў і кідалі яго ў калодзезь «в том глубоком убеждении, что только от него может быть спорина и подспорье, хотя бы во всё лето не было ни одной капли дождя». У гэты дзень на рацэ ці на возеры рабілі палонку («Іардань»), куды святар з малітваю апускаў крыж. З гэтага моманту нячыстая сіла выходзіла з вады (гл.

**Чорт**). Верылі ў тое, што сама палонка і месца вакол яе маюць цудадзейную сілу: у палонку апускалі палку (каб пладзіліся **пчолы**) або пугаўё (каб **коні** ішлі да свайго двара). У некаторых расійскіх губернiях у мінулым стагоддзі каля «Іардані» наладжваліся агледзіны: вакол палонкі збіраліся дзяўчаты, а хлопцы выглядвалі сабе нявест. Вера ў ачышчальную сілу хрышчэнскай вады ляжыць у аснове наступнага рускага звычаю: «На Крещение Господне, после молебна на реке, купаются в ней раздетые: больные — излечиться от болезней, а наряжавшиеся в маски под Новый год — очиститься от греха».

Ноччу перад Вадохрышчам дзяўчаты звычайна займаліся варажбой. (Гл. **Куцця**).

**ВАРВАРА** — свята народнага календара, якое адзначаецца 17 снежня. Аб сувязі дня святой Варвары з паступовым павелічэннем дня сведчыць агульнавядомая прымаўка *Варвара ноч урвала, дзень прытачыла* (параўн. руск. *Варвара ночи украла, дня притачала*). Па народных уяўленнях, з гэтага дня пачыналася сапраўдная зіма — з завеямі і моцнымі маразамі. У адпаведных прымаўках адлюстравалася выкарыстанне сугучнага са словам *Варвара* дзеяслова *варыць* у значэнні «марозіць»: бел. *Прыйдзе Варвара, маразы і заварыць;* руск. *На Варвару зима дорогу заварит.*

У гэты дзень пастухі на Палессі збіралі «варваршчыну» — традыцыйную плату за сваю работу. Жанчыны на Варвару не пралі, таму што, па павер'ю, «святая Варвара верацёнамі замучана» (параўн. **Пятніца**). На Варвару было прынята частавацца варэнікамі з макам або канаплямі (у апошнім звычаі таксама праявілася гукавая блізкасць слоў *Варвара* і *варэнік*).

**ВАЎКАЛАК** — у славянскай міфалогіі — чалавек-пярэваранець, які валодае звышнатуральнай здольнасцю ператварацца ў ваўка, а потым — зноў станавіцца чалавекам. Як сведчаць гістарычныя легенды, менавіта такой здольнасцю валодаў полацкі князь Усяслаў Чарадзей (XI ст.).

Згодна з павер'ямі, ваўкалакі маглі быць двух відаў: прыроджаныя і зачараваныя. Прыроджанымі ваўкалакамі па свайму ўласнаму жаданню станавіліся **чараўнікі, ведзьмары** з дапамогай пэўных магічных дзеянняў. Верылі таксама, што калі цяжарная жанчына ўбачыць ваўка, то народзіць дзіця, якое абавязкова стане ваўкалакам. Зачараванымі ваўкалакамі (ваўкалакамі паняволі, па прымусу) маглі стаць звычайныя людзі пад уздзеяннем **ведзьмара, ведзьмы.** У адрозненне ад зачараваных ваўкалакаў, якія мелі звярынае аблічча на працягу некалькіх гадоў (нават і да канца жыцця), прыроджаныя ваўкалакі-чараўнікі станавіліся ваўкамі і вялі адпаведны драпежніцкі лад жыцця толькі ў пэўны час (напрыклад, ноччу яны аб'ядноўваліся ў зграю з сапраўднымі

ваўкамі і знішчалі жывёлу), а большую частку жыцця знаходзіліся між людзей.

Па народна-міфалагічных павер'ях, існавала некалькі спосабаў ператварэння ведзьмара (чараўніка, ведзьмы) ў ваўка-ваўкалака. Найбольш пашыраны з іх — перакульванне з замовамі праз уваткнутыя ў зямлю або ў пень (у калоду) нажы. Для вяртання чалавечага аблічча ваўкалак-чараўнік павінен быў зноў перакульнуцца праз нажы. Гэты магічны прыём апісваецца ў беларускай легендзе «Вядзьмак-ваўкалак»: «Жылі два суседы. Адзін бедны, другі багаты. Багаты быў вядзьмак, а бедны — добры чалавек. Бедны купіў каня і вывеў на выган, а багаты ўзяў тры нажы, утачыў у зямлю і пачаў куляцца. Перакуляўся праз адзін нож — у яго галава стала воўчая, перакуляўся праз другі — тады ўвесь стан стаў воўчым, ён перакуляўся праз трэці — тады і ногі зрабіліся воўчыя. Тады ён паляцеў і задушыў каня, а бедны выняў адзін нож.

Воўк задушыў і бяжыць назад к нажам, штоб адвярнуцца назад у чалавека. Прыбег. Як перакуліўся праз адзін нож — тады стала галава чалавечча; як перакуліўся праз другі нож — тады ўвесь стан зрабіўся чалавеччы; перакуліўся трэці раз, але ногі засталіся воўчыя, бо не было трэцяга нажа».

Блізкае да гэтага рускае павер'е знаходзім у слоўніку У. І. Даля: «По суеверию, ведьмы обращаются в вовкулак и обращают других. Надо в лесу найти срубленный гладко пень, воткнуть в него с приговорами нож и перекувырнуться через него — станешь оборотнем; порыскав волком, надо забежать с противоположной стороны пня и перекувырнуться обратно; если же кто унесет нож, то останешься навеки волком».

Магічнымі вядзьмарскімі прыёмамі ператварэння ў ваўкалака лічылася пралязанне праз **хамут**, перакульванне праз каромысел и праз жалеза. У апошнім выпадку, відавочна, маецца на ўвазе балотная руда (прыроднае жалеза). Менавіта аб магічным выкарыстанні такога жалеза гаворыцца ў паданні, запісаным у канцы мінулага стагоддзя П. П. Дзямідовічам: «На Палессі ёсць такое жалеза, перакульнуўшыся праз якое, чалавек і без знахарскіх замоў можа стаць ваўкалакам; для таго, каб зноў стаць чалавекам, выкарыстоўваецца зваротнае перакульванне».

Ваўкалакамі паняволі людзі станавіліся пад уздзеяннем вядзьмарскіх чараў (гл. **Вядзьмар**). Я. А. Ляцкі ў рабоце «Уяўленні беларуса аб нячыстай сіле» прыводзіць легенду, у якой расказваецца менавіта аб прымусовым ператварэнні бязвінных людзей у ваўкалакаў злым чараўнікам: «Ехалі маладыя да вянца і, праязджаючы міма млына, не злезлі і не пакланіліся млынару. Млынар сказаў: «Ну, будзеце ж вы цэлы век бегаць і кланяцца!». І ў тое ж імгненне ўся «асістэнцыя» — маладыя, дружкі, сваты і

Інш. — ператварыліся ў ваўкоў і пабеглі, але ўжо ніколі не змаглі стаць людзьмі». У другой беларускай легендзе расказваецца аб тым, як маці пакрыўджанай дзяўчыны, размаўляючы з хлопцам, які яе кінуў і збіраўся жаніцца на другой, падарыла яму белую хустачку, якую хлопец адразу завязаў сабе на шыю. «Выйшаў ён з хаты, аглядваецца, адно ж і рукі, і ногі яго абрастаюць воўчай шэрсцю, толькі на шыі, дзе была хустачка, засталася белая лапінка. Далей стаў ён глядзець, дык і зусім ужэ аброс, а заміж рук і ног парабіліся ў яго воўчыя лапы. Страшна стала яму ў сяле. Стаў ён ракам і пабег у лес і доўга жыў там з ваўкамі».

Аб паводзінах ваўкалакаў існуюць розныя звесткі. Згодна з аднымі павер'ямі, ваўкалак добры, не шкодзіць людзям і становіцца драпежнікам толькі тады, калі вельмі галодны. Па другіх крыніцах, ваўкалак, наадварот, нападаючы на статак, поўнасцю выразае яго, хоць і не есць сырога мяса. Але ў любым выпадку ён аддае перавагу чалавечай ежы. Што датычыць зачараваных ваўкалакаў, то да іх, як сведчаць фальклорна-этнаграфічныя крыніцы, адносіліся са спачуваннем. Аб гэтым сведчаць і павер'і, запісаныя М. Я. Нікіфароўскім: «Ваўкалакі харчуюцца выключна толькі расліннаю ежаю. Ходзячы па лясах і дарогах, яны стараюцца збіраць рэшткі ежы, пакінутай людзьмі. Лад жыцця ваўкалакаў адрозніваецца ад звычайнага воўчага. Так, ваўкалакі выюць на ўсход, калі кладуцца спаць ці ўстаюць, — гэта іх малітвы; раніцай умываюцца, праводзячы мордаю па расістай траве; у першую веснавую пару грабуць па звычцы лапамі — аруць зямлю».

Для вяртання чалавечага аблічча зачараваны ваўкалак павінен быў пралезці праз хамут, перабегчы праз ляжачы на яго шляху пояс або перакульнуцца праз парог.

**ВЕДЗЬМА** — злая чараўніца, якая звязана з нячыстай сілай і надзелена звышнатуральнымі здольнасцямі. Слова *ведзьма* па сваму паходжанню звязана са словамі *ведаць, веды, веданне;* г. зн., *ведзьмамі* першапачаткова называлі людзей, якія ведаюць нешта таямнічае, валодаюць загадкавымі магічнымі прыёмамі, маюць дар прадбачання (параўн.: **Знахар**).

Галоўнай асаблівасцю ведзьмы з'яўляецца яе двaістая прырода: сувязь як з людзьмі, так і з нячысцікамі. Знешне ведзьма ўяўлялася як неахайная старая жанчына з распушчанымі сівымі валасамі, якая не глядзіць людзям у вочы, нярэдка мае вусы і зрошчаныя бровы. Па народных уяўленнях, свае здольнасці ведзьма атрымлівае дзякуючы сувязі з нячыстай сілай. Характар гэтай сувязі можа быць розным. Па-першае, выдзяляюцца ведзьмы «ад нараджэння», або прыродныя ведзьмы. Лічылася, напрыклад, што ведзьмай становіцца дзяўчынка, народжаная ў трэцім пака-

ленні па-за шлюбам: «Як дзеўка ўродзіць дзеўку, а яна дзеўкаю зноў народзіць дзеўку, дак трэцяя будзе ведзьмай». Па-другое, магічныя вядзьмарскія здольнасці магла атрымаць звычайная жанчына, якой паміраючая ведзьма паспела перадаць свае «веды». Па-трэцяе, ведзьмай станавілася жанчына — сужыцельніца Чорта (**Вогненнага змея**). Акрамя таго, у ведзьму ператваралася тая жанчына, у якую (па яе жаданню або, наадварот, супраць яе волі) усялялася нячыстая сіла. Па беларускаму павер'ю, дзякуючы сваёй сувязі з Чортам ведзьма навучылася ад яго чараўніцтву, даведалася аб таямнічых уласцівасцях некаторых траў і карэнняў. Дабаўляючы да гэтых траў лісінае сэрца і кацінуя печань, вымаўляючы вядомае ёй заклінанне, ведзьма варыць з іх чароўнае зелле, ад ужывання якога яна набывае незвычайную прыгажосць.

Важная асаблівасць ведзьмы — яе здольнасць ператварацца ў якіх-небудзь жывёл, птушак (у **свінню, каня,** карову, цяля, жабу, мыш, вужа, гадзюку, варону, **сароку,** ластаўку) і нават у розныя прадметы (у калясо, рэшата, стог сена, галінку, палку, куст, кош). Асабліва актывізуюцца ведзьмы ў некаторыя спрыяльныя для іх дні: у **Купальскую** ноч, на **Троіцу,** на **Благавешчанне,** на **Вялікдзень,** на **Вадохрышча.** Верылі таксама ў тое, што галоўны вядзьмарскі «шабас» (гадавое свята) бывае рабінавай (вераб'інай) ноччу. Вось што пісаў аб гэтым беларускі этнограф А. Я. Багдановіч: «Галоўны шабас адбываецца адзін раз у год, у самую бурлівую ноч паміж днём **Іллі** і Успеннем... Страшэнны гром, бесперапынная маланка адрозніваюць яе ад іншых начэй. І вось пад грукат грому, пад асляпляльныя маланкі, пад завыванне буры злятаецца нячыстая сіла на свае гадавое свята...»

Шкоданоснасць ведзьмаў выражаецца перш за ўсё ў тым, што яны могуць адабраць малако ў кароў. З гэтай мэтаю ведзьма, збіраючы расу, голаю ходзіць па межах, па пашы, расцілаючы на траве сарочку, палатно, цадзілку, потым дома выкручвае тканіну і поіць расою сваю карову, або проста вешае дома прадмет, якім яна збірала расу, — і з яго цячэ малако. Аналагічнае павер'е было запісана Е. Р. Раманавым у пачатку нашага стагоддзя: «У Купальскую ноч ведзьмы ходзяць па дарогах, па якіх ганяюць жывёлу, поўнасцю голыя, з цадзілкаю і калоссямі ў руках. Па слядах яны даведваюцца, чыя карова дае шмат малака, і забіраюць яго, выціраючы след цадзілкамі і калоссямі». Па рускаму павер'ю, ведзьма можа даіць чужых кароў і на адлегласці: варта ёй начарціць на зямлі круг з замовай і ў цэнтр яго ўваткнуць нож, як у каровы, на якую «ўздзеяна», пацячэ малако.

Ведзьма можа таксама адбіраць сала ў свіней, з-за чаго яны худнеюць; можа рабіць **заломы** ў жыце, каб забраць ураджай; можа выдраць пер'е ў курэй (параўн. **Кікімара**), пераймаючы

яйцаноскасць. Варожасць ведзьмаў да людзей праяўляецца і ў тым, што яны могуць насылаць на чалавека і на хатнюю жывёлу урокі. У выніку вядзьмарскай дзейнасці хварэюць і гінуць людзі і жывёлы, плачуць немаўляты, прападае ўраджай, не ўдаецца ніякая работа. Акрамя таго, ведзьма можа ўздзейнічаць на стыхію: насылаць або затрымліваць дождж, выклікаць град, буру, засуху; можа пераатварыць чалавека ў жывёлу, закалдаваць яго. У беларускіх купальскіх песнях сустракаецца даволі значны пералік шкодных дзеянняў ведзьмы: у іх гаворыцца аб тым, што ведзьму спальваюць на вогнішчы або выганяюць яе для таго, каб яна «па начах не хадзіла, хлявоў не адчыняла, кароваж не даіла», «козкам не шкодзіла», «сыру-масла не збірала», «па полі не лятала», **«заломаў** не рабіла, жыта не ламала, расы не збірала», «людзям урэду не рабіла, красных дзевачак не чаравала, малых дзетак не ўракала».

Для вызначэння ведзьмы выкарыстоўвалі розныя спосабы. Напрыклад, варылі ў Купальскую ноч цадзілку (тады ведзьма падыходзіла і прасіла, каб не рабілі гэтага), працягвалі ўпоперак дарогі канапляную нітку, каб вызначыць карову ведзьмы. Сведчаннем вядзьмарскай дзейнасці, згодна з агульнапашыраным уяўленнем, было калецтва ведзьмы, якая ў выглядзе жывёлы (кошкі, свінні, сабакі, жабы і інш.) імкнулася прабрацца да жывёлы ў хлеў. Каб засцерагчыся ад уздзеяння ведзьмаў, раілі (асабліва ў час іх актывізацыі) класці перад хлявамі **барану,** ставіць у хлеў пасвечаную ў царкве свечку, **асінавае** дрэўца, або вешаць там жа забітую **сароку,** класці на **парозе** хлява серп або касу, абсыпаць карову пасвечаным макам. Часта гэтыя і іншыя магічныя дзеянні суправаджаліся замовамі: «Я к табе, кароўка, з ласкаю, а ты ка мне з ласкаю.* Абсыпаю я цябе, кароўка, макам, штоб стала ведзьма ракам. Як ведзьме не ўставаць, так ад маёй кароўкі малака не атрымаць». «Іду я к сваёй кароўцы, загароджваю яе жалезным тынам. Пакуль вядзьмар з ведзьмаю здзяруцца, дык яны абарвуцца».

Разам з тым захаваліся звесткі аб дваістых адносінах да ведзьмы, аб разуменні яе паводзін як бясшкоднай і нават у нейкай ступені карыснай дзейнасці. У такіх выпадках паняцці «ведзьма» і «знахарка» фактычна атаясамліваюцца. Гэтую акалічнасць, у прыватнасці, адзначаў у канцы мінулага стагоддзя П. П. Дземідовіч: «Па меры таго, як стары светапогляд адыходзіць у мінулае, ведзьмары і ведзьмы ўсё больш губляюць сваё значэнне. Аднак вера ў іх у наш час яшчэ не знікла сярод беларусаў; асабліва моцна яна трымаецца паміж жанчынамі. Захварэе дзіця, пачне карова даваць менш малака, будзе ў малацэ менш смятаны, чым у мінулыя разы і г. д.—беларуска зараз жа ідзе за парадай да ведзьмы ці ведзьмара».

**ВЕЛЕС** (Вялес) — ва ўсходнеславянскай міфалогіі — бог-ахоўнік хатняй жывёлы і бог багацця. М. М. Карамзін у сваёй «Истории государства Российского» пісаў: «В договоре Олега с греками упоминается ещё о Волосе, именем которого... клялись россияне в верности, имея к нему особенное уважение, ибо он считался покровителем скота, главного их богатства». У язычніцкай міфалогіі Велес як «народны» бог, бог жывёлы супрацьпастаўляўся **Перуну** як богу грому і маланкі, апекуну князя і яго дружыны.

Велес уяўляўся вялікім, магутным веліканам з доўгімі валасамі і барадой (параўн. уяўленні пра **кажух** як сімвал багацця і дзетанараджэння). Ён надзяляе людзей талентамі, высокім ростам, добрым толасам, тонкім слыхам. Па народных павер'ях, Велес парадпіў чалавека з жывёламі, вучыў людзей не забіваць жывёл, а выкарыстоўваць іх у гаспадарцы. Ён таксама лічыўся апекуном вешчуноў і народных спевакоў. Нездарма ў «Слове пра паход Ігаравы» вешчы Баян названы «Велесавым унукам».

Культ Велеса асабліва доўга захоўваўся на рускай Поўначы, дзе нярэдка сустракаліся каменныя ідалы Велеса. Сувязь Велеса з сельскагаспадарчымі культамі праяўляецца ва ўсходнеславянскім звычаі пакідаць у дар гэтаму бажаству нязжатыя каласы — **«бараду»**, якую называлі «Велесава барада». Трава і лес, па павер'ях славян, — «валасы зямлі», яе багацце.

*У хрысціянскай традыцыі* культ Велеса быў заменены пакланеннем святому Уласію (Аўласу). Дзень святога Аўласа адзначаецца ў хрысціянскім календары 24 лютага. Гаспадар, які не шануе гэты дзень, можа наклікаць бяду на сваю худобу. Жывёле ў гэты дзень трэба даваць лепшы корм, не працаваць на ёй, але раілася аб'язджаць маладых **коней**. Рускія лічылі, што «власьевские» маразы — самыя апошнія, імі заканчваецца зіма: *Святой Власий сшибает рог с зимы.* Да гэтага святога звярталіся з малітвамі, асабліва ў час эпідэмій: «Святой Власий! Дай счастья на гладких телушек, на толстых бычков, чтобы со двора шли — играли, а с поля шли — скакали». У многіх мясцовасцях «Власьев день» адзначаўся як вялікае свята: наладжваліся набажэнствы, у час якіх асвячаліся боханы хлеба. Гаспадыні аддавалі гэты хлеб жывёле. *Запрашалі сваякоў, гатавалі розныя стравы.* Паколькі гэты дзень прыпадаў на Масляны тыдзень, то яго святкавалі асабліва ўрачыста, што адлюстравалася ў прымаўцы *У Власия и борода в масле.*

**ВЕНІК.** Сувязь веніка са **смеццем** абумовіла развіццё ўяўленняў аб ім як аб магічным прадмеце, які мае дачыненне да **Дамавіка** і яго ахоўных, засцерагаючых уласцівасцей. Згодна з распаўсюджаным рускім павер'ем, венік — адно з месцаў знаходжання Дамавіка («под веником живёт Домовой»). Як сведчыць А. К. Сержпутоўскі, беларусы верылі ў тое, што «ў хаце не павінна быць двух венікаў, бо хатнія не ўжываюцца ў згодзе,

а захочуць дзяліцца». Аналагічнае павер'е было запісана ў канцы мінулага стагоддзя М. Я. Нікіфароўскім: «Нельга ўжываць і нават трымаць у хаце двух венікаў, таму што дамашняе дабро пойдзе да разладу, або малодшыя перастануць слухаць старэйшых».

Венік нярэдка выкарыстоўвалі як апатрапей для абароны ад нячыстай сілы. У прыватнасці, каб засцерагчы ноччу ад яе ўздзеяння малое дзіця, хворае на «крыксы» (начны плач), ставілі да дзвярэй перавернуты дагары венік, вешалі пад столь пруткі ад старога веніка, перакідвалі венік праз хату і нават накрывалі нанач дзеркачом дзіця, якое плача. Калі маці на нейкі час выходзіла з хаты, у якой заставалася ў калысцы малое дзіця, яна клала пад калыску венік, каб дзіця не змагла ўкрасці нячыстая сіла (у прысутнасці маці яна не ў стане зрабіць гэтага).

Каб пазбавіцца ад нечысці перад **Вадохрышчам**, у рускіх вёсках натоўпы маладых людзей насіліся па ўсіх дварах і білі мётламі па цёмных кутках з заклінаннямі, крыкамі і віскамі. Да аналагічных магічных дзеянняў рускія звярталіся і ў любым выпадку, калі, па іх думку, у гаспадарцы заводзіўся «ліхі». Для гэтага садзіліся на **каня** і ездзілі па двары. Пры гэтым размахвалі ў паветры памялом з заклінаннем: «Батюшка дворовой! Не разори двор и не погуби скотину!». Для большай магічнай значнасці памяло абмаквалі ў дзёгаць. У Арлоўскай губерніі на Радуніцкім тыдні сяляне праганялі смерць з вёскі, для чаго апоўначы выходзілі ў поле і размахвалі ў паветры метламі.

У адпаведнасці з названымі ўяўленнямі, венік не дазвалялася спальваць у **печы**, каб у сям'і не было сварак; яго забаранялася таксама кідаць па хаце, каб не звар'яцець. Пры лячэнні дзіцячага перапалоху на **парозе** хаты перасякалі дванаццаць пруткоў з веніка.

З другога боку, венік (мятла, памяло) усведамляўся як атрыбут **ведзьмы**, з дапамогай якога яна здзяйсняла свае паветраныя падарожжы. А. М. Афанасьеў у сувязі з гэтым пісаў: «Звычайнай прыладай паветраных палётаў ведзьмаў ...служыць мятла. Вярхом на мятле ведзьма лётае па паднябессю: гэта не больш чым паэтычная карціна ветру, які нясе на сваіх крыллях вядзьмарку. Вецер уяўляецца памялом, таму што размятае туманы і хмары, расчышчае неба...».

Адной з умоў рытуальнага ператварэння ў ведзьму было магічнае выкарыстанне веніка (гл. таксама: **Пояс**). Напрыклад, пры **калядных** варожбах у рускіх вёсках дзяўчаты выходзілі на ростані, вярцеліся на мятле, а потым прыслухоўваліся: у якім баку забрэша **сабака**, адтуль і жаніх прыедзе. Падобнае да гэтага апісанне дзявочых варожбаў знаходзім у М. Я. Нікіфароўскага: «Устаючы з-за стала, дзяўчына бярэ ў зубы костку, адпраўляецца вярхом на мятле за валоліцу і становіцца на свежае

папялішча, дзе смалілі к Раству свінню: адкуль яна пачуе брэх — з таго боку будзе яе суджаны».

Прамое сведчанне аб сувязі памяла з вядзьмарствам прыводзіць у рабоце «Сказания русского народа» А. П. Сахараў: «В калужской губернии перед Троицыным днём (гл. **Троіца**) кума к куме ездила в гости на метле, изображая, конечно, этим ведьму». Ва Уладзімірскай губерніі быў вядомы звычай лячэння маладых хлопцаў ад хваробы, якая бывае звычайна перад ростам вусоў. Для гэтага запрашалі дзяўчыну-знахарку, якая, расчасаўшы валасы і пакрыўшыся *палатном*, садзілася верхам на памяло і скакала вакол хворага хлопца тройчы, прыгаворваючы: «Здравствуй, добрый молодец! Тебе, молодцу, ус да борода, а мне — честь да краса!».

З уяўленнямі аб веніку звязана, як можна меркаваць, паходжанне некаторых устойлівых словазлучэнняў. Напрыклад, дыялектны фразеалагізм *прычапіць галень* (*галень* — стары венік, дзяркач) мае значэнне «адмовіць сватам». Дзяркач на самой справе чаплялі да вазка або клалі ў сані сватам у тым выпадку, калі дзяўчына не давала згоды на прапанову сватоў. Адным з відаў вясельнай «порчи» у рускіх было рытуальнае выкарыстанне дзяркача (*«голика»*). Для гэтага яго ставілі ўніз камлём на дарозе вясельнага шэсця. У словазлучэнні *як верабей пад венікам* «паводзіць сябе ціха, быць паслухмяным» адлюстраваліся, відавочна, народна-міфалагічныя ўяўленні аб веніку як месцы знаходжання **Дамавіка** (абаронца) і **вераб'я** — увасабленне нячыстай сілы.

**ВЕРАБЕЙ.** Паходжанне арніталагічнай назвы верабей звязана, як лічаць этымолагі, з праславянскім **vorb-*, якое, у сваю чаргу, паходзіць ад індаеўрапейскага корня **uer-* «круціцца, вярцецца, кружыцца». Такім чынам, у аснову назвы птушкі Passer пакладзена яе характэрная прыкмета — пастаяннае вярчэнне, рухомасць. Разуменне гэтай уласцівасці як энергічнасці, бадзёрасці, жыццёвай сілы спрыяла фарміраванню выключна станоўчых — прадуцыруючых — міфалагічных уяўленняў аб вераб'і. У Расіі на Тамбоўшчыне і ў Беларусі ў Гродзенскай губерніі ў канцы мінулага — пачатку нашага стагоддзя быў вядомы звычай рытуальнага з'ядзення на **Каляды** смажаных вераб'ёў, «каб увесь год быць лёгкім і жывым, як верабей». На Беларусі, акрамя таго, у гэты час было прынята лавіць двух вераб'ёў, забіваць і спальваць іх, а попел захоўваць да веснавой сяўбы. Вясной гэты попел змешвалі з пасяўным зернем — для большай ураддлівасці.

Па назіраннях даследчыцы рускага фальклору і этнаграфіі Л. А. Тульцавай, у рускіх хараводных песнях верабей звычайна

выступаў як мужчынскі сімвал: «песні пра вераб'я сваім сюжэтам арыентаваныя на любоўныя тэмы, матывы шлюбу».

З другога боку, пастаяннае вярчэнне вераб'я як яго характэрная асаблівасць сфарміравала ўстойлівае негатыўнае ўяўленне аб гэтай птушцы (параўн. народна-міфалагічныя ўяўленні аб іншых прадметах з такой жа ўласцівасцю: **Верацяно, Віхор**). На фарміраванне гэтых уяўленняў паўплывала і такая негатыўна асэнсоўваемая ў міфалагічным аспекце ўласцівасць вераб'я, як яго стракатасць, прыналежнасць да **рабых,** пярэстых істот (гл. **Вераб'іная ноч**).

Відавочна, названыя адмоўныя асацыяцыі рэалізаваліся ва ўстойлівым словазлучэнні *падпусціць вераб'я* «зрабіць непрыемнасць каму-небудзь».

У замове «Ад чорнай хваробы» сустракаецца параўнанне вераб'я з цяжкай, небяспечнай хваробай: «Мужык верабей, жонка вераб'іха, дзеці вераб'яты: і сам выхадзі, і дзяцей вывадзі».

Згодна з хрысціянскай міфалагічнай традыцыяй, верабей з'яўляецца «праклятаю птушкай», таму што сваім цырыканнем («Не, жывы! Не, жывы!») ён выдаў рымлянам Хрыста, калі яны распіналі яго на крыжы: тым самым пакуты Хрыста працягваліся. Па другой легендзе, менавіта верабей прыносіў карнікам цвікі для распяцця Хрыста; ластаўкі ж, наадварот, гэтыя цвікі выкрадалі і адносілі. З-за гэтага ўчынку вераб'і былі праклятыя Богам, а на іх нагах з'явіліся нябачныя ланцугі; таму вераб'і не могуць крочыць, а толькі скачуць.

**ВЕРАБ'ІНАЯ НОЧ** — цёмная ноч у канцы лета з навальніцай або толькі з зарніцамі. Уяўлялася як барацьба нябесных сіл з нечысцю, што хаваецца на зямлі, перасяляецца ў людзей і жывёл.

Магчыма, азначэнне *вераб'іная* суадносіцца з негатыўнымі ўяўленнямі аб сувязі вераб'я з нячыстай сілай. Гэтая сувязь, у прыватнасці, назіраецца ў міфалагічных асацыяцыях, якія выклікае гэтая прыродная з'ява. Так, у адным з паведамленняў з Кіеўскай губерніі (сярэдзіна XIX стагоддзя) адзначалася: «В самую полночь **Чёрт** меряет воробьёв. Сперва соберёт всех воробьёв в полу своей свитки, потом высыплет в четверик, после **осиновым** прутом счиркнет тех, которые выше краёв его; те воробьи, которых Чёрт сбросит с четверика, улетают благополучно в гнёзда и заботятся о размножении своей породы...». З гібеллю вялікай колькасці птушак у вераб'іную ноч звязваецца такая прыродная з'ява і ў рускай традыцыі: «На Илью (2 августа) обыкновенно бывают воробьиные ночи — когда в течение целой ночи раздаются оглушительные раскаты грома, молния почти беспрерывно ярко озаряет всё небо, испуганные птицы постоянно мечутся, вспархивают, натыкаются на разные предметы и падают. В такую ночь ревёт скот, страшно становится и не спится человеку».

Па павер'ях сялян Курскай губерніі, у гэтую ноч нельга спаць, трэба маліцца перад запаленымі свячамі, з якімі знаходзіліся ў царкве на **Пасху** і якія спецыяльна збераталіся для вераб'інай ночы.

Назвы *воробьиная ночь, горобина ніч* у асноўным сустракаюцца ў рускай і ўкраінскай мовах і іх гаворках; для беларускай мовы больш характэрная назва **рабінавая ноч.**

**ВЕРАЦЯНО** Павер'і аб верацяне заснаваныя на ўяўленнях аб характэрных асаблівасцях гэтага прадмета: яно заўсёды верціцца, круціцца (параўн. **Верабей, Віхор**); яно мае своеасаблівую форму і вастрыню.

Шырокараспаўсюджаным ва ўсходніх славян было павер'е — забарона на карыстанне верацяном (г. зн., на прадзенне) па **пятніцах**, а таксама ў час свят, асабліва на **Каляды** і на **Русальным** тыдні. Пакаранне за работу ў святы магло распаўсюдзіцца на авечак: на іх нападае «вярцячка» — захворванне, адзнакамі якога з'яўляюцца рэзкія кругавыя рухі жывёлы, хістанні авечак з боку ў бок. Гэтую хваробу авечак і нават значна большую шкоду чарадзейка магла выклікаць з дапамогай верацяна. Для гэтага неабходна было ў час прадзення гаварыць: «Як гэтае верацяно круціцца, так няхай уся жывёла выкруціцца з дому гэтага гаспадара, каб двор стаў пустым». Забаранялася таксама на святы пакідаць верацёны на відным месцы: у адваротным выпадку яны ператворацца ў вужоў і папаўзуць у лес. На Палессі верылі ў тое, што парушэнне забароны прасці на Каляды выкліча з'яўленне вялікай колькасці **змей** і сустрэчу з імі ў лесе.

Верацяно асэнсоўвалася як нязменны атрыбут **Пятніцы** — жанчынападобнай міфалагічнай істоты, якая, па народных павер'ях, можа жорстка пакараць тых, хто займаецца прадзеннем у **пятніцу.** У адной беларускай легендзе расказваецца аб тым, як да жанчыны, якая прала ў пятніцу, прыйшла «баба старэнькая, зморшчаная, як сучок» і загадала ёй напрасці за ноч сто верацён. Пасля таго, як жанчына выйшла са складанага становішча (напрала па некалькі нітак на кожнае са ста верацён), Пятніца звярнулася да яе са словамі: «Разумная ты, маладзіца, што так здзелаць здагадалася, не здзелай ты гэтага, а аддай мне голыя верацёны, я б цябе самую як голае верацяно скруціла б ды ссушыла б. Я — святая Пятніца. Глядзі, барані цябе Божа, ні разу ў пятніцу не прадзі».

Вядома і павер'е аб тым, што калі дакрануцца верацяном да дзіцяці, то яно перастане расці, бо на дзіця пяройдуць уласцівасці верацяна — пры намотванні прадзіва яно расце ўшырыню, а па вышыні не мяняецца.

Верацяно нельга, па павер'ях, пакідаць «голым», на яго навязвалі нітачку — каб лён доўгі быў. Згодна з народнай прыкме-

тай, неспадзяваны ўкол верацяном прадказвае каханне. Пры лячэнні горла да яго з замовай дакраналіся верацяном. У час засухі ўкрадзенае верацяно кідалі ў чужы калодзезь або акуналі ў ваду.

**ВЕЦЕР** ва ўяўленнях і павер'ях усходніх славян асэнсоўваўся з двух процілеглых бакоў: як актыўная, дабратворная стыхія, якая дапамагае чалавеку (наганяе дажджавыя хмары, прыводзіць у дзеянне ветраныя млыны і інш.), і — найбольш часта — як варожая, небяспечная стыхія, як шлях распаўсюджання вядзьмарскіх чараў. (Гл. **Ведзьма**).

Адным з прыёмаў вядзьмарства з'яўляецца насыланне розных хвароб менавіта праз вецер. У «Беларускім зборніку» Е. Р. Раманава сустракаем, у прыватнасці, апісанне наступнага павер'я: «Калі **калдун** хоча каго спорціць, а чалавека такога няма, дак ён, паганец, на вецер пасылае! Дак той вецер каго пападзе — скруціць, зламае, неўма што стане, і забярэцца нячысты дух у сярэдзіну». У рускай традыцыі такія вядзьмарскія дзеянні называліся «чары на след» і суправаджаліся, як правіла, замовамі і праклянцямі. Аб гэтым расказваецца ў кнізе А. П. Сахарава «Сказания русского народа»: «Обиженный поселянин берет с дороги пыль, снег (смотря по времени года) и отдаёт с поклоном чародею. Этот, принявший пыль, бросает её на ветер, приговаривая проклятие: «Кулла, кулла! Ослепи такого-то черные, вороные, голубые, карие, белые, красные очи. Раздуй его утробу толще угольной ямы, засуши его тело тоньше луговой травы, умори его скорее змеи-медяницы!». Яшчэ адно выразнае апісанне выкарыстання ветру ў вядзьмарскіх мэтах зроблена ў канцы мінулага стагоддзя на рускай Поўначы: «Колдунья каждое утро на заре выходила на крыльцо и с приговорами бросала на ветер песок, щетину, шерсть т. п. Всё брошенное колдуньей на ветер должно попасть в человеческий организм, вызвать страдание».

Можна меркаваць, што ўстойлівае словазлучэнне *кідаць на вецер словы* «гаварыць што-небудзь, не беручы адказнасці за сказанае» звязана менавіта з названым магічным дзеяннем.

Параўн. уяўленні аб **віхры** як увасабленні нячыстай сілы, «паветранасці» **Кікімар**, а таксама сувязь **веніка** са стыхіяй ветру і дзейнасцю ведзьмы. Гл. **Падвей.**

**ВІЙ** — дэманічная істота ва ўкраінскай міфалогіі, маючая выгляд старога дзеда з вялікімі павекамі. Сваю назву Вій атрымаў па характэрнай прыкмеце — густых і доўгіх павеках (укр. *повії, вії*), якія могуць цягнуцца аж да зямлі. Погляд Вія можа забіць чалавека, ад гэтага погляду правальваюцца скрозь зямлю будынкі, а на іх месцы ўтвараюцца азёры або бездані. Ад згубнага ўздзеяння погляду Вія выратоўвае тое, што ён нікога не бачыць праз свае павекі.

Крывалапы, нязграбны, Вій увесь пакрыты зямлёю, бо жыве пад зямлёю; рукі і ногі нагадваюць карані дрэва. Вій з'яўляецца толькі ў тых выпадках, калі іншая нечысць не можа аказаць сваё ўздзеянне на чалавека. Як і іншыя нячысцікі, Вій знікае з трэцімі **пеўнямі.**

З павер'ямі пра Вія звязаны ўяўленні аб суроках, згодна з якімі ад злога погляду ўсё жывое псуецца, на людзей насылаюцца няшчасці і хваробы.

Выразная характарыстыка Вія даецца ў аповесці М. В. Гогаля «Вій»:

«— Приведите Вия! Ступайте за Вием! — раздались слова мертвеца.

И вдруг настала тишина в церкви; послышалось вдали волчье завыванье, и скоро раздались тяжелые шаги, звучавшие по церкви; взглянув искоса, увидел он, что ведут какого-то приземистого, дюжего, косолапого человека. Весь был он в **чёрной** земле. Как жилистые, крепкие корни, выдавались его засыпанные землёю ноги и руки. Тяжело ступал он, поминутно оступаясь. Длинные веки опущены были до самой земли. С ужасом заметил Хома, что лицо было на нем железное. Его привели под руки и прямо поставили к тому месту, где стоял Хома.

— Подымите мне веки: не вижу! — сказал подземным голосом Вий, — и всё сонмище кинулось подымать ему веки.

«Не гляди!» — шепнул какой-то внутренний голос философу. Не вытерпел он и глянул.

— Вот он! — Закричал Вий и уставил на него железный палец. И все, сколько ни было, кинулись на философа. Бездыханный, грянулся он на землю и тут же вылетел дух из него от страха»

**ВІХОР** Узняты **ветрам** закручаны слуп пылу або снегу ў народна-міфалагічных уяўленнях асэнсоўваўся як праяўленне дзейнасці нячыстай сілы, як «чортава вяселле» (параўн.: **Верабей, Верацяно**): «Калі падымаецца віхор, беларус пераканаваны, што едзе чортава вяселле» (П. П. Дземідовіч); «Вецер, віхор — гэта нячыстая сіла, пыл круціць нячысцік» (Е. Р. Раманаў). Прыводзячы да слова *вихрь* суадносныя, сінанімічныя назвы *кружалка, заверть, ветроворот, столбовой ветер, чёртова свадьба,* У. І. Даль нагадвае народную прыкмету: *«Ветер с пылью навстречу свадебному поезду — к худу».* У вершы А. С. Пушкіна «Бесы» зімовая завіруха адназначна атаясамліваецца з дзейнасцю нячыстай сілы:

Бесконечны, безобразны,
В мутной месяца игре
Закружились бесы разны,
Будто листья в ноябре...

Сколько их! Куда их гонят?
Что так жалобно поют?
Домового ли хоронят,
Ведьму ль замуж отдают?

Больш канкрэтныя, антрапаморфныя рысы мае віхор ва ўкраінскай міфалагічнай традыцыі: гэта пакрыты шэрсцю **чорны** чалавек з крыламі, з вялікімі нагцямі і хвастом. Жывата ў Віхра няма, усе яго вантробы адкрытыя. Ён жыве ў полі, увесь час пералятаючы з месяца на месяца. Украінцы ўяўлялі таксама Віхор у вобразе велікана з тоўстымі губамі, якімі ён уздымае моцны вецер. Распаўсюджана было і ўяўленне аб тым, што ў выглядзе Віхра блукае па свеце чалавек, праклятьі сваімі бацькамі. Трапіць у віхор лічылася вельмі небяспечным: можна атрымаць калецтва або псіхічнае захворванне (гл. **Падвей**).

Агульнавядомым магічным прыёмам барацьбы з віхрам лічылася кіданне ў яго цэнтр **сякеры** або нажа. М. Я. Нікіфароўскі запісаў наступнае павер'е: «Людзі навучыліся знішчаць чортава вяселле, падстаўляючы пад цэнтр віхра крыжападобна складзеныя нажы або іншыя рэжучыя прадметы; удзельнікі чортава вяселля трапляюць на гэтыя прадметы і гінуць, доказам чаго з'яўляецца пакінутая на прадметах кроў». У адным беларускім паданні, запісаным Е. Р. Рамапавым, расказваецца аб тым, як чалавек, на якога наляцеў віхор, кінуў у сярэдзіну «чортава вяселля» нож. Праз некаторы час да чалавека прыйшоў нячысцік з нажом, які тырчаў у назе, і абяцаў служыць яму да смерці, калі ён выйме нож з нагі. Другая легенда (з запісаў А. К. Сержпутоўскага) распавядае пра касца Сцяпана, які пры сустрэчы з віхрам «адвязаў ад пояса свой канчаты нож ды як шыбане ў самы віхар, дак чорт толькі піснуў, а віхар невядома куды і дзеўся». А. М. Афанасьеў прыводзіць украінскае паданне пра мужыка, які кінуў у сярэдзіну віхра сякеру. Віхор паімчаў далей, уносячы з сабой і сякеру, якая ўваткнулася ў яго, як у дрэва. Праз некаторы час гэтаму мужыку выпадкова давялося начаваць у хаце, гаспадар якой ляжаў хворы са скалечанай нагой. Нечакана мужык пад лавай заўважыў сякеру, якую ён кінуў у віхор, і адразу зразумеў, што трапіў да **ведзьмара**, які знаходзіўся ў віхры.

У некаторых рускіх вёсках сяляне летам «дапытвалі» віхор аб тым, якім будзе надвор'е зімою. Для гэтага выходзілі на перакрыжаванне дарог і «сцераглі» віхор. Як толькі ён з'яўляўся, утыкалі ў яго сярэдзіну нож, трымаючы адначасова за галаву **пеўня**. Пры гэтым віхор «паведамляў» аб тым, якая будзе зіма — ранняя ці позняя, з маразамі ці «мокрая», са снегападамі ці бясснежная. (Гл. **Падвей**).

**ВОГНЕННЫ ЗМЕЙ** — ва ўсходнеславянскай міфалогіі — фантастычная змеепадобная паветраная істота, увасабленне метэораў і падаючых зорак.

Як сведчаць міфалагічныя крыніцы, у рускай і ўкраінскай традыцыях уяўленні аб вогненным змеі адрозніваюцца ад адпа-

ведных уяўленняў у беларускай міфалогіі. Рускія і ўкраінцы лічылі, што вогненны змей — гэта злы дух, дэманічная істота, нячысцік, які,ператварыўшыся ў прыгожага мужчыну ці юнака, спакушае жонак, удоў і дзяўчат. Параўн. наступнае апісанне дэманічнай прыроды вогненнага змея (з кнігі М. Забыліна «Русский народ: его обычаи, обряды, предания, суеверия и поэзия»): «Воздушный метеор, который часто видим несущимся по воздуху в виде длинной и широкой ленты из красноватых искр, летящей или наклоном, или горизонтально. Русские люди считают его злым духом или огненным змеем, посещающим в вечернее или ночное время вдову или девицу, скучающих одинокой жизнью после недавней потери мужа или друга жизни, и нередко носящим к ним золото. Он является к ним, всегда принимая вид любимого человека, которого они потеряли, и обаяние, говорят, бывает так сильно, что они свыклись с той мыслью, что он действительно жив, а не умер. Потом лица, которых посещал этот змей, худели и, сойдя с ума, нередко будто бы кончали жизнь самоубийством». А. М. Афанасьеў дадае: «О падающих звездах говорят, что это огненные змеи или нечистые духи, поспешающие на любовное свидание к одиноким бабам и девицам; по некоторым местам уверяют, что звезда всегда упадает на тот двор, где девица потеряла невинность». Па павер'ю, запісанаму ў канцы мінулага стагоддзя А. Іваноўскім, «крылаты змей» мог наведвацца па начах толькі да **ведзьмы.**

Па ўкраінскіх павер'ях, вогненны змей, акрамя спакушэння жанчын і дзяўчат, забіваў мужчын, спальваў вёскі. Звычайны выгляд вогненнага змея ва ўкраінскай міфалогіі — куль саломы, з якога сыплюцца іскры; ён можа выглядаць і як чалавек, але з некалькімі галовамі. Мае гэты змей і крылы, якія здымае, ходзячы паміж людзьмі. Заманьваючы дзяўчат, змей падкідвае на дарозе хусткі, пярсцёнкі, стужкі і іншыя прывабныя для іх рэчы. Якая з дзяўчат падыме тую ці іншую рэч і прынясе дадому, да той ён будзе хадзіць па начах у выглядзе юнака. Каб пазбавіцца ад змея, трэба аднесці знойдзеную рэч назад.

У беларускай міфалагічнай традыцыі вогненны змей пазбаўлены дэманічнай спакушальнай прыроды і мае штучнае паходжанне: ён можа быць «выведзены» з пеўневага яйка (гл.: **Певень**). Галоўны абавязак вогненнага змея — спрыяць узбагачэнню гаспадара. У гэтай сувязі вельмі паказальная заўвага, прыведзеная А. Я. Багдановічам: «Пра кожнага колькі-небудзь багатага селяніна ў Беларусі гавораць: «Яму змей грошы носіць». Адначасова пакрыўджаны вогненны змей можа разгневацца і спаліць усё жыллё і гаспадарчыя пабудовы (параўн. **Хут**). Знешне ён падобны на вужа (параўн. уяўленні пра вужа — увасабленне **Дамавіка**), толькі значна большы за яго, увесь залаты, гарыць, як жар, і мае крылы.

**ВОКНЫ** ў народных уяўленнях асэнсоўваліся як сакральныя, магічна маркіраваныя месцы ў хаце, якія забяспечваюць пранікальнасць у асвоеную чалавекам прастору; вокны — гэта, па заўвазе А. К. Байбурына, «вочы дома», «небяспечныя кропкі сувязі са знешнім светам».

Вокны, як і **дзверы**, нанач хрысцілі, каб у хату не трапілі нячысцікі. Напярэдадні **Вадохрышча** над вокнамі (знадворку) малявалі крыжы — таксама супраць нячыстай сілы. На Украіне для засцярогі ад **ведзьмаў** перад **Купаллем** на вокнах вешалі крапіву.

Небяспечнасць вокнаў як «кропкі сувязі са знешнім светам» праяўляецца ў агульнавядомай прыкмеце аб тым, што птушка, якая залятае ў хату праз акно, прадвяшчае бяду — пажар, хваробу або нават смерць. Праз акно выносілі памершых нехрышчоных дзяцей, а таксама першага памершага ў доме нябожчыка і памершых ад гарачкі. Увогуле вокны цесна звязаны з уяўленнямі аб смерці і замагільным свеце. Так, на вокны клалі свежы **хлеб**, парай якога, як лічылася, жывіліся **душы** памершых; на падаконнікі на **Радаўніцу** і на **Дзяды** вывешвалі **белыя ручнікі** — сімвал шляху, па якому душы продкаў прыходзяць да жывых. На падаконнік ставілі таксама шклянку з вадой, якая знаходзілася там на працягу сарака дзён — душа прыходзіць да акна абмывацца. Сувязь акна з замагільным светам можна бачыць і ў забароне пляваць праз акно, выліваць праз яго ваду (памыі), выкідваць рознае смецце і косці — «за акном стаіць анёл», які можа пакрыўдзіцца з-за такіх абразлівых дзеянняў і пакіне тых, хто жыве ў гэтай хаце. Лічылася таксама, што падáць праз акно ежу ці грошы жабракам — значыць дагадзіць Богу.

Асабліва вялікае магічнае значэнне надавалася весткам, атрыманым праз акно. Вельмі распаўсюджанай, да прыкладу, была калядная варажба пад вокнамі: «Найбольш заўзятыя нявесты падыходзяць пад вокны падслухоўваць, што спачатку скажуць у хаце: «Бывай здароў» ці «Сядзь, пасядзі». Калі першае, дык прыкмета добрая: давядзецца пакінуць бацьку, родную хату і ісці замуж; калі ж звыш спадзяванняў пачуецца, як нецярплівая маці ў хаце раптам прыкрыкне на свайго неўгамоннага жэўжыка: «Ды сядзь, каб ты макам сеў», то тая, што падслухоўвала, як абвараная, уцякае ад акна: давядзецца, маўляў, сядзець у дзеўках». Па звестках, сабраных А. К. Сержпутоўскім, такім шляхам дапытваλі лёс і хлопцы: «На першую куццю пасля вячэры хлопцы падслухоўваюць пад вокнамі, што там гамоняць, і па той гаворцы мяркуюць, кахаюць іх дзеўкі ці не». У некаторых рускіх мясцовасцях перад пачаткам Піліпаўскага паста (напярэдадні 28 лістапада) пад вокнамі выконваўся рытуальны дыялог з мэтай знішчэння ў хаце клапоў: «После ужина бабы распускали волосы

и одна, садясь на помело (гл. **Венік**), оставалась у стола, а другая верхом на кочерге (гл. **Качарга**) выезжала во двор, объезжала избу и, останавливаясь у окна, спрашивала, а из избы ей отвечали: «Вы заговелись?» — «Заговелись!» — «Чем заговелись?» — «Хлебом-солью.» — «А клопы чем заговелись?» — «Клоп клопа съел».

**ВОСПА** — ва ўсходнеславянскай міфалогіі — антрапаморфнае ўвасабленне скурнай хваробы. Беларусы ўяўлялі Воспу ў выглядзе старой жанчыны з бліскучымі вачыма і з адным вялізным зубам. Воспа (іншыя назвы — *цётка-Воспіца, Рабуха, Ліхая*) ходзіць па вёсках і пырскае сваёю атрутнаю слінаю ў намечаныя ахвяры. Згодна з рускімі ўяўленнямі, Воспа — гэта жахлівая жанчына з валовымі пухірамі замест вачэй. Як толькі Воспа дакранецца да каго-небудзь сваім атрутным языком, той адразу захварэе.

У наступным рускім паданні (канец XIX ст., Пензенская губернія) падкрэсліваецца магчымасць распаўсюджвання Воспы праз **ваду**: «Рассказывают, что несколько лет тому назад у жителей деревни Посопной была повальная болезнь, пущенная в колодцы девкой. Многие видели, как по зорям приходила какая-то неизвестная девка, доставала из колодца воду, нашёптывала и выливала её обратно в колодцы. Девку ловили, но она всегда исчезала, как дым».

**ВОЎК**. Згодна са старажытнай міфічнай традыцыяй, вядомай многім індаеўрапейскім народам, воўк асэнсоўваўся як родапачальнік племені, як жывёла-татэм. У многіх казачных тэкстах воўк выступае надзейным памочнікам і абаронцам чалавека (параўн. пушкінскія радкі: «*В темнице там царевна тужит, а бурый волк ей верно служит*»). Ваўкі лічыліся ў народных павер'ях пажыральнікамі чарцей — актыўных носьбітаў зла. На думку акадэміка Б. А. Рыбакова, ваўкі асэнсоўваліся нашымі продкамі ў асноўным станоўча і па той прычыне, што менавіта яны знішчалі траваядных жывёл (дзікоў, коз, зайцаў і інш.), якія наносілі вялікую шкоду пасевам. Заступнікам, апекуном ваўкоў лічыўся святы Георгій (гл. **Юрай, Ярыла**). У сувязі з гэтым драпежніцтва звера ацэньвалася як праяўленне волі святога Георгія (Юр'я), які адначасова ўшаноўваўся як заступнік хатняй жывёлы. Аб гэтым яскрава сведчыць руская прыказка: «*Что у волка в зубах, то Егорий дал*». Лічылася таму, што адбіраць у ваўка яго здабычу нельга: святы Георгій абавязкова даведаецца пра гэта і жорстка пакарае (можа загінуць увесь статак). Больш таго, нападзенне ваўка на статак хатняй жывёлы разглядалася як падзея, пасля якой будзе ўдача. Таму і сустрэча з ваўком лічылася ў славянскіх народаў добрай прыкметай (у адрозненне ад сустрэчы з **зайцам**). Так, у «Слоўніку беларускіх прыказак» І. І. Насовіча (1874 г.) занатаваны зварот *воўка стрэў*

з тлумачэннем «гаворыцца, калі нехта атрымаў нечаканы прыбытак», а ўстойлівае словазлучэнне *воўк дарогу перабег* «аб шчасці, шанцаванні» суправаджаецца наступным каментарыем аўтара: «Просты народ верыць, што воўк, перабягаючы дарогу, прадвяшчае шчасце, а **заяц** або лісіца — няшчасце».

**ВУПЫР** (рус. *Упырь,* укр. *Упир*) — у славянскай (у тым ліку і ва ўсходнеславянскай) міфалогіі — мярцвяк, які выходзіць з магілы, каб высмактаць кроў у людзей і (радзей) у жывёл.

Згодна з народнымі павер'ямі, Вупырам становіцца чалавек, народжаны звычайнай жанчынай ад нячысціка (гл. **Вогненны змей**), ад **ведзьмы** і **Чорта,** або чалавек, сапсаваны ўздзеяннем нячыстай сілы; нябожчык, праз магілу якога перабегла чорная кошка (гл. **Кот**), але часцей — «нячысты» нябожчык (самазабойца), а таксама **калдун** ці пракляты людзьмі чалавек. Акрамя чалавечага выгляду, Вупыр можа ператварацца ў **сабаку** ці **ката** (гл. **Паморак**), у кажана, пяро ці саломінку. Нярэдка Вупыр уяўляўся ў выглядзе чалавека ў **чорным** адзенні з сінім тварам.

Вупыр мог быць і сярод жывых людзей, весці днём звычайны лад жыцця. Украінцы верылі, што такога Вупыра можна пазнаць па шасці пальцах на руках ці нагах, а дзіця-вупыра — па двайных радах зубоў. Увогуле, зубастасць — характэрная рыса Вупыра. Мярцвяк-вупыр можа быць вызначаны па свежым, чырвоным твары. Цела Вупыра, па павер'ях беларускіх сялян, не паддаецца тленню, яно ляжыць у труне, як жывое, з расплюшчанымі вачыма.

Дзейнасць Вупыра наступным чынам апісваецца ў рабоце А. Я. Багдановіча «Перажыткі старажытнага светапогляду ў беларусаў»: «Па начах Вупыры прыходзяць у хаты сваіх былых ворагаў, а часам нават сяброў і родных, кладуцца на грудзі абранай ахвяры, прыпадаюць вуснамі да яе сэрца і высмоктваюць гарачую кроў. Вусны Вупыра распухаюць ад частага смактання, а язык робіцца востры, як змяінае джала. Яго Вупыр запускае ў грудзі чалавека і потым з ранкі высмоктвае кроў. Рана застаецца невялікая, яе і не заўважыш, тым больш што Вупыр яе ўмела замазвае». Ахвяра Вупыра, якую можна пазнаць па бледным твары, можа або памерці ад страты крыві, або таксама стаць Вупырам.

Для таго, каб спыніць уздзеянне Вупыра, лічылася неабходным забіць асінавы кол у яго магілу або нават у грудзі нябожчыка (гл. **Асіна**), калі яго падазравалі ў сувязі з нячыстай сілай.

**ВЫРАЙ** (рус. *вырий, ирий;* укр. *вирій*) — ва ўсходнеславянскай міфалогіі — старажытная назва **раю**; цёплая, запаветная краіна, куды адлятаюць душы памерлых праведнікаў. Выраю могуць дасягнуць толькі птушкі, у якіх ёсць ключы ад яго, а таксама змеі (гл. **Здзіжанне**). У народных песнях веснавога цыклу — вясянках — часта сустракаецца матыў адмыкання ключамі

выраю, з якога прылятаюць птушкі і прыносяць з сабою сонечнае цяпло, вясну. З уяўленнямі аб выраі звязаны матічны абрад пахавання ў пачатку восені (перад адлётам птушак) птушынага крыла, якое сімвалізавала ключ ад выраю.

У наступнай беларускай легендзе вырай непасрэдна суадносіцца з уяўленнямі аб раі: «Вырай дзесь вельмі далёка на зямлі, за гарамі да за марамі. Покі чалавек не саграшыў, датуль ён жыў у раю, а як саграшыў, то Бог яго выгнаў з раю, а самы рай аддаў птушкам, каб ён дарам не пуставаў, бо ведама, што й самая гожая пустка робіцца сумнаю. От з тых часоў і пачалі птушкі са ўсяе зямлі ляцець на зіму ў вырай. А каб яны не блудзілі да не гіблі, Бог зрабіў ім на небе ясную дарогу, што проста вядзе ў вырай. Па гэтай дарозе кожны год адсюль ляцяць усялякія птушкі, але далятаюць у вырай толькі тыя, каторыя не робяць другім ліха. Бог і птушак, як людзей, дзеліць на добрых і ліхіх. Як ліхія людзі ніколі не трапяць у рай, так і ліхія птушкі сланяюцца па зямлі, забіваюць другіх, покуль, нарэшце, дзе-небудзь загінуць. А добрыя птушкі накрасуюцца за лецечка тут у нас у гаю, пацешаць добрых людзей, а як пачне халадзець, дак яны і ляцяць у вырай, дзе паюць да цешаць святых людзей да анёлаў, што красуюцца ў раю. От затым вялікі грэх забіваць тых птушак, каторыя аб воссць ляцяць у вырай». Параўн. **Белабог, Дажбог.**

**ВЯДЗЬМАК.** Гл. **Вядзьмар.**

**ВЯДЗЬМАР** (Вядзьмак, Калдун, Чарадзей, Чараўнік) — злы чараўнік, звязаны з нячыстай сілай.

Знешне вядзьмар адрозніваецца ад звычайных людзей пахмурным выглядам, мутным, злосным поглядам спадылба, шэрым тварам, зрошчанымі бровамі, сутулаватасцю; ён нешматслоўны і часта нешта мармыча сам-насам, любіць выпіць.

Па свайму паходжанню ведзьмары падзяляюцца на прыродных, спадчынных і прафесійных. Прыроднымі або сапраўднымі вядзьмарамі (вядзьмарамі «па перакананню») становяцца звычайныя людзі, якія ўступаюць у змову з нячыстай сілай. Аб гэтым павер'і пісаў у сваёй кнізе «Перажыткі старажытнага светапогляду ў беларусаў» (1895 г.) А. Я. Багдановіч: «Каб стаць сапраўдным чараўнікам, які валодае вышэйшай ступенню магутнасці, трэба прадаць чорту сваю душу. Для гэтага патрэбна парваць усялякую сувязь з царквою і зрабіць нешта зусім кашчунскае. Хто зробіць такі ўчынак, таму да яго смерці будзе служыць Чорт, выконваючы ўсе яго загады...». Адно з апісанняў такіх кашчунскіх (з пункту погляду хрысціянскай маралі) учынкаў знаходзім у кнізе рускага этнографа С. В. Максімава: «Для посвящения в колдуны довольно снять с шеи крест и спрятать его под правую пяту или положить икону на землю вниз лицом

и встать на нее ногами, чтоб затем в таком положении говорить богохульные клятвы, произносить заклинания и выслушивать все руководящие наставления сатаны. Лучшим временем для этого, конечно, считается глубокая полночь, а наиболее удобным местом — перекрестки дорог как излюбленное место нечистой силы. Удобны также для сделок с чертом бани...». Да прыродных ведзьмароў належылі і тыя, хто нарадзіўся ад калдуна, або пазашлюбныя дзеці ў трэцім пакаленні незаконнароджаных (апошнія, па агульнапашыранаму перакананню, нараджаюцца — і хлопчыкі, і дзяўчынкі — з невялікім хвастом). Чалавек мог атрымаць адпаведныя здольнасці і «у спадчыну» ад паміраючага ведзьмара. Існуе павер'е аб тым, што вядзьмар памірае ў вялікіх пакутах да тых пор, пакуль не перадасць свае здольнасці іншаму чалавеку. П. П. Дземідовічам запісана звязанае з гэтым павер'ем характэрнае паданне: «Вядзьмар перад смерцю сказаў суседу: «Ідзі ты ў тое і тое месца, там ты сустрэнеш сівую кабылу». Што гэта за сівая кабыла, цяжка меркаваць, але гэты чалавек, сапраўды, прыйшоўшы ў названае месца, сустрэў сівую кабылу і з таго часу зрабіўся ведзьмаром».

Прафесійныя ведзьмары — цесляры, млынары, пастухі, кавалі, пчаляры — маглі нанесці шкоду людзям па той ці іншай прычыне (звычайна з-за дрэннага частавання ці выражэння непавагі) з дапамогай сваяго рамяства (гл.: **Сякера**). Прыкладам прафесійнага вядзьмарства можа служыць наступнае рускае паданне з кнігі С. В. Максімава «Крестная сила. Нечистая сила. Неведомая сила»: «Построили плотники новый дом. Пришли они прощаться да и сказали хозяйке: «Ну, тётка, тебе не спасибо, вовек будешь помнить, как ты нас поила-кормила!». И вот за то, что она докучала им попрёками, укоряя, что много у ней выпили и ещё более того съели, они посадили ей **Кикимору**: никого не видно, а человеческий голос стонет. Как ни сядут за стол, сейчас же кто-то скажет: «Убирайся-ка ты из-за стола-то!». А не послушают — начнет швырять с печи шубами или с полатей бросаться подушками. Так и выжила **Кикимора** хозяев из дому».

Як і **ведзьмы,** ведзьмары насылаюць хваробы на людзей і жывёл, разладжваюць адносіны паміж людзьмі, забіраюць малако ад кароў і ўраджай ад зямлі. Вядзьмар можа нават адным толькі поглядам наслаць на чалавека хваробу або сурочыць яго; ад погляду ведзьмара, як сведчыць павер'е, мёртвымі падаюць на зямлю птушкі. Ва ўладзе ведзьмара ператвараць людзей у жывёл: у адной беларускай былічцы расказваецца аб тым, як пакрыўджаны вядзьмар-млынар ператварыў удзельнікаў вясельнага шэсця ў ваўкоў (гл. **Ваўкалак**). Чарадзей (як і ведзьма) можа і сам ператварыцца ў тую ці іншую жывёлу. Адным з магічных прыёмаў ператварэння чарадзея ў жывёлу мог быць

наступны: чарадзей павінен з замовай перакульнуцца праз некалькі нажоў, уваткнутых у зямлю.

Для выяўлення ведзьмароў выкарыстоўвалі такія магічныя прадметы, як вербная свечка, асінавыя дровы, рабінавы дубец (гл.: **вярба, асіна, рабіна**). Верылі, што, запаліўшы асвечаную ў царкве ў вербную нядзелю свечку, можна ўбачыць ведзьмароў і ведзьмаў, якія стаяць дагары нагамі, калі запаліць у Вялікі **чацвер** печ асінавымі дровамі, то ўсе ведзьмары прыйдуць прасіць попелу; калі ж трымаць пры сабе дубец з рабіны ў царкве ў час велікоднай службы, то можна ўбачыць ведзьмароў і ведзьмаў, якія стаяць спіной да іканастасу.

**ВЯЛЕС. Гл. Велес.**

**ВЯЛІКДЗЕНЬ** (Пасха) — у народным календары ўсходніх славян — самае значнае і ўрачыстае свята, якое адзначалася ў язычніцкія часы ў гонар сонца, абуджэння прыроды, набліжэння «вялікіх дзён» палявых работ. Згодна з хрысціянскай традыцыяй, у гэты дзень ушаноўваецца ўваскрасенне (паўстанне з мёртвых) Ісуса Хрыста, якое сімвалізуе перамогу жыцця над смерцю, свету над цемрай, дабра над злом. Вялікдзень не мае строгай каляндарнай прымеркаванасці і адзначаецца (у залежнасці ад месячнага календара) ў перыяд ад 4 красавіка да 8 мая.

З язычніцкіх часоў у многіх мясцовасцях Беларусі захаваўся звычай запальваць ноччу перад Вялікаднём вялікія вогнішчы, якія, па народных уяўленнях, павінны былі ўздзейнічаць на сонца, на пацяпленне, на хутчэйшы надыход вясны. Галоўнай рытуальнай ежай, якую гатуюць на Вялікдзень, з'яўляецца *пасха* (*паска*) — вялікая булка з выявай крыжа. Пасля асвячэння *пасхі* ў царкве кожны гаспадар імкнуўся як мага хутчэй бегчы з ёю дадому (хто першы дабяжыць, у таго будзе лепшы ўраджай). Увогуле ўся асвечаная ў царкве ежа («свянцонае») надзялялася незвычайнымі магічнымі ўласцівасцямі. Так, скарынкі ад *пасхі* ніколі не выкідвалі, а сушылі, таўклі і клалі ў гарэлку — гэта, па народнаму павер'ю, засцерагала ад уздзеяння **ведзьмаў** і калдуноў. Косці, што заставаліся ад мясных велікодных страў, звычайна закопвалі на полі, што павінна было абараніць ніву ад граду і **заломаў**, забяспечыць добры ўраджай. Абрус, на якім стаялі велікодныя стравы, захоўваўся ў недатыкальнасці на працягу ўсяго году: ён, згодна з народнымі вераваннямі, ахоўвае пасевы ад граду, і таму пры з'яўленні градавых хмар гэты абрус рассцілалі на двары.

У цэнтры велікоднай абраднасці знаходзіцца пафарбаванае **яйка, чырвоны** колер якога сімвалізуе кроў, пралітую Ісусам дзеля выратавання людзей.

**ВЯНОК** — упрыгожанне з кветак, стужак і зеляніны, якое надзяваецца на галаву, — асэнсоўваўся як магічны, абавязковы

атрыбут многіх абрадаў — **Купалля, Троіцы**, вяселля, дажынак і інш. З дапамогай вянкоў дзяўчаты варажылі аб замужжы, аб лёсе блізкіх людзей.

Вянок у вясельнай абраднасці з'яўляўся сімвалам дзявоцтва, дзявочай чысціні. Матыў згублення вянка, які сустракаецца ў народных лірычных песнях, азначаў згубленне дзяўчынаю нявіннасці да шлюбу. Параўн. разрыванне вянка як сімвалічнае пажаданне ўрадлівасці ніве ў абрадзе провадаў **Русалкі**, а таксама ўжыванне ўкраінскага звароту *загубити вінок* «страціць нявіннасць» у наступных радках: *Удівонька свою дочку била: де ж ти, дочко, вінок загубила?* Такі ж сэнс мае і гарохавы вянок як сімвал адмовы нявесты на прапанову сватоў (гл. **Гарох**). Гл. **Талака**.

Адначасова вянок асэнсоўваўся як магічны прадмет, што ўплывае на жыццё людзей, іх лёс і ўраджайнасць нівы (гл. **Бяроза**).

**ВЯРБА** — ў народных павер'ях асэнсоўвалася як дрэва, уплываючае на жыццяздольнасць і здароўе, засцерагаючае ад нячысці і хваробы. Асаблівай магічнай значнасцю надзяляліся галінкі вярбы, асвечанай у царкве ў Вербную нядзелю — за тыдзень перад **Вялікаднем**. У гэты дзень па традыцыі, згодна са старажытным рытуалам, білі (пасцёбвалі) дзяцей, для забеспячэння іх росту і развіцця, з прыгаворам:

Не я б'ю — вярба б'е.
За тыдзень — Вялікдзень.
Будзь багаты, як **зямля**,
Будзь здаровы, як **вада**,
Як лёд — на ўвесь год!

Гэтай жа вярбой пахлеставалі і хворых з пажаданнем ім здароўя: *«Не я б'ю — вярба б'е! Хіра ў лес, а здароўе ў косці!»* Гаспадары лічылі неабходным пахлёстваць і хатнюю жывёлу: «У Вербную нядзелю гаспадар, вярнуўшыся з царквы, лёгенька б'е вербаю гаўяда, каб яно было здаровае» (А. К. Сержпутоўскі). Каб захаваць жывёлу, засцерагчы яе ад хвароб і ліхога вока, садзейнічаць яе памнажэнню, асвечаную («свянцоную») вярбу ўтыкалі ў хлявах або ў вароты хлявоў. Яе захоўвалі звычайна да дня першага выгану жывёлы ў поле (на **Юр'я**, 6 мая) і пры выгане для засцярогі кароў хлясталі ёю. Вярбе прыпісвалі здольнасць апладняць зямлю, паляпшаць яе ўраджайнасць. Для гэтага пасля выгану жывёлы вярбу ўтыкалі ў зямлю (у чатырох вуглах нівы) або разламвалі галінкі і раскідвалі іх па палях. Беларусы-пінчукі з'ядалі з асвечанай вярбы па дзевяць пупышак, каб не балелі зубы і для засцеражэння ад **ліхаманкі**. На Украіне запальвалі галінку вярбы і акурвалі ёю ад ліхаманкі, клалі вярбу ў ваду, у якой купалі хворае дзіця. Там жа бытавала павер'е

аб тым, што ў хату, дзе знаходзіцца асвечаная вярба, не можа трапіць маланка.

## Г

**ГАЛАВАСЕК** — свята ў народным календары ўсходніх славян, якое адзначаецца 11 верасня. Хрысціянская царква адзначае памяць адсячэння галавы Іаана Прадцечы (Хрысціцеля). Згодна з біблейскім сюжэтам, Іаан быў пазбаўлены галавы па загаду цара Ірада, які зрабіў гэта па просьбе сваёй дачкі (яе падвучыла зрабіць гэта жонка Ірада — Ірадыяда, якая ненавідзела Іаана Хрысціцеля). У адпаведнасці з гэтым дзень Іаана Галавасека звязваўся не толькі са строгім пастом, але і са шматлікімі забаронамі на ўжыванне ў ежу круглых пладоў, якія нагадвалі па форме галаву: яблык, бульбы, цыбулі і інш. Не дазвалялася браць у гэты дзень нож або сякеру і рэзаць ці сячы што-небудзь, што мела круглыя абрысы. Баяліся варыць чырвонае бацвінне, бо, як лічылі, у доме на працягу года пральецца чыя-небудзь кроў.

**ГАРОХ** ва ўсходнеславянскай міфалагічнай традыцыі асэнсоўваўся як сімвал і атрыбут **Перуна** — язычніцкага бога грому і маланкі, які ўплываў таксама на ўрадлівасць палёў, пладавітасць жывёлы і дзетародныя магчымасці чалавека (А. М. Афанасьеў). Некаторыя сучасныя даследчыкі лічаць, што выраз *цар Гарох* (параўн.: бел. *за царом Гарохам,* рус. *при царе Горохе*) з'яўляецца табуіраваным абазначэннем Перуна.

На міфалагічным асэнсаванні гароху як расліны, стымулюючай дзетароддзе, заснаваны распаўсюджаны ва ўсходніх славян казачны сюжэт аб Пакацігарошку — дужым асілку, якога нарадзіла ўдава пасля быццам бы выпадковага з'ядзення ёю гарошыны. Гэтыя ж уяўленні пакладзены ў аснову ўнутранай формы рускага дыялектнага фразеалагізма *гороху объесться* «стаць цяжарнай (звычайна па-за шлюбам)». Ва ўкраінскай мове сустракаецца зварот *скакати в горох,* які ўжываецца для абазначэння пазашлюбных адносін або палавых адносін увогуле. Беларускай мове (як польскай і чэшскай) вядома ўстойлівае словазлучэнне *даць гарохавы вянок* «адмовіць сватам», звязанае з уяўленнямі аб гарохавым вянку як атрыбуце замужняй жанчыны, жаноцкасці (а значыць, недзявоцкасці, нешчатлівасці). Пры святкаванні дажынак на Украіне і ў Польшчы гарохавы вянок надзявалі толькі замужнія жанчыны, у той час як дзяўчаты маглі надзяваць вянкі з іншых раслін. Ва ўкраінскай вясельнай абраднасці з'яўленне гарохавага вянка сведчыла аб хуткім нараджэнні дзіцяці. П. В. Шэйн занатаваў паказальны абрад, які быў вядомы ў канцы мінулага стагоддзя на Гродзеншчыне. Калі для здзяйснення абраду ачышчэння (праз шэсць тыдняў пасля на-

раджэння дзіцяці) у царкву прыходзіла маладая жанчына, што нарадзіла дзіця па-за шлюбам («байструка»), святар надзяваў ёй на галаву вянок з гарохавай саломы і загадваў прывязаць яе да дрэва, якое расло каля царквы. У такім становішчы (для ўсеагульнага асуджэння) жанчына павінна была прастаяць некалькі гадзін.

Адным з калядных персанажаў украінцаў і палякаў быў «гарохавы мядзведзь» — малады хлопец, абвіты гарохавай саломай. Лічылася, што з ім павінна была абавязкова патанцаваць бяздзетная жанчына, якая хацела нарадзіць дзіця. Іншыя жанчыны, у дом якіх прыходзіў «гарохавы мядзведзь», імкнуліся таксама патанцаваць з ім і пры гэтым адарваць кавалачак гарохавай саломы, каб кінуць потым у хлеў ці куратнік — для плоднасці хатняй жывёлы. Чэхі ў пятніцу на перадвялікодным тыдні (гл. **Вялікдзень**) адпраўляліся ў сад з мяшком гароху, якім білі па пладовых дрэвах, каб на іх было шмат пладоў (параўн. рытуальнае біццё **вярбой** дзяцей і хатняй жывёлы). Чэхі верылі, што тры гарошыны або гарохавы струк, кінутыя ў печ, калі там пячэцца **хлеб**, надзейна засцерагаюць яго ад урокаў.

А. М. Афанасьевым запісана паданне аб чароўных уласцівасцях гароху: вясною трэба забіць змяю, разрэзаць яе, пакласці туды тры гарошыны і закапаць у зямлю. З цягам часу на гэтым месцы вырасце цудоўная кветка. Чалавек, які пакладзе яе ў рот, будзе ведаць усё, аб чым гавораць іншыя людзі.

Шырока распаўсюджана ва ўсходніх славян павер'е аб гарохавым струку, пакладзеным у павозку маладым. Падрабязнае апісанне гэтага павер'я знаходзім, у прыватнасці, у адной з работ М. Я. Нікіфароўскага: «Варта знайсці гарохавы струк з дванаццаццю зернятамі і пакласці яго ў экіпаж «князя» і «княгіні» — коні не крануцца з месца, пакуль струк не будзе знойдзены і выкінуты. Іншы раз для той жа мэты дастаткова бывае струка з дзевяццю зярнятамі: яго можна пакласці ў экіпаж, а можна і закапаць на дарозе са словамі: «Дзевяць бочак гароху, дзесятая нявеста, не рушцеся, коні, ні з месца!».

Па чэшскіх павер'ях, кожны воз, трапляючы колам на струк з дзевяццю або адзінаццаццю зярнятамі гароху, абавязкова павінен перавярнуцца. У літоўскай міфалагічнай традыцыі гарох з'яўляецца любімай ежай ведзьмаў.

**ГРАМНІЦЫ** (15 лютага), царкоўная назва свята — *Стрэчанне* (руск. *Сретенье*). Назва свята паходзіць ад язычніцкага бога Грамаўніка (**Перуна**), якому прыпісвалася ўтварэнне веснавых навальніц і дажджоў. Пасля гэтага дня, па народных павер'ях, павінны страціць сваю ўладу змрочныя боствы зімы: *Як прыйдуць Грамніцы — скідай рукавіцы.*

На Грамніцы асвячалі свечкі ў царкве. Грамнічныя свечкі

асабліва шанаваліся ў народзе: іх запальвалі ў час навальніц, каб маланка не спаліла хату; іх давалі паміраючаму чалавеку, каб полымя асвятляла яму шлях на той свет, ачышчала душу ад грахоў. Вельмі пашыраным было павер'е аб тым, што грамнічных свечак баіцца нячыстая сіла: таму іх вешалі ля ўваходу ў хлеў ці на стайню, каб **ведзьмы** не адабралі ад кароў малако або каб **Хлеўнік** не заездзіў **коней** (паводле У. А. Васілевіча).



**ДАБРАХОЖЫ** (Дабрахочы) — па павер'ях жыхароў Беларусі (пераважна яе ўсходняй часткі) — міфічная істота, якая аб'ядноўвае рысы некалькіх персанажаў: **Дамавіка, Дваравога, Палевіка, Хлеўніка.** Звяртаючыся да Дабрахожага, звычайна пералічвалі яго розныя ўвасабленні: «Добры дзень хазяіну дамавому, палявому, дваравому, хлеўнаму!».

Па народных уяўленнях, Дабрахожыя паходзяць ад дзяцей, якіх бацькі па якой-небудзь прычыне не хрысцілі. У некаторых выпадках бацькамі Дабрахожых называюць нават Адама і Еву, у якіх было шмат дзяцей — ад дванаццаці да сямідзесяці двух (па розных крыніцах). Палову сваіх дзяцей Адам з Евай захавалі ад Бога, і з-за гэтага Бог зрабіў іх нябачнымі («невідзімцамі») і ператварыў у Дабрахожых. Па некаторых іншых уяўленнях, Дабрахожымі становяцца дзеці, выпадкова задушаныя іх маткамі ў час сну — «прыспаныя» дзеці.

Часцей за ўсе Дабрахожых уяўляюць апранутымі ў **чорную** або ў **белую** вопратку і абавязкова — з бліскучымі гузікамі. Дабрахожы можа быць падобны на гаспадара дома, а калі ў хаце жыве ўдава — на гаспадыню. Зрэдку яны могуць уяўляцца ў выглядзе **змей** ці птушак.

Уяўленні аб паводзінах Дабрахожага розныя. Некаторыя людзі гавораць аб тым, што «ён усім шкодзіць». Але часцей адносіны гэтых істот да чалавека звязваюць з яго паводзінамі, характарам і адносінамі да Дабрахожага. Выступаючы ў ролі справядлівага і грознага суддзі, ён карае нядбайных, безгаспадарлівых людзей, брыдкасловаў і асабліва тых, хто пераходзіць яму дарогу або ступае ў яго след. Дабрахожы насылае цяжкія хваробы, у тым ліку і на дзяцей свайго крыўдзіцеля; ён можа зрабіць вялікую шкоду, раскідаўшы складзенае ў стагі сена або зрабіўшы на дарозе завалы з вырваных з коранем дрэваў. Каб задобрыць Дабрахожага, трэба ахвяраваць яму хлеб з соллю (параўн.: **Дваравы**) (паводле Г. І. Лапаціна).

**ДАЖБОГ** — бог сонца, свята і дабра ў міфалогіі ўсходніх славян-язычнікаў; адзін з багоў пантэону, які ўзначальваў **Пярун;** сын **Сварога.**

На думку акадэміка Б. А. Рыбакова, культ Дажбога ўзнік

яшчэ ў VI—IV ст. да н. э. У старажытных міфах Дажбог — адзін з першых заканадаўцаў, які паклаў пачатак летазлічэнню па сонечным календары. Дажбог уяўляўся прыгожым, дужым юнаком, маладым князем, заступнікам аратых і сейбіту; ён надзяляе людзей фізічнай сілай, здароўем, мудрасцю, майстэрствам (гл.: **Велес**). Рускія дружыны — абаронцы радзімы — названы ў «Слове пра паход Ігаравы» Дажбожымі ўнукамі. Па старажытнаму павер'ю, Дажбог захоўвае зямныя ключы: ён зачыняе зямлю на зіму і аддае ключы птушкам, якія нясуць іх у **вырай** — у краіну продкаў, у царства вечнага лета. Вясной птушкі вяртаюць ключы, і Дажбог адмыкае імі **зямлю.**

Ва ўкраінскай міфалагічнай традыцыі першапачаткова Дажбог быў звычайным юнаком, які нарадзіўся ў кіеўскага каваля **Сварога.** Дажбог навучыў людзей сеяць пшаніцу, вырошчваць хлеб, а яго бацька навучыў іх кавальскай справе, выкаваў першы плуг. Калі Дажбог і Сварог пачулі пра голад у краіне росаў, яны павезлі хлеб галадаючым. Але па дарозе войска **Чарнабога** знішчыла ўвесь хлеб, а Дажбога і Сварога пасекла мячамі. Багі выраю ажывілі абодвух і зрабілі іх багамі.

**ДАМАВІК** — ва ўсходнеславянскай міфалогіі — дух дома, ахоўнік дамашняга ачага. Варыянтныя назвы: бел. *хатнік, гаспадар, падпечнік;* рус. *домовой, доможил, дедушка, хозяин, суседко;* укр. *похатник, хованець, служка, помічник.*

Звычайнае месца знаходжання Дамавіка — пад **печчу,** што сведчыць аб яго сувязі з ачагом, **агнём.** У некаторых крыніцах падкрэсліваецца, што Дамавік жыве пад **венікам,** і таму **венік** у некаторых абрадах выкарыстоўваецца як прадмет-апатрапей. Дамавік мог жыць і ў хляве, паколькі яго важным заняткам быў, па народных уяўленнях, дагляд хатняй жывёлы. На падставе шматлікіх звестак аб блізкасці Дамавіка да жывёлы некаторыя даследчыкі славянскай міфалогіі лічаць, што культ Дамавіка працягвае культ старажытнага язычніцкага «скотьего бога» — **Велеса.**

Знешне Дамавік часцей за ўсё мае антрапаморфны выгляд: гэта стары, сівы дзядок у белай вопратцы, з доўгімі валасамі; усё яго цела, нават твар і далоні, пакрыта валасамі і пухам. Па звестках, сабраных М. Я. Нікіфароўскім, Дамавік у адных выпадках — «моцны сярэдніх гадоў мужчына з прыгожым, дабрадушным тварам і блакітнымі вачыма»; у другіх выпадках — маленькі дзядок («ростам з пяцігадовае дзіця») з маршчыністым тварам і жоўтымі валасамі на галаве. Нярэдка Дамавік уяўляўся ў вобразе прашчура — аднаго з памерлых членаў сям'і. Па рускіх фальклорна-этнаграфічных і міфалагічных крыніцах, «Домовой — человек среднего роста, сутуловатый, широкоплечий, коренастый, оброс длинной шерстью, одет в старый зипун и лапти. Кроме роста обыкновенного человека, Домовой может иметь и огромный

рост, например, выше дерева». Ва ўкраінскай традыцы «Домовика вважали істотою невизначеного роду (*воно*). Проте найчастіше Домовик змальовувався як невеличкий (вершків дванадцять) оброслий волоссям дідок».

У параўнанні з павер'ямі аб іншых міфалагічных персанажах (аб Лазніку, Лесавіку, Вадзяніку, Русалцы і інш.) павер'і, звязаныя з Дамавіком, найбольш жывучыя, «верагодныя» і трывалыя. Гэтую акалічнасць падкрэслівае даследчыца рускага фальклору Э. В. Памяранцава: «Вера в Домового была общераспространённой на Руси, и рассказы о нём длительное время не вызывали сомнений в силу представлений, что он обязательный, близкий участник жизни крестьянина, покровитель его хозяйства, защитник его дома... Подчеркнуто антропоморфные черты Домового делали его близким, понятным и нестрашным. Он и не погубит, как коварная Русалка, не утопит, как могущественный Водяной, не утащит в чащобу, как злой Леший, а рассердившись, лишь ущипнет, насадит синяков, спрячет какую-нибудь вещь и этим ограничится».

Значна радзей Дамавік уяўляўся ў выглядзе якой-небудзь жывёлы: **ката, сабакі, змяі,** вужа, жабы і інш. У беларускай легендзе «Дамавікова ўдзячнасць» расказваецца пра вужа-Дамавіка, які ў згодзе жыў з членамі сям'і і ў адказны час выратаваў людзей ад смерці, перавярнуўшы гладышы з малаком, атручаным гадзюкай. У другой легендзе (з кнігі А. М. Ненадаўца «Святло таямнічага вотнішча») даведваемся аб самаахвярным учынку «хатняга вужа», які цаной свайго жыцця выратаваў малых дзяцей ад вялізнай гадзюкі.

Дамавік спрыяе хатняй гаспадарцы, нябачна дапамае членам сям'і ва ўсіх справах: па начах ён мые, чысціць у хаце падлогу, сцены і мэблю; шые, прадзе, меле муку і асабліва любіць завіхацца каля хатняй жывёлы. М. Я. Нікіфароўскі ў кнізе «Нячысцікі» пісаў: «За ўсю бескарыслівую працу Дамавік патрабуе ад тых, каму ён спрыяе, пастаяннай павагі і таго, каб не забывалі свайго дабрадзея ва ўрачыстыя для сям'і дні. Удзячныя гаспадары запрашаюць Дамавіка за агульны стол у памінальныя дні (гл.: Дзяды), пасцілаючы чыстае палатно ад парога да стала». Дамавік таксама папярэджвае людзей аб будучых няшчасцях — пажары, крадзяжы, хваробах. У той жа час Дамавік можа быць капрызлівым, нават злосным, калі людзі яго не паважаюць, не прытрымліваюцца старых традыцый, часта сварацца, не дапамагаюць жабракам. Такую супярэчлівую прыроду Дамавіка падкрэсліваў У. І. Даль: «Домовой стучит и возится по ночам, проказит, душит (ради шутки) сонного; гладит мохнатой рукой к добру. Он особенно хозяйничает на конюшне, заплетает любимой лошади гриву, а нелюбимую вгоняет в мыло, иногда разбивает её параличом, даже протаскивает в подворотню».

У мінулым быў даволі распаўсюджаным звычай — «перасяленне Дамавіка» ў час наваселля. Для гэтага пад печ засоўвалі стары лапаць і запрашалі Дамавіка пераехаць на новае жыллё са словамі «Садись, дедушка, в сани, поедем с нами!». Лапаць на вяровачцы ўрачыста перавозілі да новай хаты, дзе ставілі яго пад печ, перш чым увайсці ў хату ўсім членам сям'і. Выразнае апісанне варыянту гэтага звычаю дае рускі этнограф пачатку нашага стагоддзя М. А. Арлоў: «В нашем народе вера в Домового держится совершенно неистребимо. Едва ли какая-нибудь семья в глухих деревнях, еще свято хранящих древние предания, не совершает древнего обряда перевода Домового в новое жилье. Обычно при этом хозяйка-большуха затопляет печь в старом жилье, и когда дрова сгорят, она тщательно выгребает весь жар, т. е. все оставшиеся в печи угли в вымытый горшок, торжественно поднимает этот горшок и со словами «Милости просим, дедушка, на новое жильё!» переносит горшок с углями в новую избу и здесь выбрасывает их в печь».

Убачыць Дамавіка можна ноччу на гарышчы перад Чыстым **чацвяргом** або ў хляве таксама ноччу перад **Вялікаднем.** Магічнымі сродкамі, з дапамогай якіх можна ўбачыць Дамавіка, з'яўляюцца **барана** і **хамут.** Героі міфалагічнага падання «Дамавік ездзіць на конях» змаглі не толькі ўбачыць Дамавіка, але і выратаваць ад яго ўздзеяння коней з дапамогай грамнічнай свечкі: «На другую ноч пайшоў я з сябрам разам пілнаваць коней. Запалілі мы грамнічую свечку, накрылі яе гаршчыкам, узялі з сабою свянцонае вады да сядзім, чакаем, покуль з'явіцца ён сам. Толькі ось каля поўначы й пачалі коні біцца да тупаць. Адкрыў гэта сябер свечку, зірном мы, аж на конях сядзіць сівы дзед з доўгаю барадою да толькі іх паганяе. От я як крапнуў яго свянцонаю вадою, дык ён і знік. Назаўтра павесілі ў хляве **сароку,** а больш нічога. От з тых часоў не чапае коней». У народнай былічцы, запісанай Я. А. Ляцкім, расказваецца аб вызваленні ад Дамавіка каня з дапамогай асінавага дубца (**гл. Заяц**).

**ДВАРАВЫ** — ва ўсходнеславянскай міфалогіі — ахоўнік і апякун двара, «памочнік» **Дамавіка.** У адрозненне ад апошняга, які жыве толькі ў доме і ў асноўным спрыяе гаспадару, Дваравы знаходзіцца па-за домам, жыве на двары або ў розных гаспадарчых пабудовах; акрамя таго, ён нярэдка знаходзіцца ў варожых адносінах з чалавекам (гл. **Хлеўнік**).

Дваравы «сябруе» з **сабакам** і **казлом** (**гл. Каза**), вельмі не любіць **белых кошак** і **сабак,** а таксама сівых коней; вараных і шэрых коней ён лашчыць, даглядае. Нелюбімую жывёлу, асабліва коней, Дваравы, як і Хлеўнік, жорстка мучыць, даводзіць да знямогі і схуднення. Каб абараніць коней ад Дваравога, на двары вывешваюць забітую **сароку** (**гл. Хлеўнік**). Дваравы варожа ставіцца і да нованароджаных жывёл — жарабятаў, ягнятаў,

цылятаў, таму гаспадары імкнуліся адразу ж перанесці нованароджаных з хлявоў у хату, аддаць іх пад абарону Дамавіка (для гэтага, у прыватнасці, навароджаную жывёлу тыкалі мордай у печ).

Засцерагаючыся ад уздзеяння злога Дваравога, рускія сяляне на Арлоўшчыне бралі старадаўнюю капейку з выявай каня, акраец хлеба, адносілі гэта ў хлеў і звярталіся да яго са словамі: «Царь Дворовой, хозяин домовой, соседушко-доброхотушко! Я тебя дарю-благодарю. Скотину прими, напой, покорми!». У замове, запісанай збіральнікамі ў 1975 годзе ў в. Дубровіца Хойніцкага раёна, да Дваравога звяртаюцца не толькі як да апекуна жывёлы, але як і да ахоўніка яе ад чужых нячысцікаў: «Цар Дваравы! Царыца Дваранiца! Тваe дзеткі параняткі! Дарую я вас і хлебам, і соллю. Мілуйце і вы маіх жыватоў, карміце іх ярай пшаной, а паіце іх мядовай сытой, пакрыйце вы іх шаўковай пелянoй, блюдзіце іх ад чужога Дваравога, ад чужога Палявога, ад памежніка, ад Карчэжніка, ад Кустоўніка, ад Грабоўніка».

**ДЗВЕРЫ** ў народных павер'ях асэнсоўваліся як увасабленне граніцы, мяжы, як «канал сувязі» са знешнім светам, з прасторай, не асвоенай чалавекам (гл. **Вокны, Парог**).

Паўсюдна ва ўсходніх славян існаваў звычай хрысціць дзверы напач, каб праз іх не змагла трапіць у хату нячыстая сіла. З той жа мэтаю перад **Вадохрышчам** на вушаках дзвярэй маляваліся крэйдай або смалой крыжы. Напярэдадні гэтага ж свята ў некаторых рускіх вёсках абмывалі дзверы «замоўленай» **вадой** — каб у хату не трапілі **Ліхаманкі** і іншыя хваробы. Для засцярогі ад **ведзьмаў** на Украіне да вушакоў дзвярэй прыбівалі конскую падкову, нож або абломак касы. Па павер'ю, вядомаму рускім сялянам, ад **Лесуноў**, якія могуць выкрадаць дзяцей, дзяўчат і жанчын, трэба выкарыстоўваць чартапалох, падвешваючы яго над дзвярыма.

У рытуальных дыялогах дзверы асэнсоўваліся як мяжа, за якой могуць знаходзіцца не толькі міфічныя звышнатуральныя істоты, але і сам Бог. Так, беларусам быў вядомы звычай, згодна з якім гаспадар дома перад Новым годам выходзіў на двор, трымаючы ў руках куццю, тройчы абходзіў хату, а потым, зайшоўшы ў сенцы, стукаў у дзверы. На пытанне гаспадыні: «Хто там стукае?» — гаспадар адказваў з-за дзвярэй: «Сам Бог стукае з цёплаю мокраю вясною, з гарачым небурлівым летам, з сухой і карыснай восенню», а пасля гэтага заходзіў у хату.

Усім усходнім славянам быў вядомы звычай, у адпаведнасці з якім для палягчэння родаў развязвалі ўсе вузлы, расшпільвалі гузікі на вопратцы, адвязвалі жывёлу і адчынялі ўсе дзверы.

Для вылячэння дзіцячага спалоху ў дзвярным вушаку высвідроўвалі дзірку, куды затыкалі састрыжаныя ў дзіцяці валасы

і ногці; дзірка (з чытаннем замовы) забівалася асінавым калком (гл. **Асіна**).

**ДЗЯЖА.** Культ дзяжы сфарміраваўся на падставе ўяўленняў аб яе гаспадарчым прызначэнні: менавіта ў дзяжы замешвацца і падыходзіць, «удасцца» або не «ўдаецца» цеста, з якога пякуць хлеб. Традыцыйна дзяжа асэнсоўвалася як прадмет, які мае выразную жаночую, нараджаючую прыроду. У сувязі з гэтым адносіны да дзяжы былі ўважлівыя, далікатныя, яны як бы ачалавечваліся. Своеасаблівы «кодэкс» адносін да дзяжы знаходзім у адной з работ М. Я. Нікіфароўскага: «...новую дзяжу трэба задобрыць, паставіўшы на суткі побач са старою на адну посцілку ці пад адну накрыўку, завесці ў ёй закваску, ніколі не вымываць і не скрэбці яе ў сярэдзіне і звонку, не ліць у яе кіпецень або халодную ваду; дзяжу трэба трымаць на строга вызначаным месцы пад накрыўкай і на посцілцы; ні ў якім разе не пазычаць дзяжу ў чужы дом: яна капрызлівая, крыўдлівая, будзе даваць дрэнны хлеб».

Характэрна, што ў Вербную нядзелю галінкамі асвечанай у царкве вярбы пасцёбвалі не толькі жывых істот (дзяцей, родзічаў, знаёмых і жывёлу), але і дзяжу — каб у ёй заўжды ўдаваўся хлеб (гл. **Вярба**).

У тым выпадку, калі цеста ў дзяжы не падымалася (не «падыходзіла») і з яго па гэтай прычыне атрымліваўся дрэнны хлеб, то такі хлеб, згодна з беларускім павер'ем, трэба яшчэ цёплым аддаць свінням; дзяжа такой абразы не «сцерпіць» і абавязкова «выправіцца». На Украіне і ў Беларусі дзяжу, якая не «выконвала» свайго прамога прызначэння, клалі на парозе хаты ўверх дном, утыкалі ў дно нож і лілі на дзяжу кіпецень з лыжкі. Украінскія гаспадыні білі па дну дзяжы старым венікам, пагражаючы, што будуць біць яшчэ, калі яна не «выправіцца». Такія ж магічныя дзеянні ў адносінах да «вінаватай» дзяжы з прыгаворам «Памятай, каб выправілася» прадпрымалі і польскія жанчыны.

Як прадмет, маючы адносіны да жаночай сферы, дзяжа выкарыстоўвалася ў дзявочых варожбах і ў вясельнай абраднасці. Так, рускія дзяўчаты, уваходзячы ў хату спіной наперад, вызначалі свой лёс: калі ідучая такім чынам дзяўчына «трапляла» на стаячую ў хаце дзяжу, значыць, яна выйдзе замуж у новым годзе. Пры сватанні дзяжа магла выконваць функцыю сімвала згоды нявесты на прапанову сватоў: «Як сватам ужо раз адкажуць, але потым абдумаюцца, ці ўбачаць, што дзеўка зажадае, то выносяць з хаты дзяжу і ставяць каля калодзезя. Ад таго тыя сваты прыдуць, бо іх так і пацягне к той дзеўцы» (А. К. Сержпутоўскі).

Асаблівай магічнай значнасцю надзялялася дзяжа, у якой гатавалі цеста для вясельнага каравая. Сяброўкі нявесты, каб хут-

чэй выйсці замуж, імкнуліся як мага хутчэй выкаціць на вуліцу такую дзяжу.

Агульнапашыраным на Беларусі з'яўляецца звычай садзіць нявесту на *пасад,* які ўяўляў сабой накрытую вывернутым кажухом дзяжу. Важнай умовай гэтага звычаю было захаванне нявестай нявіннасці: «Дзяжу накрываюць кажухом наверх шэрсцю да садзяць нявесту, катора толькі тады сядзе, калі яна цнатлівая; калі ж не, то не можа садзіцца, бо абразіць каравай, і ёй у жыцці не будзе ні ў чым шчасця» (А. К. Сержпутоўскі).

Каравай маладых ставілі на века дзяжы, і сваты, падняўшы яго, утваралі своеасаблівую браму, пад якой цалаваліся блізкія сваякі маладых, сімвалізуючы парадненне двух радоў.

У сферы народнай медыцыны дзяжа асэнсоўвалася як прадмет, які аказвае дабратворны ўплыў на здароўе, рост і развіццё дзяцей. Слабое або хворае дзіця, а таксама дзіця, якое пакутвала ад бяссонніцы, клалі на некаторы час у дзяжу. «Паскрэбашы» — булачкі з рэшткаў цеста, якое застаецца ў дзяжы, — давалі з'есці дзецям, каб у іх хутчэй раслі зубы. Калі дзіця доўгі час не размаўляла і не магло хадзіць, то яго саджалі пад дзяжу ў той час, калі пяклі хлеб. Мыючы над дзяжою рукі вадою, маці прамаўляла: «Як мае хлябы кіслі, так і ты, маё дзіцятка, кісні (г. зн. расці. — У. К.); як мае хлябы ўзыходзілі, так і ты хадзі; як я, маё дзіцятка, размаўляю, так і ты размаўляй».

Дзяжа таксама выконвала функцыю магічнай засцярогі ад небяспечнага ўздзеяння смерці. Так, згодна з рускім звычаем, пасля пераладжэння нябожчыка ў труну на тое месца, дзе ён да гэтага ляжаў, ставілі дзяжу (параўн. ахоўную ролю **сякеры** і **печы** ў пахавальным абрадзе).

Усходнім славянам добра вядома проціпастаўленне «відаў» або «тыпаў» дзяжы па адзнацы «жаночы — мужчынскі». Крытэрыем такога проціпастаўлення з'яўляецца колькасць клёпак у дзяжы: выраб з цотнай колькасцю клёпак мае назву жаночага роду — *дзяжа,* а выраб з няцотнай колькасцю клёпак называўся словам мужчынскага роду — *дзеж, дзяжун* (рус. *деж,* укр. *діж*). Адпаведна лічылася, што менавіта ў дзяжы будзе заўжды ўдавацца хлеб, таму менавіта *дзяжы,* а не *дзяжуну* аддавалася перавага пры купляніні. Параўн. наступнае ўкраінскае апісанне: «Купуючи діжку, лічуць тростки, кажучи на першу *«діж»,* на другу *«діжа»,* на третю знову *«діж»* і так усі перэбэруть. Як на останню прийдеться сказати *«діжа»,* то купують, бо хліб добрій буде, а як *«діж»,* то не купують». Вядомы выпадкі, калі *дзежуны* разбіралі і ўстаўлялі дадатковую клёпку, каб ператварыць яго ў *дзяжу,* у якой будзе заўсёды ўдавацца хлеб.

**ДЗЯДЫ** — свята беларускага народнага календара, звязанае з ушанаваннем продкаў («дзядоў») — не толькі памерлых бацькоў, але й усіх родзічаў. На працягу года свята «Дзяды» адзна-

чалася неаднаразова: перад масленым тыднем, на **Радаўніцу** (Радуніцкія дзяды), перад Троіцай (Траецкія дзяды), перад святам **Пятра** (Пятроўскія дзяды) і восеньскія, або вялікія, змітраўскія Дзяды (*Асяніны*).

Традыцыйна восеньскім Дзядам надавалася значна большае значэнне, чым самаму вядомаму зараз святу ўшанавання продкаў — **Радуніцы.** Напярэдадні свята прыбіралі хату і гаспадарчыя пабудовы, гатавалі смачныя стравы і піцво. Рабілася гэта для таго, каб засталіся задаволенымі **душы** продкаў, якія нябачна прысутнічаюць на агульным застоллі. Вакол святочнага стала збіралася ўся сям'я. Гаспадар, які кіраваў абрадам, пасля малітвы паіменна звяртаўся да ўсіх памерлых продкаў, запрашаючы іх прыняць удзел у вячэры: «Святыя дзяды! Просім за пачэсны стол!». Абавязковай ежай была **куцця** — рытуальная каша з ячменных круп. Ад кожнай са страў (іх колькасць павінна быць няцотнай) адкладвалі кавалачак ежы ў «дзедаўскую міску», якая знаходзілася на стале, — для дзядоў. У час урачыстай святочнай вячэры дазвалялася гаварыць толькі аб дзядах — іх жыцці, асобных выпадках і рысах характару; успаміналіся іх словы і настаўленні, мудрыя парады і добрыя ўчынкі.

Паэтычная і разам з тым таямнічая атмасфера гэтага свята цудоўна адлюстравана ў вершы сучаснага беларускага паэта Віктара Шніпа «Дзяды»:

Мільёны свечак асвяцілі край,
Каб душы продкаў бачылі ізноў,
Што помнім іх і нашая любоў —
Адзіны існуючы ў свеце рай.
Мы молімся, мы плачам, мы маўчым.
Праз гэтае жыццё свае крыжы
Нясём, нібы ратунак для душы,
І ў вечнасць адлятаем, нібы дым.
Мільёнам свечак цэлы дзень гарэць,
І нам глядзець у свет, куды ляцім,
Дзе месца ёсць, было і будзе ўсім,
Дзе нам усіх любіць і разумець.

**ДОЛЯ** — ва ўсходнеславянскай міфалогіі — увасабленне шчасця, поспеху. Побач з добрай доляй як персаніфікацыяй шчасця ў міфалагічных і фальклорных тэкстах сустракаецца злая, ліхая доля, бяда, няшчасце, **злыдні** як увасабленне адсутнасці долі. У адной з беларускіх легенд сустракаем наступнае разважанне аб долі: «Яшчэ на раду чалавеку даецца доля. Каму якая трапіцца доля, такое ў яго й будзе шчасце. І што ты ні рабі, як ты ні старайся, а нічога не парадзіш, калі доля лядашчыца. Калі ж доля спрые, та хоць ты ляжы на печы да трэй чэрава, а табе ўсё так і сыплецца, быццам у млыне збожжа з кашá».

**ДУБ** — ва ўсходнеславянскай міфалогіі — свяшчэннае дрэва, звязанае з культам **Перуна**. Ідал Перуна звычайна ставілі пад дубам, прысвечаным гэтаму богу. Таму і сам дуб лічыўся свяшчэнным. Існавалі таксама асобныя свяшчэнныя гаі, якіх ніхто не мог крануць і якія прызначаліся для падтрымання нязгаснага агню. Гэтыя гаі, як і асобныя дрэвы, асабліва старыя, карысталіся вялікай пашанай. Іх агарожвалі платамі і пакланяліся ім і пасля ўвядзення хрысціянства. Захавалася гістарычнае сведчанне аб ахвярапрынашэнні язычнікаў пад свяшчэнным дубам на востраве Хорціца, што на Дняпры: «Прыйшоўшы да гэтага месца, яны дасягаюць вострава, і на гэтым востраве ажыццяўляюць свае ахвярапрынашэнні, бо там расце агромністы дуб. Яму прыносяць у ахвяру жывых **пеўняў**, вакол уторкваюць стрэлы, а некаторыя кладуць кавалкі хлеба, мяса і што кожны мае, як патрабуе іх звычай». Па народных павер'ях, у час першага грому трэба прытуліцца спіной да дуба і пацерціся аб яго — «тады ўсе хваробы як рукой здыме». Вядомы і некаторыя іншыя варыянты гэтага звычаю: «Калі грымеў гром, то за спіну засоўвалі голькі дуба, каб не балела спіна»; «Трэба пагрызці дубовае палена, калі грукоча гром, то зубы балець не будуць»; «Трэба абняць дуба, то яго сіла пяройдзе да цябе» (паводле А. М. Ненадаўца).

**ДУША** — у народных уяўленнях — бессмяротная, нематэрыяльная частка чалавека, яго першааснова, якая адрознівае чалавека ад жывёл. Ідэя душы чалавека, на думку вучоных, больш позняя; ёй папярэднічалі ўяўленні аб наяўнасці душы не толькі ў жывёл і раслін, але і ў розных прадметах. Вядомы англійскі этнограф Э. Б. Тэйлар у сувязі з гэтым адзначаў: «Некаторыя з развітых дзікіх грамадстваў з перакананасцю вераць у існаванне асобнай душы, або духа, у палцы, камяні, зброі, лодцы, ежы, вопратцы, упрыгожванні і іншых прадметах, якія здаюцца нам не толькі неадушаўлёнымі, але і безжыццёвымі». Блізкім да прыведзенага з'яўляецца выказванне А. К. Сержпутоўскага з яго прадмовы да кнігі «Прымхі і забабоны беларусаў-паляшукоў» (Мн., 1930): «Старажытны чалавек глядзеў на з'явы і рэчы так, як сам на сябе. Ён думаў, што ўвесь свет, усе рэчы таксама жывуць, чуюцца і думаюць, як і ён сам».

Душа атаясамліваецца з дыханнем (словы *душа, дыхаць, дух* з'яўляюцца аднакарнявымі; параўн. таксама устойлівае словазлучэнне *испустить дух* «памерці»). Не менш архаічным з'яўляецца атаясамліванне душы з крывёю. Гэтым тлумачыцца строгая забарона Бібліяй ужываць у ежу кроў або скрываўленае мяса: «таму што душа ўсялякага цела ёсць кроў яго, яна душа яго» (Лявіт 17, 14). Верылі таксама, што ўвасабленнем душы з'яўляецца цень чалавека: цень заўсёды ідзе за чалавекам, як яго двайнік. У казках **калдуны**, каб знішчыць людзей, выкрадаюць іх цені.

Вельмі распаўсюджаным з'яўляецца павер'е аб тым, што душа чалавека захоўваецца ў яго адлюстраванні ў вадзе або ў люстэрку. Шырока вядомая прыкмета, згодна з якой разбітае люстэрка прадвяшчае няшчасце, заснавана на ўяўленні аб тым, што ў люстэрку знаходзіцца двайнік чалавека — яго душа. Па той жа прычыне не рэкамендавалася ўглядацца ў сваё адлюстраванне ў вадзе: «Вадзянік можа забраць да сябе душу, г. зн., чалавек можа патануць. У пакоі, дзе знаходзіцца нябожчык, завешваюць (закрываюць) люстэркі і іншыя шкляныя паверхні (шафы, паліцы і інш.), таму што, па павер'ях, душа нябожчыка перад пахаваннем блукае побач з імі, не знаходзячы сабе месца, можа забраць з сабою душы жывых, калі апошнія будуць глядзець у люстэрка.

Агульнавядомым для славян з'яўляецца і павер'е аб тым, што душа ў час сну выходзіць з цела і самастойна «падарожнічае» ў выглядзе птушкі або насякомага. Адсюль — вера ў прарочыя сны і іх тлумачэнне, а таксама забарона рэзка, нечакана будзіць спячага: душа не паспее вярнуцца і ўвайсці ў цела. Характэрным у гэтых адносінах з'яўляецца апавяданне «Душа-муха», запісанае збіральнікамі ў наш час (1978 г.) на Украіне (Ровеншчына): «Дзядзька з пляменнікам хадзілі касіць сена. Апоўдні дзядзька лёг адпачыць, а пляменнік варыў абед. І тут ён убачыў, як з адкрытага роту спячага дзядзькі вылецела муха. Яна падляцела да міскі з вадой і села на яе край. Тады пляменнік упоперак міскі паклаў лыжку. Муха па ёй перапаўзла на супрацьлеглы бок міскі. Пляменнік забраў лыжку, і яна доўга хадзіла кругом па місцы, а калі пляменнік зноў паклаў лыжку, яна перайшла па ёй, падляцела да спячага і ўляцела яму ў рот. Ён адразу заварушыўся. Пляменнік разбудзіў яго і пачаў распытваць, што яму снілася. Той расказаў, што ён гуляў у лесе і падыйшоў да прыгожага возера. Перайшоў праз возера па мосце (кладцы), а назад хацеў ісці — кладкі няма. Доўга ён хадзіў вакол возера і раптам зноў убачыў кладку. Толькі перайшоў па ёй — і прачнуўся. Пасля гэтага пляменнік паказаў дзядзьку і «возера», і «кладку».

Агульныя для ўсходніх славян (і не толькі для іх) уяўленні аб душы нябожчыка знаходзім у кнізе А. Я. Багдановіча «Перажыткі старажытнага светапогляду ў беларусаў: «Пасля смерці чалавека душа яго не адразу пераходзіць у замагільны свет: сорак дзён яна яшчэ застаецца ў роднай вёсцы; з іх спачатку шэсць дзён блукае каля дому і тры дні — па сваіх агародах і палях. Пасля гэтага тэрміну яна або накіроўваецца на той свет (у пекла або ў рай), або застаецца тут, на зямлі, адбываць сваю «пакуту»: пасяляецца ў дрэва (такое дрэва заўсёды скрыпіць), у жывёл і нават у чалавека. Гэтыя паслядоўныя пераходы душы

ў час падарожжа яе ў замагільны свет суправаджаюцца «памінальнымі сталамі».

Распаўсюджана павер'е і аб тым, што душа існуе ў выглядзе пáры, паветранага слупа, ветру, туману, маленькага воблачка. Нябачную душу ў выглядзе паветранага слупа ці пары можна, па павер'ях, бачыць на працягу першых сарака дзён над магілай нябожчыка. Сустрэча з душой у такім выпадку вельмі небяспечная: «пара», якая прымае выгляд нябожчыка, можа па **ветру** гнацца за чалавекам, а дагнаўшы, забіць яго. Выратавацца ад уздзеяння душы пры гэтым можна бегам супраць ветру, хаваннем за вуглом і «развейваннем» душы сваёй вопраткай (пажадана **белага** колеру).

На беларускім і ўкраінскім Палессі вядомы звычай *«уздымаць паветра»,* які заснаваны на ўяўленні аб пад'ёме душы «ў паветра», «наверх», «да Бога». Рытуал выконваюць на саракавы дзень пасля смерці: родзічы прыходзяць на могілкі, пасцілаюць на магіле абрус і затым падымаюць яго тры разы ўверх, трымаючы абрус за чатыры канцы. Гэтае дзеянне-рытуал суправаджаецца пажаданнямі душы ісці ўверх, да Бога.

Душы памерлых, як лічылі, ужываюць у ежу толькі пару. Параўн. рускае павер'е аб **Русалцы,** якая знаходзілася на працягу года ў сялянскай хаце і харчавалася парай (гл. **Троіца**). Сувязь душ продкаў з парай выразна відаць з наступнага апісання беларускага звычаю **Дзяды:** «Сядаючы за стал і прачытаўшы малітву, гаспадар пачынае заклікаць памёршых продкаў... І моцна ўсе ў тым пераканаиы, што цені продкаў нябачна выходзяць у гэтую хвіліну з магіл і, седзячы з імі за сталом, жывяцца парай, якая ідзе ад страў...» Украінцам быў вядомы звычай, у адпаведнасці з якім вынуты з печы гарачы хлеб трэба было разламаць і пакінуць на некаторы час каля вакна — каб гарачая пара дайшла да нябожчыкаў. З гэтай жа мэтай на памінках падаюць абавязковую страву — гарачы боршч.

# Ж

**ЖАЛЕЗНЫ ЧАЛАВЕК** — міфічная істота ў павер'ях беларусаў і іншых славянскіх народаў. Паводле ўяўленняў — волат з жалеза, які жыве ў **балоце** або ў лесе і ахоўвае свае ўладанні. На Палессі ім звычайна палохалі дзяцей, каб не хадзілі адны ў лес. Этнограф К. Мушынскі адзначаў, што элемент *жалезны* ў міфалогіі славянскіх народаў часта выконваў функцыю адпуж-

вання: параўн. *жалезная баба,* што жыве пад мастом (Палессе), *жалязнячка* — старая, якой палохалі дзяцей, каб не хадзілі ў агарод (руск.), жалезныя грудзі ў *русалак* і ў розных дэманаў (серб. *Гвоздензуб*) і інш. Аб глыбокай старажытнасці ўяўленняў пра жалезнага чалавека і іх праславянскім характары сведчаць паралелі ў міфалогіі іншых славян, а таксама супадзенне ці блізкасць з ім атрыбутыкі: балг. *Железен човек* жыве у балоце, серб. *Гвозден човек* — у калодзезі і г. д. (паводле Г. А. Цыхуна).

**ЖЫЖАЛЬ** — у беларускіх павер'ях — міфічная істота, бажаство падземнага агню, увасабленне пажару. Жыжаль жыве пад зямлёй, выкідваючы час ад часу з сябе страшнае полымя. Паданне гаворыць аб тым, што ў звычайным, спакойным стане ён крочыць пад зямлёй ціха, павольна, абаграваючы сваім полымем зямлю; калі ж ён раз'юшыцца і пачне паскараць свае крокі, то полымя прарываецца на паверхню зямлі, і ад яго загараюцца лясы, балоты, лугі, хлеб на палях, высушваецца зямля. Калі раптоўна пачынаюцца стыхійныя (часцей за ўсё — лясныя) пажары, беларусы гавораць: *«Жыж унадзіўся»*. Па некаторых павер'ях, Жыжаля імкнуўся знішчыць сваімі забойнымі вогненнымі стрэламі вярхоўны язычніцкі бог, валадар нябеснага агню **Пярун**.

**ЖЫТНЯЯ БАБА** — міфічная істота ў павер'ях беларусаў і іншых славянскіх народаў, «маці жыта»; жаночая паралель гаспадара поля — **Жыценя.** На Беларусі яе ўяўлялі ў выглядзе жанчыны з каласамі на галаве і зоркамі па баках. У некаторых мясцовасцях «бабаю» называлі апошні сноп зжатага жыта, які апраналі ў жаночую кашулю, завязвалі на ім хустку, неслі ў хату і спявалі «спарышовыя» (гл. **Спарыш**) песні з пажаданнем добрага ўраджаю ў будучым годзе (паводле М. Ф. Піліпенкі).

**ЖЫЦЕНЬ** — антрапаморфная істота ў міфалагічных павер'ях беларусаў, якая ўплывае на выспяванне ўраджаю. Уяўляўся Жыцень маларослым, хударлявым дзедам з суровым выразам твару, з доўгімі, узлахмачанымі валасамі, з трыма вачыма на лбе. Жыцень ходзіць па палях і агародах і назірае, як людзі гаспадараць. Калі ён заўважае на нейкім полі непрыбраныя ці раскіданыя калоссі, то збірае іх у снапы і пераносіць на поле руплівага, дбайнага гаспадара, у якога заўсёды парадак. З-за такой дзейнасці Жыценя на наступны год у нядбайнага селяніна ўвесь ураджай можа загінуць, а ў гаспадарлівага — значна павялічыцца.

Ходзячы па дарогах у выглядзе жабрака з торбай, Жыцень пры сустрэчы з людзьмі грозіць ім пальцам, чым папярэджвае аб будучым неўраджаі. З гэтым уяўленнем звязана беларуская прымаўка *Жыцень з торбай — голад на двор.* Разам з тым Жыцень спрыяе ўраджаю: у час сяўбы ён, хоць і нябачны, уважліва

сочыць за тым, як кладуцца зярняты, старанна затоптвае іх у зямлю, каб ніводнае з іх не прапала (паводле А. Кіркора). Гл. **Жытняя баба.**

## З

**ЗАКРУТКА** — «зроблены з вяроўкі або з лыка заварацень у санях або ў возе» — разглядалася ў народна-міфалагічным асэнсаванні як прадмет, які можа мець магічнае ўздзеянне на плоднасць жывёлы (гл. «**Барада**»). Напрыклад, для таго, каб карова «пагуляла», рэкамендавалася паскрэбці закрутку ад саней і гэтыя паскробышы даць з'есці з хлебам карове. Параўн. звесткі аб іншых прадметах, звязаных з сімволікай вузла, завязвання (**капуста, лапці, павук, пута**).

**ЗАЛОМ** — зламаны ці зблытаны чараўніком (**ведзьмаром**) пук жытных сцяблоў, які, па народных уяўленнях, мог наклікаць бяду на гаспадарскую ніву, прывесці да хваробы ці нават да смерці саміх гаспадароў.

Залом мог мець розны выгляд: пераломлены пук сцяблоў, прыжаты да зямлі; скручаны і завязаны вузлом пук сцяблоў з утыканнем калоссеў у зямлю; пакладзеныя крыж-накрыж чатыры пукі сцяблоў; сплеценыя ў вянок сцяблінны і інш. На думку рускага этнографа Д. К. Зяленіна, найбольш архаічным, старажытным відам залому з'яўляецца апусканне або закапванне ў зямлю каласоў. Для пацвярджэння сваёй думкі вучоны прыводзіць замову беларускага ведзьмара: «Ламаю залом, калоссе — уніз, на яго валоў, калоссе ў зямлю, на яго сям'ю!».

Магічнае прызначэнне заломаў дваякае. Па-першае, пазбавіць ураджайнасці тое поле, на якім зроблены залом. Па народных уяўленнях, зерня на гэтым полі будзе мала, таму што нячысцікі перанясуць зерне ў засекі ведзьмара, які зрабіў залом. Па-другое, залом прынясе бяду гаспадару поля або жнеям, якія да яго дакрануцца, а таксама хатняй жывёле, якая з'есць салому з залома. Звычайна і людзі, і жывёлы цяжка хварэюць і нават паміраюць. Усё залежыць, як адзначае Д. К. Зяленін, ад характару замовы. Ён жа прыводзіць прыклад замовы, якая ўжывалася вядзьмарамі пры заломах на Магілёўшчыне: «Хто будзе жаць — таго будзе таскаць; хто будзе малаціць, таго будзе калаціць; хто будзе есці, той будзе на сценку лезці».

Лічылася, што **ведзьмы і ведзьмары** робяць заломы ноччу голымі. Звычайна гэта адбываецца ў Купальскую ноч, на Траец-

кім тыдні і ў час, калі каласіцца жыта і па яму бегаюць **Русалкі.**

Паколькі дакранацца да заломаў вельмі небяспечна, а есці хлеб з яго зерня смяротна небяспечна, то людзі карысталіся рознымі спосабамі «абясшкоджвання» заломаў. Вырваць залом, «адрабіць» яго запрашалі знахара ці ведзьмара. Залом вырывалі **асінавымі** трэскамі ці палкамі, спальвалі яго, кінуўшы на залом пук саломы ці **асінавыя** трэскі. Украінцы прыкрывалі залом свіным гноем. Знахар голым падпаўзаў да залома і, вымаўляючы спецыяльныя замовы, клаў залом пад гнілую **калоду,** тапіў у рацэ, а часцей за ўсё вырываў з карэннем і спальваў. Тэксты наступных замоў сведчаць аб тым, што мэта «супрацьзаломнай» магіі — перадаць найгоршыя пажаданні, выклікаць хваробу і смерць таго, хто зрабіў залом: «Мікулай-чудатворац і святы божы! І памілуй нас ад худога, ад ліхога, ад злога. Мікулай святы па межах ходзіць да рож росціць па цёплым начам, па вутраннім зарам, а ліх чалавек па межам хадзіў да залом ламіў па цёплым начам, па халодным росам. А пашлі яму, Божа, на смерць, на балесць, а на куту ляжаць; яму хлеба ня з'ісць, вады ня піць, а ў магіле быць, а рабе Праскоўе здаровай быць, Мікалаю святому малебен служыць. Амень»; «Госпадзі Божа, благаславі, пасабі мне еты вянок вырваць (скруціць залом і наступіць на яго). Іду я па Юр'евай расе, па зямчужнай траве, Юр'евай расою ўмываюся, малебнаю скацеркаю ўціраюся, і пайду ў царкву-сабор. У том саборы стаіць гроб, у том грабу ляжыць мярцвец, у таго мярцвяца занямелі яго зубы і цела. Хто еты залом заламіў, занямей яго цела і кроў на векі вякоў, і амін яму!».

**ЗАЯЦ** у народнай міфалогіі ўсходніх славян мае амбівалентныя (процілеглыя) характарыстыкі: з аднаго боку, ён асэнсоўваўся як носьбіт станоўчых якасцей, звязаных з уяўленнямі аб яго пладавітасці, а з другога — як жывёла, маючая непасрэднае дачыненне да нячыстай сілы, звязаная з бядой, хваробай і смерцю.

У некаторых народаў (у тым ліку і ў славян) распаўсюджана павер'е аб *хлебным зайцу* — духу поля, бажастве ўрадлівасці, якое ўплывае на пладароддзе зямлі, на ўраджай. Лічылася, што *хлебны заяц* знаходзіцца ў апошніх няжатых каласах (параўн. **«Барада», Каза**). Ва ўстойлівым словазлучэнні *«заячы хлеб»* «хлеб, які прыносяць дадому з поля ці з лесу і даюць з'есці дзецям» адлюстравалася вераванне ў тое, што такі хлеб надзелены магічнай уласцівасцю ўплываць на рост, развіццё і здароўе дзяцей.

Сімволіка зайца мае ўстойлівае дачыненне да любоўна-шлюбных адносін. Сон аб зайцу, згодна з усходнеславянскімі павер'ямі, прадвяшчае жаніцьбу. Калі заяц прысніцца жанчыне — зна-

чыць, яна хутка стане цяжарнай і народзіць сына; калі ж прысніць зайца дзяўчына, то яна, як лічылі, страціць нявіннасць да шлюбу (параўн. **Кот**). Песні «пра зайца» ў вясельным абрадзе лічацца «саромнымі»: яны выконваліся ў час традыцыйнага вяселля ў той момант, калі маладых адпраўлялі да шлюбнай ночы — для забеспячэння іх дзетародных здольнасцей. Адным з тлумачэнняў дзецям на іх пытанне «Адкуль бяруцца дзеці?» з'яўляецца наступнае: «Маленькіх дзетак прыносіць зайчык і саджае на капуснайградзе» (параўн. **Капуста, Бусел**). У сербаў заячая кроў лічылася магічным сродкам, з дапамогай якога лячылі бясплоддзе.

Адначасова заяц атаясамліваецца з нячыстай сілай. Звычайна гэта тлумачыцца агульным указаннем на тое, што «зайца стварыў **Чорт**», а таксама незвычайнай знешнасцю зайца, у якой змяшаліся асаблівасці некалькіх жывёл: «у зайца сабачыя лапы, kaціная морда і асліныя вушы». Менавіта таму многім народам вядома забарона на ўжыванне ў ежу заечага мяса. У павер'ях аб **Лесавіках** нярэдка падкрэсліваецца, што зайцы — самыя блізкія да іх лясныя звяры.

Агульнапашыраным з'яўляецца ўяўленне аб тым, што сустрэча з зайцам можа быць прадвеснікам бяды, хваробы. Невыпадкова пушкінская Таццяна Ларына, якая жыла ў вёсцы і таму «верила преданьям простонародной старины», панічна баялася сустрэчы з зайцам:

Когда случалось где-нибудь
Ей встретить черного монаха,
Иль быстрый заяц меж полей
Перебегал дорогу ей,
Не зная, что начать со страха,
Предчувствий горестных полна,
Ждала несчастья уж она...

На Украіне вядома пажаданне чалавеку, які адпраўляецца ў дарогу, — *Щоб йому заєць дорогу не перебіг!*

Перабяганне зайцам дарогі падарожніку (параўн. **Воўк**) лічылася дрэннай прыкметай не толькі ў славян, але і ў іншых народаў Еўропы. У Францыі і Германіі, напрыклад, сустрэча з зайцам (асабліва пасля заходу сонца) ацэньвалася як вельмі небяспечная, таму што «ў гэты час калдуны і ведзьмы ператвараюцца ў зайцаў». У помніку старажытнарускай пісьменнасці — Іпацьеўскім летапісе — нагадваецца аб прыкмеце, вядомай продкам сучасных усходніх славян і балтаў, у адпаведнасці з якой паляўнічыя не заходзілі ў лес, калі адтуль насустрач ім выбягаў заяц: у адваротным выпадку яны не маглі разлічваць на ўдачу ў паляванні.

Асабліва небяспечнай лічылася сустрэча з зайцам вясельнага шэсця. Калі ж такі выпадак здараўся, то шэсце абавязова спынялася, а **знахар** або **калдун**, якіх запрашалі для засцярогі

ўдзельнікаў шэсця (перш за ўсё маладых) ад сурокаў, з дапамогай магічных дзеянняў і замоў «адводзіў» нячыстую сілу. У народных гаворках да гэтага часу вядомы словазлучэнні *закідаць зайца, заганяць зайца* для абазначэння жартаўлівага звычаю: маладыя людзі (звычайна хлопцы) з дапамогай жэрдкі або бервяна, пакладзеных на дарозе, спыняюць вясельнае шэсце, патрабуючы выкуп (грошай, гарэлкі, розных прысмакаў) за права рухацца далей.

У рускіх і беларусаў існавала павер'е аб тым, што калі ў вёску забяжыць заяц, то гэта прадвяшчае пажар. Калі ж заяц па нейкай прычыне трапляў у дом, які будаваўся, то гэтая падзея мела самыя трагічныя вынікі: будаўніцтва дома спынялася (нават калі ён быў амаль пабудаваны) і бярвенні выкарыстоўваліся толькі як дровы.

Як слушна заўважае акадэмік Б. А. Рыбакоў, заяц з'яўляецца абавязковым персанажам казак пра Кашчэя Бессмяротнага. Менавіта хутканогі заяц — першая істота, што выскоквае з чароўнай скрыні, несучы, зберагаючы ў сабе Кашчэеву смерць. Паказальна, што даганяе зайца і забівае яго (а значыць, змагаецца са злом) **воўк.**

У шматлікіх народных былічках расказваецца аб тым, што нячысцікі могуць сустракацца ў выглядзе зайца. Я. А. Ляцкі ў канцы мінулага стагоддзя запісаў расказ селяніна аб тым, як ён з дапамогай магічных сродкаў пазбаўляў свайго каня ад уздзеяння злога **Дамавіка:** «вывёў гаспадар каня ноччу ў поле, зламаў асінавы дубец і пачаў біць яго дубцом, прыгаворваючы «раз!». Праз некаторы час конь пакрыўся пенай, потым з яго зваліўся корч, ператварыўся ў чорнага зайца, які хутка знік». Рускі селянін з Калужскай губерніі (запіс М. Ф. Сумцова, 1891 г.) так расказвае аб сваёй сустрэчы з нячысцікам: «Іду я да пчальніка, і раптам мне пад ногі падскочыў заяц. Я ўзяў яго і панёс дахаты. Але чым бліжэй я падыходзіў да дому, заяц рабіўся ўсё больш цяжкім. Нарэшце я быў вымушаны кінуць яго. Тады заяц зарагатаў і знік».

У некаторых рускіх мясцовасцях сяляне верылі, што **калдуны** і **ведзьмы** могуць пасылаць людзей «лавіць зайцаў». Гэтыя міфічныя «зайцы» заводзяць людзей у такія месцы, адкуль нельга выбрацца, і ў рэшце рэшт губяць іх. Да «зайца» адсылаецца боль у рускай замове: «На моры, на акіяне, на востраве Буяне, стаяць высокія тры дрэвы, пад тымі дрэвамі ляжыць заяц; перасяліся ты, зубны боль, да таго зайца!».

**ЗДЗВІЖАННЕ** — народнае свята (27.IX); царкоўнае свята звязана з ушанаваннем святога крыжа, які ўздымаўся («воздвигался» — адсюль і назва свята) над натоўпам вернікаў. Гэта апошняе свята, калі канчаткова развітваюцца з летам. «Ключы

ад лета — у шызай галачкі, і яна, адлятаючы ў цёплыя краі, замыкае яго і забірае з сабою ключы». Апрача адлёту птушак, быў для народнага ўяўлення яшчэ адзін рух («здзвіжанне») у прыродзе — выпаўзалі **змеі** і збіраліся разам, каб адысці ў зімовы сон да вясны: «Ва Узвіжання пару гадзюкі і змеі хаваюцца ў нару». Першы вясновы і апошні восеньскі зміныя ўкусы лічыліся самымі небяспечнымі, таму на Здзвіжанне баяліся хадзіць у лес. Сустракаюцца легенды пра сыход **змей** на Здзвіжанне. На чале змяінага шэсця заўжды малюецца Цар-змей з залатой каронай. Следам за ім — незлічоныя падданыя — паўзуны. Цар вылучаецца сярод усіх сваёй велічынёю і лускою з серабрыстым адлівам. Шэсце рухаецца па непраходных для чалавека мясцінах, і калі ўсё ж камусьці здарылася сустрэцца са змяіным «выраем», то варта было заслаць перад царом абрус з хлебам-соллю і пакланіцца да зямлі, як той, прапаўзаючы праз абрус, у падзяку скідаў з кароны залаты ражок. Уладальнік такога ражка набываў незвычайную мудрасць і праніклівасць, здольнасць угадваць чужыя думкі, выходзіць з самых цяжкіх абставін; на яго таксама не дзейнічаў змяіны яд (паводле У. А. Васілевіча).

Па рускіх павер'ях, змеі і вужы ў гэты дзень спаўзаюцца ў адно месца, пад зямлю, да сваёй маці, дзе і праводзяць усю зіму, да першага грому, які з'яўляецца своеасаблівым сігналам, які дазваляе змеям выпаўзаць з зямлі і жыць на волі. У дзень Здзвіжання (рус. *Воздвиженья*) рускія сяляне стараліся асабліва шчыльна зачыняць вароты і дзверы, каб змеі, што паўзуць да сваёй маці, выпадкова не трапілі ў двор ці ў хату.

**ЗЛЫДНІ** — злыя духі, нячысцікі, увасабленне бяды, беднасці, нядолі. Злыдні вядуць групавы лад жыцця, і свае прыкрасці, паскудствы яны заўсёды робяць разам: «заглядаюць у гаршкі з ядою і ў лепшую кашу падсыпаюць пяску, у самае тлустае малако вады наліваюць, у дзежцы хлеб псуюць; ва ўсім шкодзяць і перашкаджаюць, так што хата, у якой яны пасяліліся, бяднее і галее». Па некаторых павер'ях, пастаянным месцам знаходжання злыдняў з'яўляецца стары млын (параўн. звесткі аб сувязі млына з **Вадзенікам і ведзьмаром**). З млына злыдні час ад часу перасяляюцца ў які-небудзь двор, у гаспадарку, якую даводзяць да збяднення; пры гэтым марнее і гіне жывёла, хварэюць людзі. Пасля спусташэння адной гаспадаркі злыдні шукаюць новую ахвяру.

Знешне злыдні — маленькія дзядкі са зморшчанымі тварамі, у чорнай або шэрай вопратцы. Яны ўяўляліся таксама малымі, гарбатымі, скручанымі стварэннямі ў вялікіх ботах і шапках. Злыдні нябачныя, але, пасяліўшыся ў якім-небудзь доме і даводзячы яго да збяднення, цяжка паддаюцца выгнанню. Гэтае перакананне адлюстравана і ў прыказках: бел. *Прасіліся злыдні*

*на тры дні, а ў тры гады не выжывеш;* укр. *Просилися злидні на три дні, та й вигнати не можна.*

Па павер'ях, перамагчы злыдняў можна толькі хітрасцю, сабраўшы іх у якую-небудзь пасудзіну.

**ЗМЕЙ.** Гл. **Вогненны змей.**

**ЗМЯЯ** — у міфалагічным асэнсаванні ўсходніх славян — сімвал усёведнасці, мудрасці, магічных звышнатуральных здольнасцей.

Названыя здольнасці, па народна-міфалагічных уяўленнях, чалавек мог атрымаць, з'еўшы змяінага мяса. Адзін з варыянтаў гэтага павер'я запісаны А. Я. Багдановічам: «Змяінае мяса, прыгатаванае такім чынам, каб яно пазбавілася ядавітасці, перадае таму, хто яго ўжывае, здольнасць разумець размову жывёл». Аналагічны змест легенды, запісанай у Валагодскай губерніі: «Некий барин ходил в лес, собирал там змей, что с короной на голове, а дома приказывал слуге готовить себе из них пищу. Змеи имели то свойство, что, поевши их, человек начинал понимать разговор огня с огнем, травы с травой. Барин подслушивал в лесу разговор трав и записывал их целебные свойства». Гл. **Здзіжанне.**

Рускія сяляне выкарыстоўвалі змяю ў любоўнай магіі. Для таго, каб прываражыць каго-небудзь і распаліць у яго душы любоўнае пачуццё, трэба было, па павер'ю, злавіць спецыяльнай палачкай-рагуляй змяю і, прыціснуўшы яе да зямлі, праткнуць іголкай змяіныя вочы з прыгаворам: «Змяя, змяя! Як табе шкада сваіх вачэй, так каб мяне раба божая (імя) шкадавала і кахала». Потым гэтую іголку трэба было ўваткнуць у вопратку таго, на каго накіраваны любоўныя чары. Верылі таксама, што калі вытапіць сала з забітай змяі і зрабіць з яго свечку, якую насіць пры сабе, то каханне з процілеглага боку будзе заўсёды.

Для засцярогі ад **ліхаманкі** насілі пры сабе (часта на шыі) забітую змяю або змяіную шкуру.

Адначасова змяя асэнсоўвалася як адно з увасабленняў **ведзьмы.**

**ЗНАХАР** — лекар-самавучка, які займаецца ўласнымі спосабамі лячэння: замовамі, травамі, а таксама рознымі магічнымі дзеяннямі.

Беларускі этнограф і фальклярыст мінулага стагоддзя П. П. Дземідовіч наступным чынам вызначаў сутнасць знахарства: «Знахары — гэта людзі, якія ведаюць сродкі ад якіх-небудзь хвароб. Яны ведаюць, як вывесці перапалох, выліць калаццё, вылячыць замовамі рожу, выправіць вывіх, спыніць кроў, вылячыць ад укусу змяі».

У народнай свядомасці знахар, як правіла, адрозніваецца ад **ведзьмара** сваёй добразычлівасцю, сувяззю з хрысціянскай рэлігіяй. Як адзначаў вядомы рускі этнограф С. В. Максімаў, «зна-

хар ёсць вясковы лекар, які ўмее лячыць хваробы людзей і жывёл. Калі ведзьмары аддаляюцца ад людзей, імкнуцца зрабіць сваё рамяство таямнічым, то знахары працуюць адкрыта і ў сваіх дзеяннях і замовах звяртаюцца за дапамогай да Бога і святых угоднікаў». Вось характэрны тэкст замовы ад ляку (г. зн., ад спужання): «Госпаду Богу памалюся, Прачыстай Божай маці пакланюся. Божа маці, прыдзі к рабе Божай (імя), дапамогу прынясі. Кіеўскія і пячорскія ўсе святыя прападобнікі, прыступіце-дапамажыце рабе Божай ляк качаці-угавараці. Качаю-угавараю ад пальчыкаў да сустаўчыкаў, ад когцікаў да локцікаў бацькаў ляк, мацярын, дзявочы, парабочы, панскі, цыганскі, яўрэйскі, каровячы, валовячы, сабачы, парасячы, качыны, птушыны. З хаты дымам, а з двара ветрам».

Прынцыповае адрозненне знахара ад ведзьмара падкрэсліваў і этнограф Д. К. Зяленін: «Знахар — гэта не калдун. Яму вядомыя толькі замовы і гаючыя, лекавыя травы, ён выконвае галоўным чынам функцыі ўрача. З вынікамі вядзьмарства ён змагаецца з дапамогай замоў і засцярог. Ніякай сувязі з нячыстай сілай у яго няма». У беларускім паданні «Уздзеяна» знаходзім выразнае апісанне спосабаў змагання знахара з вядзьмарствам. У паданні расказваецца аб тым, што ў аднаго гаспадара адно за адным пачалі адбывацца розныя непрыемныя здарэнні: прапала лепшая карова, ваўкі парвалі кабыле сцягно, знікла авечка, шуляк задраў курыцу. «Трываў, трываў мой бацька, дай пайшоў шукаць людзей, каб яны адрабілі, бо ўсе бачылі, што гэта ўздзеяна на яго гавяда». Далей апісваецца, якім чынам запрошаны гаспадаром знахар «адрабляў» (па-сучаснаму кажучы, абясшкоджваў) залітыя крывёю вароты гаспадара( гэта і было, на думку знахара, праяўленнем таго, што «на гавяда ўздзеяна»»). «Паскроб знахар трохі нажом вароты, нарваў нейкага зелля, наклаў у чыгун, наліў вады ды давай варыць ды шаптаць. Шаптаў знахар, шаптаў да тукаў у **комін**, а потым давай абціраць з ілба пот: «Ну, адрабіў! А моцна было тут уздзеяна».

Да знахараў, якія валодалі замовамі, людзі звярталіся з такімі хваробамі, як «пярэпалахі» ці «спужанне», «ляк», «порча», «урокі» (хвароба ад ліхога вока), «падвой» (ад скразняка), «крыксы» (начны дзіцячы плач) і інш. Звычайна знахары спецыялізаваліся на вылечванні якой-небудзь адной хваробы.

**ЗНІЧ** — бог пахавальнага агню ў старажытных беларусаў-язычнікаў. *Знічамі* называліся таксама пахавальныя свечы на магілах; словам *знічка* — падаючая зорка. У беларусаў, як і ў іншых народаў, захавалася вераванне аб тым, што зоркі на небе — знакі жывых душ: дзіця нараджаецца, і Бог запальвае зорку; чалавек памірае, і Бог яго зорку гасіць, яна згарае; знічка нясецца ў небе ў адвечны змрок — чыясьці душа адышла, Зніч загасіў

агонь жыцця. Слова *Зніч* таго ж кораня, што і дзеяслоў *знікаць* (паводле К. Тарасава).

**ЗЮЗЯ** — ва ўсходнеславянскай міфалогіі — міфічная істота, увасабленне холаду, бог зімы. Зюзю ўяўлялі ў выглядзе лысага барадатага невялікага росту дзеда, які басанож ходзіць па снезе ў расхрыстаным **белым** кажусе. Згодна з павер'ямі, Зюзя ўзнімаў завіруху, мяцеліцу, выклікаў сцюжу, маразы. Калі быў моцны мароз, лічылі, што Зюзя біў булавою, якую заўсёды насіў пры сабе, па дрэвах і бярвеннях, з-за чаго яны трашчалі. Пад Новы год беларусы варылі **куццю** для Зюзі: *«Зюзя на дварэ — куцця на стале»*. Даволі распаўсюджаным было павер'е аб тым, што калі пералічыць імёны ўсіх лысых дзядоў у вёсцы, мароз памякчэе.

Большую частку зімы Зюзя праводзіць у лесе, але часам заходзіць у вёску, праяўляючы пры гэтым высакародства: папярэджвае сялян пра жорсткую, суровую зіму на будучы год ці вызваляе ад холаду няшчасную бедную сям'ю.

**ЗЯЗЮЛЯ** ў павер'ях усходніх славян асэнсоўвалася як птушка-прадказальніца, а таксама як сімвал адзіноцтва, нешчаслівай жаночай долі.

Агульнавядома павер'е аб тым, што па кукаванні зязюлі можна лічыць гады, якія засталіся да смерці (радзей — да замужжа). Кукаванне, пачутае той парой, калі лес яшчэ не адзеўся ў лісце, лічылася вельмі дрэннай прыкметай: яно прадвяшчала няўраджай, голад, хваробы і г. д. Згодна з павер'ямі, зязюля кукуе толькі да **Купалля** (6 ліпеня) або да **Пятрова** дня (12 ліпеня), а потым яна хаваецца ад птушак, якія яе білі, або ператвараецца ў драпежнікаў — каршуна ці ястраба.

Вельмі распаўсюджаны народныя легенды аб ператварэнні ў зязюлю жанчын з нешчаслівым лёсам: сястры, у якой памер брат; дзяўчыны, якую пракляла маці; жанчыны, у якой трагічна загінуў муж: дзяўчыны, якая цудоўным чынам выйшла замуж за вужа і стала віноўніцай яго смерці.

У легендзе «Адкуль зязюля» расказваецца аб дзяўчыне, якая выйшла замуж за вужа, у згодзе жыла з ім пяць год, у іх нарадзілася трое дзяцей. На шосты год жонка вужа папрасілася ў свайго мужа дазволу наведаць маці. Пасля доўгіх угавораў вуж дазволіў: «Будзь там пяць дзён, толькі не кажы нікому, адкуль ты, і няхай цябе ніхто не праводзіць. Як вернешся з берагу, дак гукні: «Якуб!» І калі пакажацца кроў, то я не жывы, а калі пена — то жывы». Але малодшая дачка выдала тайну, і злыя людзі, выклікнуўшы вужа, забілі яго. Заканчваецца легенда выкладаннем матыву дзівоснага ператварэння: «Яна, тая жонка, нічога не знала пра яго. Узяла дзеці на пяты дзень на бераг і стала гукаць: «Якуб!» На ета гуканне толькі кроў пака-

залася. Заплакала яна да й зарыдала, да й скінулася зязюляю і палящела па лесу гукаючы: «Якуб!» І цяпер яшчэ гукае. А сыны сталі: адзін бярозаю, другі хвояю, а дачка горкаю асінаю».

У некаторых іншых легендах выкладаецца павер'е аб тым, чаму зязюля вымаўляе «ку-ку». У адной з іх — «Зязюля і Кук» — расказваецца аб тым, што птушкі даручылі менавіта зязюлі, у якой гнязда няма і дзяцей няма, адшукаць птушынага цара — Кука. «І паляцела зязюля шукаць Кука. Праляціць трохі, сядзе на галінку і кліча: «Ку-ку!». Праляціць і зноў кліча». Паданне «Чаму зязюля кукуе» інакш тлумачыць паходжанне кукавання: «У аднае жонкі была дачка. Да ў тае дачкі быў чалавек, да яго забілі. І дочка вельмі плакала па ім. А маці гаворыць: «Не плач, дочка, на **Пятро** я табе куплю чалавека». Дак от лётае зараз кожны год на Пятра і куе: «Куп-лю, куп-лю, куп-лю...». Да ўсё ніяк не выбера».

На думку некаторых даследчыкаў, асэнсаванне зязюлі як птушкі, звязанай з негатыўнымі ўяўленнямі, тлумачыцца не толькі асаблівасцямі яе «паводзін» (адзіноцтва, падкладванне яечак у чужыя гнёзды), але і знешняй адзнакай — стракатасцю (гл. **Рабы, стракаты**); параўн. у сувязі з гэтым звесткі аб стракатасці **вераб'я** і **сарокі** як птушак, маючых дачыненне да сферы нячыстай сілы.

**ЗЯЛЁНЫ** колер звязваўся ў народных павер'ях з процілеглымі ўяўленнямі. З аднаго боку, асэнсаванне гэтага колеру як колеру расліннасці, зеляніны (г. зн. жыцця) адлюстравалася ў многіх вясенне-летніх абрадах і магічных дзеяннях (параўн.: **вярба,** а таксама ўпрыгожванне жылля зялёнымі галінкамі на **Троіцу**). З другога боку, зялёны колер з'яўляецца нязменным атрыбутам надзвычай небяспечных міфалагічных істот (параўн. зялёныя валасы ў **Вадзяніка** і **Русалкі,** зялёныя вочы ў **Стрыгі**).

**ЗЯМЛЯ** — у народных павер'ях — адна з асноўных стыхій (разам з **агнём** і **вадою**), увасабленне жаночага, нараджаючага пачатку; у вуснай народнай творчасці звычайна ўжываецца ва ўстойлівым спалучэнні *святая маці-зямля.* Сапраўднае адухаўленне, нават абагаўленне зямлі праяўляецца ў наступным народным паданні: «Святая зямелька корміць нас і ўсякага звера; носіць на сваіх плячах, ніколі не наракаючы, не стогнучы, а як Бог пашле смерць, то яна прыгорне і не гідзіцца, калі нас чэрві точаць. Маці-зямля ўсё прымае, а найбольш усякае нечысці, да яшчэ і дзякуе за ета, а калі хочаш ведаць, як яна дзякуе, то навязі гною і пасей жыта, дак і будзеш знаць. Нашы дзяды і бацькі не дарма казалі: тым, што зямля родзіць, падзяліся з ёю, значыць, еш сам хлеб, а салому аддай роднай зямельцы...

Няма нікога і нічога багачэй за зямлю: сколькі яна родзіць хлеба, сколькі дае жалеза да ўсяго іншага? З яе капаюць уся-

кую гліну на печы, на гаршкі да на пабелку, а мала ж то ўсюды закопана грошай? Хто ж, урэшце, дае чыстую, здаровую ваду? Дае святая маці-зямля...»

Вялікая магічная сіла, па народных павер'ях, утрымліваецца ў роднай зямлі. Таму раней людзі, адпраўляючыся ў чужыя краі, бралі з сабою (насыпалі ў анучку) жменьку бацькоўскай зямлі. Верылі таксама, што зямля, узятая з сямі магіл, дзе пахаваны родзічы, выратоўвае ўсіх жывых ад хвароб і іншых няшчасцяў. Рускія сяляне, каб пазбавіцца ад хваробы, прычыну якой бачылі ў непаважлівых адносінах да зямлі, тройчы звярталіся да яе, стоячы тварам на ўсход, са словамі: «Прости, мать сыра земля, в чём я тебе досадил» (параўн. **Вада**). Рускім быў вядомы таксама звычай, згодна з якім пры пераходзе ў новы дом «пераманьвалі» **Дамавіка**: з-пад **печы** старой хаты бралі жменю зямлі, насыпалі яе ў **лапаць** і перавозілі ў ім гэтую зямлю пад **печ** новай хаты.

Як сведчаць адпаведныя крыніцы, яшчэ ў мінулым стагоддзі быў даволі пашыраны звычай цалавання зямлі: «В Орловской губернии при ударе первого грома все бабы, перекрестившись, кланяются в землю и целуют её. В тех же местах сын, дерзнувший оскорбить на миру родную мать или отца, обязательно целует землю после того, как произнесёт клятву, смотря на небо и перекрестясь троекратно. Точно так же заподозренный в каком-либо мирском несчастье вроде поджога, кражи и т. п. целованием земли вполне удовлетворяет и успокаивает своих односельцев» (С. В. Максімаў).

Не менш вядомы быў і звычай з'ядання кавалка зямлі як выражэнне і падмацаванне клятвы ў чым-небудзь.

## І

**ІЛЛЯ** — свята ў гонар прарока Іллі (2 жніўня). Ілля — адзін з найпапулярнейшых міфічных персанажаў. Паводле біблейскага падання, прарок Ілля пры жыцці зрабіў многа цудаў і жывым узнёсся на неба ў вогненнай каляснíцы. Пасля ўвядзення хрысціянства за вобразам Іллі замацаваліся рысы і функцыі галоўнага язычніцкага бога — **Перуна.**

У народных уяўленнях Ілля — грозны, суровы святы, у распараджэнні якога знаходзяцца маланкі і дажджавыя хмары; ён можа забіць маланкаю чалавека, спаліць яго жыллё або выклікаць засуху; адначасова гэта шчодрае і добрае бажаство, якое пасылае на зямлю дажджы, спрыяе ўраджаю і абараняе чалавека ад нячыстай сілы. Па народных павер'ях, менавіта на Ілля

ўсе нячысцікі, ратуючыся ад вогненных стрэлаў Іллі (гл.: **Рабінавая ноч**), ператвараюцца ў розных звяроў — **ваўкоў, зайцаў,** лісіц, **кошак, сабак.** У сувязі з гэтым быў вядомы звычай не пускаць у гэты дзень у хату катоў і сабак, каб не навесці на жыллё маланку.

Згодна з агульнапашыраным уяўленнем, гром узнікае ад грукату па небе калясніцы Іллі-прарока, а маланкі — ад стрэлаў, якімі Ілля забівае нячыстую сілу. Па ўкраінскай легендзе, аднойчы Чэрці паўсталі супраць Бога. Бог загадаў Іллі прагнаць нячыстую сілу з неба, і з таго часу Ілля ганяецца за нячысцікамі, пускаючы ў іх свае вогненныя стрэлы.

Дзень прарока Іллі ўспрымаўся як своеасаблівы рубеж: заканчваецца лета, пачынаецца жніво, вада ў рэках і азёрах становіцца больш халоднай. Па народнай легендзе, ахалоджванне вады пасля Іллі адбываецца па той прычыне, што ад хуткага бегу коней, на якіх Ілля раз'язджае па небе, губляецца падкова, якая падае ў ваду, і вада адразу ж робіцца халоднай.



# К

**КАДУК** — у беларускай міфалогіі — адно з увасабленняў **Чорта;** нячысцік, які з'яўляецца і шкодзіць людзям толькі тады, калі да яго адсылаюць, і толькі ў пэўныя моманты: пры ўсходзе сонца, апоўдні і апоўначы. Гэтае слова ўжываецца ў праклёне *Бадай на цябе кадук!*, а таксама ў выслоўях *Кадук яго ведае, Кадук з імі.*

А. К. Сержпутоўскім запісана народнае паданне пра Кадука: «Кадук — гэта такая страшэнная пачвара: ні чалавек, ні звер, але больш змахвае на звера з вялізнаю касматаю галавою і з шырокім горлам аж да самых вушэй. Як разявіць ён сваю халяву, у каторай блішчаць белыя зубы ды чырванее, бы агонь, язык, дак от так здаецца, што ён гатоў пракаўтнуць цалкам з касцямі і патрахамі. Часам людзі сярдзітыя кажуць: «Каб яго ўзяў кадук», ці: «Вазьмі яго кадук», але Кадук бярэ рэдка, бо ён праяўляецца толькі ў ліхую часіну, а такая часіна бывае адзін момант пры ўсходзе сонейка, у самы поўдзень і ў самую глухасць сярод ночы.

Гэтая пачвара пахапала б усіх людзей, каб ёй было вольна аб'яўляцца заўжды, але Бог так даў, што яна сама не мае ўлады над чалавекам, а чакае, покуль ён яе не пазаве, да і то, покуль не пазаве ў такі ліхі момант, у які што чалавек ні скажа, то ўсё станецца».

Па беларускіх народных павер'ях, Кадук жыве ў самым багністым балоце; тут у яго на службе знаходзяцца дробныя нячысцікі, якіх ён пасылае рабіць шкоду і розныя прыкрасці людзям. Кадук рэдка сам выходзіць са свайго балота; толькі тады ён гэта робіць, калі нейкі падначалены яму дух не здолее выканаць яго даручэння. Існавала таксама вераванне аб тым, што Кадук есць жывых маленькіх дзяцей, якіх носяць яму падначаленыя нячысцікі.

**КАЖУХ** — у абрадавых міфалагічных уяўленнях усходніх славян — сімвал багацця, матэрыяльнага дастатку і дзетанараджэння. Прадуцыруючая сімволіка кажуха звязана, відавочна, з тым, што валасатасць увогуле асацыіравалася з багаццем, удачай і шчасцем (гл.: **Велес**); параўн. таксама беларускую прыказку *Хто касматы, той багаты* і павер'е, звязанае з дзявочымі калянднымі варажэннямі: калі дзяўчына, прасоўваючы руку ў вакно лазні, датыкнецца да чаго-небудзь махнатага, то гэта прадвяшчала ёй багатага жаніха.

Найбольш распаўсюджана рытуальнае выкарыстанне кажуха ў вясельнай абраднасці. Напрыклад, маці жаніха (або маці нявесты) сустракала маладых пасля вянчання ў царкве, стоячы на **парозе** дома ў вывернутым кажусе і трымаючы ў руках хлеб-соль, гарэлку і мёд. А. К. Сержпутоўскі ў кнізе «Прымхі і забабоны беларусаў-паляшукоў» апісваў гэты звычай наступным чынам: «Як маладыя пасля вянца варочаюцца з цэрквы, то іх на двары каля дзвярэй сустракала маці маладога, надзеўшы на сябе вывернуты шэрсцю наверх кажух, і корміць маладых мёдам кожнага па тры разы, потым абсыпае іх збожжам і вядзе ў хату. Робіць гэта матка дзеля таго, каб яны былі багатыя ды заўжды мелі вялікі прыплод і ўраджай збожжа і каб іх жытка была салодкая». З гэтай жа мэтаю вывернутым кажухом накрываюць лаву, на якой садзяць маладых за вясельны стол; ім жа пакрываюць дзяжу, калі нявесту садзяць на пасад.

У некаторых рускіх мясцовасцях («каб лепш пладзіліся авечкі») саджалі на кажух першага госця, які прыходзіў у хату, каб павіншаваць гаспадароў з **Калядамі**. Напярэдадні Новага году кармілі кур на вывернутым кажусе, каб яны ў будучым годзе неслі больш яек.

**КАЗА** — ва ўсходнеславянскай міфалогіі — жывёла, якая ўвасабляе ўрадлівасць, дабрабыт, дастатак; сімвалізуе плоднасць. Згодна з агульнаславянскімі павер'ямі, Каза — міфічная зааморфная істота, дух-ахоўнік засеянага поля, які знаходзіцца ў апошніх нязжатых каласах (гл.: **«Барада», Заяц**).

Культ казы знаходзіцца ў цэнтры каляднай абраднасці: калядоўшчыкі абыходзілі гаспадароў у суправаджэнні «казы» — маладога жвавага хлопца, апранутага ў вывернуты шэрсцю наверх

**кажух.** У адпаведнай каляднай песні ўслаўляецца магічнае ўздзеянне казы на ўраджай: «Дзе каза ходзіць — там жыта родзіць, Дзе каза нагою — там жыта капою, Дзе каза рогам — там жыта стогам...» Імітацыя «паміранн» і «ажыўлення» казы пры выкананні калядак сімвалізуе паміранне прыроды і ажыўленне яе пасля **Калядаў**, калі паступова пачынае павялічвацца дзень.

Магічнымі здольнасцямі ўплываць на ўраджай надзяляўся і **казёл**; у такім жа плане асэнсоўвалася і яго спарванне з казою. Н. М. Нікольскі ў сувязі з гэтым пісаў: «Казёл мае доўгую і густую шэрсць і доўгую бараду, уладае адначасна неэвычайнай сілай і таму, калі ён прыйдзе да пашні, дык яна павінна даць тое ж самае доўгае і густое жыта...» Звяртаючы ўвагу на радок каляднай песні — «Дзе казёл мічыць (г. зн., спарваецца з казою), пшаніца стаіць», — даследчык дадае: «Трэба думаць, што тут захаваўся адбітак сапраўды практыкаваўшагася звычаю пускаць казла і казу спарвацца на поле, каб пастуляваць добрую рунь ярыны». Аналагічныя звесткі аб казле знаходзім у энцыклапедыі «Міфы народаў свету»: «Міфалагічныя ўяўленні аб казле падкрэсліваюць перш за ўсё яго выключную сексуальнасць (у зніжаным выглядзе — юрлівасць) і плоднасць. Адсюль яго сувязь з бажаствамі і іншымі міфалагічнымі персанажамі, што ўвасабляюць гэтыя якасці, — літоўскім Пяркунасам, славянскім **Перуном**, скандынаўскім Торам».

У палескай вясельнай традыцыі пры прыгатаванні каравая выконваўся танец «каза», які сімвалізаваў спарванне казы з казлом, што, па народных уяўленнях, павінна было забяспечыць уплыў на дзетародныя здольнасці маладых, спрыяць прадаўжэнню роду: «Мужыкі «казу» дзелаюць: двое выходзяць, адзін каза, другі казёл, так і скачуць друг чэраз друга».

Адначасова каза і казёл маюць пэўнае дачыненне да нячыстай сілы (параўн. уяўленні аб казлінай знешнасці **Чорта**). Пры гэтым, па павер'ях, злы **Дамавік** ці **Хлеўнік** баяцца казла, таму гэтую жывёлу ставяць у хляве для засцярогі ад нячысцікаў. Ролю апатрапея выконвае і казіная шэрсць, якую затыкаюць у хляве.

**КАЗЁЛ.** Гл. **Каза.**

**КАЛДУН.** Гл. **Вядзьмар.**

**КАЛОДА** ў народных уяўленнях надзялялася негатыўнай сімволікай, вытокі якой — у яе асэнсаванні як нерухомага (як бы «мёртвага»), непатрэбнага прадмета. Асабліва выразна гэтая сімволіка адлюстравалася ў народных замовах, дзе калода выступае як сімвал безжыццёвасці і смерці, як прадмет, цесна звязаны з драпежнікамі, змеямі, хваробамі і нячыстай сілай. Напрыклад, у замовах, прымеркаваных да выгану жывёлы на пашу, выказваецца пажаданне, каб скаціна пры сустрэчы з драпежнікамі пера-

тваралася ў калоду (г. зн., у нешта непатрэбнае, безжыццёвае): «штоб наша скаціна здавалася ў полі каменем, на даліне купінаю, у лесе калодай...»; «Скідайся на пагоні туманам у бару, пнём у лугу, у лесе калодай...». Вельмі часта слова *калода* (звычайна з азначэннем *гнілая*) называецца ў замовах як тое, што павінны з'есці небяспечныя істоты і хваробы: «Святы **Юрай**-Ягорай, рассылай сваіх ваўкоў у цёмныя лясы калоды грызць...», «Цар Арон, унімай сваіх дзяцей: гнілую калоду на снідання»; «Грызь-грызіца, добрая маладзіца, ідзі ў цёмны лес, там ляжыць гнілая калода, там табе месца грызці...». Калода ў тэкстах замоў можа абазначаць таксама месца знаходжання небяспечнай істоты: «На балоце на калодзе стаіць вярбовы куст, пад тым кустом гады, яды, гадзюкі, вужы, вужаняты...; «На мхах, на балотах, на гнілых калодах стаіць дубовы пень, на дубовым пні ярае шалае гняздо...». Асабліва часта спалучэнне слоў *гнілая калода* ўжываецца ў тэкстах замоў як месца, куды адсылаюцца розныя хваробы, небяспечныя істоты і нячыстая сіла наогул (звычайна гэтае спалучэнне ўваходзіць у склад стэрэатыпнай, характэрнай для замоў формулы *ў мхі, у балоты, у гнілыя калоды*): «Я вас пасылаю, гдзе сонца ня свеціць і месяц ня блесціць, у мхі, у балоты, у гнілыя калоды»; «Сухоты, ламоты, ідзіце па мхі, на балоты, на гнілыя калоды»; «І ссылаю вас, бясы, дзьявалы, нячыстая сіла, на мхі, на балоты, на гнілыя калоды». Характэрна, што пры рытуальным звяртанні да Мароза на **Каляды** беларусы выказвалі пажаданне, каб улетку ён знаходзіўся менавіта пад калодай: «Мароз, Мароз, хадзі куццю есці. Цяпер твая пара, хадзі, Марозька! А летам не хадзі, пад калодаю сядзі, бо конюхі **боранамі** задзяруць».

Калода як выразны негатыўны сімвал выкарыстоўвалася і ў некаторых абрадах. Аб гэтым, у прыватнасці, сведчыць агульны для ўсходніх славян звычай прывязвання калодкі нежанатым хлопцам і незамужнім дзяўчатам. На поўдні Гомельшчыны даўней на Каляды нежанатым хлопцам не толькі прывязвалі сапраўдную калоду, але і запрагалі іх, і яны павінны былі цягаць за сабой калоду. Украінскі этнограф А. Варапай прыводзіць наступнае апісанне гэтага звычаю на Украіне: «У панядзелак на масляным тыдні замужнія жанчыны ходзяць па дамах, дзе ёсць дарослыя хлопцы ці дзяўчаты, і прывязваюць іх маткам калодку да нагі. Гэта пакаранне за тое, што не аддалі іх замуж і не ажанілі ў папярэдні мясаед. Дзяўчаты таксама вяжуць калодку, але толькі хлопцам, і ўжо не да нагі, а да левай рукі». Вядома выкарыстанне калоды і ў пахавальным абрадзе. Так, па запісах даследчыцы А. Л. Шырынай, у Беларусі ў шэрагу населеных пунктаў на магілу клалі менавіта драўляную калоду, каб нябожчык не ўставаў, не «хадзіў».

Як сведчаць матэрыялы, сабраныя А. К. Сержпутоўскім, калода і пень служылі **чараўнікам** магічным сродкам ператварэння ў **ваўка** ці **ваўкалака**: «Хто проста куляецца цераз **асінавую** калоду ці цераз пень, і як толькі тое зробіць, то становіцца **ваўком** ці чым іншым». У былічцы, запісанай П. П. Дземідовічам, знаходзім наступныя звесткі пра чараўніка: «Жыў сабе адзін чалавек. Ніколі не хадзіў у цэркаў, а толькі скакаў дома цераз калоду...».

Ва ўкраінскай каляднай традыцыі быў вядомы звычай рытуальнага спальвання калоды як сімвала і ўвасаблення **Мары**.

**КАЛЯДА** — ва ўяўленнях старажытных славян-язычнікаў — бажаство багацця, ураджаю і дабрабыту. Некаторыя міфолагі атаясамліваюць Каляду з **Аўсенем**. У абрадах і павер'ях усходніх славян захаваліся толькі рэшткі старажытных уяўленняў аб Калядзе.

У беларускай каляднай традыцыі Калядою называлі абрадавы персанаж, які сімвалізаваў дабрабыт і заможнае жыццё: яго апраналі ў багатую світку, кішэні вопраткі дапаўна набівалі збожжам; на галаву надзявалі вянок з калоссямі, поўнымі зерня. Песельнікі, з якімі Каляда хадзіў па хатах, спявалі, звяртаючыся да яго:

Ой ты, багацька Каляда!
Дзякую табе за тваё дабро,
Бо ўжо ж наша чарада:
Штоб было ў гаспадара поўна гумно дабра!

Калядою беларусы называлі таксама абрадавую ежу, якую гатуюць напярэдадні Новага года (на багатую куццю) і якую калядоўшчыкі атрымліваюць ад гаспадароў. Параўн. радкі наступнай каляднай песні:

Уставай, каза, жылы надзімай.
Гаспадар ідзе, каляду нясе:
Рэшата аўса, наверх каўбаса...

Пад уплывам хрысціянства Каляда як язычніцкі міфічны персанаж набыў негатыўную афарбоўку: ён стаў атаясамліваць зімні холад, небяспеку і змрок. Павер'і аб небяспечнасці гэтага персанажа адлюстраваліся ў беларускім абрадзе «запісвання Каляды», які выконваўся перад Вадохрышчам (гл. **Куцця**). Абрад заключаўся ў нанясенні крэйдай крыжыкаў на хату і іншыя пабудовы, у асвячэнні святой вадой хатняй жывёлы. Акрамя таго, згодна са звесткамі, апублікаванымі ў канцы мінулага стагоддзя П. В. Шэйнам, у гэты ж дзень «крэсляць чалавека на белым кані — выяву Каляды, якая павінна ехаць далей».

Па словах расійскага гісторыка М. М. Карамзіна, «Коляда был богом пиршеств, празденств и мира у древних славян».

Рускія называлі Калядою і абрадавы персанаж — дзяўчыну, апранутую паверх цёплай вопраткі ў **белую** кашулю; Каляду з песняй «Уродилась Коледа накануне Рождества» вазілі па вёсках на санях ноччу перад Ражаством. На думку некаторых вучоных, назва *Каляда* паходзіць ад слова *кола,* што дазваляе звязваць калядныя абрады і павер'і з уяўленнямі аб сонцазвароце, які адбываецца менавіта ў канцы снежня — пачатку студзеня.

Па старажытных украінскіх уяўленнях, Каляда — гэта багіня неба, маці Сонца, жонка **Дажбога.** Згодна з легендай, Каляда штогод у самую доўгую зімовую ноч нараджае Новы год (Сонца), сына Дажбога — Божыча. Ва ўкраінскіх вёсках напярэдадні Каляд запальвалі абрадавы **агонь,** які павінен быў магічна паўплываць на хутчэйшае нараджэнне Божыча і яго барацьбу з багіняй цемры — **Мараю;** у гэты ж час «засявалі» зернем у хатах суседзяў ці родзічаў (каб быў багаты ўраджай), хадзілі па вёсках з плугам ці **казою,** спальвалі сімвал Мары — **калоду.**

**КАЛЯДЫ** — адно з галоўных свят народнага календара ўсходніх славян, якое адзначаецца 7 студзеня; тое, што і Ражаство Хрыстова. Пярэдадзень Калядаў — 6 студзеня — называўся *вялікая куцця* і адзначаўся як абрадавая вячэра, што складалася з няцотнай колькасці посных страў. На вялікую куццю было прынята да ўсходу сонца віць вяроўкі і абвязваць імі **стол,** каб коні летам не разбягаліся і не рабілі ніякай шкоды. У гэты ж дзень імкнуліся не хадзіць у чужыя хаты, каб жывёла не збягала з двара і не прападала. Беларусам быў вядомы звычай, у адпаведнасці з якім гаспадар вечарам перад Ражаством вылаўліваў лыжкай бурбалкі ў кіпячай вадзе і кіпнем паліваў авёс. Раніцай наступнага дня гэтым аўсом кармілі коней, каб яны былі такія ж гладкія і гэтак жа хутка бегалі, як бурбалкі. Гл. **Куцця.**

Калядамі ў беларускай традыцыі называецца таксама пэўны перыяд народнага календара — ад Ражаства да **Вадохрышча.** На працягу Калядаў па вёсках хадзілі калядоўшчыкі, пераапранутыя ў цыганоў, **казу;** у калядных песнях яны звярталіся да гаспадароў з пажаданнямі здароўя, дабрабыту, шчасця. У час усіх Калядаў забаранялася віць, плесці, рабіць закруткі для саней; у адваротным выпадку, па народных павер'ях, дзеці і жывёлы нарадзяцца пакалечанымі (параўн. забароны на такія ж работы ў Русальны тыдзень; гл. **Русалка**).

**КАМЯНІ** — у народна-міфалагічным асэнсаванні — прадметы, якія надзяляліся магчымасцю ўздзеяння на чалавека, чалавечымі якасцямі і здольнасцямі, сувяззю свайго паходжання з дзейнасцю чалавека. На думку некаторых вучоных, надзяленне камянёў незвычайнымі ўласцівасцямі з'яўляецца вынікам пакланення старажытных продкаў-язычнікаў сваім багам, якія ўвасабляліся ў каменных ідалах.

У адным з народных паданняў расказваецца пра Рагвалодаў камень, які «стаяў на чатырох нагах, меў галаву і быў падобны на жывёлу. Расказвалі таксама, што тутэйшы млынар адсёк тую галаву і зрабіў з яе жоран, але ён не толькі сам змалоўся на пясок, але змалоў увесь дастатак і ўсю сям'ю млынара».

Сустракаюцца таксама шматлікія паданні аб цудадзейных камянях, здольных выконваць па просьбах людзей тую ці іншую справу (звычайна — шыццё адзення ці выраб абутку). Уяўленне аб гэтым даюць наступныя ўрыўкі з народных паданняў: «А ў Славені дык е такі камень-кравец. Ён усім адзежу шыў. Як прынясе хто сукно ды скажа: «Сцяпан, сшый мне кафтан!» — Дык ён і сшые»; «Пра гэты большы камень расказвалі, што нібы ў даўнія часы, калі хто пакладзе на яго два злотых (30 капеек серабром), дык, вярнуўшыся дадому, знаходзіў боты, якія невядома адкуль узяліся». Вядомы звесткі і аб знаходжанні ў камені міфічных істот — **змея** або шаўца, якія, адклікаючыся на просьбы людзей, выраблялі вопратку ці абутак: «Старыя казалі, што калісь-то даўно ў гэтым камені змей жыў, і ён бальшы кравец быў. Занясуць яму сукно шыць, пададуць праз вакно і папросяць: «Майстрок, пашый абы надзець хоць бы дрэнна». Дык ён вышыець, што і на свеці так добра ніхто не пашыець, як ён». Пры гэтым падкрэсліваецца несумяшчальнасць дзейнасці гэтых істот з царквою: «Боты былі цудадзейныя: іх можна было насіць пятнаццаць гадоў і чым часцей бываць на ігрышчах, тым лепш, але толькі з умоваю не хадзіць у царкву, там яны адразу распадаліся на дробныя кавалкі. Свяшчэннікі, угледзеўшы ў гэтым шаўцы злога духа, сатварылі заклён над каменем, і з таго часу спыніўся выраб цудадзейных ботаў».

У шэрагу народных паданняў расказваецца аб ператварэнні ў камяні грэшнікаў, якія працавалі ў тыя дні, калі адзначаюцца вялікія царкоўныя святы. Так, паходжанне трох камянёў паблізу Нясвіжа звязвалася ў народнай легендзе з пакараннем злога княжаскага войта, які прымушаў людзей араць поле на **Вялікдзень**: «Вось і кажуць людзі войту: «Калі ты такі разумны, паспрабуй сам узараць». Войт захацеў паказаць сябе перад князем, схапіў саху за рагач і пагнаў баразну. Але не дайшоў і да паловы баразны, як ударыў гром нябесны — і войт з валамі акамянеў». Блізкае па сэнсу паданне было запісана і на Вілейшчыне: «У Вілейскім павеце ляжаць тры камяні, два з якіх падобныя на валоў, а адзін на чалавека. Народ кажа, што гэта — араты з двума валамі, ператвораны ў камяні за тое, што чалавек араў зямлю на Барыса і Глеба».

Згодна з народнымі ўяўленнямі, людзі маглі ператварацца ў камяні і ў выніку закляцця. У адным з паданняў люты **чарадзей**, не дачакаўшыся ветлівага вітання, пракляў удзельнікаў

вяселля, якія абярнуліся ў камяні. У два вялікія камяні ператварыліся конь і воз сена пасля таго, як селянін пракляў жывёлу («А каб ты, воўчы недаедак, у камень ператварыўся!»). Праз уласнае закляцце камянее дзяўчына, якая не захацела стаць здабычай ворагаў: «Лепш бы я камнем па зямлі качалася, чым ім на пацеху дасталася!».

**КАПУСТА** — расліна, якая звязана з уяўленнямі аб завязванні, закручванні. У гэтым — вытокі сімвалічнасці капусты, яе разумення як нараджаючага, жаночага пачатку. Невыпадкова, што пры тлумачэнні малым дзецям на пытанне аб іх нараджэнні нярэдка гавораць: «Знайшлі ў капусце»; «Зайчык прынёс і пакінуў цябе наградзе з капустай» (гл.: Бусел). Параўн. звесткі аб іншых прадметах, звязаных з сімволікай вузла, завязваннем (**закрутка, лапці, павук, пута**).

**КАРАВАЙ** — вясельнае абрадавае печыва, якое сімвалізуе багацце, дабрабыт будучай сям'і, атаясамліваецца з маладымі, іх доляй і шчасцем.

Лічылі, што кожны чалавек можа мець каравай толькі адзін раз на вяселлі, таму калі замуж выходзіла ўдава або жаніўся ўдавец, каравай не пяклі. Каравай пяклі ў хаце маладога і маладой часцей за ўсё ў суботу напярэдадні вяселля. Спяваць у час пячэння каравая і яго ўпрыгожвання запрашалі маладых дзяўчат; рыхтаваць дровы, печ і неабходныя прылады для яго прыгатавання — жанатых мужчын, саджаць каравай у печ — нежанатага хлопца. Дровы бралі з трох двароў і з трох розных парод дрэў, якія лічацца ў гэтай мясцовасці «шчаслівымі», ваду — з трох крыніц, масла — ад кароў першага ацёлу. **Дзяжу** ставілі пасярод хаты на вывернутым **кажусе**, сыпалі ў яе муку і лілі ваду за адзін прыём. Каравай мясілі далонямі, а не кулакамі, каб малады ніколі не падымаў рукі на маладую; рабілі яго густым, салодкім, прыгожым, часам без солі, дабаўляючы невялікую колькасць гарэлкі, што азначала багацце і весялосць будучай пары. Караваі ўносілі ў хату, калі зводзілі маладых і іх роды, ставілі ў клеці ў першую шлюбную ноч, на яго клалі **пояс** нявесты і падвянечную кашулю маладога, падораныя ім рэчы, грошы і г. д. З рэшткаў цеста каравайніцы выраблялі другасныя караваі, або каравайчыкі; іх клалі на кут, на **парог**, на прыпечак (гл. **Печ**) як падзяку духам **продкаў, Дамавіку**. Памазаўшы галоўны каравай мёдам і пасыпаўшы сырам, саджалі яго ў печ. Лапатай, якой пасадзілі каравай, тройчы стукалі ў паднябенне печы, або ў столь хаты, а калі ў гаспадара былі незамужнія дочкі, дакраналіся да іх галоў. Рэшткамі цеста на руках каравайніцы мазалі твар прысутным мужчынам, потым мылі рукі, а ваду вылівалі пад вішні, яблыні, на ток, у хлеў, «каб усё радзіла і пладзіла». Караваі маладых ставілі побач на века дзяжы,

і сваты, падняўшы яго, утваралі своеасаблівую браму, пад якой цалаваліся блізкія сваякі маладых, а дружына маладога праз яе ўваходзіла ў хату. Гэты рытуал азначаў злучэнне маладых і парадненне іх родаў. Ужыванне караваю звязвалася з павер'ем, што гэты акт садзейнічае ўрадлівасці палёў, пладавітасці жывёлы, забяспечвае дастатак і шчасце. За атрыманую частку каравая кожны з прысутных чым-небудзь адорваў маладых (паводле Л. А. Малаш).

**КАРОВІНА СМЕРЦЬ** (рус. Коровья смерть) — у рускіх павер'ях — антрапаморфнае ўвасабленне эпідэміі (звычайна — чумы). Параўн. **Халера.**

Каровіна смерць уяўлялася ў выглядзе старой жахлівай жанчыны; яе характэрная прыкмета — рукі ў выглядзе грабляў. Яна ніколі сама ў вёску не заходзіць: яе заўсёды завозяць сяляне, якіх Каровіна смерць, прыкінуўшыся звычайнай жанчынай, просіць падвесці да вёскі. Трапіўшы ў вёску, Каровіна смерць не супакойваецца, пакуль не знішчыць усіх кароў. З'яўляецца яна звычайна восенню. Сродкам абароны ад Каровінай смерці з'яўляецца рытуальнае **абворванне** вёскі (гл. таксама **Абыдзённік**).

**КАСТРАМА** — ва ўсходнеславянскай міфалогіі — увасабленне вясны і ўрадлівасці. Звычайна сустракаецца ў рускім абрадзе «провады Кастрамы». Кастрама ў гэтым абрадзе — маладая жанчына, захутаная **белымі** прасцінамі, з дубовай галінкай у руках. Адначасова рабілі з саломы чучала Кастрамы і наладжвалі яго рытуальнае пахаванне, або спальвалі, разрывалі на часткі; але Кастрама ўваскрасае, сімвалізуючы вечна жывую бессмяротную прыроду. Гэты абрад, які адбываўся ў першы панядзелак пасля **Троіцы,** быў закліканы забяспечыць пладароддзе і ўраджай.

**КАЧАРГА** — у міфалагічным асэнсаванні — прадмет, звязаны з культам **агню** і **печы,** а таксама з уяўленнямі аб жалезе і яго апатрапеічных уласцівасцях.

У якасці магічнага прадмета качарга выкарыстоўвалася ў народнай медыцыне. Так, ад дзіцячых **начніц** качаргу клалі пад калыску ці хрысцілі ёю вокны; пры ўроках праз качаргу пралівалі ваду, давалі яе піць дзіцяці і змывалі ёю твар. Каб **ведзьмы** не змаглі наслаць урокі хатняй жывёле, апошнюю таксама хрысцілі качаргой.

Качарга, як і іншыя прадметы, маючыя прамое дачыненне да печы і агню, канцэнтруе ў сабе жыццядайную моц агню, яго ачышчальнасць, а таксама прадуцыруючую сімволіку, звязаную з культам продкаў (гл. **Дзяды**). Каб прынесеная дадому курыца хутчэй прывыкала да гаспадаркі, яе тры разы абводзілі вакол качаргі і піхалі ў падпечак. Для забеспячэння большай колькасці яек прадпісвалася спіхнуць курэй з насесту качаргой, а самаму

крычаць па-курынаму. На Палессі на галодную куццю гаспадыня качаргой піхала пад печ, дзе знаходзіліся куры, і казала: «Сакачыце, не сакачыце, а яечка нясіце». Качаргой трэслі яблыні на **Каляды,** каб на наступны год быў добры ўраджай. Знішчальная сіла агню, увасобленая ў качарзе, магчыма, абумовіла выкарыстанне яе ў звычаі вывядзення мышэй з гумна. Для гэтага «варажбіт вымаў са стога з усіх бакоў па жмені сена і запальваў сена ў печы разагрэтай качаргой; попел жа раскладваўся ва ўтвораныя ямкі».

Качарга, акрамя таго, сімвалізавала «свой» свет, які дапамагаў чалавеку ў паўсядзённым жыцці і аберагаў яго. Адсюль — функцыянаванне качаргі ў якасці абярэга, што непадзельна звязана з усведамленнем міфалагічнай моцы агню і жалеза. Менавіта таму для прадухілення гарэзаў **Лесавіка** гаспадар з качаргой абыходзіў гумно. У рускіх вёсках сяляне, звонячы качэргамі і **патэльнямі,** 17 студзеня «выганялі **чорта**».

Відавочная сувязь качаргі з печчу, а значыць — з культам **Дамавіка** — выяўляецца ў наступных павер'ях: «Каб пашанцавала ў дарозе, трэба перад адпраўленнем прыхіліць к печы качаргу»; «Як нясеш што прадаваць, ухапіся за качаргу — прадасі».

Агульнавядомым прыёмам рытуальнага ператварэння ў **ведзьму** было еханне на качарзе. На думку А. Тапаркова, «чалавек, які сядаў на качаргу, як на каня, як бы прымаў на сябе ролю ведуна, прадстаўніка чужога свету, які ў гэтым выпадку надзяляецца прыкметамі перавернутасці, інакшасці ў адносінах да свайго». Выкарыстанне качаргі як вядзьмарскага атрыбуту зафіксавана, у прыватнасці, Е. Р. Раманавым: «Перад **Вадохрышчам** дзяўчына-варажбітка выязджае вярхом на качарзе і слухае, з якога боку забрэша сабака — туды яна і замуж пойдзе» (паводле Т. В. Валодзінай).

**КІКІМАРА** — ва ўсходнеславянскай міфалогіі — злы дух дома, які жыве на **печы** ці ў падпечку ў выглядзе маленькай жанчыны, пачварнай старой або дзяўчынкі з доўгімі **чорнымі** валасамі, **белым** тварам і **чорнымі** вачыма. Па адных уяўленнях, Кікімара — гэта жонка **Дамавіка,** па другіх — яго вораг, антыпод.

Беларусы лічылі, што Кікімарамі становяцца заўчасна загінуўшыя маленькія дзяўчынкі, якія нябачна прысутнічаюць у хаце, назіраючы за гульнямі жывых дзяцей, самі гарэзнічаюць (тады ў хаце чуецца іх піск), але разам заціхаюць і ўздыхаюць, калі маці пачынаюць песціць сваіх дзяцей. У адным доме можа знаходзіцца не адна, а некалькі Кікімар. Кікімары з'яўляюцца ў той сям'і, дзе адбылося дзетазабойства, праклянцце і іншы цяжкі грэх. Па рускіх павер'ях, Кікімары — гэта дзеці, якіх праклялі бацькі яшчэ да іх нараджэння; гэта вельмі маленькія духі, якія

могуць пералятаць з месца на месца ў паветры, яны «...так малы и сухи, что не выходят на улицу, боясь быть унесенными ветром». «Паветранасць», бязважкасць Кікімар падкрэсліваецца і ў наступным апісанні: «Тонешенька, чернешенька та Кикимора; а голова-то у ней малым-малешенька со напёрсточек, а туловище не спознать с соломинкой».

Кікімара па начах стукае па сценах, непакоіць малых дзяцей, раскідвае па хаце розныя рэчы, ламае мэблю, імкнучыся выжыць чалавека. Ноччу Кікімары могуць таксама займацца прадзеннем, але робяць гэта неахайна, блытаюць і псуюць усю работу. У ноч перад **Калядамі** Кікімара можа спаліць кудзелю, якую гаспадыня пакінула нанач неперахрышчанай. На двары Кікімара шкодзіць хатняй птушцы, насылаючы на курэй «вяртун» — хваробу, пры якой куры верцяцца да знямогі і гінуць. Рускія сяляне для засцярогі курэй ад Кікімары вешалі ў хляве **«курынага бога»** — камень з прыроднаю дзіркаю ў сярэдзіне.

З павер'ямі аб Кікімары ў рускім народным календары быў звязаны дзень 17 сакавіка — Герасим-грачевник (дзень, калі прылятае першая вясенняя птушка — грак): «На Герасима Кикимору выживают заговорами. В отличие от Домового присутствие её в крестьянском доме не только необязательно, но и нежелательно, так как она обычно наносит хозяйству вред, причиняет всякие мелкие неприятности (может разбить горшок, стучать вьюшкой, ощипать кур, кидаться луковицами из подполья), особенно любит безобразничать с пряжей: то кудель сожжёт, то нитки спутает, замусолит. Избавиться от Кикиморы можно с помощью верблюжьей шерсти, положенной под шесток, или заговором: «Ах ты, гой еси, Кикимора домовая, выходи из горюнина дома скорее!».

Толькі ў некаторых выпадках Кікімары могуць папярэджваць чалавека аб блізкай бядзе, калі яны жаласліва плачуць ноччу. Па беларускаму павер'ю, Кікімару можна злавіць і зноў ператварыць у чалавека. Для гэтага трэба на галаве Кікімары крыжападобна выстрыгчы валасы, і тады яна стане звычайнай дзяўчынкай.

Само слова *Кікімара* мае няяснае паходжанне. Мяркуюць, што другая частка гэтага слова звязана з агульнаславянскім міфонімам **Мара.**

**КОМІН у** народна-міфалагічным асэнсаванні надзяляўся процілеглымі ўласцівасцямі.

З аднаго боку (як частка **печы** — месца знаходжання **Дамавіка**) ён звязваўся з культам **продкаў** (гл. **Дзяды**) і шанаваннем **агню.** Такія ўяўленні адлюстраваліся, у прыватнасці, у беларускім магічным абрадзе «жаніцьба коміна». На **Фаміным** тыдні (тыдні пасля **Вялікадня**) комін бялілі, упрыгожвалі зялянінай,

хвояй, стужкамі, **ручнікамі** і кідалі ў агонь кавалачкі сала ці масла — «вясельнае частаванне» коміну. У гэтых дзеяннях, на думку А. Я. Багдановіча, нельга не бачыць перажыткаў старажытнага язычніцкага абраду прынясення ахвяраў агню. Удзельнікі абраду жадалі гаспадарам здароўя, дабрабыту, спору ў рабоце. У песні, якая выконвалася ў час «жаніцьбы коміна», выказвалася просьба да коміна, каб ён будзіў усіх рана, даваў святло для хатніх работ, «буры праганяў, дым і сажу нёс ворагам».

Звязаны са стыхіяй агню комін мог, па народных уяўленнях, абясшкоджваць дзеянні ведзьмароў і чараўнікоў (гл. **Ведзьма, Вядзьмар**). Адзін са спосабаў барацьбы з вядзьмарствам з дапамогай коміна апісаны А. К. Сержпутоўскім: «Каб загубіць чараўніка ці чараўніцу, бяруць з-пад іх зямлю і вендзяць яе ў коміне. Як высахне зямля, так высахне тады чараўнік ці чараўніца». Рускім было вядома павер'е аб тым, што выявіць злодзея можна наступным чынам: зняць мерку з яго следу і павесіць яе ў коміне; як ссохне гэтая мерка, так «ссохне» (г. зн., захварэе ці нават памрэ) і сам злодзей.

З другога боку, комін выразна асэнсоўваўся як шлях сувязі з прасторай «па-за домам» — невядомай, а таму «нячыстай», варожай. Выкарыстанне коміна менавіта як магічнага «сродка сувязі» адлюстравана ў наступным рускім звычаі: калі са двара сыйдзе жывёла, збяжыць сабака ці не прыйдзе да вызначанага часу запрошаны чалавек, гаспадары клікалі іх — крычалі ў комін. У Вятскай губерніі перад прыездам жаніха да нявесты ў яе хаце шчыльна закрывалі комін у печы — каб праз яго нячысцікі не трапілі ў хату і не абярнулі гасцей у ваўкоў (гл. **Ваўкалак**). Усходнім славянам вядомы таксама пахавальны звычай, згодна з якім людзі, прыйшоўшыя з могілак пасля пахавання нябожчыка, павінны падыйсці да **печы** і дакрануцца рукамі да коміна — «каб смерць праз комін выйшла». У шматлікіх народных казках, быліччках і легендах менавіта праз комін трапляюць у хату **Чорт, ведзьма** і іншыя нячысцікі. Параўн. беларускую прыказку: *Заступі чорту парог, то ён у комін* і ўстойлівае спалучэнне *чорта ў комін суніць* «узняць спрэчку у сям'і, садзейнічаць непрыязным адносінам паміж членамі сям'і».

У рускіх вёсках у студзені і лютым — калі бываюць асабліва моцныя маразы — «замаўлялі» коміны. У вызначаны час (звычайна апоўначы) **знахар** з'яўляўся па запрашэнню селяніна і звяртаўся да коміна з замовую, суправаджаючы яе рознымі магічнымі дзеяннямі (забіваннем калкоў, пасыпаннем попелу з сямі печаў і інш.). Людзі былі перакананыя, што гэтая засцярога надзейна перакрывае шлях ведзьмам: «ведьма, желая нанести кому-нибудь вред, влетает в трубу; но как скоро труба будет заговорена, то весь дом и двор уже свободны от её про-

каз» (І. П. Сахараў). Па рускіх павер'ях, менавіта праз комін прылятае да дзяўчат ці ўдоў спакушальнік — **Вогненны змей**. Як сведчыць беларуская легенда, на гарышчы, а значыць, побач з комінам жыве **Хут**.

Комін, як і лазня, мае дачыненне і да дзявочых варожбаў (апошнія асэнсоўваліся як уступленне ў сувязь з нячыстай сілай). Выразная сакральная роля коміна выяўляецца ў наступным апісанні: «На **Каляды**, на Шчадраца ставілі стакан з вадою на **люстэрка**, кідалі ў ваду заручальны пярсцёнак у 12 гадзін, глядзелі ў стакан і чакалі ўбачыць жаніха. Для большага страху ўсё гэта прараблялі не ў хаце, а на гарышчы, каля коміна».

**КОНЬ**. Вытокі міфалагічных павер'яў і ўяўленняў аб кані звязаны з яго роллю ў гаспадарцы: конь заўсёды быў верным і надзейным памочнікам чалавека, увасабленнем сілы, надзейнасці і дабрабыту. Па народных павер'ях, гэтая жывёла ўплывае на здароўе чалавека і пладароддзе нівы, засцерагае свайго гаспадара ад нячыстай сілы і прыносіць удачу. Невыпадкова, што сітуацыя, калі чалавек знаходзіцца «на кані» звязваецца з поспехам і шчасцем: бел. *Быў і на кані, і пад канём; Не папала на каня, ды пад каня;* рус. *Хотелось на коня, а досталось под коня; Счастливый на коне, бессчастный под конём.*

У старажытнай Русі існаваў звычай *постриги:* маленькага хлопчыка (да сямігадовага ўзросту) стрыглі (у некаторых выпадках выстрыгалі цемя) і саджалі на каня, сімвалічна падкрэсліваючы яго прыналежнасць да мужчын — будучых абаронцаў радзімы. У адным са старажытнарускіх летапісаў пад 1191 годам ёсць наступныя звесткі аб гэтым звычаі: «Быша постриги у великого князя Всеволода Юрьева сына Долгорукого сыну его князю Юрию в граде Суздале; того же дни и на конь всадиша его».

Выяву каня (конскай галавы) нярэдка прымацоўвалі да страхі дома, імкнучыся тым самым перадаць пад магічную абарону каня ўсё жытло і жывучых у ім людзей. Невыпадкова, што слова *канёк* абазначае не толькі разное ўпрыгожанне страхі, але і проста край страхі, яе грэбень. Ржанне коней, асабліва тых, на якіх маладыя едуць да вянца, лічыцца вельмі добрай прыкметай. Цікавае павер'е, звязанае з уплывам каня на лёс чалавека, запісаў А. К. Сержпутоўскі: «Хто любіць хадзіць па той тропцы, па якой бяжыць па дарозе каняка, той заўжды ўсё на сваім паставіць, да ўсяго дабярэцца». Нарэшце, у некаторых рускіх вёсках дзяўчаты выкарыстоўвалі коней для вызначэння ўласнага лёсу. Для гэтага дзяўчына, завязаўшы каню вочы хусткай, садзілася на яго, выязджала з двара і назірала: у які бок пойдзе конь — адтуль і сватоў ёй чакаць. Калі ж конь пойдзе назад, то дзяўчына застанецца дома, не выйдзе замуж на працягу надыходзячага года.

**КОТ (Кошка)** ў міфалагічнай традыцыі ўсходніх славян і іншых народаў свету асэнсоўваўся перш за ўсё як жывёла, блізкая да чалавека, здольная дапамагчы яму і аказаць пэўны магічны ўплыў на яго жыццё. У некаторых варыянтах «Легенды пра хлебны колас» у якасці выратавальнікаў выступаюць **сабака** разам з катом.

Як падкрэсліваецца ў энцыклапедыі «Міфы народаў свету», шанаванне, нават культ катоў мае вельмі старажытную традыцыю. Так, у старажытным Егіпце кошак лічылі свяшчэннымі жывёламі. Выпадковае нанясенне якога-небудзь пашкоджання кату і асабліва яго забойства магло карацца ў гэтай краіне смерцю. Егіпецкая багіня радасці і весялосці Баст уяўлялася жанчынай з кацінай галавой. Больш таго, на адной са старажытных егіпецкіх грабніц быў выяўлены надпіс, у якім вярхоўны бог сонца Ра быў названы «вялікім катом». У скандынаўскай міфалогіі багіня пладароддзя, кахання і прыгажосці Фрэйя раз'язджае верхам на кацє. У казках многіх народаў свету, у тым ліку і славян, кот выступае ў ролі чараўніка і надзейнага памочніка чалавека. У беларускай казцы «Іван Попелаў» (са зборніка А. М. Афанасьева) яе галоўны герой, які перамог **змея**, ператвараецца ў ката. Матыў ператварэння казачнага героя ў ката вядомы і ва ўсходнеславянскім цыкле казак пра Івана — Кошкінага сына. Пэўная антрапаморфнасць ката, пяўлоўнасць мяжы паміж кошкай і чалавекам падкрэсліваецца ў імёнах ката, якія сустракаюцца ў рускіх казках: *Кот Котофеич, Котофей Иванович.*

Забарона крыўдзіць і асабліва забіваць катоў была добра вядома нашым продкам. Так, Е. Р. Раманаў у пачатку нашага стагоддзя запісаў наступнае павер'е: «Хто ката заб'е, той шчасця не будзе мець ні ў чым». Аналагічнае рускае павер'е знаходзім у слоўніку У. І. Даля: *Кота убить — семь лет удачи не видать.*

Вельмі распаўсюджаным ва ўсходніх славян з'яўляецца захаваны да сённяшняга дня звычай пры пераходзе ў новы дом упускаць першым ката (іншы раз — ката з **пеўнем** або толькі пеўня). А. К. Сержпутоўскі лічыў, што гэты звычай звязаны з уяўленнямі аб «чартагонных» уласцівасцях названых жывёл: «Перад пераходзінамі ў новую хату туды заносяць і саджаюць нанач пеўня і ката. Вядома, што нячыстая сіла не любіць іх, а затым пакіне тую хату». Згодна з рускімі павер'ямі, кошка першай сустракае свайго гаспадара «на тым свеце», таму яна павінна першай увайсці ў новую хату. Ва Уладзімірскай губерніі было запісана такое павер'е: «Всякий, вошедший в дом первым, по народному поверʼю, «до году помрет»; посему, когда входят в новый дом, то впускают в него прежде кошку (иногда черного кота)». Сучасны даследчык усходнеславянскай этнаграфіі і міфалогіі А. К. Байбурын бачыць «міфалагічныя карані» гэтага звычаю ў наступ-

ным. У народна-міфалагічным асэнсаванні дом з'яўляецца своеасаблівай «мадэллю свету», а новы, пабудаваны, але не заселены людзьмі дом асэнсоўваўся як небяспечнае і рытуальна нячыстае месца, як неабжытая, а значыць, і варожая для людзей прастора. Менавіта таму засяленне гэтай прасторы павінна адбывацца ў той жа паслядоўнасці, што і ўвогуле ў прыродзе: спачатку жывёла, а потым чалавек. Адзін з першых даследчыкаў усходнеславянскай міфалогіі Д. К. Зяленін занатаваў у свой час цікавы беларускі звычай, звязаны з уваходзінамі. У адпаведнасці з ім у новым доме павінны былі пераначаваць (у строгай паслядоўнасці) розныя жывёлы на працягу шасці дзён: у першы дзень — **певень** і курыца, у другі — гусь або кот з кошкай, у трэці — парася (гл.: **Свіння**), у чацвёрты — авечка, у пяты — карова, у шосты — **конь**, і толькі на сёмы дзень у дом уваходзіў гаспадар з агнём і хлебам ці з цестам у **дзяжы**.

Кот звязваўся таксама з уяўленнямі аб плоднасці і дзетанараджэнні. Напрыклад, у беларускай традыцыі ў час вяселля пад ложак маладым саджалі кошку з кацянятамі, «каб было многа дзяцей». Сон пра ката, як тлумачаць народныя соннікі, прадвяшчае жанчыне хуткую цяжарнасць і нараджэнне дзіцяці. Гераіня аповесці М. С.Ляскова «Ледзі Макбет Мцэнскага павету» бачыць сон пра ката непасрэдна перад тым, як «почувствовала себя в тягости». М. Я. Нікіфароўскім запісана звязаная з гэтым уяўленнем народная прыкмета: «Віск кошак і асабліва іх валтузня каля сцяны, дзе спіць маладая жанчына, паказваюць, што яна «панесла». Чым часцей і больш працягла гэта назіраецца, тым дакладней цяжарнасць». Прадуцыруючая, дзетародная сімволіка ката выразна адлюстравана ў некаторых рускіх прыкметах і прыказках (*Кто кошек любит, будет и жену любить; Звал кот кошурку в печурку*), а таксама ў наступным павер'і: «Месяц март народ называет «котов месяц», так как в этом месяце повсюду в поселениях слышно мяуканье домашних кошек. Простой народ говорит, что все родившиеся в марте мальчики будут «за бабами бегать». Параўн. таксама ўстойлівае словазлучэнне *кот марцовы* «пра мужчыну-распусніка, блудніка».

Разам з тым, у шэрагу выпадкаў кот лічыўся дэманічнай істотай, звязанай з нячыстай сілай і **ведзьмамі** (чорны кот — адзін з абавязковых атрыбутаў **ведзьмы**). Такі ў рускіх казках вобраз «чудовищного кота-баюна, сидящего на столбе, побивающего весь люд, напускающего неодолимый сон и сказывающего сказки» («Міфы народаў свету»). Па беларускаму павер'ю, ката нельга гладзіць, «каб Чорт не прысніўся». Зблiжэнне ката (кошкі) з уяўленнямі аб нячысціках выразна адлюстравана ў рускім павер'і (з кнігі А. М. Афанасьева «Паэтычныя погляды славян на прыроду»): «Ямщики редко и неохотно соглашаются везти кошку;

от этого, по их мнению, лошади страшно утомляются и худеют, что вполне соответствует рассказам о лошадях, истомленных ночными поездками домового, ведьм и нечистых духов». Многія людзі і ў наш час вераць у тое, што сустрэча з чорнай кошкай (катом) прадвяшчае няшчасце.

**КОШКА.** Гл. **Кот.**

**КУПАЛА** — ва ўсходнеславянскай міфалогіі — бог зямных пладоў, ураджайнай нівы, лекавых траў і дабрабыту. Язычніцкае бажаство Купала ўпамінаецца ў старажытнарускім Густынскім летапісе: «Купало бяше бог обилия, ему же благодарение приношаху в то время, егда имяше настати жатва». Купала — таксама галоўны персанаж **Купалля** — свята летняга сонцастаяння; гэта чучала ў выглядзе мужчыны, але часцей — дзяўчыны (Купалкі, Купалінкі), якое ў час свята «купалі» і тапілі ў рацэ ці возеры.

**КУПАЛЛЕ** — свята ў народным календары ўсходніх славян і іншых славянскіх і неславянскіх народаў, якое адзначалася ў ноч з 6 на 7 ліпеня, было прымеркавана да летняга сонцастаяння і адзначалася ў гонар сонца, якое дасягала ў гэты час свайго апагею. Таму цэнтральнае месца сярод купальскіх абрадаў займае купальскае вогнішча, якое, на думку А. Патабні, увасабляе сонца і таму мае сілу дарыць ураджай і праганяць **Смерць.** Полымя купальскага вогнішча надзялялася ачышчальнай сілай, моладзь скакала праз яго, вадзіла вакол яго карагоды. Купалле адзначалася і як свята найвышэйшага росквіту жыватворных сіл зямлі, у першую чаргу расліннасці. Верылі, што зёлкі, сабраныя на Купалле, маюць асаблівую лекавую моц. Частку іх пакідалі ў хаце на лекі, а некаторыя ўтыркалі ў сцены будынка для засцярогі. Верылі, што дрэвы ў купальскую ноч не толькі размаўляюць паміж сабою, але і пераходзяць з месца на месца. З Купаллем звязана і легенда пра **папараць-кветку,** якая расцвітае апоўначы ў самым гушчары лесу.

Разам з тым Купалле — час разгулу змрочных сіл прыроды: у гэтую ноч **ведзьмы** і **ведзьмары** імкнуцца адабраць малако ў кароў, зрабіць **заломы,** шкоду ў жыце. Таму ў купальскую ноч рабілі розныя засцярогі, звярталіся да ахоўнай магіі: кідалі ў жыта галавешкі з агнём, абтыкалі сцены хлява купальскімі зёлкамі, праганялі праз купальскае вогнішча статак. Каб не дапусціць нячыстую сілу, над уваходам у хлеў вешалі забітую **сароку** (параўн.: **Хлеўнік**) (паводле А. С. Ліса).

**КУПАЛЬСКІ ДЗЯДОК** — у павер'ях беларусаў — міфічная істота, добры чараўнік, які збірае кветкі ў ноч на **Купалле.** «Ён ходзіць з кошыкам і напаўняе яго кветкамі, таму кошык гарыць, як жар» (А. Я. Багдановіч). Згодна з павер'ем, пры сустрэчы з Купальскім дзядком трэба разаслаць перад ім белы **абрус** (па-

раўн. Здвіжанне), на які ён кіне адну кветку. Гэтую кветку трэба зберагчы ад нячысцікаў, схаваўшы яе пад надрэзаную скуру ў правую далонь. Уладальнік цудоўнай кветкі атрымлівае дар прадбачання; такі чалавек можа не толькі адшукваць схаваныя ў зямлі скарбы, але і пазбаўляць іх ад закляцця (гл. Папараць-кветка).

**КУРЫНЫ БОГ** — у рускіх народна-міфалагічных павер'ях — прадмет, які засцерагае курэй і ўплывае на іх плоднасць.

У ролі курынага бога маглі выкарыстоўвацца розныя прадметы, але, на думку прафесара Д. К. Зяленіна, яго найбольш старажытным, першасным увасабленнем была неалітычная каменная **сякера**. Гэтае меркаванне зроблена на падставе таго, што ролю курынага бога часта выконваў камень з адтулінай натуральнага (няштучнага) паходжання. У рускіх этнаграфічных крыніцах канца мінулага стагоддзя знаходзім наступныя звесткі аб гэтым прадмеце: «Гэтую назву носяць круглыя, плоскія, з дзіркай у сярэдзіне каменчыкі-валуны. У Тульскай губерніі гэтыя каменчыкі знаходзяць у рэчах і падвешваюць у куратніку да седала; па пераканаinнях сялян, яны маюць вялікі ўплыў на дабрабыт курэй, з-за чаго і называюцца «курыным богам». «Курыны бог» — чорны камень, прасвідраваны пасярэдзіне, велічынёю з гусінае яйцо, які ў такім выглядзе адшукваецца дзе-небудзь у зямлі. Курыны бог вешаецца на нітцы ў куратніку з той мэтаю, каб больш пладзіліся і зберагаліся ў гаспадара куры». А. Б. Зярнова засведчыла назву курынага бога — *Боглаз*, якой абазначалася чалавечая фігурка з некаторымі адзнакамі курыцы: «ногі заканчваліся курынымі лапамі, ад плячэй апускаліся курыныя крылы». Ролю курынага бога мог выконваць і **лапаць**, прычым, як бачна з наступнага запісу-тлумачэння, у гэтым выпадку падкрэсліваецца крыжападобнасць пляцення лапцей: «Лапоть плетётся крестом, а крест от нечистой силы защитник; поэтому иногда, прежде чем вешать лапоть, его моют в богоявленской воде и кладут внутрь его соломенный крест».

Функцыямі, уласцівымі курынаму богу, надзяляліся самыя розныя прадметы сялянскага штодзённага ўжытку, якія мелі адтуліну або скразную дзірку: гаршчок, гарлач, кошык без дна або з дзіркамі. Выкарыстоўвалі для гэтага і проста стары гаршчок: «На том месте двора, где находятся насести для кур, ставят высокий шест и надевают на него старый горшок, называемый «куричьим богом», так как в этом горшке селится дух, покровительствующий курам».

Нарэшце, у некаторых выпадках сустракаюцца сведчанні аб накіраванасці курынага бога супраць **Кікімары** — злога дамашняга духа, які можа шкодзіць курам. На Валагодчыне, напрыклад, камень з прыроднай адтулінай называлі «кикиморой одно-

глазым» і падвешвалі ў куратніку для засцярогі курэй ад Кікімары. Аналагічнае павер'е-засцярога зафіксавана ў слоўніку У. І. Даля: «Чтобы кикимора кур не воровала, вешают под насестью, на лыке, отбитое горло кувшина».

**КУЦЦЯ** — абрадавая страва ва ўсходніх славян; каша з тоўчаных ячных круп ці пшаніцы. Культ куцці найбольш захаваўся ў Беларусі, дзе да нашых дзён куцця выкарыстоўваецца як рытуальная ежа ў час **Калядаў.** Словам *куцця* называліся дні напярэдадні **Ражаства,** Новага года і **Вадохрышча**: пярэдадзень Ражаства (першы дзень Калядаў) меў назву *вялікая* (адначасова яна ж — *бедная, посная) куцця,* пярэдадзень Новага года (Шчадрэц) называўся *багатая* (*шчодрая, мясная, тоўстая*) *куцця,* а дзень перад Вадохрышчам — *вадзяная (посная) куцця.* Такім чынам, на працягу Калядаў спраўляліся тры куцці — дзве посныя і адна шчодрая (скаромная). Адпаведна посная куцця (каша) прыпраўлялася посным алеем, а багатая (шчодрая) была скаромнай — з салам ці жывёльным маслам. Згодна з традыцыяй, захаванай на Беларусі, усе тры куцці гатаваліся ў адным і тым жа гаршку і з аднолькавай колькасці круп. Пры гэтым «прыкмячаюць, у якую куццю гаршчок паўней кіпіць, і таму ўгадваюць пра будучы ураджай. Так, калі на першую куццю гаршчок паўней, то ўраджай будзе лепшы ад ранняга пасеву, калі ж на другую — то сярэдняга, калі на трэцюю — то позняга» (П. В. Шэйн). Звараную куццю перад заходам сонца ставілі на **покуці** і накрывалі **хлебам.** Забаранялася каштаваць куццю ў час яе прыгатавання і перад вячэрай, а ў час абрадавай вячэры яе елі апошняй. Рэшткі куцці пакідалі на-нач на **стале** як рытуальную ежу для продкаў (гл. **Душа, Дзяды**). На Украіне куццю (разам з вячэраю) на другі дзень Ражаства насілі ў якасці пачастунка кумам, хросным бацькам, бабкам-павітухам.

З куццёй звязаны шматлікія павер'і і ўяўленні, яна выкарыстоўвалася ў магічных дзеяннях, якія, па народных перакананнях, уплываюць на лёс і жыццё людзей, ураджай і плоднасць жывёлы. Існаваў, напрыклад, звычай пасля абрадавай вячэры падкідваць рэшткі куцці да столі, каб хутчэй расла маладая скаціна і каб высока рос лён. Раніцай наступнага дня рэшткі куцці аддавалі жывёле, каб яна добра пладзілася ў новым годзе. Падсохлы верх куцці здымалі і аддавалі курам, «каб добра яйкі неслі». П. В. Шэйнам занатавана цікавае ўяўленне аб уплыве куцці на квахтанне (а значыць, на яйцаноскасць) курэй: «Калі хочаш, каб у цябе рана квахталі куры, то прывяжы белы фартух, вазьмі ім з печы гаршчок з куццёю і, несучы на покуць, квахчы, як курыца, дзевяць разоў «кво, кво, кво...» ды старайся, каб схапіць каго-небудзь за чуб: тады ў цябе будуць чубатыя кураняты».

Напярэдадні Вадохрышча ў беларускіх вёсках «запісвалі Каляду», засцерагаючыся ад уздзеяння нячыстай сілы. Для гэтага,

перш чым пачаць абрадавую вячэру, гаспадар крэйдай маляваў крыжыкі на гаршку з куццёй і хлебе, які ляжаў на куцці. Потым браў куццю, хлеб, драўляны крыжык і свяцоную ваду; крапілам, зробленым з жытных каласоў, гаспадар апырскваў дом і ўсе сядзібныя пабудовы. Крыжыкі ставіліся таксама на **дзвярах** і **вокнах**, на варотах і на кожнай сцяне дома. Крыжык і крапіла ўтыкалі ў зямлю каля варот гумна: гэтыя прадметы павінны былі магічна засцерагаць ураджай ад нячысцікаў і злога вока.

На багатую куццю (перад Новым годам), калі сама куцця ўжо стаяла на стале, звярталіся да мароза з запрашэннем есці куццю. Гаспадар, адчыніўшы акно (або проста гледзячы ў яго; гл. **Вокны**), гаварыў: «Мароз, мароз, хадзі куццю есці! Каб ты не марозіў ячменю, пшаніцы, гароху, сачавіцы, проса, грэчкі і ўсяго, што мне трэба пасеяць». А гаспадыня, набраўшы ў лыжку куцці, падыходзіла да акна, што знаходзіцца насупраць печы, і вымаўляла: «Мароз, мароз, хадзі куццю есці, каб не марозіў расады, агуркоў, гарбузоў, морквы і буракоў і ўсяго таго, што мне трэба пасеяць». Калі на другі дзень мароз слабеў, то лічылі, што ён «паеў куцці і паласкавеў», а калі мароз станавіўся мацнейшым, то гаварылі, што ён разгневаўся.

Сувязь куцці з уяўленнямі аб продках і замагільным свеце выразна праглядаецца ў наступным беларускім павер'і: «Калі ў час спажывання куцці лучына ў хаце пагасне, то хтосьці з прысутных мусіць памерці ў той год». Пад абрус, на якім стаяла куцця, падкладвалі сена; у час вячэры сцябліны гэтага сена выцягвалі і заўважалі: хто даўжэйшае сцябло выцягне, будзе і даўжэй за ўсіх жыць.

Дзяўчаты часта выкарыстоўвалі куццю ў сваіх варожбах. Напрыклад, на багатую куццю яны «кралі» куццю і кідалі яе ў міску з вадою: калі куцця наверх выплыве — дзеўка выйдзе замуж, калі ж на дно апусціцца — застанецца сядзець дома (параўн. выкарыстанне з гэтай жа мэтаю хлеба). Куццю насыпалі таксама ў кучку, давалі яе дзяўбсці **пеўню** і лічылі зярняты, што засталіся: калі цот — дзяўчына выйдзе замуж, калі ж лішка — не. Заўважалі, як паводзяць сябе куры, клюючы пакладзеную ім куццю: калі яны былі спакойныя, не біліся паміж сабой, то ў дзяўчыны, якая варожыць, будзе ціхі, спакойны муж; у адваротным жа выпадку — задзірысты і буйны. На Віцебшчыне існаваў і такі від варажбы з выкарыстаннем куцці (ён быў апісаны ў канцы мінулага стагоддзя М. Я. Нікіфароўскім): «Калі пачнуць есці куццю, дзяўчына кладзе першую лыжку не ў рот, а за пазуху; адкладзеную такім чынам куццю яна рассыпае па хаце пасля таго, як усе хатнія палягуць спаць, прыгаворваючы: «Дай Божа знаць, з кім буду спаць». Абавязкова прысніцца суджаны».

На Мазыршчыне ў канцы мінулага стагоддзя на багатую куццю ў некаторых вёсках выконваўся рытуальны дыялог, накіраваны на тое, «каб куры несліся дома». Пасля вячэры рабілі з чаго-небудзь абруч і клалі яго на падлозе, ва ўтвораны круг высыпалі рэшткі куцці. Хто-небудзь з членаў сям'і выходзіў з хаты на двор і, стоячы пад акном (гл. **Вокны**), пытаў: «А дзе вашы куры нясуцца?». З хаты адказвалі: «Пад печчу». Так паўтаралася тры разы. Потым выпускалі курэй, якія павінны былі скляваць куццю ў крузе.

# — Л —

**ЛАДА** — ва ўсходнеславянскай міфалогіі — бажаство ладу, парадку; багіня вясны, кахання, юнацтва, прыгажосці і пладароддзя. Уяўлялася прыгожай, пяшчотнай, русавалосай дзяўчынай, якая садзейнічае шлюбу, падтрымлівае **агонь** дамашняга ачага, прыносіць лад у сем'і.

**ЛАЗАВІК** — у павер'ях беларусаў — дробны нячысцік, які жыве ў лазе. Знешне Лазавік уяўляўся «старэнькім карлікам, не большым за пазногаць, аднавокім, з аршыннай барадою, які заўсёды носіць з сабою доўгую пугу». Месца знаходжання Лазавіка — лаза, што расце ў **балоце.** Асноўная роля гэтага нячысціка — гуллівасць, гарэзлівасць: ён прымушае людзей блукаць па балоце, заблытвацца ў лазе, правальвацца ў багну. Але Лазавік не дабіваецца гібелі чалавека: наадварот, ён садзейнічае таму, каб чалавек пасля розных непрыемнасцей хутчэй выбраўся з балотнай лазы, падсоўвае сваёй ахвяры куст лазы, трыснёг, аер і інш. Калі і пры дапамозе Лазавіка чалавек не можа выбрацца і гіне, то, як лічылі, ён стаў ахвярай больш буйнага нячысціка — **Багніка** або **Балотніка.**

**ЛАЗНІК** — ва ўсходнеславянскай міфалогіі — дух, які жыве ў **лазні,** небяспечны для тых, хто ў ёй мыецца. Уяўляўся ў выглядзе голага старога дзеда невялікага росту, з барадой, вялікімі рукамі, у якіх ён трымае лаханку з вадой.

Лазнік можа напужаць людзей храпам, моцным стукам, кіданнем гарачых камянёў і смецця, плясканнем кіпетню; ён можа нават, раз'юшыўшыся, абадраць скуру. Асабліва варожа Лазнік ставіцца да людзей, якія ідуць мыцца « ў чацвёртую чаргу» або пасля апоўначы, якія мыюцца п'янымі або брыдкасловяць. У адной рускай крыніцы пачатку нашага стагоддзя знаходзім наступную характарыстыку гэтага міфалагічнага персанажа: «Банник — существо весьма угрюмое и злобное, гораздо более склонное

к тому, чтобы людям напакостить, нежели им благодетельствовать. Днём он ещё держится спокойно и не трогает моющихся, но вечером и ночью он желает быть полновластным хозяином в бане и не терпит никаких посетителей». Акрамя таго, Лазнік можа, па рускаму павер'ю, наслаць на людзей небяспечную хваробу — *банную нечисть* або *банную притку*.

Небяспечны Лазнік і для парадзіх, таму ў лазні, дзе адбываюцца роды, іх нельга пакідаць адных: Лазнік можа задушыць і парадзіху, і нованароджанае дзіця. У адрозненне ад іншых міфалагічных істот, Лазнік не баіцца ні крыжа, ні малітвы (параўн. **Русалка**).

Каб задобрыць Лазніка, яму пакідалі ў лазні венік, мыла і крыху вады ў тазе; Лазніку ахвяравалі таксама **чорную** курыцу (гл. **Певень**). Калі заўважалі, што Лазнік пачынаў небяспечныя свавольствы, то раілі хутка выйсці з лазні задам наперад.

**ЛАЗНЯ** — у міфалагічных павер'ях усходніх славян — небяспечнае месца; пабудова, звязаная з дзейнасцю нячыстай сілы.

На думку этнографа А. К. Байбурына, сувязь лазні з негатыўнымі ўяўленнямі тлумачыцца перш за ўсё тым, што лазня ў народнай свядомасці асэнсоўвалася як месца сутыкнення, барацьбы двух небяспечных і магутных стыхій — стыхіі **вады** і стыхіі **агню**, спалучэнне якіх можа прывесці да цяжкіх, нават смяротных вынікаў. Невыпадкова, што лазня як «нячыстая» пабудова звычайна знаходзіцца не побач з домам і хлевам, а на мяжы, на самым канцы сядзібы. Даволі распаўсюджанай з'яўляецца забарона-павер'е на пабудову новага дома на тым месцы, дзе раней знаходзілася лазня. Слова *банище ў* рускай мове У. І. Даль тлумачыў наступным чынам: «место, где баня стояла; оно почитается нечистым, и строить на нём жилое, избу не годится». Лазня выкарыстоўвалася таксама як месца традыцыйных калядных варажэнняў. Пры гэтым рытуальная «нячыстасць» лазні падкрэслівалася тым, што дзяўчына, якая апоўначы накіроўвалася для варажэння ў лазню, сімвалічна «ператваралася» ў ведзьму: здымала з сябе нацельны крыж, **пояс**, распускала валасы, заставалася ў адной сарочцы. У лазні маглі адбывацца і іншыя рытуалы «чорнай магіі»: напрыклад, вядзьмар «выймаў» з зямлі след ненавісніка і спальваў яго з замовамі апоўначы ў лазні, імкнучыся выклікаць хваробу ці нават смерць таго, на каго быў накіраваны гэты рытуал. У рускіх гаворках сустракаецца назоўнік *банное* са значэннем «тое, што мае дачыненне да лазні і лічыцца ў вышэйшай ступені нячыстым»: *Банному и молитва не читается.*

Выразная сувязь лазні са сферай нячыстай сілы праяўляецца ў тым, што яна з'яўляецца месцам знаходжання небяспечнага духа — **Лазніка**.

**ЛАПЦІ.** Характэрнымі асаблівасцямі гэтага традыцыйнага сялянскага абутку з'яўляецца крыжападобнае перапляценне лыка, а таксама завязванне на лапцях лыка і абораў. Можна меркаваць, што менавіта засцерагаючы характар крыжа і традуцыруючая сімволіка вузла з'явіліся асновай выкарыстання лапцей у якасці магічных прадметаў. Асаблівай магічнай значнасцю надзяляліся старыя, паношаныя лапці. На думку А. Б. Страхава, старыя лапці з'яўляюцца матэрыяльным сімвалам доўгага і цяжкага падарожжа ў замагільны свет ( і вяртання адтуль) **продкаў**, якія спрыяюць дабрабыту, засцерагаюць жывых ад ліхога вока і ўздзеяння нячыстай сілы. У Тамбоўскай губерніі яшчэ ў пачатку нашага стагоддзя вязанкі старых лапцей («осмётков») колькасцю да ста штук вешалі каля варот і дзвярэй ад ліхога вока. Характэрна, што мясцовыя сяляне давалі тлумачэнне гэтаму звычаю, якое ўжо не ўтрымлівала ўяўлення аб лапцях як аб магічным сродку: «Вишь ты, как взойдёшь во двор, да видя такие лапти уже и подумаешь о них да подивишься, к чему они висят? Стало быть, с первого раза и сломишь над лаптями глаз, тогда уже не сглазишь на дворе ни скотины, ни в избу пришедши — сидящих за работою баб...». Ніжагародскія сяляне для засцярогі жывёлы ад «коровьей смерти», якая ўяўлялася ў выглядзе старой жанчыны, вывешвалі на хлявах абмазаныя ў дзёгаць лапці (гл. **Каровіна смерць**).

Каб **дзяжа** «выправілася» і ў ёй удаваўся хлеб, яе акурвалі, падпальваючы стары лапаць. У некаторых рускіх вёсках такім жа чынам акурвалі карову перад ужываннем яе малака праз тыдзень пасля ацёлу. Пры навaселлі, пераходзячы ў новы дом, абавязкова запрашалі з сабой Дамавіка. Для гэтага клалі пад **печ** стары лапаць і са словамі «Дамавік, Дамавік, сядай у сані, паедзем з намі!» «перавозілі» Дамавіка ў новы дом. Для вывядзення прусакоў няцотную колькасць забітых або пакалечаных насякомых вывозілі, вымаўляючы заклінанне, у лапці з хаты на перакрыжаванне дарог, дзе іх «хавалі ў магілу». Адзін з абрадаў выклікання дажджу заключаўся ў забіванні жабы, «перавязенні» яе ў лапці да месца «пахавання» і рытуальнага галашэння над ёй.

Лапці выкарыстоўваліся і ў якасці магічнага сродку, які, як лічылася, мог уплываць на плоднасць жывёлы і ўраджайнасць раслін. Напрыклад, калі гаспадыня заўважала, што на гурках дрэнная завязь і шмат пустацвету, яна валачыла па гурковых градах стары лапаць, прыгаворваючы: «Як густа гэты лапаць плёўся, так каб і гуркі мае пляліся». Смаленскі селянін, у якога, па заўвазе этнографа-збіральніка, вакол агарода амаль на кожным калу вісеў стары лапаць, наступным чынам тлумачыў гэтую сітуацыю: «Коли б не эти лапти, у меня бы такой капусты не

было: либо червь бы съел её, либо какая мошка навалилась бы...» Сяляне Вятскай губерніі падвешвалі старыя лапці каля дахаў хлявоў з тлумачэннем «чтоб скотина лучше велась». Вядома таксама выкарыстанне лапцей у ролі так званага **«курынага бога»** — магічнага прадмета, які не толькі захоўваў курэй ад сурокаў, але і ўплываў на іх яйцаноскасць. Для гэтага стары лапаць на аборцы вешалі на седала. У наступным этнаграфічным запісе асабліва яскрава падкрэсліваецца засцерагаючая роля лапця — «курынага бога»: «Лапоть плетётся крестом, а крест от нечистой силы защитник; поэтому иногда, прежде чем вешать лапоть, его моют в богоявленской воде и кладут внутрь его соломенный крест». На думку Д. К. Зяленіна, вывешванне старых лапцей — гэта своеасаблівы дар продкам зручнага для іх старога, разношанага абутку, ахвяраванне памершым, каб яны клапаціліся аб хатніх жывёлах.

У Расіі было вядома выкарыстанне старых лапцей і ў вясельнай абраднасці як сродку, уплываючага на поспех шлюбу і працяг роду. Напрыклад, сяляне Разанскай губерніі, каб сватанне было паспяховым, кідалі ў спіну свахі стары лапаць у той момант, калі яна накіроўвалася сватаць нявесту. У Казанскай губерніі, калі вянчаўся ўдавец, хлопчыкі і дарослыя хлопцы падыходзілі да царквы з ахапкамі зношаных лапцей і, як толькі з царквы выходзіў малады, закідвалі яго старымі лапцямі. Рабілася гэта ў поўнай упэўненасці ў тым, што без гэтага шлюб удаўца будзе нешчаслівым.

**ЛЕСАВІК.** **Гл. Лясун.**

**ЛІХА** — ва ўсходнеславянскай міфалогіі — увасабленне злой долі, гора, няшчасця. Уяўлялася ў выглядзе бабы вялізнага росту, з адным вокам. Жыве Ліха ў старым млыне або ў лесе, спіць на ложку з чалавечых касцей. Ліха на сваім шляху валіць дрэвы, засыпае рэкі і азёры, не праяўляе літасці ні да звяроў, ні да чалавека: усе сустрэчныя жывыя істоты Ліха разрывае на часткі і з'ядае.

У рускай народнай казцы «Лихо одноглазое» каваль, які «жыў прыпяваючы, ніякага ліха не ведаў», пайшоў ліха шукаць і сустрэўся з ім у глухім лесе:

«Стал было уже засыпать кузнец, как дверь отворилась и вошло в избу целое стадо баранов, а за ними Лихо, баба огромная, страшная, об одном глазе. Понюхало Лихо по сторонам и говорит:

— Э, да у меня никак гости: будет мне, Лиху, что позавтракать, давненько я человеческого мяса не едало.

Вздуло Лихо лучину и стащило кузнеца с печи, словно ребенка малого.

— Добро пожаловать, нежданный гость, спасибо, что забрёл; чай, ты проголодался и отощал, — и щупает Лихо кузнеца, жирен ли; а у того животики от страху подвело...».

У фінале казкі яе герой прыходзіць да ўласнага разумення таго, што ж такое ліха:

«Вскочил кузнец и давай бог ноги. Прибежал домой; знакомые его спрашивают:

— Отчего ты поседел?

— У Лиха переночевал, — говорит кузнец. — Знаю я теперь, что такое лихо: и есть хочется, да не ешь, и спать хочется, да не спишь».

**ЛІХАМАНКІ** — у міфалагічных уяўленнях — жанчынападобныя істоты, якія выклікаюць у людзей цяжкія захворванні. Агульнапашыраным з'яўляецца ўяўленне аб тым, што Ліхаманкі — дочкі біблейскага цара Ірада. Па беларускіх павер'ях, Ліхаманкі (*Трасцы, Хіндзі*) жывуць на **асіне**, з-за чаго гэтае дрэва заўжды дрыжыць. Менавіта таму ў беларускай замове ад ліхаманкі знаходзім звяртанне да асіны: *«Асінка, асінка! Вазьмі маю трасцынку, аддай маё здароўе!»*. У народным разуменні, Ліхаманка — гэта жывая істота, якая ўсяляецца ў чалавека і мучае яго, пакуль не будзе выгнана замовамі ці чароўнымі дзеяннямі. Колькасць Ліхаманак называецца рознай — ад сямі да дзевяноста дзевяці. У адной рускай замове з'яўленне Ліхаманак тлумачыцца як пакаранне людзей за іх грахі: «Святые отцы их (Ліхаманак — У. К.) вопрошают: куда вы идёте? И две им отвечают: мы идём к разным людям тела сушить, кости ломить за то, что они постов не соблюдают, заутрени просыпают...».

Беларусы ўяўлялі Ліхаманку халоднай маладой прыгажуняй або, наадварот, у вобразе злой, брыдкай старой жанчыны. У некаторых расійскіх мясцовасцях верылі, што ўсіх Ліхаманак-сясцёр дзевяць, і нячысцік час ад часу спускае іх з ланцуга, каб яны ўсяляліся ў людзей. Ліхаманкі маюць крыллі, лятаюць у паветры, выглядаючы свае ахвяры. Звычайна Ліхаманкі падкрадваюцца да спячага чалавека, цалуюць і больш не пакідаюць яго.

Для таго, каб задобрыць небяспечную хваробу, яе называлі *Ліхаманкай Іванаўнай, Мар'яй Ірадаўнай, сястрыцай, дабрухай, цёткай, госцюшкай*. У Ніжагародскай губерніі хворыя на ліхаманку прыносілі дванаццаці Ліхаманкам на ростані дванаццаць піражкоў, запечаных у адзін агульны пірог, перапаясаны **поясам** хворага. Ліхаманку, па народных павер'ях, можна было і запалохаць. Для гэтага пад ступу клалі штаны, сарочку, пояс і крыж хворага, гаворачы: «Марья Иродовна, отпусти его, не то я тебя под ступой заморю; коли не оставишь, я тебя не выпущу!».

Разнастайныя звесткі аб Ліхаманках утрымліваюцца ў тэкстах народных замоў. Так, нярэдка ў іх гаворыцца аб колькасці Ліхаманак, іх знешнім выглядзе і паходжанні: «Было ў Ірада дзевяць-сем дочак...», «Дванаццаць жон, босыя і праставалосыя, беспаясыя...», «Святы Аўрам з сынам сваім Сакам... стрэлі семдзесят сем жон, голых, босых і праставалосых», «Мы жены-трясовицы, Лихорадки, кумохи, ворчуши, дочери царя Ирода, жены бесовские, роду нечистого, нас двенадцать главных, злых, прочих нас разных несколько тысяч без числа есть, знаемых и незнаемых...», «Идут к ним двенадцать дев с моря, пустоволосые, страшные и безобразные». У многіх замовах персаніфікацыя Ліхаманак дасягае яшчэ большай ступені праз надзяленне іх імёнамі ўласнымі. У асобных выпадках гэтыя імёны амаль нічым не адрозніваюцца ад звычайных імёнаў людзей: «Госпадзі! Сакруці ад раба дванаццаць сясцер-ліхарадак: Арыну, Польку, Кацьку, Аўдоццю, Праскоўю, Дамнеку, Ампіяду, Хоўру, Марушку, Хрузку, Яўгешку, Фяклушку». У большасці ж выпадкаў (пераважна ў рускіх замовах) Ліхаманкі надзяляюцца імёнамі, праз якія выражаюцца тыя або іншыя праяўленні хваробы: «...и пошли мучить род человеческий тяжёлыми болезнями и нареклись именами: Трясея — трясёт человека, Ледея — придает холод, Гнетея — слабит внутри, Глядея — когда человек спит и смотрит, Желтея — выпускает желчь на человека, Глухея — закладывает уши, Ломлея — ломит голову и кости, Пухлея — утробу разносит, Хриплея — в груди хрипит, Огнея — в жар приводит, Сведея — в руках и ногах жилы сводит, Невианна — всех лютей и проклятей из дочерей царя Ирода: усекла голову Иоанну Предтече...». Не менш выразныя і іншыя «гаворачыя» імёны Ліхаманак, што сустракаюцца ў рускіх замовах: Зевота, Блевота, Потягота, Сухота, Горбуша, Шалая, Чёрная, Дряхлая, Кашлея, Вертея, Бесица, Зябуха, Битиха, Корчея, Расслабея, Харкота, Безумная, Скорбная і інш. Адзначаюцца таксама зусім нерэальныя, выдуманыя імёны Ліхаманак — відавочна, для таго, каб надаць замовам яшчэ большую таямнічасць, фантастычнасць: Каса, Орыста, Имарто, Усма, Месора, Олуга, Переанда, Рофея, Олуша, Греста, Серпугла, Везеяна, Февоя, Руньша, Спея, Хампоя...

У беларускіх народных замовах можна сустрэць назвы розных постацей Ліхаманкі (Трасцы), у якіх «зашыфравана» прычына з'яўлення або асаблівасць праяўлення хваробы: «Трасца смяротная», якая выклікае смерць без выключэнняў; «Трасца ўнутраная», якая паражае вантробы; «Трасца павярхоўная», калі «скура выбіваецца наверх»; «Трасца касцявая», якую суправаджае ламата ў касцях; «Трасца пудавая», якая ўзнікае з перапуду; «Трасца лістаадзяватная», якая пануе ўвесну; «Трасца лістаападная», ці восеньская; «Трасца гарохавая», якая пануе,

калі гарох цвіце; «Трасца асінавая»; «Трасца ядленьцавая»; «Трасца агнявая»; «Трасца ледавая».

Магічнымі сродкамі барацьбы з Ліхаманкамі ў замовах выступаюць персанажы (імёны) святых, розныя металічныя прадметы (параўн. **Сякера, Віхор**), а таксама магічнае адсыланне Ліхаманак у глухія, безжыццёвыя мясціны: «Вас, Хіндзяў, семдзесят сем, прыйдзіце, я есці дам усем. Паю віном, гадую кіслым малаком, адпраўляю на вякі вякоў, загараджаю жалезным платом. Б'ю, убіваю, дарогу паказваю. На ніцыя лозы, на быстрыя воды, на крутыя горы. Дзе голас не слыхаць, дзе вам, Хіндзям, прападаць»; «Услышаў Гасподзь малітвы ўгоднікаў, паслаў чатырох евангелістаў — Івана, Марка, Луку, Матвея, даў ім па пруту жалезным. Яны далі ім па трыдзесяць ран. Узмаліліся Госпаду злыя трасавіцы: «Не давайце нам ран, угоднікі божыя грозныя, мы не будзем мучыць раба Божага Івана бальнога да другога прышэствія!»; «Святыя отцы дали Лихорадкам по три тысячи ударов железными прутьями, и они стали молиться и заклинаться — от роду человеческого бежать за триста поприщ...».

Па беларускаму павер'ю, Ліхаманкі ператвораны ў семдзесят сем мух, якія стараюцца трапіць у страву і быць праглынутымі тым ці іншым чалавекам. Але варта толькі злавіць такую муху, завязаць у анучку і падвесіць у **коміне** — і ніякая Ліхаманка не прыстане да чалавека ўсё яго жыццё.

**ЛЮСТЭРКА** — у народна-міфалагічным асэнсаванні — тварэнне нячыстай сілы і адначасова сродак кантакту з ёю; прадмет, з дапамогай якога можна наведаць «той свет» і сустрэцца з продкамі, даведацца аб будучым лёсе. Разам з тым люстэрка выкарыстоўвалася і як апатрапей: да яго звярталіся, каб пазбегнуць гарэзаў **Дамавіка.**

Агульнавядомы прадпісанні ізаляцыі ад люстэрка нованароджанага дзіцяці, цяжарнай жанчыны і нябожчыка — асоб, агульнай прыкметай якіх з'яўляецца пераход ад інабыцця да жыцця ці, наадварот, ад жыцця да інабыцця (смерці). Гэтыя павер'і суадносяцца з уяўленнямі аб шкоднасці позірку паміраючага: гэты позірк «разбурае» свет, ён небяспечны для ўсяго жывога. Адсюль — шырока распаўсюджаны звычай закрываць (завешваць) усе люстэркі ў доме, дзе знаходзіцца труна з нябожчыкам: тым самым забяспечваецца немагчымасць бачання (адлюстравання ў люстэрку) **Смерці**, якая можа «зацягнуць» да сябе.

Як перасцярога ад кантактаў з нячыстымі, шкоднымі сіламі выступаюць забароны глядзецца ў люстра ў час ежы, прычэсвання валасоў, а таксама перад сном. Гэтыя павер'і заснаваны на ўяўленнях аб магчымасці навядзення порчы, якая затым можа перадацца чалавеку.

Люстра выражае таксама ідэю дваістасці, другой натуры, не-

матэрыяльнага эквівалента чалавека — яго душы. З гэтай ідэяй звязана вядомая прыкмета «калі люстэрка паб'ецца, гэта вельмі дрэнны знак», бо гэты факт у міфалагічным асэнсаванні абазначае разбіванне ўласнай душы. Распаданне люстра (месца знаходжання душы) на асобныя кавалкі вымагала адпаведных магічных дзеянняў: «трэба хуценька, пакуль ніхто не ўбачыў, венікам тры разы на шкельцы брызнуць і выкінуць». Падобныя дзеянні накіраваны на нейтралізацыю небяспечных уплываў на ўласную душу (паводле Т. В. Валодзінай).

Даволі часта люстэрка выкарыстоўвалася і ў дзявочых варожбах. Адно са шматлікіх апісанняў такой варажбы знаходзім у рабоце А. Багдановіча «Перажыткі старажытнага светапогляду ў беларусаў»: «Трэба, замкнуўшыся ноччу ў лазні і паставіўшы перад сабой люстэрка, а па баках яго дзве свечкі, глядзець у люстэрка не міргаючы, не адрываючы вачэй і не азіраючыся па баках. Хто не палахлівы і выканае ўсе ўмовы ў дакладнасці, той убачыць усё, што чакае яго наперадзе».

**ЛЮЦЫПАР** (руск. Люцифер) — у міфалагічных уяўленнях усходніх славян — старэйшы, галоўны **Чорт**; сатана. Вобраз Люцыпара сфарміраваўся пад уплывам вядомай хрысціянскай легенды аб скіданні Богам на Зямлю нячысцікаў. Варыянт такой легенды, у якой расказваецца пра паходжанне Люцыпара, быў запісаны беларускім і польскім этнографам і фалькларыстам Чэславам Пяткевічам: «Адзін старшы анёл, узбунтаваўшыся, хацеў лабратацца з Богам, а Бог яго так піхануў, што ён паляцеў сторч галавою ў пекла ды і зрабіўся там чортам Люцыпарам».

Па звестках, змешчаных у кнізе М. Я. Нікіфароўскага «Нячысцікі», Люцыпар — гэта «галава чартоўскай сілы, верхавод злосных дзеянняў у свеце», «сатанінскі гігант з буйнымі формамі і выразнасцю, якой баяцца нават падуладныя яму чэрці; важыць столькі, колькі ўсе нячысцікі, узятыя разам». Адзнакамі вярхоўнай улады Люцыпара з'яўляюцца жалезная карона, прыбітая да чэрапа цвікамі, і жалезныя вілы, якія ён трымае ў правай, з магутнымі кіпцюрамі, лапе. Пры дыханні Люцыпар выпускае з ноздраў і пашчы вогненныя промні, якія на далёкую адлегласць падпальваюць усе сустрэчныя прадметы (параўн.: **Жыжаль, Пякельнікі**).

**ЛЯСУН** (Лесавік) — у павер'ях усходніх славян — лясны дух, увасабленне лесу. У рускай мове, акрамя агульнапашыранага слова **Леший**, сустракаюцца назвы **Лешак, Лесной, Лесник, Лесовой, Лес, Боровик**. Украінская назва — **Лісовік**. Па знешнасці і паводзінах ад Лесуна адрозніваецца **Пушчавік**.

Лясун можа быць у выглядзе філіна, ваўка, зайца, чырвонага пеўня, кошкі, сабакі, свінні, але найчасцей ён уяўляецца ў выглядзе чалавека. Звычайна Лясун апісваецца ў народных паданнях

і легендах як стары чалавек вялікага росту з **белым**, як бяроста, тварам, з вялікімі вачыма, у звярынай шкуры. Па іншых павер'ях, у Лесуна доўгі сплюшчаны наперад твар, востраканечная галава, клінападобная барада, толькі адно вока і адна нага, пяткаю наперад. Лічылі таксама, што ў яго няма ні павекаў, ні броваў; акрамя таго, у яго сіняя кроў і ад яго няма цені. У некаторых выпадках Лесуна ўяўлялі ў больш «звярыным» абліччы: з рагамі на галаве, з капытамі. Лясун мог прыняць выгляд і падарожніка, старэнькага дзядка ў **белай** вопратцы, конніка, фурмана, або голага, з зялёнымі вачыма, доўгімі валасамі і барадой чалавека. Характэрная асаблівасць Лесуна — яго здольнасць мяняць свой рост: ён можа дасягаць вышыні самых высокіх дрэў, а на лясных палянах ён становіцца ва ўзровень з травой. Па меры таго, як Лясун аддаляецца ад чалавека, ён павялічваецца ў росце і робіцца вялікім волатам. Валасы Лясун зачэсвае налева, левы бок яго вопраткі захінаецца на правы, левы лапаць — на правай назе, ён ніколі не падпярэзваецца (гл. **Пояс**). Лясун можа сядзець на асінавым пні (гл. **Асіна**) або на вывернутым бурай дрэве.

Асноўная роля Лесуна — ахова лесу, у якім ён жыве; ён валодае таксама ляснымі звярамі і птушкамі, пераганяе час ад часу па лесе розных звяроў. Сустрэча з Лесуном апісваецца ў адной беларускай легендзе: «Мы бачым перад сабой незразумелы цуд. Лясун ідзе па бору, галавою вышэй над соснамі, а перад ім выбягае на паляну агромністае стада вавёрак, зайцоў, сарнаў і іншых звяроў; у паветры стаі цецерукоў, курапатак і іншых птушак адлятаюць прэч. Лясун выходзіць з лесу, меншае ў малога карла, і адразу з поля і з лугоў падняліся матылі і іншыя насякомыя, і як бы цёмная хмара накрыла ваколіцу...».

Месца знаходжання Лесуна — ад узлесся да ўзлесся, а ў самай глыбіні лесу, у гушчары знаходзіцца яго дом, дзе жывуць яго жонка і дзеці. Звычайна Лясун не сядзіць дома, а ходзіць па лесе, адпачывае і начуе ў выпадковых месцах — на верхавінах высокіх дрэў, у дуплах, у густым зарасніку буралому. Часта Лясун збівае з правільнага шляху людзей, прымушае іх доўгі час блукаць па лесе, праходзіць па некалькі разоў па адным месцу, заводзіць сваю ахвяру ў самы гушчар. Пацяшаючыся над сваімі ахвярамі, Лясун рагоча, пляскае ў далоні, свішча. Тыя, хто нейкі час знаходзіліся ва ўладзе Лесуна, вяртаюцца да звычайнага жыцця, але становяцца **чараўнікамі** і падтрымліваюць свае адносіны з Лесуном і іншымі нячысцікамі. Лесуны забіраюць да сябе дзяцей, якія зневажаюць сваю маці, або тых дзяцей, якіх маці праклінаюць апоўдні.

Лясны дух, як лічылі, жыве ў лесе толькі ў цёплы час года, а восенню ён правальваецца скрозь зямлю. Вось як апісваецца

гэта ў рускім павер'і: «На Ерофея (17 октября) Лешие пропадают. Крестьяне в этот день в лес не ходят. Всю ночь на Ерофея-мученика и весь день Лешие безобразничают, а к утру, после первых петухов, проваливаются сквозь землю и появляются на ней вновь, когда она оттает весной».

Выратавацца ад уздзеяння Лесуна можна, апрануўшы вопратку навыварат, надзеўшы абутак з левай нагі на правую, або, нахіліўшыся, паглядзець назад сабе пад ногі. Раілі таксама для абароны ад Лесуна насіць пры сабе кавалачак ліпавага дрэва, ачышчаны ад кары.

Разам з тым Лясун можа і дапамагаць чалавеку: паказвае грыбныя і ягадныя мясціны, наганяе ў бок паляўнічых звяроў і птушак, паказвае бортнікам месцы для ўстаноўкі калод. У асаблівай дружбе Лесуны жывуць з пастухамі, якія з дапамогай замоў і розных магічных дзеянняў наймаюць Лесуноў пасці статак і ахоўваць яго ад няшчасных выпадкаў і нападзення звяроў. У выпадку прапажы хатняй жывёлы, калі тая пaслася каля лесу, лічылі, што яе забраў да сябе Лясун. Каб задобрыць яго, на раскрыжаванне лясных дарог прыносілі хлеб, соль, гарэлку, тытунь.

Па беларускаму павер'ю, для таго, каб уступіць у сувязь з Лесуном, неабходна ў **Купальскую ноч** пайсці ў лес, стаць на **асінавы** пень тварам на поўнач і сказаць: «З'явіся не ваўкам-зверам, не воранам-птушкай, а такім, як я сам!». Лясун неадкладна з'яўляецца ў чалавечым выглядзе і за сваю будучую службу патрабуе душу выклікаючага пасля яго непазбежнай смерці ў лесе. Рускія сяляне на Валагодчыне для выклікання Лесуна раілі ноччу ў **чацвер** на перадвелікодным тыдні прыйсці ў лес і, зняўшы з шыі крыж, закапаць яго ў зямлю, а потым сказаць: «Валадар лясны, ёсць у мяне да цябе просьба», — і Лясун абавязкова з'явіцца.

## — M —

**МАРА** — ва ўсходнеславянскай міфалогіі — злы дух, увасабленне **Смерці,** мору; бажаство зла і варажнечы; нябачная днём здань, якая робіць свае справы ноччу.

Беларусы ўяўлялі Мару чалавекападобнай істотай ростам з маленькае дзіця, скура якой пакрыта поўсцю або рэдкім кароткім пер'ем (параўн. **Кікімара,** у тым ліку і меркаванні аб паходжанні гэтага слова). У адной беларускай былічцы Мара апісваецца як істота, «падобная да чалавека, але не мела на сабе шкуры і былі відаць усе ўнутранасці» (параўн. **Маўкі**). Адна з асаблівасцей Мары — здольнасць да змены выгляду. Аб гэтым

сведчыць змест беларускай легенды «Пра Мару»: «Мару бачылі на кані. Калі яе злавілі, пачала яна змяняцца, прыбіраючы розныя постаці, найчасцей постаці звяроў. Нарэшце, змянілася ў каня. Гаспадар, доўга не думаючы, узяў і падкаваў яго. Вярнуўшыся дадому, убачыў, што ў яго хаце сядзіць жанчына, у якой з рук цячэ кроў. Прыгледзеўся, а на іх падковы». Па павер'ях, запісаных Еўдакімам Раманавым, Мара — «нейкая вялізная жахлівая істота на кароткіх лапах, абавязкова **чорная**, якую дзеці вельмі баяцца. Калі Мара рухаецца, ад яе зыходзяць металічныя гукі, як аддаленыя ўдары ў металічны кацёл». На беларускім Палессі, як зазначаў Чэслаў Пяткевіч, Мару ўяўлялі нават у выглядзе нежывых прадметаў: шкілета (параўн. **Смерць**), труны, шыбеніцы, асмаленага пня, **калоды**. Гэтым этнографам было запісана і паданне пра Мару «з мястэчка Петрыкава», дзе «штодня ў летнія месяцы на досвітку паяўлялася Мара ў вобразе тоўстай вертыкальнай **калоды**, удвая вышэйшая за чалавека, на вельмі кароткіх нагах, падобных на барсучыныя лапы. Яна стаяла нерухома пры ўездзе ў мястэчка, енчыла чалавечым галасам і з усходам сонца знікала. Як яе пазбавіліся — невядома, але народ згадвае яе не толькі ў казцы, але і ў размовах, у прыслоўях. Калі хто каму дакучае, кажуць: «Надаеў, як Мара петрыкаўская. Чаго ты прыстаў, як Мара петрыкаўская...».

Мара ўвасабляла таксама трывожны, неспакойны сон, непрыемныя адчуванні, якія ўзнікаюць у спячага чалавека. Лічылі, што яна перашкаджае дыханню ў час сну, ціснучы на грудзі і горла. Пры гэтым яна «падае на ахвяру неадчувальна і не адразу, а цішком, прычым першае яе дакрананне нават прыемнае. Адступаецца ж Мара ад ахвяры імкліва, пакінуўшы пасля сябе ў соннага знямелыя рукі ці ногі ды вялікі пот на твары і целе» (М. Я. Нікіфароўскі).

Па ўкраінскіх павер'ях, Мара з'яўляецца дачкой **Чарнабога**, яна ходзіць па вёсках з галавою пад пахаю і выгуквае імёны гаспадароў; хто адгукнецца на вокліч Мары, той і памірае. Мара не толькі душыць спячых, але і п'е іх кроў (гл. **Вупыр**). Украінцы верылі таксама, што Мара ганяецца за багіняй неба **Калядою**, імкнучыся перашкодзіць нараджэнню новага сонца і ўстанавіць вечную ноч.

Мара — гэта і агульная назва нечысці. Пудзіла Мары — увасабленне нечысці — спальвалі ў Купальскую ноч (гл. **Купалле**) або тапілі ў вадзе. Згодна з украінскім звычаем, у першы дзень **Калядаў** спальвалі сімвал Мары — **калоду**.

Магічнымі сродкамі абароны ад Мары з'яўляюцца павешаная ў хляве **сарока**, пакладзеныя на **парозе** хаты ці хлява (крыжападобна) **венік** і **сякера**, а таксама **абыдзённік**.

**МАЎКІ** — ва ўсходнеславянскай міфалогіі — злыя духі, увасабленне дзіцячых душ. Рускія назвы — *мавки, навки* (ад *навь* «увасабленне смерці»), украінскія — *нявки, бісиці.*

Згодна з павер'ем, маўкамі становяцца душы дзяцей, якія нарадзіліся мёртвымі або памерлі да хрышчэння. Маўкі спераду маюць чалавечае цела, але спіны ў іх няма, таму відны ўсе іх вантробы; яны не адлюстроўваюцца ў вадзе, у іх няма ценю. Маўкі маюць выгляд прыгожых маладых дзяўчат, якія сваімі спевамі і прываблівым выглядам заманьваюць хлопцаў і маладых мужчын і лаcкочуць іх да смерці. У адрозненне ад **Русалак,** у мавак доўгія льняныя валасы.

Па ўкраінскіх павер'ях, маўкі лятаюць у паветры на **Троіцыным** тыдні ў выглядзе птушак і просяць сабе хрышчэння крыкамі: «Хрысту, Хрысту!». Лічылася, што ў такіх выпадках трэба кінуць якую-небудзь хусцінку, назваць імя і сказаць: «Хрышчу цябе». Пасля гэтага **душа** немаўляці трапляе ў **рай.** Калі ж гэты абрад не здзейсніцца да сямі год, то дзіця ператвараецца ў Русалку.

Засцярогай ад мавак служылі цыбуля, часнок і палын.

**МЕСЯЦ** (астранамічнае цела) ў народных павер'ях асэнсоўваўся ў негатыўным плане ў асноўным з-за сваёй непарыўнай сувязі з ноччу — часам дзейнасці і актывізацыі нячыстай сілы. Менавіта пры святле месяца гушкаюцца на галінах дрэў **Русалкі** — асабліва небяспечныя для чалавека міфічныя істоты. Негатыўная сімволіка месяца сфарміравалася, магчыма, і пад уплывам уяўленняў аб зменлівасці, рэгулярным памяншэнні і павелічэнні памераў месяца; плямы на месяцы таксама тлумачацца сувяззю з негатыўнай падзеяй: згодна з хрысціянскай легендай, гэта — напамін аб тым, як Каін забіў свайго брата Авеля, пазайздросціўшы яму.

У многіх народных замовах (асабліва ад зубнога болю) месяц (звычайная назва яго ў замовах — маладзік) надзяляецца сувяззю з замагільным светам:

— Маладзік, маладзік, дзе ты ўчора быў?
— На тым свеце.
— А што ты бачыў?
— Гроб.
— А ў гробі што?
— Раба божага цела мёртвае.
— Ці баляць у таго раба божага зубы?
— Не, не баляць.
— Каб жа і ў гэтага раба божага не балелі.

Надзвычай адмоўна ацэньваецца ў народнай свядомасці ўздзеянне месяца (месячнага святла) на спячага чалавека (асабліва

на дзіця). Каб знішчыць шкодны ўплыў месячнага святла на ляжачае ў люльцы дзіця, раілі пад люльку нанач класці нож (параўн. звесткі аб *кіданні* ў **віхор** *нажа* або **сякеры**). Вельмі паказальнае наступнае народнае павер'е, запісанае М. Я. Нікіфароўскім: «Калыску трэба ставіць так, каб на дзіця не падалі промні месяца, якія служаць добрымі і адзінымі праваднікамі да хрышчонага дзіцяці нячысцікаў».

**МІКОЛА** — свята народнага календара ўсходніх славян, якое на працягу года адзначаецца двойчы: вясною *(Мікола веснавы)* — 22 мая і зімою *(Мікола зімовы)* — 19 снежня.

Імя святога Міколы-цудатворца вельмі шанавалася ў народзе (яго абразы меліся амаль у кожнай хаце). У шматлікіх народных легендах Мікола выступае заступнікам і памочнікам сялян, іх добрым дарадцам. Рускія сяляне, напрыклад, лічылі, што «Никола — второй после Бога заступник, покровитель земледелия и скотоводства, милостивый святой, защитник от всех бед и несчастий».

Веснавы Мікола лічыўся святам конюхаў. Каб засцерагчы коней ад **ведзьмаў**, пастухі абкурвалі жывёлу купальскімі зёлкамі (гл. **Купалле**). У народнай песні «Святы Мікола па межах ходзіць, жыта раўнуець. Дзе вымакла — там падсушыць, дзе высахла — там падмочыць». Рускія сяляне звярталіся да Міколы з просьбай аб дажджы: «Батюшка Никола! Давай дождя большого! На нашу рожь, на бабий лён поливай ведром!».

Мікола зімовы лічыўся пачаткам сапраўднай зімы: *Да Міколы няма зімы ніколі.*

**МОКАШ** — ва ўсходнеславянскай міфалогіі — багіня, ахоўніца і заступніца жанчын, адзіны жаночы персанаж з язычніцкага пантэона старажытнай Русі. Ідал Мокашы размяшчаўся ў пантэоне побач з ідалам галоўнага язычніцкага бога — **Перуна**, чым падкрэслівалася значнасць гэтай багіні ў язычніцтве. Мокашы прысвячаўся пяты дзень тыдня — **пятніца**, які звязваўся ў асноўным з негатыўнымі ўяўленнямі.

Па паўночнарускіх павер'ях, Мокаш уяўлялася жанчынай з вялікай галавой і доўгімі рукамі, якая прадзе па начах у хатах, дапамагаючы жанчынам у іх рабоце. Забаранялася пакідаць нанач кудзелю, «бо Мокаш абпрадзе». Па выконваемай ролі (прадзенні) Мокаш суадносіцца з грэчаскімі *мойрамі* — багінямі лёсу, якія прадуць ніці жыццяў людзей.

На думку этымолагаў, слова *Мокаш* звязана са словамі *мокнуць, мокры* (а значыць, са стыхіяй **вады**, вільгаці), а таксама з індаеўрапейскім словам ***mokos** «прадзенне».

**МУРАШКІ** — насякомыя, якія, па народных уяўленнях, аказваюць уплыў на пладнасць жывёлы. Для рэалізацыі гэтага ўплыву да мурашак і **мурашніка** звярталіся *пры выкананні некаторых*

магічных дзеянняў. Так, рускія сяляне Заходняй Сібіры ў Вялікі **чацвер** ішлі ў лес, дзе шукалі пень, у якім рабілі невялікае паглыбленне, куды збіралі мурашак, вымаўляючы пры гэтым замову: «Как эти муравьи плодятся, так бы и у меня, раба Божия, плодились овечки: беленькие, чёрненькие и пегенькие. Ключ и замок моим словам. Аминь». У Расіі таксама быў вядомы звычай прыносіць з лесу мурашнік і раскідваць яго ў двары, «каб жывёла лепш пладзілася». З гэтай жа матывіроўкай балгары закопвалі ў мурашнік косці авечак пасля абрадавай вячэры на **Юр'я**; сербы ў гэты ж дзень дзеля плоднасці жывёлы закопвалі ў мурашнік **яйка** і соль.

Сербскія дзяўчаты выкарыстоўвалі мурашак пры варажбе напярэдадні Юр'ева дня. Для гэтага яны выкопвалі ямкі ў зямлі і на наступны дзень назіралі, якога колеру мурашкі аказваліся ў гэтых ямках: калі яны былі жоўтыя або **чырвоныя,** то дзяўчына выйдзе замуж за маладога хлопца; калі цёмныя — за ўдаўца; калі ж мурашак у ямках зусім не аказвалася, значыць, у гэтым годзе дзяўчына замуж не выйдзе.

**МУРАШНІК.** Гл. **Мурашкі.**

## — Н —

**НАЧНІЦЫ** — у павер'ях усходніх славян — начныя жанчынападобныя дэманічныя істоты, якія па начах непакояць дзяцей, насылаюць на іх плач, крыкі (крыксы), адганяюць сон.

Звесткі аб знешнасці Начніц няпэўныя, неакрэсленыя і самыя розныя: іх уяўлялі ў выглядзе птушак, кажаноў, зданяў, радзей — у выглядзе старых жанчын з доўгімі валасамі ў **чорнай** вопратцы. Лічылі, што Начніцамі станавіліся пасля смерці **ведзьмы** ці злыя чараўніцы, якіх праклялі людзі.

Згодна з павер'ем, Начніцы адчуваюць, дзе знаходзіцца дом з калыскаю, прабіраюцца ў яго праз **вокны і дзверы** і мучаюць дзяцей. Асабліва небяспечныя Начніцы для нехрышчоных дзяцей. Засцерагаючыся ад Начніц, жанчыны-маці пасля заходу сонца не пакідаюць на дварэ пялёнкі, не выносяць у гэты час з дому дзіця, выкарыстоўваюць у якасці прадметаў-апатрапеяў **венік** і **сякеру** (кладуць іх пад калыску або ставяць каля **парога**), не купаюць дзяцей і не мыюць пялёнкі ў вадзе, якая прастаяла ў хаце цэлую ноч.

Украінцы лічылі, што Начніцы могуць быць занесены ў хату з **вадою**, таму вечарам асцерагаліся хадзіць да калодзезя. Калі ваду па якой-небудзь прычыне ўсё ж прыносілі ў хату пасля заходу сонца, то яе раілі ачысціць **агнём**, уваткнуўшы ў ваду запаленую трэсачку.

У беларускім паданні «Начніцы» гэтыя міфічныя істоты звязваюцца з воднай стыхіяй (гл. **Вада**): «Там рагочуць **русалкі**, гойдаюцца на ветках, там ломяць дзераўлякі **лесавікі** да трашчыць усялякая нечысць, а там ціхенька вылазіць з кустоў цэлая чарада Начніц... Пачалі мы прыглядацца, аж і бачым, што на самым возеры стаіць густы туман, а ў том тумане штось мітусіцца, быццам гурба дзевак махае хвартухамі. Дагадаліся мы, што Начніцы скачуць да спраўляюць сваё ігрышча... Толькі мы пралезлі праз кусты лазы, як зірном, аж там голыя Начніцы выскачылі з кустоў — да плюх, плюх у ваду...».

У адпаведных замовах («Ад Начніц») Начніцы як варожыя дзецям істоты звычайна «перадаюцца» курам (гл. **Певень**); «Курачкі-сакатушкі, вазьміце ад маладзенца начнушкі; вам, курачкам, спяваці, а маладзенцу спаці»; іх жа адсылаюць «на мхі зыбучыя, на воды бягучыя», «у шчырыя бары, у цёмныя лугі, дзе ногі не ходзяць, тавары не гоняць».

**НЯДЗЕЛЯ** — сёмы дзень тыдня, які ў народна-міфалагічнай традыцыі звязваецца са станоўчымі ўяўленнямі: «Хто родзіцца ў нядзелю, той будзе самы шчаслівы, бо яму ўсё будзе шанцаваць, будзе ўдавацца...» (А. К. Сержпутоўскі). Забарона на працу ў нядзелю звязана з хрысціянскімі ўяўленнямі аб стварэнні Богам Сусвету: шэсць дзён ён ствараў Сусвет, а на сёмы дзень адпачываў. У адпаведнасці з язычніцкімі ўяўленнямі, нядзеля — дзень **Дажджбога.**

**НЯДЗЕЛЯ** — міфічная жанчынападобная істота, увасабленне **нядзелі** як дня тыдня. Па беларускіх павер'ях, «святая Нядзелька» пужае тых, хто не выконвае забарону на працу ў **суботу** вечарам і ў **нядзелю.**

У адной беларускай легендзе Нядзеля малюецца як маладая жанчына ў **белай** вопратцы («паненка ўсянютка ў белі прыбраная»), якая просіць чалавека, каб ён яе падвёз да сваёй вёскі. Са зместу легенды, у прыватнасці, выразна відаць проціпастаўленне Нядзелі як «нячыстай» (хоць і станоўча асэнсоўваемай) істоты і **сабак** — жывёл, здольных адчуваць прысутнасць звышнатуральных істот:

«Едзе Міхась, ажно бачыць здалёк — бягуць два сабакі **белыя.** Паненка, як сабак угледзела, схавалася пад хвартук у брычцы і просіцца ў яго:

— Чалавечу, не кажы ж тым сабакам, што мяне вязеш.

Аж даганяюць сабакі і пытаюцца ў яго:

— Чалавеча, не бегла сюдэма паненка ў белі?

Ён кажа:

— Не, не бегла, не бачыў.

Яны яго памінулі дый пабеглі на сухі лес. Тады паненка ўстала і кажа:

— Добра, што ты ім не сказаў, што я — Нядзеля. Каб ім сказаў, яны б мяне разарвалі, дый ужо ў вас не было б ніколі нядзелі, быў бы толькі будзень.

Тады злезла з брычкі дый сама недзе згінула».

## — П —

**ПАВУК** у народных уяўленнях усходніх славян звязваўся з прадуцыруючай, стваральнай дзейнасцю. У міфах многіх народаў свету захавалася паданне аб тым, што менавіта павук навучыў людзей ткаць кросны, рабіць тканіну. Па народных павер'ях, снаванне і яго вынік — аснова — звязаны са стварэннем свету: «свет снаваўся», «павук свет снаваў». Згодна з хрысціянскай легендай, павук выратаваў маленькага Хрыста ад жорсткага цара Ірада.

З павуком непарыўна звязана прадуцыруючая сімволіка вузла, стваральны пачатак завязвання. Цікавы звычай, заснаваны на названай сімволіцы, апісвае Н. М. Нікольскі: «На Палессі, каб абраць добрае месца для пабудовы, перад пачаткам будовы ставяць на намечаным месцы на ноч гаршчочак з павуком і раніцаю глядзяць, ці пачаў павук «ткаць кросны», ці не; калі пачаў, дык месца добрае, калі не — шукай іншае». Лічылася таксама, што павуцінне добра «сцягвае», «звязвае» свежыя раны, хутка загойвае іх. З'ядзенне жывёлаю павука, па народных уяўленнях, садзейнічае яе апладненню: «Калі карова доўга застаецца ялавіцаю, то трэба яе пасцябаць на Вербную нядзелю вярбою і даць з'есці ў хлебе павука» (А. К. Сержпутоўскі). Параўн.: Закрутка, **Пута**. Аналагічныя ўяўленні адлюстраваліся і на моўным узроўні: у народных гаворках Гродзеншчыны зварот *з'есці павука* ўжываецца са значэннем «стаць цяжарнай па-за шлюбам»; рускім гаворкам з гэтым жа значэннем вядомы фразеалагізм *проглотить паутину*. Сапраўднае ж з'ядзенне павука (у хлебе), як сведчаць запісы А.К. Сержпутоўскага, было вядома ў народнай медыцыне як сродак барацьбы з ліхаманкаю: «Трэба падсцерагчы, як павук зловіць муху, узяць разам павуцінне, павука і муху, скамячыць у галачку, заляпіць у хлеб да і даць з'есці хвораму. Як толькі ён гэтае пракаўтне, так трасца з яго і выскачыць».

Даволі распаўсюджаны народныя прыкметы аб тым, што павук можа сваімі паводзінамі прадказваць надвор'е. Наступныя прыкметы былі запісаны ў канцы мінулага стагоддзя ў Тамбоўскай губерніі: «Паук не раскидывает своих сетей для ловли насе-

комых с обычным старанием — перед дождем или бурей; нередко перед наступлением непогоды пауки сами уничтожают сотканную ими паутину и поспешно забираются в щели; если же паук снова принимается за работу или же заделывает изъяны в своих тенетах, то это предвещает перемену погоды к лучшему; когда же он прилагает к своей работе особое старание, то можно почти наверняка предугадать продолжительную ясную погоду».

Словам *павук* у Беларусі называюць выраблены з саломы прадмет — кампазіцыю ў выглядзе ромба, шара ці зоркі. Такі павук з'яўляўся традыцыйным упрыгожваннем інтэр'ера беларускага народнага жылля. Павука падвешвалі над сталом: лічылася, што ён прыносіць шчасце, спрыяе шлюбу і нараджэнню дзяцей. Уяўленні аб тым, што саламяны павук мае дачыненне да шлюбнай сімволікі, выразна адлюстраваліся ў вершы Г. Каржанеўскай «Саламяны павук»:

Саламяны «павук»... Невыносная лёгкасць прасторы.
Залатыя пустоты — ад неба і хлеба, і з іх
Саштукована дзіва: трохкутнікі, ромбы, узоры.
Галаву задзярэш — утрапенне, міжвольны ўздых.
Незвычайнай такой не здавалася б, пэўна, салома,
Каб не чутая прымха — пра здольнасці тэтых сцяблоў
Да дзяўчат прысылаць жаніхоў — самых лепшых, вядома!
Саламяны «павук», ты да ролі сваёй ці гатоў?..

Параўн. звесткі аб магічным уплыве на дзетанараджэнне і плоднасць жывёлы прадметаў, заснаваных на перапляценні, завязванні — **«барады», закруткі, лапцей, пута.**

Разам з тым вядомы і адмоўныя ўяўленні пра павука і яго ўздзеянне на чалавека ці жывёлу: нярэдка гэтае насякомае асацыіруецца са злобнасцю, сквапнасцю, жорсткасцю і вядзьмарствам (гл. **Ведзьма**). Па некаторых рускіх павер'ях, павукі вельмі шкодныя і небяспечныя, і таму іх трэба знішчаць (параўн. прыказку *Паука убьёшь — сорок грехов простится*). Той, хто выпадкова з'есць павука, захварэе на пухліну жывата. Нечаканую смерць жывёлы, якая прыйшла з поля, беларускія сяляне тлумачылі тым, што «мабыць, павука з'ела».

**ПАДВЕЙ** — у старажытнай беларускай міфалогіі — злы дух, які круціцца ў **віхры,** прыносіць разбурэнні і хваробы. А. Я. Багдановіч занатаваў павер'е аб хваробе Падвеі, якая выклікаецца аднаіменным нячысцікам: «Падвей — гэта той дух, які круціцца ў віхры. Ён насылае на людзей асаблівую хваробу, якая таксама называецца Падвеем: наляціць віхор на чалавека — і скруціць яму галаву набок, адніме мову, а то і скурчыць руку ці нагу. Таму трэба ратавацца ад віхру. Калі ён круціцца, трэба паказваць яму кукіш: тэтага Падвей не любіць і праімчыцца бокам,

не закрануўшы чалавека». Падвеем называюць таксама хваробу, якая здараецца, калі прахопіць скразняком.

У некаторых мясцовасцях Беларусі *падвеем* называюць траву (рус. *пушница*), якая выкарыстоўваецца ў магічных дзеяннях пры лячэнні дзяцей, падхопленых Падвеем — благім **ветрам**, не тое што застужаных, а проста пашкоджаных, калі яны блага сябе адчуваюць, плачуць, не спяць. Падпаленым пучком сухога *падвею* абкурваюць з замовамі хворае дзіця.

Замовы ад Падвею (Пудвею) выкарыстоўвалі і ў тым выпадку, калі дзьме моцны вецер, а таксама калі падвейвае, паддувае дзяцей: «Ехаў Пудвей да на дзевяці каней; а з дзевяці на васемі, а з васемі на сямі, а з сямі на шасці, а з шасці на пяці, а з пяці на чатырох, а з чатырох да й на трох, а з трох да й на двух, а з двух да на адном. Адзін упаў да й прапаў, з хаты дымам, а з двара ветрам, і дзе людзі не ходзяць, пеўнеў голас не заносіць, і дзе луна не даходзіць, і дзе сонейка не свеціць, і дзе хлопец тапаром не рубае і дзеўка касой не махае. Там табе напітацца, там табе нагуляцца, ад чыстаплоднай рабы божай (імя) адчапіцца».

**ПАКРОЎ (Пакрова)** — свята народнага календара, якое адзначаецца 14 кастрычніка. Само слова праваслаўная царква тлумачыла літаральна так: пакроў (пакрывала) Божай Маці. У народнай жа трактоўцы гэта паняццс атрымлівала куды больш шырокі сэнс, ахопліваючы самыя розныя прыкметы прыроды: «Святы Пакроў накрыў зямлю жоўтым лістом, маладым сняжком, ваду лёдам, пчалу мёдам»; «Святы Пакроў накрыў рыбу луской, дрэва карой, птаху пяром, дзеўку чапцом». Гаварылі, што зіма закрывае лета, а Бог пячатае зямлю пасля Пакрова. **Юр'е** і Пакроў змыкаюцца між сабою тым, што з першым звязаны выган жывёлы пасля зімы, а з другім — пачатак зімавання скаціны ў хляве («Пакрова — зарыкала ў хляве карова»).

Пакроў лічыўся надзейным паказчыкам прагнозаў надвор'я на даволі аддаленыя дні і нават на цэлыя поры года: «Калі на Пакрова дня снег не накрые зямлю, то і на **Каляды** не будзе снегу»; «Якое надвор'е ў дзень Пакрова, такое яно і будзе ўсю зіму да вясны»; «Калі на Пакроў не было снегу, не будзе яго яшчэ дзве нядзелі». Асабліва пільна сачылі за напрамкам ветру: з якога боку ён быў у гэты дзень, з такога ж боку галоўным чынам ён будзе дзьмуць у надыходзячую зіму. Сцвярджалі, што паўночны пакроўскі вецер прадказвае суровую зіму, а паўднёвы — мяккую, цёплую.

У гэтую вясельную пару хлопцы па вёсках выглядалі сабе нявест, а тыя напярэдадні Пакрова варажылі на замужжа. На Брэстчыне дзяўчаты набіралі ў фартух апалае лісце і пасля вытрасалі з прыполу — куды вецер панясе, — туды і замуж ісці.

Прыказка сцвярджала: «Ад Пакрова ўжо дзеўка гатова» (паводле У. А. Васілевіча).

У Расіі Пакроў таксама лічыўся святам, якое спрыяе вяселлям. У гэты дзень дзяўчаты з самай раніцы імкнуліся паставіць свечку ў царкве; існавала павер'е: хто раней за ўсіх паставіць свечку, тая і замуж першай пойдзе. Нявесты звярталіся з просьбамі аб хутчэйшым замужжы перад абразамі Пакрова і Параскевы-Пятніцы: «Покров-батюшка! Покрой землю снежком, а меня женишком!»; «Батюшка-Покров, мою голову покрой! Матушка-Параскева, покрой меня поскорее!». Гэтак жа маліліся і ўкраінскія дзяўчаты: «Свята Покрівонько, покрий мені голівоньку!».

У многіх рускіх мясцовасцях у гэты дзень «закармліваюць» хатнюю жывёлу, рыхтуючы яе да зімоўкі. Пры гэтым абавязкова аддаюць зерне з «барады» або падмешваюць у ежу жывёле каласы, якія пакідалі «Илье на бороду». Робіцца гэта для таго, каб засцерагчы жывёлу ад бяскорміцы і зімовай сцюжы, забяспечыць яе плоднасць і абарону ад нячыстай сілы.

**ПАЛУДНІЦА** — у славянскай міфалогіі — дух поля, увасабленне сонечнага ўдару. Палудніцу ўяўлялі ў выглядзе маладой жанчыны або дзяўчыны ў **белай** вопратцы, з доўгімі валасамі. У рускай міфалагічнай традыцыі разнавіднасцю Палудніцы лічылася Ржаніца — страшная касматая баба, якая з'яўляецца ў жыце апоўдні. Галоўная роля Палудніцы — праследаванне тых, хто працуе ў полі апоўдні: яна можа за гэта скруціць шыю, украсці дзіця; працуючым у полі ў гэты час яна таксама можа загадваць загадкі, і хто не адгадае, таго заслакоча (параўн. **Русалка**).

У Яраслаўскай губерніі ў дарэвалюцыйны час было запісана наступнае павер'е пра Палудніцу: «Полудница — красивая высокая девушка, одетая во всё **белое.** Летом во время жатвы ходит по полосам ржи, а кто в самый полдень работает, того берет за голову, начинает вертеть и вертит до тех пор, пока не перервется шея. Поэтому-то в самый полдень работать не следует».

Параўн. звесткі аб небяспечнасці **Русалак** і **Вадзенікоў** менавіта апоўдні.

**ПАЛЯВІК** — міфалагічная істота; дух, які ахоўвае палі. Жыве Палявік у палях і лугах адной або некалькіх вёсак. Месца знаходжання Палявіка — горка, дол, канава, камень ці адзінока растучае ў полі дрэва. У яго **чорнае,** як зямля, цела; замест валасоў на галаве Палевіка — доўгая трава; вочы ў яго рознакаляровыя. У іншых выпадках Палевіка ўяўляюць пачварным ценем, які то гоніцца за чалавекам, то адступае ад яго, заманьваючы сваю ахвяру. Палявік можа паразіць чалавека страшэнным сонцапекам і забіць на месцы. Палявік можа з'явіцца і ў выгля-

дзе старога чалавека ў белай вопратцы. Яго з'яўленне суправаджаецца моцным парывам ветру, дзікім рэхам, свістам, ровам.

Уся дзейнасць Палевіка накіравана на шкоду людзям і палявой гаспадарцы чалавека. Хаця ён і клапоціцца пра ўраджайнасць палёў, выганяе шкоднікаў з поля, выраўноўвае сцябліны і лісты раслін, але робіць гэта толькі для таго, каб прывабіць як мага больш людзей, сярод якіх могуць быць яго ахвяры. Палявік вартуе палявыя скарбы, якія ніколі не выдае і неміласэрдна помсціць таму, хто знаходзіць скарб у полі. Разбураючы загароды, вешкі, прывабліваючы выглядам хлебных і лугавых раслін, Палявік прыманьвае скаціну ў шкоду, імкнучыся зрабіць гэта перш за ўсё на ўчастку ненавісніка. Палявік можа ўчыняць і прамую шкоду: прыгінае да зямлі хлеб і траву, скручвае расліны, адхінае дождж, водзіць да знямогі дзяцей, што заблудзілі; мучыць людзей і жывёл за працаю ў полі авадня́мі, сляпнямі, камарамі. Асабліва пацяшаецца Палявік над п'янымі аратымі, заводзячы іх у балоты і канавы.

Зімою Палевікі сыходзяцца для забаў, любімая з якіх — знішчэнне дарожных вешак, заціярушванне дарогі, занос снегам канаў і калдобін, каб туды трапіў прахожы ці праезжы, які збіўся з дарогі. Палевікі доўга водзяць такога чалавека ўперад і ўзад, пакуль той не замерзне.

Найгорш жывецца Палевікам вясною і восенню, калі слякоцце і макрэча: Палевікі не пераносяць вільгаць. Якім вялікім не было б іх жаданне шкодзіць чалавеку, яны не могуць расстацца з утульным сухім месцам, не могуць мясіць нагамі брудную і мокрую глебу. Але тут нярэдка сам чалавек трапляе да іх у рукі, калі прыходзіць адпачыць на сухадоліну. Каб утрымаць чалавека, а потым знішчыць яго, Палявік лашчыць сваю ахвяру зацішкам, сонечным цяплом, пакуль у чалавека не пачынаюцца ліхаманкавыя дрыжыкі, якія нярэдка пераходзяць у **ліхаманку** (паводле М. Я. Нікіфароўскага).

**ПАМОРАК** — у беларускай міфалогіі — увасабленне мору, павальнай смерці, эпідэміі. У народных легендах і паданнях Паморак найчасцей мае чалавекападобны выгляд: страшнай бабы («косы расплецены, твар цёмны бы зямля, толькі вочы блішчаць»); худой, бы смерць, жанчыны; страшнага дзеда з доўгаю, касматаю барадою, з адным вокам; жабрака. Радзей упамінаецца аб тым, што Паморак можа мець выгляд **сабакі** ці **ката**.

Звычайна ў такіх легендах апавядаецца пра тое, як Паморак у чалавечым абліччы звяртаецца да сустрэчнага з просьбай падвезці яго да вёскі. У адных выпадках нічога не падазраваючы чалавек прыводзіць страшнага падарожніка да сябе ў вёску, у якой пасля гэтага пачынаецца страшны мор: гінуць і жывёла, і людзі; у другіх сюжэтах кемлівы мужык здагадваецца аб тым,

што перад ім Паморак і, згаджаючыся падвезці яго да вёскі, тым не менш у рэшце рэшт знішчае яго: топіць у непралазнай багне або спальвае ў **агні.**

«Жывы» **агонь,** здабыты людзьмі шляхам трэння дрэва, лічыўся найбольш эфектыўным магічным сродкам барацьбы з Паморкам. Аб гэтым падрабязна расказваецца ў адной з народных легенд: «Тым часам дзяцюкі палажылі каля крыжа брусок ясеню, а другім напераменку пачалі яго церці; цёрлі яны, цёрлі датуль, пакуль прылажылі губку, дык тая й загарэлася. От узялі людзі таго агню ва ўсе хаты да й ніколі не перавадзілі яго. А на тым месцы, дзе дасталі агонь, і на канцах вуліцы пачалі дзень і ноч паліць кастры, каб Паморак не мог увайсці ў сяло».

Параўн.: **Ліхаманкі, Мара, Халера.**

**ПАНЯДЗЕЛАК** — першы дзень тыдня, які ў народна-міфалагічнай традыцыі звязваўся з адмоўнымі ўяўленнямі як цяжкі, неспрыяльны, нешчаслівы дзень. Па язычніцкіх павер'ях — дзень, прысвечаны **Хорсу.**

У панядзелак пазбягалі пачынаць любую справу, асцерагаючыся няўдачы. Нават «калі ў панядзелак пераменіць плацце, то цэлы тыдзень будзе свярбець цела» (А. К. Сержпутоўскі). Згодна з агульнапашыраным уяўленнем, у таго, хто народзіцца ў панядзелак, будзе цяжкі, нешчаслівы лёс; акрамя таго, як лічылі, у панядзелак нараджаюцца гультаі, беднякі і скваппыя людзі. Па рускаму павер'ю, той, хто нарадзіўся ў панядзелак, можа стаць **ведзьмаром,** калі будзе пастаянна прытрымлівацца посту ў гэты дзень тыдня. Не раілі таксама ў панядзелак выязджаць у дарогу — будзе няўдача.

Па сваёй адмоўнай значнасці панядзелак атаясамліваўся з **серадой** і **пятніцай**: як і ў гэтыя дні, забараняліся некаторыя работы, у прыватнасці, снаванне. Гэтая забарона звязвалася з хрысціянскім уяўленнем аб тым, што ў гэты дзень Бог «снаваў» (стварыў) Сусвет.

**ПАНЯДЗЕЛАК** — міфічная *мужчынападобная* істота, увасабленне **панядзелка** — першага дня тыдня. У народна-міфалагічнай традыцыі Панядзелак надзяляецца адмоўнымі рысамі. Напрыклад, ва ўкраінскіх казках Панядзелак разам з **Серадою** і **Пятніцай** выступае ў той жа ролі, што і дочкі Бабы-Ягі.

**ПАПАРАЦЬ-КВЕТКА,** згодна з народнымі павер'ямі ўсходніх славян, зацвітае толькі раз у год — апоўначы на **Купалле,** звычайна ў самым гушчары лесу. Лічылі, што чароўны яркі цвет, якім успыхвае папараць-кветка, сыходзіць на яе ад **Перуна.** Па агульнавядомаму ўяўленню, гэтая кветка цвіце толькі некалькі імгненняў, і той чалавек, які зможа яе сарваць, стане шчаслівым і багатым, атрымае здольнасць разумець гаворку звяроў і дрэў, зможа адшукаць схаваныя ў зямлі скарбы. Верылі, што чароў-

ную кветку ў момант яе цвіцення ахоўваюць розныя нячысцікі і страшыдлы, уздзеянне якіх на чалавека можа мець небяспечныя і нават трагічныя вынікі. Так, у адной беларускай легендзе расказваецца аб тым, што да пошукаў і зрывання папараці-кветкі чалавека можа падбухторваць нячысцік («Пайдзі ды пайдзі. Сарвеш тую кветку — грошай шмат здабудзеш, не толькі што сабе і дзеткам заробіш, але і на ўсю вёску хопіць»). Паслухаўшыся «чартоўскага нашэптвання», хлопец уначы пайшоў да абранага ім месца, а раніцай яго знайшлі «ў канаве зусім бездыханным: відаць, чэрці яго туды піхнулі». Чалавека, які адважыўся сарваць папараць-кветку, чакаюць цяжкія выпрабаванні. Некаторыя з іх апісваюцца ў народнай легендзе «Папараць»: «Толькі ж ён хацеў адшчыпнуць квет, як той абярнуўся злюшчым сабакам і пачаў на яго рычаць, ашчэрыўшы зубы. Уздумаў пісар стракача даць. Але тут яшчэ вялікшы жах яго спаткаў: паміж лапухоў сядзіць **зялёная** вужака з петушынай галавой, а ў паветры на рэшаце ляціць **ведзьма,** махае мятлой, а за ёй ляцяць крылатыя каты (гл. **Кот**), лягушкі на кароткіх нагах і ўсялякая нечысць. Апамятаваўся наш пісар, што нечага пужацца ўсёй гэтай нечысці, сабраўся з духам і харобра сашчыпнуў агнявую краску, завязаў яе ў хусцінку і паўшоў дахаты, не азіраючыся назад...». У некаторых іншых легендах расказваецца аб выпадковым авалоданні чалавекам папараці-кветкі, што прыводзіць да набывання ім чароўных, незвычайных якасцей: «Ішоў гаспадар лесам, учапілася яму ў лапаць кветка папараці, і чуе ён, як сабакі гавораць між сабою... Чуе гаспадар, пра што птушкі і букашкі гавораць...»

У адным з рускіх паданняў з'яўленне кветкі на папараці таксама апісваецца як небяспечная і амаль недасягальная для чалавека, але чароўная і прыцягальная з'ява: «Внезапно появляется почка, которая, поднимаясь всё выше и выше, то заколышется, то остановится — и вдруг зашатается, перевернётся и запрыгает. Ровно в 12 часов ночи созревшая почка разрывается с треском, и взорам представляется ярко-огненный цветок, столь яркий, что на него невозможно смотреть; невидимая рука срывает его, а человеку никогда почти не удаётся сделать это. Во время цветения папоротника слышно будто бы щебет и голос нечистой силы, не желающей допустить человека до чудного, редкого цветка, имеющего драгоценные свойства...»

Такія ж уяўленні аб папараці-кветцы ўласцівы і ўкраінцам: яны верылі, што з яе дапамогай можна даведацца аб сваім і чужым лёсе, лячыць хворых, разумець мову птушак. Разам з тым у заходнеўкраінскай традыцыі папараць асэнсоўвалася як любімае зелле чарцей (гл. **Чорт**) і ведзьмаў. У сувязі з такімі ўяўленнямі на Гуцульшчыне існаваў звычай *біць папарацъ:* каб

яна не сеялася на полі і не шкодзіла іншым травам, яе збівалі палкамі, а потым месца, дзе яна расла, апырсквалі святой **вадой**.

Паэтычна асэнсаванае паданне пра папараць-кветку знаходзім у вершаванай казцы Уладзіміра Дубоўкі «Кветка шчасця»:

Ёсць цудоўнае паданне,
як на свята, на Купалле,
ад паўночы да світання
Кветку Шчасця ў нас шукалі.
Гаварылі, што на свята
дзесьці папараць красуе.
Пекла ўсё тады паднята,
каб не даць нам кветку тую.
Узнімаюць ведзьмы скогат,
Лямантуюць дзіка чэрці,
Каб шукальніка якога
напалохаць аж да смерці.

Адшукаць туды дарогі,
дзе яна красуе, цяжка:
настаўляюць чэрці рогі,
ведзьмы скачуць урасцяжку.
Лесуны выходзяць з нетраў
і русалак карагоды.
Вадзянік і сорак ветраў
там з'яўляюцца заўсёды.
А чаму? Хто кветку знойдзе,
возьме гэту кветку ў рукі, —
шчасце з'явіцца ў народзе,
будуць людзі жыць без мукі...

**ПАРОГ** — у міфалагічным асэнсаванні — месца знаходжання **душ** продкаў, якія могуць уплываць на людзей, іх здароўе, дабрабыт, узаемаадносіны з іншымі людзьмі. З гэтым асноўным уяўленнем звязаны шматлікія павер'і і прыкметы. Адна з найбольш вядомых — забарона выносіць **смецце** з хаты (асабліва вечарам, калі яго падмятаюць менавіта да парога). Не менш распаўсюджаным з'яўляецца і рытуальнае сядзенне перад парогам напярэдадні ад'езду з дому. Унутраная «логіка» гэтага звычаю заключаецца ў звяртанні (у думках) да душ продкаў з просьбай аб дапамозе ў дарозе. У такія кароткія імгненні ўнутранай засяроджанасці і ўспамінаў аб нябожчыках наладжвалася нябачная духоўная сувязь жывых з іх продкамі.

Забарона-перасцярога «нельга вітацца праз парог» звязана з асэнсаваннем парога як своеасаблівай мяжы, што аддзяляе чалавечае жытло, якое абараняецца **Дамавіком** (з хрысціянскага пункту погляду — прадметамі хрысціянскага культу) ад прасторы «за парогам» — неасвоенай, нежылой, а значыць, небяспечнай, варожай для чалавека. Адсюль чалавек, які знаходзіцца «там», «за парогам» мог успрымацца душамі продкаў як магчымы непрыяцель або нават вораг; адпаведна той, хто знаходзіцца «па гэты бок парога», у памяшканні, успрымаецца продкамі як свой, блізкі чалавек, на адносіны з якім нельга ўплываць неяк адмоўна.

З уяўленнямі аб парозе звязаны і вясельны звычай, згодна з якім малады ўносіць на руках у хату сваю жонку. Пераступаючы з ёю праз парог, ён тым самым сімвалічна аберагаў маладую ад магчымага адмоўнага ўздзеяння на яе душ продкаў, якім яна магла і не спадабацца як новы член іх роду. Малады гэтым рытуальным дзеяннем падкрэсліваў сваю еднасць з жонкай, пра-

сіў сваіх продкаў адносіцца да яе гэтак жа, як і да яго. Рэшткі гэтага звычаю сустракаюцца і зараз, але без асэнсавання яго як нейкага магічнага дзеяння: словазлучэнне *насіць на руках* ужываецца ў значэнні «песціць каго-небудзь, клапаціцца пра каго-небудзь».

З парогам звязаны і некаторыя прыкметы. Калі, напрыклад, чалавек, уваходзячы ў дом, спатыкаецца аб парог, то яго чакае ў гэтым доме непрыемнасць. Калі ж хто-небудзь спатыкнецца аб парог пры выхадзе з дому, то гэта сведчыць аб тым, што чалавек сюды хутка вернецца. З пункту погляду народнай этыкі ні ў якім разе нельга станавіцца або садзіцца на парог. Асабліва асцерагацца гэтага павінны маладыя хлопцы і дзяўчаты, інакш іх чакае адзіноцтва. Забаранялася садзіцца на парог — месца знаходжання душ продкаў — і цяжарным жанчынам (у адваротным выпадку дзіця народзіцца з дрэннай памяццю). Не наступіць на парог у царкве імкнуліся ў час вянчання маладыя — каб пазбегнуць у будучым сямейным жыцці сварак.

Бліэкія ўяўленні аб парозе былі вядомы і турэцкім мусульманам: яны верылі, што пад парогам і вакол яго жывуць добрыя духі — *джыны;* калі чалавек сядзе на парог (г. зн. абразіць *джынаў*), то ён цяжка захварэе.

Вядомы беларускі этнограф М. Я. Нікіфароўскі запісаў вельмі цікавы, нават паэтычны звычай, які сведчыць аб адносінах людзей да парога як да жывой істоты. Калі нявеста абходзіла з паклонамі ўсіх, хто прысутнічаў пры яе развітанні з бацькоўскім домам, яна кланялася асобна кожнай частцы дома і, нарэшце, кланялася да зямлі парогу, гаворачы пры гэтым наступныя словы: «Парогу, парогу! Я па табе хадзіла, ножкамі таптала, прабач мяне, я больш не буду!». У паўднёвых славян існаваў звычай, згодна з якім нявеста пры ўваходзе ў дом жаніха цалавала парог і печ. Пры калядаванні ў першы дзень новага года імкнуліся абсыпаць зернем не толькі ўсе куты ў хаце, але абавязкова і парог.

Парог выкарыстоўваўся часта як рытуальнае месца ў народнай медыцыне. Напрыклад, дзяцей ад суроку купалі на парозе, прычым ваду на іх лілі праз рэшата. Дзіцячы перапалох лячылі перасяканнем на парозе дванаццаці дубчыкаў ад старога веніка. Хворых на астму дзяцей клалі каля парога, накрывалі кажухом і пераганялі праз парог авечак: лічылася, што авечкі, пераступаючы праз парог і хворае дзіця, забяруць з сабою і хваробу.

Пры ткацтве на кроснах жанчыны вельмі асцерагаліся, каб чалавек з «дрэнным вокам» не сурочыў іх тканіну. Дзеля гэтага аснову, на якой ткалі, абсыпалі пылам, які збіралі на парозе.

Да «парогавай» магіі звярталіся дзяўчаты пры гаданнях і для «прысушкі» хлопцаў. Менавіта на парозе яны раскладвалі ма-

ленькія аладкі для таго, каб **сабака**, якога заводзілі ў хату, з'еўшы іх, «вызначыў» іх лёс. Для «прысушкі» хлопцаў дзяўчаты з новага веніка выцягвалі дубец і клалі яго каля парога таго хлопца, якому прызначалася прысушка. Лічылася неабходным, каб хлопец пераступіў праз дубец, які потым неслі ў **лазню** з прыгаворам: «Як сохне гэты дубец, няхай так сохне па мне раб Божы (імя)».

Значнасць парога ў жыцці людзей адлюстравалася ў шматлікіх прыказках і прымаўках: *Не стаяўшы ў парозе, не будзеш сядзець на покуці; Ты яго лаеш, а ў парозе яго стаіш; Беднаму Бог не залоціць парог; Без Бога не да парога* і інш.

**ПАСХА**. Гл. **Вялікдзень**.

**ПАТЭЛЬНЯ** — у міфалагічным асэнсаванні — прадмет, цесна звязаны са стыхіяй **агню**, і таму ў чараўніцтве і вядзьмарстве патэльня выкарыстоўвалася для барацьбы з воднай стыхіяю — ручаём, ракой, возерам.

Існуе мноства легенд і паданняў, у якіх у розных варыянтах перадаецца адзін і той жа сюжэт: **ведзьма** (або простая жанчына) кідае ў ваду патэльню і, праклінаючы **ваду**, знішчае яе, каб адпомсціць за патапленне дзіцяці. Так, у паданні «Замчышча» расказваецца аб тым, як у рацэ выпадкова патануў адзіны князеў сын, аддадзены на гадаванне простай дзяўчыне. «Шкадуючы князёўскага сына, а яшчэ больш сваю загубленую будучыню, дзяўчына ў адчаі і з праклёнамі прыбегла да крыніцы, з якой выцякала тая рэчка, і закрыла яе патэльняй. З таго часу рэчка стала патроху высыхаць, а на яе месцы ўтварылася балота, якое існуе і зараз». Крыху адрозніваецца ад прыведзенага наступны варыянт: «У нас тут была рэчка на поплаве. У аднае бабы ўтапілася дзіця. Гэтая баба была валшэбніца. Яна закрыла скавародою рэчку, і ў нас няма рэчкі. А ў нас была рэчка. Крапіўка называлася». У наступнай легендзе падкрэсліваецца сіла не вядзьмарскага, а роспачнага мацярынскага пракляцця, у выніку чаго на месцы возера ўтварылася балота: «Спачатку кожнае балота было возерам, але пазней ад заклёну ці чарадзейства пачало звужацца, пакрывацца глеем і зарастаць травой і дрэвамі. Так узнікла і вядомае ў Веліжскім павеце Прамачоўскае балота. Нейкая ўдава, якая жыла на беразе возера, пякла бліны і паслала свайго адзінага сына па ваду. Раптам яна пачула яго крыкі. Атарапелая маці выбегла з хаты з чапялою і скавардою і няспечаным блінам і ўбачыла, што сын тоне. Няшчасная не змагла дапамагчы сыну, і ён загінуў у яе на вачах... У крайняй роспачы яна пракляла возера, кінуўшы ў яго скавародку. Блін распусціўся ў вадзе, з яго зрабілася балотная гразь, якая і пачала зарастаць». Ва ўкраінскай легендзе, прыведзенай А. М. Афа-

насьевым, ручай перасох пасля таго, калі ведзьма, дачка якой у ім патанула, кінула ў яго гарачую патэльню.

**ПЕВЕНЬ** У аснову міфалагічнага вобраза пеўня пакладзена яго сувязь з сонцам: як і сонца, певень «адлічвае» час (параўн.: *першыя пеўні, да трэціх пеўняў*). Певень, такім чынам, уяўляўся вешчуном дня і святла, звязваўся з бажаствамі сонца і нябеснага агню: старажытныя славяне, напрыклад, ахвяравалі пеўняў вярхоўнаму язычніцкаму богу — **Перуну.** А. М. Афанасьеў адзначаў: «Певень, імем якога да гэтых часоў называюць агонь, лічыўся ў язычнікаў птушкаю, прысвечанаю Перуну і ачагу, а разам з тым — сімвалам шчасця і пладароддзя». Сведчаннем адносін пеўня да вогненнай стыхіі з'яўляецца ўстойлівае словазлучэнне *пусціць чырвонага пеўня* «падпаліць што-небудзь».

Згодна з агульнапашыраным павер'ем, дзейнасць нячыстай сілы доўжыцца на працягу ўсёй ночы, але абавязкова перапыняецца «з першымі пеўнямі». Лічылася, напрыклад, небяспечным адпраўляцца ў дарогу да першых спеваў пеўняў, а як толькі заспявае певень — можна збірацца: тады ўжо літаральна «ніякі чорт не страшны». Названае павер'е адлюстравалася ў беларускім выслоўі *Певень яму заспяваў на дарогу* «пра ўдачу». Захавалася шмат народных паданняў аб тым, што спеў пеўня з'яўляецца магутнай магічнай перашкодай для дзейнасці нячысцікаў. Параўн. наступныя прыклады: «Побач з адной вёскай ёсць вялікая яма. Гавораць, што на гэтым месцы Чорт меў намер пабудаваць дом і выкапаў дзеля гэтага яму для падвала, але спеў пеўня перашкодзіў яму скончыць гэтую работу». «Д'ябал нёс камень здалёку, каб запрудзіць Дзвіну, але запяяў пятух, і д'ябал кінуў камень у балота, неданёсшы да Дзвіны ўсяго некалькі вёрст». «Чорт хацеў прабрацца ў хату і пачаў жэрдкай падымаць яе, але заспяваў певень, і ўсё прапала». У народных замовах хваробы адсылаюцца ў тыя месцы, «дзе певень не пяе»: у мхі, у балоты, у гнілыя калоды, на сухі лес і г. д.

Пры пераходзе ў новы дом спачатку ўпускалі ў яго пеўня: лічылася, што певень (як і **кот**) адганяе ад дому нячыстую сілу. Пры гэтым назіралі, ці запяе певень у новым доме: тады і жыццё ў ім будзе добрым, вясёлым. У некаторых рускіх мясцовасцях пускалі ў новы дом папярэдне **чорнага** пеўня і курыцу, а ўжо пасля гэтага пераходзілі ў дом самі. Уяўлялі таксама, што певень сваёй прысутнасцю зробіць добры магічны ўплыў на дастатак гаспадаркі, плоднасць жывёлы: «При переходе в новый дом первым во двор пускается петух. Без петуха во дворе и скот вестись не будет, а если и будут дойные коровы, то молоко и масло от них получится безвкусным».

Певень як птушка, надзеленая ўласцівасцямі прадбачання, нярэдка выкарыстоўваўся ў дзявочых калядных варожбах (пры

гэтым ён абавязкова сімвалізаваў жаніха). Дзяўчына, напрыклад, апоўначы адпраўлялася ў куратнік, вобмацкам брала аднаго з пеўняў і несла яго ў хату, назіраючы пры гэтым, як певень сябе паводзіць: спакойныя паводзіны пеўня прадвяшчалі спакойнага, ўраўнаважанага мужа; наадварот, неспакойны, задзірысты певень «прадказваў» мужа з адпаведнымі якасцямі. На вяселлі маладым дарылі ў якасці жартаўлівага падарунка пеўня ў мяшку з пажаданнямі шчаслівага шлюбу і дзетанараджэння.

Такі ж магічны падтэкст захоўваецца і ў звычаі рытуальнага з'ядзення мяса пеўня маладымі непасрэдна перад шлюбнай ноччу. Сувязь пеўня з прадуцыруючай, дзетароднай сімволікай падкрэсліваецца ў энцыклапедыі «Міфы народаў свету»: «Певень — адзін з ключавых сімвалаў сексуальнай патэнцыі (параўн. уяўленне аб пеўні як сімвале юрлівасці, існуючае ў шэрагу традыцый). У паўднёвых славян, венграў і іншых народаў жаніх у час вясельнай цэрымоніі нярэдка нясе жывога пеўня або яго выяву».

Разам з тым певень асэнсоўваўся і як птушка, звязаная з замагільным светам, з **ведзьмарамі** і нячыстай сілай. Асаблівай негатыўнай маркіраванасцю вызначаўся **чорны** певень — абавязковы атрыбут нячыстай сілы. Раней у балгарскіх вёсках існавалі жахлівыя гісторыі аб душах памершых, якія ў віхурныя і дажджлівыя ночы лятаюць над дахамі ў вобліку пеўняў, накідваюцца на цяжарных жанчын і дзяцей і п'юць іх кроў. У старажытных чэхаў існаваў звычай душыць каля крыніц чорных пеўняў з аднačасовым выкліканнем д'ябла. Ва ўсходніх славян лічылася неабходным ахвяраваць чорных пеўняў Вадзяніку або закапваць чорнага пеўня жывым у зямлю ў час эпідэмій як ахвяру **Смерці**. Чорных пеўняў пастаянна трымалі на вадзяных млынах — гэтая птушка, па павер'і, вельмі даспадобы капрызліваму і грознаму Вадзяніку. Рускія сяляне, як заўважае А. М. Афанасьеў, перакананы, што разам з **ведзьмай** заўсёды знаходзіцца чорны певень і чорная **кошка**. У старадаўнія часы асуджаных на смерць ведзьмаў закапвалі ў зямлю разам з гэтымі жывёламі.

Шырока распаўсюджана таксама павер'е аб магічнасці яйца, якое можа знесці певень. Адзін з варыянтаў гэтага павер'я запісаны ў канцы мінулага стагоддзя А. Я. Багдановічам: «Калі чорны певень пражыве сем год, то ў канцы сёмага года знясе асаблівага віду яйцо. Гэтае яйцо трэба насіць пад пахай тры гады. Тады вылупіцца з яго маленькае змеянё. Яго трэба лесціць, трымаць у цяпле, карміць яешняй і нічым не раздражняць. Калі яно вырасце, то пачне лётаць, адшукваць клады і насіць грошы гаспадару». Блізкі змест мае рускае паданне пра пеўневае яйцо: «Калі певень сямі год, то яго не варта трымаць у доме, інакш ён знясе яйцо, з якога народзіцца **вогненны змей**. **Чарадзей** бярэ гэтае яйцо, носіць у сябе за пазухай або закапвае ў гной; праз

шэсць тыдняў вылупіцца з яйца змей і пачне насіць яму серабро і золата» (параўн. **Хут**).

**ПЕКЛА** — у хрысціянскіх уяўленнях — месца вечнага пакарання нячысцікаў і **душ** грэшнікаў. Уяўленні пра пекла (процілеглае **раю**) засноўваюцца на проціпастаўленні нябеснага і падземнага светлага і змрочнага свету, а таксама — на павер'і аб бессмяротнасці **душы**.

Даволі выразны малюнак пекла прыводзіць у адным з народных паданняў М. Федароўскі: «Пекла — гэта агромністая гара на канцы свету. Падыходзячы да яго, здалёк ужо чутно, як людзі енчаць, і відно, як дым з яго валіць, а на ўсіх дарогах грэшнікі да яго на вазах кавалкі смалы саматугам валочаць. Каб хто ўвайшоў у сярэдзіну, то ўгледзеў бы пасярод пекла да слупа дванаццацьма ланцугамі прыкутага **Люцыпара**. Навакол яго стаяць катлы з душамі, а рэшта то так і без катлоў валяюцца. З надыспаду пячэ іх агонь, а зверху смала распалена льецца. У гэтых катлах каралі, паны, ксяндзы: ім было на гэтым свеце добра, то затое на тым свеце кепска. Навакол пекла мужыкі з сякерамі ўвіхаюцца: рубаюць, смалу возяць да пекла і кладуць пад катлы... У пекле незмярона моц чарцей і кацёл вялізны са смалою, дзе грэшныя душы кіпяць і сам найстаршы **Чорт** Люцыпар сядзіць, на ланцугу жалезным прыкаваны і пілнуе, каб увесь час агонь клалі пад кацёл, каб ніколі душы не пераставалі кіпець у смале». Параўн.: **Пякельнікі, Жыжаль.**

**ПЕЧ** — у міфалагічным асэнсаванні — увасабленне дамашняга ачага, месца знаходжання духа-ахоўніка дома і гаспадаркі — **Дамавіка.**

Вызначаючы ролю печы ў дамашнім «мікракосмасе», А. К. Сержпутоўскі падкрэсліваў: «Толькі тады хата гатова, калі зроблена печ ці хаця каля яе пастаўлены слуп, бо пад слупам жыве дамавы ці хатні дзядок, які спрыяе гаспадару». Па павер'ю, запісанаму Я. А. Ляцкім, Дамавік жыве непасрэдна ў печы або ў падпечку, адкуль ён выходзіць з надыходам ночы. Ацэньваючы міфалагічную сутнасць печы ў продкаў сучасных усходніх славян (у тым ліку і ў беларусаў), вядомы расійскі гісторык Б. А. Рыбакоў пісаў: «Внутри дома главным оберегом семьи была печь. У печи давались клятвы, у печного столба заключались договора, в печурку прятали молочные зубы детей, в подпечье обитал покровитель дома — Домовой. Белорусы называли угловой столб печи «дедом» и в какой-то мере отождествляли его с Домовым. В тех случаях, когда надо было добыть живой **огонь**, его получали посредством вращения веретена в какой-нибудь щели печного, кутного «деда». Печной столб превращался в представителя «дзядоў» — предков-покровителей». Аб вялікай пашане печы беларусамі і адносінах да яе як да жывой істоты

сведчаць прыказкі-забароны на ўжыванне ў хаце грубых, непрыстойных слоў: *«Няможна казаць, бо печ у хаце»; «Сказаў бы, ды печ у хаце».*

У некаторых абрадавых дзеяннях нельга не заўважыць асэнсавання печы як сімвала ўсяго дома, дамашняга ачага. Так, адным з элементаў радзіннай абраднасці беларусаў было абнясенне кумою ахрышчанага дзіцяці тройчы вакол пячнога стаўба перад перадачай дзіцяці яго матцы, «каб дзіця кахала сваю хату і пілнавалася яе». Вясной, у дзень першага выгану жывёлы ў поле (**Юрай,** 6 мая), гаспадыні карлмілі кароў на засланцы, вымаўляючы пры гэтым замову: «Як гэтая засланка кожную ноч стаіць на сваім месцы, так бы і наша кароўка стаяла кожную ноч на сваім двары». З гэтай жа мэтаю — сімвалічнай «прывязкі» да ўласнай гаспадаркі — карміні на пячной засланцы і купленую карову, якую ўпершыню прыводзілі на падворак. Аналагічны па магічнаму сэнсу і наступны рускі звычай: «Телёнка, только что родившегося, вносят в избу и легонько тыкают мордой о печку. Если не выполнить этого, теленок сдохнет».

Уяўленні аб печы як сімвале сям'і, роду адлюстраваліся і ў некаторых народных прыкметах. Вельмі дрэнннай прыкметаю лічылася раскіданне дроў у печы, асабліва — выпадзенне палена з печы: гэта ўсведамлялася як папярэджанне аб магчымым распадзе сям'і, аб сварках і непрыязных адносінах паміж членамі аднаго роду.

Печ успрымалася і як надзейная засцярога ад шкоднага ўздзеяння хваробы або смерці. А. К. Сержпутоўскім, напрыклад, занатавана такая парада: «Калі ў хаце ляжыць хто хворы, то трэба, як увойдзеш у тую хату, перш зірнуць на печ, а потым на покуць, то хвароба не прыстане». На Гродзеншчыне бытаваў звычай, згодна з якім пасля вяртання з могілак удзельнікі пахавальнага абраду перш за ўсё ачышчаліся агнём: адчынялі ў печы засланку і, незважаючы на пару года, «грэлі рукі», «каб смерць праз **комін** пайшла».

У народнай медыцыне беларусаў (як і іншых славянскіх народаў) быў вядомы прыём сімвалічнага «запякання» слабых, хворых дзяцей у печы. Для гэтага дзіця захутвалі ў коўдру і трымалі некалькі хвілін у печы адразу пасля таго, як скончаць паліць. Лічылася, што дзіця пасля «запякання» набывае сілу і здароўе. Цікавы беларускі абрад імітацыі рытуальнага запякання хворага дзіцяці быў запісаны ў канцы мінулага стагоддзя М. Я. Нікіфароўскім: «У час пячэння хлеба маці саджае хворае дзіця на хлебную лапату, абмывае і загладжвае яго хлебнай вадой і нясе да печы з намерам пасадзіць туды разам з хлябамі, але спыняе лапату на загнёце. Менавіта гэтую хвіліну чакае іншая блізкая жанчына. Імкліва адкрыўшы дзверы, яна пляскае

рукамі і з абурэннем гаворыць: «Што ты робіш?» — «Ці не бачыш, сушчы пяку — во што я раблю!» — адказвае маці. — «А, сушчы! Дык пячы, пячы іх, каб не было!» — дадае ўвайшоўшая і здымае дзіця з лапаты. Маці засоўвае ў печ лапату з пакінутымі на ёй «сушчамі» і звычайным рухам скідвае іх».

Асабліва выразная шлюбная сімволіка печы, паколькі печ у народнай свядомасці асэнсоўваецца як жаночае месца і больш таго — як увасабленне, сімвал жаночага, нараджаючага пачатку. Напрыклад, сваты, збіраючыся ісці сватаць дзяўчыну, дакраналіся ў сваім доме да печы, «каб быў лад». Цікавы прыклад адухаўлення печы і звяртання да яе, як да жывой істоты, у абрадзе сватання прыводзіць А. К. Сержпутоўскі: «Як сваты першы раз прыдуць да дзеўкі, то яны, улезшы ў хату, трохі сутрымліваюцца каля печы і кажуць ціхенька: «Печ, печ, памажы!», потым ужэ кажуць «дабрыдзень» ды праходзяць к сталу, дзе садзяцца на лаву». Такія паводзіны сватоў былі своеасаблівым сігналам для гаспадароў, якія беспамылкова здагадваліся аб мэце іх прыходу. У рускіх вёсках свацця, прыходзячы са шлюбнай прапановай да бацькоў нявесты, падыходзіла спачатку да печы і (у любую пару года) «грэла» рукі, «каб задуманая справа ладзілася», і толькі потым пачынала сватанне. У зборніку У. І. Даля «Пословицы русского народа» знаходзім звязанае з апісаным звычаем выслоўе: *Вошла в избу да руки погрела — так сваха.* У балгар сват, увайшоўшы ў хату, разграбаў у печы вуголле, з-за чаго бацькі нявесты даведваліся аб мэце яго наведвання.

Пашана да печы як месца знаходжання **душ** продкаў адлюстравана і ў беларускім звычаі, згодна з якім бацькі нявесты пасля прапановы свацці раяцца паміж сабою, адыходзячы да печы. Усім усходнеславянскім народам быў вядомы і такі звычай: у час сватання нявеста, выказваючы сваю згоду выйсці за таго, хто за яе сватаецца, моўчкі падыходзіць да печы (або садзіцца на яе) і калупае пальцам пячную гліну. У сучаснай украінскай мове ўжываецца звязаны з гэтым звычаем зварот *колупати піч* «саромецца». На Чарнігаўшчыне нявеста залазіла на печ, а сваты прапаноўвалі ёй злезці: калі яна пагаджалася і злазіла, то гэта ўспрымалася як згода пакінуць родны дом. Калі ж нявеста заставалася сядзець на печы, то гэтым самым далікатна адмаўляла сватам.

На другі дзень пасля вяселля маладую жонку (будучую гаспадыню) падводзілі да печы, каб у яе складваліся з печчу добрыя, прыязныя адносіны. З гэтай жа мэтаю маладая (па захаванаму да сёняшніх часоў звычаю) беліць печ. У чэхаў нявеста, уваходзячы ў новы дом, перш за ўсе павінна была пакланіцца печы і толькі потым — гаспадарам. Згодна з рускім звычаем, маладая, уваходзячы ў дом мужа, кідала на печ свой **пояс**, адда-

ючы тым самым сябе пад уладу печы, духаў-заступнікаў дамашняга ачага

**ПОКУЦЬ** (рус. *красный угол,* укр. *покýття*) — «вугал, кут у хаце, дзе віселі абразы і стаяў **стол**» — у павер'ях і ўяўленнях усходніх славян асэнсоўваўся як асабліва значнае, святое месца. Покуць заўсёды зарыентавана на ўсход (у адрозненне ад **печы,** якая арыентавалася на поўнач). Да покуці былі звернуты ўзгалоўі ложкаў, галавою да абразоў клалі нябожчыка. Асаблівай магічнай значнасцю надзялялася месца пад абразамі, дзе звычайна знаходзіўся гаспадар дома (адсюль — прыкмета, згодна з якой трэск у покуці прадвяшчае смерць гаспадара або гаспадыні). Ваду, у якой мылі абразы (звычайна гэта рабілі двойчы у год — перад **Калядамі** і **Вялікаднём**), вылівалі знадворку пад тым месцам, дзе знаходзілася покуць. У Расіі дзяўчаты перад Новым годам падмяталі падлогу ад **парога** да покуці са словамі: «Гоню в избу свою молодцов, не волов, наезжайте ко мне, женихи, с чужих дворов». На Украине падмятанне **смецця** ад парога да покуці таксама існавала як рытуал: «каб дабро ішло ў хату, а не з хаты».

Уяўленні аб покуці цесна звязаны з культам продкаў (гл. **Душа, Дзяды**). Паказальна, што ў паўднёва-рускіх гаворках слова *покýтье* ўжываецца не толькі для абазначэння покуці, але і могілак. Рускія сяляне лічылі, што гаршчок, у якім была вада для абмывання нябожчыка, павінен быў пэўны час знаходзіцца на покуці, «каб не паравёўся **Дамавік**». У час пахавання заўважалі, у які бок (пры вынасе нябожчыка) адхіліцца полымя ад **свечкі,** што гарэла ў яго ўзгалоўі: калі полымя адхіліцца ў бок покуці, гэта добры знак; калі ж у бок **дзвярэй** — хутка ў доме будзе яшчэ адзін нябожчык. У некаторых рускіх мясцовасцях на саракавы дзень пасля смерці чакалі прыходу нябожчыкаў дахаты. З гэтай мэтаю на покуці засцілалі чысты абрус, на стале ставілі лішні прыбор.

Покуць была і месцам знаходжання першага і апошняга снапа: іх ставілі пад абразамі. У покуці падвешваўся да столі саламяны **павук,** які надзяляўся прадуцыруючымі магічнымі ўласцівасцямі.

√ **ПОШАСЦЬ** — у беларускай міфалогіі — увасабленне эпідэміі, мору; тое, што і **Халера, Мара.** Уяўлялася ў выглядзе кастлявай жанчыны ў **белай** вопратцы. Стукаючы касцяным пальцам у вокны хат, Пошасць папярэджвае аб набліжэнні эпідэміі, суправаджаючы гэта словамі «Была бяда, а цяпер будзе ліха!». Распаўсюджвае хваробу, махаючы сваёю плахтою ў бок людзей. У беларускай легендзе «Пошасць і баб'ягорац» наступным чынам апісваецца насыланне Пошасцю смерці: «У тым сяле якраз мужчыны пад яравое поле аралі, жанкі ў гародах варыва садзі-

лі, а дзеткі-малалеткі на вуліцы, каля хатаў сваіх забаўляліся. Убачыла гэта Мара, скрыганула са злосці зубамі ды махнула сваёй белай плахтою, што ахутвала яе касцістае цела. Пайшоў ад плахты смяротны павеў, і ад яго пачалі мерці мужчыны, жанчыны і дзеці там, дзе хто ў тую пару знаходзіўся...».

Магічнымі сродкамі барацьбы з Пошасцю лічыліся рытуальнае **абворванне** вёскі і вырабленне жанчынамі пэўнай вёскі абыдзённага **ручніка** (гл. **Абыдзённік**).

**ПОЯС** асэнсоўваўся як абавязковы атрыбут традыцыйнага народнага адзення. М. Я. Нікіфароўскі ў сувязі з гэтым адзначаў: «Неабходным дапаўненнем сарочкі і штаноў з'яўляецца якая-небудзь апаяска. З'яўленне без шапкі і басанож не выкліча здзіўлення ў прысутных так, як з'яўленне без апаяскі, якою бывае вяроўка, пута або нават лыка...».

Поясу прыпісваліся розныя магічныя ўласцівасці: лічылі, напрыклад, што ён надае чалавеку сілу, абараняе яго ад хвароб і няшчасных выпадкаў. У рускіх сялян Маскоўскай губерніі існаваў звычай рытуальнага падпяразвання аднагадовага дзіцяці каля **печы** з пажаданнямі яму здароўя і дабрабыту. Па беларускаму павер'ю, запісанаму А. К. Сержпутоўскім, жанчыны-жнеі не павінны здымаць з сябе **чырвонага** паяска, каб у іх не балела спіна. У Беларусі нявесты напярэдадні вянчання развешвалі паясы ў тых месцах і над тымі прадметамі, ад якіх яны больш за ўсё чакалі дабрабыту ў будучым сямейным жыцці — у хляве, у свірні, над скрыняй. Рускім нявестам рэкамендавалася ў дзень вяселля падпяразвацца рыбалоўнай сеткай, каб пазбегнуць сурокаў ведзьмаў і калдуноў. У Аўстрыі і Германіі нявесты з той жа мэтаю надзявалі на сукенкі металічныя паясы.

Значную магічную ролю адыгрываў пояс як ахоўны сродак ва ўяўленнях, звязаных з цяжарнасцю і пасляродавым станам. Паводле А.М. Афанасьева, рускія цяжарныя жанчыны (пры часовай адсутнасці мужоў), кладучыся спаць, абавязкова падпяразваліся мужавым поясам, каб засцерагчыся ад шкоднага ўздзеяння ведзьмаў («вещиц»), якія маглі знішчыць (з'есці) будучае дзіця. Па запісах А. К. Сержпутоўскага, цяжарная жанчына ў тым выпадку, калі спужаецца чаго-небудзь, павінна вялікі палец левай рукі засунуць за пояс. Пасля нараджэння дзіцяці жанчыне на працягу шасці тыдняў не рэкамендавалася адыходзіць далёка ад дому, і куды б яна не ішла, за поясам (дзеля засцярогі ад сурокаў) у яе павінен знаходзіцца нож.

У час вянчання пояс разам з **ручніком** клалі пад ногі маладым, да святочнага стала маладую вялі на поясе. Нявеста, уваходзячы ў дом мужа, кідала на **печ** свой пояс, аддаючы сябе тым самым пад ахову дамашняга ачага. На другі дзень пасля вяселля, падмятаючы ў хаце, маладая завязвала пояс на **венік**.

Е. Р. Раманаў занатаваў у пачатку нашага стагоддзя даволі архаічны звычай, звязаны з ахоўнымі ўяўленнямі аб поясе. Вясковыя дзяўчаты на **Юр'я** збіраліся каля хаты маладухі (жанчыны, якая выйшла замуж у мінулым годзе) і спявалі песню, у якой прасілі маладуху «падарыць паясочак». Звычайна маладая жанчына выходзіла да дзяўчат і кідала ім свой пояс; дзяўчаты адразу ж хапалі яго і разрывалі на асобныя часткі, якія захоўвалі як надзейны сродак ад «дурнога вока».

Пояс выкарыстоўваўся і ў дзявочых калядных варажэннях: напрыклад, дзяўчына перакідала праз вароты згорнуты ў клубок пояс і па тым, у які бок ён раскруціцца, вызначала, адкуль да яе прыйдзе жаніх. У некаторых рускіх мясцовасцях дзяўчаты, каб прысніўся суджаны, у час **Каляд** перад тым, як класціся спаць, кідалі свой пояс на печ са словамі: «Пояс, пояс, покажи мне поезд с суженым-ряженым, не с которым повидаться, а с которым повенчаться».

Вядома выкарыстанне пояса і ў сельскагаспадарчай магіі. Так, гаспадар, прыводзячы дадому купленую жывёлу (карову ці каня), рассцілаў у варотах свой пояс і праводзіў жывёлу праз пояс з прыгаворам «забывай старога гаспадара, прывыкай да новага». Выганяючы вясною жывёлу першы раз на пашу, гаспадыня, зняўшы свой пояс, рассцілала яго ў варотах, пераганяла жывёлу праз яго, а потым абвязвалася поясам са словамі «Як шчыльна і моцна вакол мяне пояс трымаецца, так і ты, мая жывёла, вакол двара трымайся». Для ўзмацнення магічнай значнасці гэтага абраду пасярэдзіне двара ўбівалі ў зямлю кол.

Пояс адначасова асэнсоўваўся і як прадмет, несумяшчальны з нячыстай сілай. Так, пры апісанні **Лесавіка** адзначаецца, што ён ніколі не падпярэзваецца. Дзявочыя калядныя варажэнні адназначна ацэньваліся як грэх, як часовае ўступленне ў зносіны з нячыстай сілай, таму абавязковай умовай варажэнняў было здыманне нацельнага крыжа і пояса. Пры рытуальным пераватварэнні ў ведзьмаў (напрыклад, пры **абворванні** вёскі ў час эпідэміі) жанчыны таксама здымалі паясы. У адной беларускай легендзе расказваецца аб жанчынах, якія пасля сустрэчы з **ваўкалакамі** даведваюцца ад аднавяскоўца аб выкарыстанні пояса з той мэтай, каб вярнуць ваўкалакам чалавечае аблічча: «Вот і пачаў нас Гераська вучыць, каб мы другі раз працягнулі па зямлі пояс: як ваўкалакі пераскочылі б праз яго, то й сталі б зноў людзьмі. Пашкадавалі мы, што дурныя, не ведалі, як памагчы бедным людзям...».

**ПРОДКІ**. Гл. **Дзяды**.

**ПУТА** — «вяроўка, якой завязваюць пярэднія ногі каня» — у міфалагічным асэнсаванні разглядалася як прадмет, які аказвае магічнае ўздзеянне на плоднасць жывёлы. У прыватнасці,

для таго, каб кабыла жарабілася, раілі знайсці пута, якое было згублена канём уначы; яго трэба было высушыць, сцерці ў парашок і даць з'есці кабыле разам з аўсом. Параўн. **Закрутка,** а таксама звесткі аб іншых прадметах, звязаных з сімволікай вузла, завязваннем **(капуста, лапці, павук).**

**ПУШЧАВІК** — у міфалагічных уяўленнях беларусаў — разнавіднасць Лесуна, яго «старэйшы брат». У адрозненне ад Лесуна, які знаходзіцца ў кожным лесе, Пушчавік жыве толькі ў першабытных, некранутых пушчах, у самым гушчары, або ў лесе з вельмі высокімі дрэвамі. Па росту Пушчавік — вышэй верхавін самых высокіх дрэў. Калі з Лесуном чалавек можа аб чым-небудзь дамовіцца, уступіўшы з ім у дагаворныя адносіны, то Пушчавік прыносіць людзям толькі зло, не шкадуючы ні дарослых, ні дзяцей, ні жывёлу. Пушчавік можа забіць сваю ахвяру адным толькі сваім выглядам. Ён вельмі касматы, пакрыты па ўсяму целу доўгім мохам, нават на твары ў яго мох. Пушчавік вельмі стары, непаваротлівы, дрэнна бачыць і ніколі не рагоча, як Лясун. Пры сустрэчы з ім трэба ўцякаць, рэзка мяняючы напрамак бегу. Сустракаецца Пушчавік вельмі рэдка (паводле М. Я. Нікіфароўскага).

**ПЧАЛА** — у народных павер'ях усходніх славян — сімвал урадлівасці, пладароддзя, памнажэння роду; пчала — зброя бога **Ярылы,** які абуджае зямлю; звязаны пчолы і з **Белуном** — духам жніва. У народных легендах паходжанне пчол тлумачыцца праяўленнем волі Бога: «Бог даў людзям пчалу і сказаў, што яна будзе найлепшая казюлька для людзей, што яе ўсе будуць любіць і паважаць». У міфалогіі многіх народаў пчала заўсёды выступае на баку Бога, супраць злога духу. Пчалярства ў старажытнасці разглядалася не толькі як занятак, родпасны Богу, але і такі, які з'яўляецца выкананнем божаскай волі, справай, завешчанай чалавеку для выратавання **душы.** Пчала і яе прадукт — мёд, які ўплывае на жыццяздольнасць і здароўе чалавека, заканамерна суадносяцца з вясельнай абраднасцю. Так, адно з распаўсюджаных пажаданняў маладой на балгарскім вяселлі — *Да се руиш, като пчелата!* (Каб ты пладзілася, як пчала!). Балгарам было вядома таксама абмазванне мёдам **парога** ў час вяселля, калі маладыя ўваходзілі ў дом жаніха. На Украіне маладая прывозіла з дому на талерцы хлеб і мёд, якія ставіліся ў каморы, дзе маладыя праводзілі шлюбную ноч. На наступны дзень гэты хлеб з мёдам («мазанкі») раздаваўся ўсім прысутным з пажаданнямі здароўя і дзетароддзя.

Характэрна, што да пчол у многіх выпадках адносіліся так, як і да людзей: пра пчалу гаварылі, што яна памерла (а не здохла); з пчоламі віталіся, віншавалі з **Пасхай,** ім паведамлялі аб смерці гаспадара. Дзень першага вылету пчол звычайна звязваў-

ся з днем святога Засімы (або Засімы і Савація) — 30 красавіка. У рускіх вёсках раней у гэты дзень вывозілі вуллі на пчальнікі. Пасярэдзіне пчальніка ставілі стол, пакрыты чыстым абрусам, на яго хлеб і соль, гаршчок з вуголлем, асвечаную ваду і велікодную свечку. Памаліўшыся Засіму і Савацію, абыходзілі вакол пчальніка з запаленай свечкай, апырсквалі яго асвечанай вадой, прамаўляючы замову: «Полети, моя пчела, на все четыре стороны, за желтыми восками, за сладкими медами, приноси мёд в свои ульи. Как осётр-рыба бежит в море, так моя бы пчела ко мне, рабу божию, летала на пасеку...».

**ПЯКЕЛЬНІКІ** — нячысцікі, якія жывуць у **пекле**, дзе яны займаюцца падтрыманнем агню і мучэннем грэшных душ.

Пякельнікі маюць напалову сабачы, напалову казіны выгляд, яны пазбаўлены шэрсці на тоўстай скуры, пакрытай сажай. У Пякельнікаў пастаянна высалаплены вогненны язык; час ад часу яны абліваюць ахвяры расплаўленай смалою і серaю, якія змяшчаюцца ў іх сярэдзіне.

Далей пякельных сцен гэтыя чэрці нічога не ведаюць, не могуць выйсці за іх. Яны знемагаюць ад аднастайнай дзейнасці і ад успамінаў пра ранейшае вольнае жыццё. Менавіта гэта развіло тую жорсткасць, з якою Пякельнікі ставяцца да сваіх ахвяр; у енку, стогнах, у пакутных рухах апошніх яны знаходзяць некаторае забыццё свайго ранейшага жыцця, да якога для іх няма звароту. Перад тым, як яны былі прыстаўлены да гэтай дзейнасці, Пякельнікі былі вольнымі нячысцікамі, але яны пазбавіліся свабоды з-за чартоўскіх няспраўнасцей ці сасланыя сюды па прычыне старасці, калецтва або дурнаватасці. Выгляд іх прыстасаваўся да пякельнага жыцця — знішчылася поўсць, замест капытоў на нагах з'явіліся кіпцюры, вантробы пачалі змяшчаць такі моцны жар, што ў ім могуць плавіцца камяні (паводле М. Я. Нікіфароўскага).

**ПЯРУН** — вярхоўны, галоўны бог у старажытных славян-язычнікаў, бог грому і маланкі. Па старажытнарускаму летапіснаму апісанню, ён уяўляўся немаладым, суровым *мужчынам* з залатымі вусамі і сярэбранай барадой. Велічны, статны, высокага росту, Пярун раз'язджае па небе, узброены лукам, стрэламі (маланкамі), а таксама **сякерамі** і каменнямі. Асабліва выразна сувязь Перуна з маланкай і громам адлюстравалася ў беларускай мове, у якой слова *пярун* ужываецца ў значэнні «маланка» або «маланка і гром».

Шматлікія фальклорныя сюжэты прысвечаны барацьбе Перуна са сваім змеепадобным ворагам: вынікам перамогі вярхоўнага бога над нечысцю з'яўляецца вызваленне **вады** і праліванне пладаноснага дажджу. Менавіта таму Пярун усведамляўся не толькі як грозны, небяспечны нябесны бог, але і як «свой», «дамаш-

ні» бог, які ўплывае на ўраджай і плоднасць жывёлы, а значыць — і на дабрабыт людзей. Сваімі маланкамі Пярун знішчае варожыя полчышчы **Чарнабога**, якія напрувашчваюць хмары, каб засланіць сонца. Адным ударам сваёй маланкі Пярун разбівае чорныя хмары , і апладняльная вада імкліва льецца на зямлю. Чэрці хаваюцца ад Перуна, але іх паўсюдна насцігае пакаранне. Чэрці ведаюць, што Пярун любіць чалавска і беражэ яго, таму яны кідаюцца ў жытло людзей, каб выратавацца сярод іх, але ў такіх выпадках Пярун знішчае і жытло чалавека, а калі здарыцца, што страла трапіць у чалавека, то багі ўзнагародзяць яго ў будучым жыцці.

Свяшчэнным дрэвам Перуна з'яўляецца **дуб**, птушкай, прысвечанай яму, — **певень**, днём Перуна — **чацвер** (параўн. нямецкую назву чацвярга — *Donerstag* «дзень грому»), яго лічбай — дзевяць. Пярун лічыўся таксама богам вайны, заступнікам князя і яго дружыны. Статуя Перуна займала самае пачэснае месца сярод іншых язычніцкіх багоў.

Пасля ўвядзення хрысціянства культ Перуна быў заменены культам святога Іллі-прарока, які пасылае на зямлю дажджы, спрыяе ўраджаю (гл. «Барада», яе назвы). У дзень святога **Іллі** (2 жніўня) уся нячыстая сіла, ратуючыся ад вогненных стрэл Іллі, спяшаецца ператварыцца ў розных звяроў (гл.: **Рабінавая ноч**). Раней у гэты дзень не пускалі ў дом **сабак**, каб не навесці на жыллё маланку. «Грымоты з маланкай на Іллю тлумачылі тым, што гэта сам прарок у сваёй вогненнай калясніцы раз'язджае па небе. А каб не ўзнік пажар ад навальніцы, стараліся не працаваць. Калі ж выпадала сонечнае надвор'е, баяліся гневу Іллі, які можа пакараць грэшную зямлю і людзей засухай. Нормай лічылася, што прарок Ілля прынясе дождж: «Ілля наробіць гнілля» (У. А. Васілевіч).

**ПЯРЭСТЫ.** Гл. **Рабы.**

**ПЯТНІЦА** — пяты дзень тыдня, які ў міфалагічнай традыцыі звязваўся з адмоўнымі асацыяцыямі, таму што ўвасабляў ідэю няцотнасці. Па народных павер'ях, той, хто народзіцца ў пятніцу, дома не памрэ, ён будзе гультаём, п'яніцам ці злодзеем. У пятніцу не спраўлялі вяселлі, пазбягалі пачынаць любую новую справу. Характэрнае вераванне, звязанае з разуменнем пятніцы як нешчаслівага дня, прыводзіць А. К. Сержпутоўскі: «Як карова ацеліцца ў пятніцу, то хоць яе прадавай, бо мала будзе даваць малака і не будзе з яе ніякае карысці».

У старажытных язычнікаў пятніца была днём, прысвечаным багіні Мокашы, культ якой у хрысціянскія часы быў заменены культам святой Параскевы (Параскевы-**Пятніцы**).

Згодна з агульнапашыраным павер'ем, у пятніцу нельга мыць, прасці і ўвогуле выконваць жаночую работу, каб не зняважыць

**Пятніцу.** У гэты дзень таксама пазбягалі і араць, «каб не запарушыць **Пятніцы** вачэй». Параўн. таксама рускае павер'е — перасцярогу: «Кто прядёт в пятницу, у того на том свеце слепы будут отец с матерью (кострикой забьёт глаза)».

У хрысціянскай традыцыі пятніца (асабліва пятніца на перадвелікодным тыдні, або Вялікая пятніца) лічыцца днем строгага посту. *Згодна з евангелем,* Ісус *Хрыстос* быў *распяты на крыжы* менавіта ў пятніцу. На Беларусі ў Вялікую пятніцу вясковыя дзяўчаты мыліся на досвітку халоднай вадой, каб быць здаровымі і прыгожымі на працягу ўсяго года. Імкнуліся таксама пасеяць у гэты дзень хлеб: у такім выпадку ён не будзе баяцца ветру, дажджу і граду. Паўднёвыя славяне — сербы і македонцы — у гэты дзень кармілі хатніх птушак і свіней у крузе (у абручы), каб яны не загубіліся, не збеглі з дому.

**ПЯТНІЦА** — жанчынападобная істота ў міфалогіі ўсходніх славян, персаніфікаванае ўвасабленне пятага, няцотнага дня тыдня, які наступае за **чацвяргом,** прысвечаным **Перуну.** Пятніца — хрысціянскі працяг галоўнага жаночага бажаства старажытных славян-язычнікаў — **Мокашы.**

У беларускіх легендах Пятніца выглядае як «старэнькая баба, ды такая старэнькая, што чуць-чуць на нагах трымаецца»; «баба старэнькая, зморшчаная, як сучок». Ва ўкраінскай былічцы, запісанай у канцы мінулага стагоддзя, сустракаем такое апісанне Пятніцы: «стара-стара, одіта в свитку, а свитка на локтях подрана, скрозь дірку видно голе тіло...». Рускія ўяўлялі Пятніцу высокай, худой жанчынай з доўгімі распушчанымі валасамі. У адным міфалагічным расказе яна апісваецца наступным чынам: «...Вошла женщина страшная и безобразная. На ней были все лохмотья да дыры; голова вся платками рваными укутана, из-под них клочья волос повылезали растрёпками; ноги у ней были все в грязи, руки тоже в грязи, и вся она, с головы до ног, была обсыпана всякой нечистью и мусором».

Звычайная роля святой Пятніцы, выразна адлюстраваная ў народных легендах, — сачыць за тым, як выконваюцца жанчынамі забароны на работу ў **пятніцу.** Так, у беларускім паданні «Пятніца» прыводзіцца паказальны дыялог паміж святой Пятніцай і жанчынай, якая правінілася перад ёю: «Адчыніла маладзіца вакно, а баба й пытае:

— А што, напрала мае **верацёны?**

— Напрала, — кажа маладзіца ды й падае тыя ручайкі.

— Ну, шчасце тваё, што ты дагадалася, як зрабіць, а то б я скруціла цябе, як вяроўку.

— За што ж мяне караць? — пытае маладзіца.

— За тое, што ты святое Пятніцы не паважаеш да яшчэ досвіткі прадзеш».

У рускай былічцы Пятніца больш жорстка абыходзіцца з жанчынай, якая прадзе па пятніцах: «Тут баба догадалась, что в избу к ней вошла сама Пятница, и стала было прощенья просить. А Пятніца: «Нет, — говорит, — тебе прощенья». Да взяла железную спицу, которой кудель льну к копылу привязывают, и стала тыкать ею бабу. Тыкала, тыкала, пока до полусмерти не истыкала. Утром нашли бабу всю в крови и насилу в чувство привели. *Да только с тех пор баба по пятницам работать — ни-ни: стала* почитать праздничный-то день». Вядомы таксама легенды аб тым, як Пятніца ператварае «бабу-непочетницу» ў жабу за работу ў пятніцу.

Па ўкраінскіх павер'ях, Пятніца ходзіць па зямлі, сколатая іголкамі і зверчаная верацёнамі *з-за таго, што непачцівыя* жанчыны шыюць і прадуць па пятніцах. За парушэнне пятнічных забаронаў Пятніца, як лічылі ўкраінцы, магла пакараць хваробай вачэй і іншымі няшчасцямі. Ва ўкраінскіх народных казках Пятніца разам з **Панядзелкам** і **Серадою** выконвае тую ж ролю, што і дочкі бабы-ягі.

Вядома таксама павер'е аб тым, што Пятніца ў выглядзе *маладой жанчыны* ходзіць па вёсках і назірае, як хто жыве, як прытрымліваюцца людзі звычаяў і абрадаў **продкаў,** ці паважаюць яны пятніцу, нядзелю і іншыя святыя дні. Адных яна карае, іншым дапамагае і нават узнагароджвае. Да іконы святой Параскевы-Пятніцы дзяўчаты ў Архангельскай губерніі звярталіся *з просьбамі аб садзейнічанні ў шлюбе*: «Пятница, святая мученица Параскева, пошли мне женишка поскорее!».

Ва ўсходніх славян драўляныя скульптуры Пятніцы ставіліся на калодзежах, ёй прыносілі ахвяры, кідаючы ў калодзежы кудзель, тканіну, авечую воўну, выпрадзеныя ніткі. У назве гэтага абраду — *макрыда* — адлюстравалася сувязь з назвай *Мокашы,* язычніцкай папярэдніцы Параскевы-Пятніцы: абодва словы ўзыходзяць да асновы *мокр-*.

Дзень святой Параскевы-Пятніцы адзначаецца ў народным хрысціянскім календары 27 кастрычніка. Згодна з рускімі павер'ямі, гэта — «бабья святая», ахоўніца жаночай зімовай работы, у першую чаргу — прадзення.

**ПЯТРО** — свята народнага календара, якое адзначаецца 12 ліпеня; шануецца памяць святых апосталаў Пятра і Паўла. Беларуская народная назва — *Пятрок,* руская — *Петровка.* У народных песнях святы Пятро «папар барануець, поле раўнуець, грунт гатуець, жыта родзіць». З Пятрова дня пачынаецца зялёны пакос. *Лічылася,* што **зязюля** куе ад **Юр'я** да Пятра, пасля чаго замаўкае, нібыта падавіўшыся ячменным коласам, які ў гэты час паспявае. Пятрок лічыўся адным з памінальных дзён, калі наведваюць могілкі.

У некаторых рускіх мясцовасцях сяляне выконвалі магічныя абрады, якія, па народных павер'ях, павінны былі дабратворна ўплываць на будучы ўраджай. Напрыклад, жанчыны і дзяўчаты ішлі на Пятроў дзень у поле, несучы з сабою сыр і доўгую палку, якую ставілі на ільняной ніве са словамі: «Дай Бог, чтоб лён был твёрд, как смычина, длинен, как тычина, и бел, как этот творог!».

З гэтага дня пачынае памяншацца дзень, ападаюць першыя лісты: *Пётр и Павел день убавил; Прыйдзе Пятрок — сарве лісток.*

## Р

**РАБІНА** — дрэва, якое, па народных павер'ях, адганяе нечысць з-за **чырвонага,** вогненнага колеру ягад і лісця крыжападобнай формы. Параўн. заўвагу А. М. Афанасьева: «чырвоныя ягады рабіны нагадваюць маланкавы колер **Перуна**». Галінку рабіны ставілі побач з новабудоўляй — для адводу «злога вока» і рознай нечысці. З рабінавай галінкай у руках сваха абыходзіла вакол дома, дзе ладзілася вяселле, і асобна — вакол шлюбнага ложка. З гэтай жа мэтаю — ад сурокаў — лісцікі рабіны нявеста клала сабе ў абутак.

**РАБІНАВАЯ НОЧ** — цёмная летняя ноч з громам, маланкай, праліўным дажджом або толькі з беспярапыннымі зарніцамі. Такая неспакойная, бурлівая ноч звычайна бывае ў канцы лета, нярэдка — на **Іллю** (2 жніўня) (гл.: **Пярун**). Магчыма, назва рабінавая ноч звязана з уяўленнямі аб **рабіне** як «чартагоннай» расліне.

Галоўны міфалагічны змест *рабінавай ночы* — жорсткая барацьба вогненных нябесных сіл з зямной нечысцю (параўн. Вераб'іная ноч). Згодна з народнымі павер'ямі, у гэтую ноч з пекла на свет выходзяць усе злыя сілы, якія спраўляюць сваё галоўнае гадавое свята. Паколькі за лета на зямлі накапілася шмат нячыстай сілы і яна зрабіла многа шкоды, то ўсе стыхіі (маланка, **вецер**, дождж) аб'ядноўваюцца для барацьбы з ёю. Лічылася, што чалавек, забіты маланкаю ў рабінавую ноч, з'яўляецца **чараўніком** або **ведзьмай.** Для абароны дома і іншых пабудоў ад уздзеяння нячысцікаў у гэтую ноч раілі вывешваць абрус, якім быў накрыты стол на **Вялікдзень.**

Ч. Пяткевіч у рабоце «Духоўная культура Рэчыцкага Палесся» прыводзіць наступнае апісанне рабінавай ночы, суадносячы гэтую назву з паводзінамі рабчыкаў (рабкоў): «Рабінавая ноч бывае між Прачыстымі, і не дай Божа, штоб яна ў лесі засцігла

хрышчонага чалавека. Перуны б'юць адзін за адным, страшэнны лівун лье і схавацца некуды, а бліскавіца бліс да бліс, здаецца, што ўвесь свет гарыць. У гэтую ноч рабкі як разлятаюцца па ўсяму свету, то ўжэ так і жывуць па аднаму. Затым-то етая ноч завецца рабінавая». У Веткаўскім раёне занатавана больш лаканічнае выказванне: «Рабінавая ноч — самая цёмная, калі чэрці гуляюць, пасля **Іллі**».

Асабліва выразнае, сапраўды міфалагічна-вобразнае апісанне рабінавай ночы як адлюстравання барацьбы вогненнай нябеснай стыхіі з нечысцю знаходзім у рабоце А. К. Сержпутоўскага «Прымхі і забабоны беларусаў-паляшукоў»: «Маланка паліць, неба раве, стогне ды так грамаціць, бы там тысяча гармат смаліць, а дажджу няма. Бачна, што гэта не навальніца, што гэта не град пасылае Бог, каб пакараць людзей за грахі, а што гэта хтось пашавяліў **пекла**, патурбаваў нячыстую сілу. Так мітусяцца хмары, таўкуцца аблакі, грукаюць грымоты, гарыць неба бы ў гуще, лес схіляецца чуць не да зямлі, трашчыць ды стогне, а **зямля** спалохалася, схавалася пад расліну, ляжыць ціхенька і не дыша, жджэ-паждджэ, недаждджэцца, пакуль засвеціцца на ўсходзе ды не бліснуць адтуль ясныя стрэлы сонейка ды не разгоняць нечысць ці не запруць яе зноў у цёмнае пекла таўчыся каля смалы. Дык от такая рабінавая ноч».

Вядома і летапіснае сведчанне аб рабінавай ночы. У Цвярскім летапісе прыводзіцца апісанне бітвы, якая адбылася ў 1024 г. паміж дружынамі Яраслава Мудрага і яго брата Мсціслава каля Чарнігава; у гэтым летапісе і сустракаецца словазлучэнне *рябинная ночь*, што сведчыць аб старажытнасці ўяўленняў аб гэтай прыроднай з'яве: «И поиде Ярослав с Якуном на Мстислава к Чернигову; Мьстислав же слышав, изыде противу их на сечу к Листвену, и бяше осень, и ту ся сретоша... И бывше нощи рябинной, бысть тьма и гром бываше и молния и дождь. И бысть сеча зла и страшна...».

**РАБЫ** (стракаты, пярэсты). Стракатасць як знешняя адзнака жывёл асэнсоўвалася ў народна-міфалагічнай традыцыі выключна ў негатыўным плане — як дрэнная прыкмета, як атрыбут нячыстай сілы. Параўн. звесткі аб стракатасці **вераб'я, зязюлі, сарокі** — птушак, маючых дачыненне да сферы нячыстай сілы або замагільнага свету. У народных апавяданнях і былічках стракатыя жывёлы (**кот, сабака**) асэнсоўваюцца як блізкія да розных міфічных істот, у першую чаргу — да **Дамавіка**: апошні жыве з імі ў поўнай згодзе, што адлюстроўваецца і на дабрабыце сям'і. У беларускіх павер'ях сустракаюцца матывы ператварэння злога Дамавіка або **ведзьмы** ў стракатага сабаку. У адной рускай былічцы расказваецца аб помсце **ведзьмара**, які ператварыўся ў стракатую **змяю**: «Хацелі яе забіць, але яна знік-

ла. З тых часоў пачалі заўважаць нешта дзіўнае: знікненне розных рэчаў у хаце, з'яўленне лапця ў гаршку з ежай, разбіванне посуду...». Агульныя адмоўныя адносіны да стракатых, пярэстых жывёл і да пярэстасці як з'явы наогул знайшлі адлюстраванне ў наступным народным павер'і — забароне на пэўныя работы ў час **Калядаў**: «Хто ў гэты час латае бялізну, у таго ўсе ягняты будуць пярэстымі (колер, не асабліва любімы беларусамі)» (П. П. Дземідовіч). М. Я. Нікіфароўскім было занатавана цікавае павер'е аб прамой сувязі пярэстага (стракатага) каня з уяўленнямі аб небяспечнай міфічнай істоце — **Хлеўніку**: «Які б не быў дужы стракаты конь, але трымаць яго ў гаспадарцы нязручна як таму, што ён перапсуе масць іншых хатніх жывёл, так яшчэ і таму, што пасля такога каня ў хляве паселіцца Хлеўнік». Беларусам вядома таксама забарона на выкарыстанне рабых коней у вясельным поездзе, на якім маладыя адпраўляюцца ў царкву для вянчання.

**РАДАЎНІЦА (Радуніца)** — веснавое свята ўсходніх славян, звязанае з культам продкаў (гл.: **Дзяды**); адзначаецца ў аўторак паслявелікоднага тыдня. У гэты дзень звычайна пасля паўдня кожная сям'я памінала памершых родзічаў на могілках, якія папярэдне прыбіраліся, прыводзіліся ў парадак. Рытуальныя стравы (велікодныя яйкі, сыр, масла, куцця, гарэлка і інш.) ставілі на **белым** абрусе, якім засцілалі магілу. Праліўшы некалькі кропель віна на абрус, гаспадар запрашаў **дзядоў** прыняць удзел у трапезе. Рэшткі ежы аддавалі вандроўным жабракам: верылі, што жабракі забяспечваюць сувязь паміж жывымі і «тым светам», а значыць, шчодра аддадзенае дойдзе да памерлых сваякоў. Існаваў таксама звычай качаць па магіле велікоднае **яйка**, якому надавалася сімвалічнае значэнне адраджэння жыцця. Святкаванне Радаўніцы заканчвалася звычайна дамашнім застоллем вечарам або ў карчме. Нярэдка пасля памінання продкаў і галашэнняў на могілках вечарам наладжваліся «гульбішчы» з песнямі і скокамі, што сведчыць аб старажытнасці памінальных звычаяў на Радаўніцу. У старажытных памінальных рытуалах абавязковымі заключнымі элементамі былі рытуальны смех, жарты, вясёласць. Гэтым, па народных вераваннях, імкнуліся пераадолець **Смерць**, не дапусціць яе ўплыву на жывых, сцвердзіць жыццё (паводле В. С. Новак).

**РАДУНІЦА.** Гл. **Радаўніца.**

**РАЖАСТВО.** Гл. **Каляды.**

**РАЙ** — у хрысціянскіх уяўленнях — месца вечнай асалоды, якое прызначана для праведнікаў пры іх знаходжанні «на тым свеце». Звычайна рай уяўляецца як вечназялёны прыгожы сад або горад, у якім без клапот жывуць тыя, хто вёў бязгрэшны

лад жыцця. У народных легендах і павер'ях рай процістаўляецца **пеклу**. Параўн. **вырай.**

**РОСТАНЬ** — ва ўяўленнях усходніх славян — небяспечнае месца, непарыўна звязанае з дзейнасцю нячыстай сілы. Надзвычай пашырана павер'е аб тым, што менавіта на ростані (асабліва апоўначы) пастаянна знаходзіцца **Чорт** і іншыя нячысцікі (гл., напрыклад, **Блуд**). На ростані для сустрэчы з Чортам ішлі **ведзьмары**, каб дамовіцца з ім аб продажы ўласнай **душы.** Ростані (як і **лазня**) ўяўляліся спрыяльным месцам для дзявочых гаданняў, якія асэнсоўваліся як найбольш грахоўныя. Параўн. звесткі аб рытуальным ператварэнні дзяўчыны ў **ведзьму:** выязджанне ёю вярхом на **венiку** ці на **качарзе** на ростань, дзе яна варажыла, прыслухоўваючыся да брэху сабакі. Пры **абворванні** вёскі ў час эпідэміі рускія сяляне на ростанях «сяклі» небяспечную хваробу. У рускай жа традыцыі ростань выкарыстоўвалася для таго, каб «дапытаць» **віхор** аб будучым надвор'і.

**РУСАЛКА** — у міфалогіі ўсходнеславянскіх і іншых славянскіх народаў — жанчынападобная істота, увасабленне воднай і лясной стыхій. Яе звычайна ўяўлялі ў выглядзе маладой прыгожай дзяўчыны (нярэдка — з тулавам рыбы) з доўгімі, распушчанымі **зялёнымі** валасамі.

Лічылі, што Русалкамі становяцца дзяўчынкі, памершыя да хрышчэння, дзяўчаты-тапельніцы, а таксама дзяўчаты, якіх праклялі іх маці. Па народных уяўленнях, Русалкі могуць жыць у полі, у лесе, у вадзе. Асноўнае ўяўленне, звязанае з Русалкай, — іх выключная шкоданоснасць, небяспечнасць уздзеяння на чалавека: сваім чароўным выглядам, прыгажосцю, спевамі яны заварожваюць маладых людзей, прывабліваюць іх да сябе і казытаннем даводзяць да смерці. Адсюль — сінанімічныя назвы Русалак — *ласкатуха, казытка.*

Водныя Русалкі могуць патапіць таго, хто купаецца апоўдні або апоўначы, а таксама тых, хто заходзіць у ваду без крыжа і не перахрысціўшыся. Асабліва актывізуюцца Русалкі пры свеце **месяца.** Русалкі выварочваюць рыбацкія сеткі, набіваючы іх цінай, вырываюць вёслы ў рыбакоў. У адрозненне ад **Вадзенікоў** і **Лесавікоў,** Русалкі не ўступаюць у «дагаворныя адносіны» з чалавекам: гэта вельмі небяспечная для людзей нечысць. Як адзначае сучасная даследчыца рускага фальклору і міфалогіі Э. В. Памяранцава, «ні ў адной іншай міфалагічнай істоце няма такога трагічнага спалучэння прыгажосці і каварства».

Па народных павер'ях, засцерагчыся ад уздзеяння Русала можна рознымі шляхамі: перш за ўсё чытаннем малітваў, а таксама з дапамогай палыну, часнаку і цыбулі (паху гэтых раслін Русалкі не пераносяць). Па звестках У. М. Дабравольскага, смаленскія сяляне аберагаліся ад нападзення Русалак наступным

чынам: чарцілі на зямлі крыж, які абводзілі кругам і самі станавіліся ў гэтым крузе: «Русалкі ніколі не падступяцца, паходзяць, паходзяць вакол гэтай рысы, а потым схаваюцца». Сродкам абароны ад Русалак з'яўляюцца і розныя металічныя прадметы. Аб гэтым, у прыватнасці, сведчыць былічка, запісаная ў Калужскай губерніі ў канцы мінулага стагоддзя: «Шёл мужик по лесу, а Русалки за ним турятся, все голые, растрёпанные. Сотворил мужик молитву — явился юноша и дал ему жезл. Русалки заголосили и убежали в лес». Яшчэ ў адным рускім паданні расказваецца аб тым, як чалавек выратаваўся ад небяспечнага ўздзеяння воднай Русалкі з дапамогай **сякеры**.

Велымі небяспечнымі Русалкі становяцца на русальным тыдні — тыдні пасля **Троіцы** (восьмым тыдні пасля **Вялікадня**). На працягу гэтага тыдня (асабліва ў **чацвер** — на «русальчын вялікдзень») асцерагаліся купацца, хадзіць у лес і ў поле. На русальным (або граным) тыдні забаранялася таксама гарадзіць платы, вырабляць бараны, віць вяроўкі, гнуць палоззі на сані, снаваць кросны. У выпадку ігнаравання тэтых забаронаў у гаспадарцы маглі адбыцца розныя непрыемнасці, напрыклад, магло нарадзіцца цяля або жарабя з трыма нагамі, без сківіцы або без вачэй і г. д. У таго, хто араў зямлю на гэтым тыдні, можа загінуць скаціна; хто будзе сеяць, у таго град паб'е хлеб; хто будзе гарадзіць плот, віць вяроўкі ці вязаць бараны, таго хвароба сагне ў дугу.

Адначасова Русалкі асэнсоўваліся і як духі раслліннасці, якія ўплываюць на ўрадлівасць нівы (параўн. **Каза, Заяц**): яны вартуюць жыта, калі яно калосіцца; сочаць, каб ніхто не паламаў каласоў, не атрасаў з іх расу. Ахоўная роля Русалак, іх магічны ўплыў на ўраджай адлюстраваліся ў абрадзе провадаў Русалак, які адбываўся ў канцы русальнага тыдня, звычайна ў нядзелю. Для выканання гэтага абраду беларусы выбіралі «Русалку» — прыгожую маладую дзяўчыну, распляталі ёй валасы, упрыгожвалі зялёнымі галінкамі, кветкамі, вянкамі і з песнямі праводзілі да поля, дзе расло жыта, стукаючы пры гэтым у розныя прадметы. Потым, зняўшы з «Русалкі» **вянок**, штурхалі яе ў жыта, а самі ўцякалі. «Русалка» павінна была гнацца за ўдзельнікамі абраду, пляскаючы ў далоні.

Рускім быў вядомы абрад пахавання Русалкі, магічны сэнс якога таксама заключаецца ва ўздзеянні міфічнай істоты на ўраджайнасць нівы. Удзельнікі гэтага абраду рабілі ляльку, апраналі яе ў белую вопратку, клалі на насілкі і неслі праз вёску да поля. Адна з дзяўчат выконвала ролю святара, у руках якога было «кадзіла» — стаптаны стары **лапаць**, а таксама «свечкі» з трыснягу. На полі ляльку-Русалку распраналі, а насілкі кідалі ў жыта. Рабілася гэта дзеля таго, «каб лепш рос хлеб».

**РУЧНІК**, акрамя дэкаратыўнага і ўтылітарнага прызначэння, асэнсоўваўся як абавязковы атрыбут шэрагу абрадаў.

Ручнікі ўваходзілі ў пасаг нявесты, з'яўляліся неабходнай часткай падарункаў нявесты жаніху, сватам, родзічам жаніха. Ручнікі павязвалі цераз плячо важнейшых удзельнікаў вяселля. Іх пасцілалі як «падножнік», на які станавіліся маладыя ў час царкоўнага вянчання. У фальклорных творах (найперш у народных песнях) выраз *на ручнічок стаць* ужываецца ў значэнні «вянчацца». Ручнікі выкарыстоўвалі таксама для абрадавага звязвання маладых, для абгортвання рук нявесты і жаніха ва ўрачыстыя моманты вяселля. На Палессі ручнік, завязаны на руку, дапаўняў вясельны касцюм маладой. Ручнік клалі нябожчыку ў труну, прывязвалі да павадоў каня, які вёз нябожчыка на могілкі. На ручніках апускалі труну ў магілу, ручнікамі ўпрыгожвалі надмагільны крыж. Як знак жалобы ручнікі вывешвалі за акно на **Дзяды**.

У час засухі, эпідэмій, вайны і іншых няшчасцяў жанчыны ўсяго сяла ткалі на працягу дня ці ночы **абыдзённік**, які выконваў функцыю апатрапея.

На **Вадохрышча** ручнікамі часам упрыгожвалі ледзяны крыж, на Сёмуху (гл. **Троіца**) іх ахвяроўвалі бярозе як духу расліннасці, на **Купалле** разам з вянкамі з жывых кветак развешвалі на прыдарожныя крыжы.

У мінулым ручнік быў, верагодна, своеасаблівым язычніцкім абразом, магічным апатрапейным сімвалам роду, сям'і, з дапамогай якога ажыццяўлялася сувязь паміж нашчадкамі і продкамі (паводле В. Я. Фадзеевай).

## С

**САБАКА** — у міфалагічных павер'ях і ўяўленнях усходніх славян надзяляўся важнымі магічнымі ўласцівасцямі: дарам прадбачання, здольнасцю прадказваць лёс і адганяць нячыстую сілу.

Выключная роля сабакі ў жыцці чалавека вызначаецца ў «Легендзе пра хлебны колас», вядомай не толькі славянам, але і многім іншым народам свету. У ёй расказваецца аб старажытных часах, калі хлеба ў людзей было вельмі многа і жылі яны вельмі заможна, таму што хлебнага зерня было ўдосталь, а колас быў незвычайны: ён рос ад самай зямлі, зярняты пакрывалі ўсё сцябло. Але людзі не цанілі такога багацця і абыходзіліся з хлебам нядбайна. Гасподзь Бог, які ў гэты час хадзіў па зямлі ў выглядзе жабрака, неаднаразова пераконваўся ў абыякавых,

глумлівых адносінах людзей да хлеба. Бог вырашыў пакараць неразумных нашчадкаў Адама і Евы, пазбавіўшы іх чароўнага коласа, а значыць, і хлеба. Ён узяў у рукі хлебны колас і пачаў абрываць зярняты ад нізу да верху. Але тут сабака (у другіх варыянтах легенды — сабака разам з катом) папрасіў Бога злітавацца і пакінуць на коласе крыху зярнят — «сабачую долю». Бог так і зрабіў, пакінуўшы зярняты на самай верхавіне і ўтварыўшы тым самым сучасны колас. Так, дзякуючы сабаку, праз «сабачую долю» людзі, як сведчыць гэтая легенда, маюць магчымасць вырошчваць і збіраць зерне, пячы з яго цудоўны прадукт — хлеб. Як прызнанне заслуг сабакі перад чалавецтвам захаваўся старажытны звычай карміць сабаку першым хлебам новага ўраджаю. Названы звычай-парада быў, у прыватнасці, запісаны А. К. Сержпутоўскім: «Як сядзеш за стол, то першы кусок дай сабаку, няхай ён з'есць, бо не ведаем, праз чыю ласку жывём. Мы жывём праз тую долю, што Бог даў сабаку».

Згодна з агульнапашыраным уяўленнем, сабака сваім выццём папярэджвае гаспадароў аб будучай бядзе, няшчасці. У многіх народаў свету, у тым ліку і ва ўсходніх славян, сабака надзяляўся такой надзвычайнай магічнай уласцівасцю, як адчуванне нячыстай сілы. Характэрная ў гэтых адносінах беларуская быліčка пра сабаку, які дзякуючы таму, што бачыць нячыстую сілу, будзіць свайго гаспадара ў той момант, калі да яго набліжаецца Чорт. Н. М. Нікольскі ў кнізе «Жывёлы ў звычаях, абрадах і вераннях беларускага сялянства» пісаў: «Сабака лічыцца абаронцам ад злых духаў: апошніх адганяе сабачы брэх, яго кроў, шэрсць, чэрап, нават імя». Блізкае да гэтага сведчанне «чартагонных» здольнасцей сабакі знаходзім у А. М. Афанасьева: «Сабака пазнае прысутнасць нячыстых духаў, адчувае набліжэнне Чумы і нават Смерці і кідаецца на іх, як верны вартавы свайго гаспадара». Характэрна, што ў народных павер'ях сабака надзяляецца такімі ж здольнасцямі супрацьстаяння нячыстай сіле, што і певень: «Певень і сабака, паводле верання беларускага сялянства, ахоўваюць двор і дом ад усялякага ліха і ад злодзеяў, і ад нячыстай сілы. Калі апошняя ноччу захваціць у свае лапы чалавека, дык даволі запяяць пеўню ці забрахаць сабаку, каб нячыстая сіла зараз жа пакінула сваю здабычу і знікла» (Н. М. Нікольскі).

Цікавае павер'е, звязанае са здольнасцю сабакі адрозніваць добрых людзей ад злых, прыводзіць у сваёй кнізе «Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў» А. К. Сержпутоўскі: «Сабакі брэшуць толькі на ліхога чалавека. От затым тым сватам адказваюць, на якіх вельмі кідаюцца сабакі. Да й самі сваты, як убачаць, што на іх вельмі брэшуць сабакі, то хутчэй ідуць далей міма двара дзеўкі».

У абрадзе рытуальнага **абворвання** вёскі, якое адбывалася ў час эпідэмій, сабака (як і некаторыя іншыя магічна маркіраваныя жывёлы) мог выконваць ролю ахвяры: яго жывым кідалі ў яму, куды кідалі таксама здохшую ў час эпідэміі жывёлу; потым у гэтую яму ставілі драўляны слуп, з якога шляхам трэння аб яго саннага полаза здабывалі «жывы **агонь**». Праз дым вогнішча, запаленага ад гэтага агню, праводзілі ўсіх уцалелых жывёл і праходзілі самі — дзеля ачышчэння і збераджэння ад згубнага ўздзеяння смерці.

Шырока вядома «выкарыстанне» сабакі ў калядных варожбах (параўн. звесткі аб звяртанні ў гэтым выпадку да **пеўня**). Звычайна перад Калядамі ноччу дзяўчаты выходзілі з дому, станавіліся на сметнік (гл. **Смецце**) і, паклаўшы на галаву першы спечаны блін, уважліва прыслухоўваліся: з якога боку забрэша сабака, адтуль і сваты прыедуць. Звярталі таксама ўвагу на характар сабачага брэху: звонкі, залівісты брэх прадказваў маладога мужа, а глухі, хрыплы — старога. Характэрна, што такім жа чынам у некаторых мясцовасцях выпрабоўвалі свой лёс і вясковыя хлопцы. Сведчанне аб гэтым зафіксавана А. К. Сержпутоўскім: «Пасля калядпай вячэры хлопцы бягуць на ростанцы і слухаюць, у якім баку забрэша сабака — адтуль ім трапіцца жонка, бо гэта так суджана». Такім жа чынам варажылі і рускія дзяўчаты: «На Святки выходят к забору и говорят: «Залай, залай, собаченька, залай, серенький волчок». В которой стороне услышит девушка лай, в той стороне будет жить замужем» (И. П. Сахаров «Сказания русского народа»). Існаваў яшчэ адзін варыянт варожбаў з удзелам сабакі. Для гэтага дзяўчаты, сабраўшыся разам, пяклі невялікія булачкі ці аладкі, раскладвалі іх на **парозе** хаты і прыводзілі ў хату сабаку. Далей уважліва назіралі: чыю аладку сабака з'есць першай, тая дзяўчына і замуж першай выйдзе ў надыходзячым годзе. Выразны прыклад такой варажбы запісаны на Капыльшчыне У. А. Васілевічам: «На Шчадраца дзяўчаты кожная выпякала аладку і прыносілі ў адну хату. Раскладвалі аладкі ў рад. Потым прыводзілі сабаку. І той ужо ў якім парадку з'есць іх (а адну за адной не еў — спачатку кожную панюхае!) — у тым парадку дзяўчаты замуж пойдуць. І гэтак кожны раз спраўджвалася! А бывае возьме чыю аладку, зацягне куды і не з'есць, то тая ўжо дзеўка разыйдзецца з хлопцам».

**САРОКА** — у народных павер'ях і ўяўленнях — апатрапей ад уздзеяння нячыстай сілы. Асабліва распаўсюджаны звычай вывешвання забітай сарокі ў хляве для абароны ад **ведзьмаў** на **Купалле**, ад **Хлеўніка** і іншых нячысцікаў. Сакатанне сарокі выдае прысутнасць нячыстай сілы: «Калі сарока часта садзіцца на хлеў і сакоча, выдаючы гэтым знаходжанне **Хлеўніка**, дык

той робіцца раз'юшаны, пачынае шкодзіць любым жывёлам і нарэшце зусім зыходзіць з хлява» (М. Я. Нікіфароўскі). У сароку, па народных павер'ях, можа ператварацца **ведзьма**. У беларускай народнай легендзе «Каня і Сарока» хітрасць, ілжывасць сарокі звязваюцца з яе знешнім выглядам: яна плямістая, **рабая**. Параўн. аналагічныя ўяўленні аб **асіне**: з аднаго боку, гэта дрэва нячыстае, а з другога — сродак абароны ад нячысцікаў.

**СВАРОГ** — бог агню, кавальскай справы і шлюбу ў старажытных славян-язычнікаў; адзін з багоў пантэону, які ўзначальваў **Пярун**. **Сварог** — бацька **Дажбога**, аб чым сведчыць Іпацьеўскі летапіс: «...Сего ради прозваша и богъ Сварогъ... и по семь царствова сынъ его именемъ Сонце, его же наричють Дажьбогъ...» Сварог пасылаў людзям нябесны **агонь**, калі яны яшчэ не ўмелі здабываць яго самі; ён жа кінуў на зямлю кавальскія клешчы, і пасля гэтага людзі навучыліся каваць жалеза. Сварог распальвае іскрамі свайго агню не толькі натхненне ў душах майстроў, але і любоўнае пачуцце ў сэрцах людзей. Сварог выкаваў першы плуг і першы залаты заручальны пярсцёнак. Уяўляўся Сварог у выглядзе маладога, плячыстага, маўклівага і строгага каваля.

**СВІННЯ** ў народных павер'ях асэнсоўвалася як жывёла, уплываючая на здароўе і дабрабыт людзей. Свініна была абавязковай ежай на Шчодры вечар: лічылася, што ў такім выпадку будзе забяспечаны дастатак і багацце ў гаспадарцы, здароўе і прадаўжэнне роду гаспадароў. Крывёю забітай перад **Калядамі** свінні ў Расіі пырскалі **ў агонь**, ёй прыпісвалі здольнасць адганяць ад дому і хатняй **жывёлы** нячыстую сілу. На Беларусі ў гэты ж час забівалі парася на **парозе**, ахвяруючы яго кроў **душам продкаў**.

У народнай медыцыне пры цяжкіх захворваннях дзяцей (**начніцы**, «падзіва», г. зн. эпілепсія) выкарыстоўвалі прадметы, маючыя дачыненне да свінні: свіное карыта і «свіны берлог» (месца, на якім у хляве ляжала свіння): «Ад падзіву лечаць так: бяруць раненька хворае дзіця проста з пасцелькі, абхінаюць яго хусткамі і кладуць на свіны берлог зараз жа, як устане свіння, каб ён яшчэ быў цёплы»; «Часта ад падзіву і ад перапалоху, а то і ад начніц памагае, калі дзіця палажыць пад перавернутае каля свінушніка карыта і перагнаць цераз яго свіней» (А. К. Сержпутоўскі). Гэты ж свіны «берлог» рускія **знахары** раілі выкарыстоўваць для барацьбы з **заломамі**: «Для отвращения бедствия от хлебной завязки знахари велят хозяевам полей брать из хлева то место, где почивают свиньи, положить в телегу, запрячь неезженную лошадь и скакать к полю во весь скок. Приехавши в поле, надобно накрыть хлебную завязку этой поклажею, не прикасаясь рукою. Потом должно ехать, не оглядываясь назад, иначе нечистая сила свернёт на сторону голову».

А. М. Афанасьеў прыводзіць некаторыя народныя прыкметы, звязаныя з назіраннямі над паводзінамі свінні: «Калі статак свіней бяжыць з поля з віскам і рохканнем, калі свіння чэшацца аб вугал хаты — гэта лічыцца прадказаннем дажджу і непагадзі; калі свіння бяжыць з саломай у роце — гэта знак набліжэння буры; калі свінні цiснуцца адна да адной, то трэба чакаць маразоў».

Разам з тым, у народных павер'ях свіння — гэта жывёла, у якую часта ператвараецца **ведзьма.**

**СЕРАДА** — трэці дзень тыдня, які ў народна-міфалагічным асэнсаванні звязваўся пераважна з адмоўнымі ўяўленнямі як няцотны, «жаночы» дзень (параўн. **пятніца** «дзень тыдня»), прысвечаны **Мокашы.** Як і «цяжкі», неспрыяльны, нешчаслівы дзень **пятніца,** серада з'яўляецца днём, у які пазбягаюць сватацца і наладжваць вяселлі; у сераду, як і ў пятніцу, строга забараняецца працы; тых, хто парушае гэту забарону, карае міфічная істота — **Серада.**

Уяўленні аб серадзе як посным дні, калі нельга наладжваць частаванне гасцям, адлюстравалася ў народных прымаўках: *Добры госць, ды ў сераду трапіўся; Добрыя госці, ды ў сераду завіталі.*

**СЕРАДА** — міфічная істота, увасабленне трэцяга дня тыдня — **серады.** (Параўн. **Пятніца** «міфічная істота»).

У народных павер'ях Серада асэнсоўвалася як істота, маючая патрэбу ў прадзіве («таму што ў яе многа дочак», «яна на дочкі бярэ»). У сувязі з гэтым у сераду, як і ў **пятніцу,** забаранялася працы.

У беларускай легендзе «Серада і Пятніца» гэтыя жанчынападобныя істоты характарызуюцца не як роўныя, таму што адпаведныя дні тыдня маюць для чалавека розную магічную значнасць. У легендзе чалавек, які сустракае Сераду і Пятніцу, наступным чынам адказвае на іх пытанне аб тым, што ён больш любіць—сераду ці пятніцу: «Мабыць жа, пятніцу, бо сераду ляхі саўсім не посцяць»; «У серадную ўсё ядуць, а ў пятніцу ні прадуць, ні аруць».

**СЕМУХА.** Гл. **Троіца.**

**СІМАРГЛ** — адзін з багоў старажытных славян-язычнікаў, бог пантэону, які ўзначальваў **Пярун.** Функцыі Сімаргла няясныя. Ён асэнсоўваўся і як бог **агню** (гл. **Сварог**), і як бог раслiннасці, ахоўнік раслін і зеляніны; яго дзень — **субота.** Па аднаму з павер'яў Сімаргл уяўляўся крылатым сабакам, які сцеражэ пасевы. Ён — пасрэднік паміж нябеснымі багамі і добрымі зямнымі багамі. Сімаргл здольны вылечваць людзей, таму што ён, па легендзе, прынёс на зямлю парастак дрэва жыцця. Імя *Сімаргл* (рус. *Семаргл*) паходзіць, як лічаць вучоныя, ад слова

*сем* і звязана з уяўленнямі аб сувязі сямізначнасці са шчасцем, удачай.

**СМЕРЦЬ** — персанаж, які сустракаецца ў міфалогіі ўсіх народаў свету; увасабленне смерці. Звычайна ўяўляецца ў выглядзе страшнай старой **бабы**, жанчыны ў **белай** або **чорнай** вопратцы, шкілета з касой. Смерць прыходзіць з **пекла** на зямлю, каб выбраць чарговую ахвяру і пазбавіць яе жыцця. Народнае павер'е, згодна з якім Смерць можа бачыць паміраючы, знайшло адлюстраванне, у прыватнасці, у расказе В. М. Шукшына «Як паміраў стары»:

— Агнюша, — с трудом сказал он, — прости меня... я маленько заполошный был... А хлеб-то рясный-рясный!.. А погляди-ка, в углу-то кто? Кто там?

— Где, Степан?

— Да вон!..— Старик приподнялся на локте, каким-то жутким взглядом смотрел в угол избы — в передний. — Вон же она, — сказал он, — вон... Сидит-то?..

Егор пришел вечером... На кровати лежал старик, заострив кверху белый нос. Старуха тихо плакала у его изголовья...

**СМЕЦЦЕ** ў народных уяўленнях асэнсоўвалася як прадмет, цесна звязаны з чалавекам, як частка самаго чалавека. М. І. Шахновіч у сувязі з гэтым адзначаў: «Калісьці людзі верылі, што дом — месца, у якім знаходзіцца сямейнае шчасце, а таму смецце, як і ўсё, што знаходзіцца ў жыллі, — частка тэтага шчасця, непарыўна звязаная з ім». Характэрна, што ў польскай мове словазлучэнні *быць на сваім смецці, вяртацца на сваё смецце* маюць (адпаведна) значэнні «знаходзіцца ў сваёй хаце» і «вяртацца да свайго дому», што сведчыць аб набыцці словам *смецце* сімвалічнага значэння «хатняе жыллё, дамоўка». Невыпадкова і тое, што сметнік (месца каля хаты, куды выносяць смецце) часта выкарыстоўваўся як рытуальнае месца для калядных варожбаў. А. К. Сержпутоўскі прыводзіць наступнае апісанне аднаго з такіх звычаяў: «Дзяўчаты пасля вячэры выбягаюць на двор, становяцца на сметніку і слухаюць, дзе забрэша **сабака** — у той бок яны пойдуць замуж». Да смецця звярталіся таксама і для таго, каб даведацца аб узросце суджанага. З гэтай мэтай дзяўчаты вымяталі хату і, сабраўшы смецце, выходзілі з ім на вуліцу. Калі пры гэтым сустрэнецца стары чалавек — будзе стары муж, а калі малады хлопец, то і муж будзе малады.

Агульнапашыраным для ўсходніх славян было павер'е аб тым, што смецце ні ў якім разе нельга выносіць за межы дома. Гэтая забарона знайшла сваё адлюстраванне ў народнай прымаўцы *Хату мяці, а смецце на вуліцу не нясі.* У. І. Даль прыводзіць аналагічнае рускае выслоўе *Избушку мети, а сор под порог клади,* а прымаўку *Из избы сору не выноси, а в уголок копи* ён суправа-

джае выразным каментарыем: «Сяляне не мятуць смецце на двор або на вуліцу, а кідаюць у печ, калі затопяць яе, таму што па смеццю, як па следу, **знахар** можа наслаць сурокі». У прыведзеных прыкладах нельга не заўважыць сувязі смецця з уяўленнямі аб **печы** і **парогу** — месцамі, непасрэдна звязанымі з культам продкаў (гл. **Дзяды**). У пачатку нашага стагоддзя Е. Р. Раманаў запісаў павер'е аб смецці і яго магічным уплыве на ўраджай і матэрыяльны дабрабыт: «Смецце нельга спальваць або выкідваць у гной, а трэба збіраць у асобным месцы, а адтуль вынесці яго ў Вялікі **чацвер** на агарод—каб багацце не вынесці».

З названымі ўяўленнямі аб смецці звязана вядомае і зараз павер'е аб забароне падмятаць падлогу, прыбіраць і мыць посуд у той дзень, калі хто-небудзь з членаў сям'і ад'язджае з дому. Смецце не выносяць таксама з хаты, у якой знаходзіцца нябожчык, да тых пор, пакуль цела не вынесуць на могілкі, «каб у хаце іншых пакойнікаў не было».

Забарона на вынясенне смецця адлюстравалася і ў фразеалагічным звароце *выносіць смецце з хаты* «паведамляць тое, што не павінны ведаць іншыя».

**СОРАКІ** (22 сакавіка), царкоўнае свята — дзень сарака пакутнікаў. Лічба, што ўваходзіць у назву свята, шырока абыгрывалася ў павер'ях і абрадавых дзеяннях, якія бытавалі ў гэты дзень. Калі на Сорокі здараўся мароз, то меркавалі, што пасля адбудзецца яшчэ сорак маразоў. У гэты ж дзень пераломвалі сорак дошчачак і перарывалі сорак вяровачак ці шнуркоў. Прадметы, якія пераломваліся і разрываліся, сімвалізавалі сабою сілы, якімі была скавана зямля, і выкананне гэтага абраду мела сваёй мэтаю наблізіць надыход цяпла, абудзіць ад зімовага сну ўсю жывую прыроду. На Усходнім Палессі пачыналася гуканне вясны (паводле У. А. Васілевіча).

**СПАРЫШ** — ва ўсходнеславянскай міфалогіі — бажаство дастатку, багатага ўраджаю, дух жніва, які жыве ў двайным коласе, увасабленне ўрадлівасці; цар-колас. Спарыша ўяўлялі ў выглядзе кучаравага белагаловага юнака, які ходзіць па палях, ахоўвае іх ад усялякіх няшчасцяў. Спарышом называлі таксама двайны колас або двайное зерне, якое асэнсоўвалася як сімвал урадлівасці. З двайных каласоў выбіралі зерне, варылі агульнае «брацкае» піва; **плялі з іх вянок,** які самая прыгожая дзяўчына кідала ў свіран. У некаторых рускіх мясцовасцях са здвоеных калоссяў выраблялася лялька — спарыння, з іх спляталася таксама «**барада**», якая прысвячалася святым-блізнятам: Фролу і Лаўру, Казьме і Дзям'яну.

На думку Т. В. Валодзінай, у аснове вобраза Спарыша ляжаць язычніцкія ўяўленні аб **продках**, ад якіх залежаў дабрабыт земляроба. У беларускіх жніўных песнях міфічнага Спарыша за-

прашаюць на кут, садзяць на золаце, частуюць тыповымі памінальнымі стравамі: мёдам, сытой, віном. Па назіраннях даследчыцы, гэты вобраз у народных уяўленнях можа пераплятацца з міфічнай птушкай або з матыльком (птушкі і матылькі ў народна-міфалагічнай традыцыі ўспрымаліся як **душы** памершых продкаў). У шэрагу выпадкаў назіраецца і суаднясенне Спарыша з **Дамавіком,** які, у сваю чаргу, асэнсоўваўся як увасабленне продка.

**СПАС** — свята ў народным календары ўсходніх славян, якое адзначаецца 19 жніўня («яблычны» Спас); царкоўная назва — *Праабражэнне* (рус. *Преображение Господне*).

У народнай свядомасці гэтае свята звязваецца перш за ўсё з пасяваннем яблыкаў і асвячэннем іх у царкве. Вельмі пашырана павер'е аб тым, што да Спаса нельга есці яблыкаў, бо будуць паміраць дзеці. Забарона есці перад Спасам яблыкі асабліва дзейнічала на тых людзей, у якіх памёрлі дзеці (на тым свеце Бог будзе раздаваць на Спаса яблыкі ўсім памёршым дзецям, а таму дзіцяці, чыя маці каштавала іх раней дазволенага тэрміну, пачастунку не дастанецца). У многіх мясцовасцях пасля асвячэння ў царкве людзі неслі яблыкі на могілкі, дзе клалі ўсім памершым родзічам па яблыку. Назва свята — *Спас* — у народнай свядомасці атаясамлівалася па сугуччу з дзеясловам *спаць*. Таму сцвярджалася, што зямля ў гэты дзень спіць, а значыць, трывожыць яе сон і працаваць нельга (паводле У. А. Васілевіча).

**СТОЛ** — у павер'ях усходніх славян — своеасаблівы магічны маркіраваны «цэнтр» дома; прадмет, цесна звязаны з уяўленнямі аб **покуці** і **хлебе.**

Важнасць стала, як часткі хатняга інтэр'еру, праяўлялася перш за ўсё ў тым, што стол асэнсоўваўся як царкоўны алтар, як прастол Бога, як трон: уся покуць з абразамі і іншымі сімваламі «афармлялася» як алтарная частка храма. У адпаведнасці з традыцыйнымі народнымі паводзінамі і этычнымі ўяўленнямі забаранялася стукаць па стале: «Не бі па сталу, бо стол — Божая далонь». Характэрна, што азначэнне *божая далонь* ужывалася і ў адносінах да **печы** і **зямлі,** якія надзяляюцца выразнымі прадуцыруючымі ўласцівасцямі. Гэтая сімволіка стала асабліва ясна праяўляцца ва ўкраінскім звычаі выстаўляць на стол хлябы рознай велічыні так, каб ён знешне нагадваў неба з галоўнымі свяцiламі. Святасць стала вызначалася і тым, што на яго клалі хлеб, накрыты **ручніком,** асвечаныя ў царкве свечы (гл. **Грамніцы**) і «святую **ваду**». Параўн. рускую прымаўку *Хлеб на стол — так и стол престол, а хлеба ни куска — так и стол доска.* Суадноснасць стала з покуццю ілюструецца ў наступным звычаі: пры пачатку пабудовы дома ставяць стол на месцы будучай покуці, а на стол (для засцярогі ад **нячысцікаў**) ставяць **рабіну.**

Як і покуць, стол суадносіцца з гаспадаром, аб чым сведчыць наступная прыкмета: калі хістаецца стол, то памрэ гаспадар дома. Існавалі забароны на знаходжанне на стале ключоў (гэта прадвяшчае сварку ў сям'і) і нажа (ім можа ўзброіцца нячыстая сіла). Сувязь стала з уяўленнямі аб хлебе, ураджаі яскрава праяўляецца ў звычаі, якога прытрымліваліся ў некаторых рускіх вёсках: перш чым ехаць у поле сеяць збожжа, уся сям'я збіралася ў хаце за пакрытым **абрусам** сталом, на які ставілі хлеб і соль; пры гэтым зачынялі **вокны, дзверы, коміны.** Некаторы час сядзелі моўчкі, потым уставалі, маліліся, і толькі пасля гэтага гаспадар накіроўваўся ў поле.

Асабліва важную ролю выконваў стол у вясельнай абраднасці. Так, у Расіі (Разанская губернія) сваха напярэдадні сватання садзілася за стол, усе ножкі якога былі абвязаны **поясам,** «каб лепш вязалася вяселле». (На тэрыторыі Заходняй Украіны быў вядомы звычай абвязвання ножак стала металічным ланцугом у час **Калядаў** для засцярогі дома і хатняй жывёлы ад нячыстай сілы). У час вяселля менавіта за сталом адбываюцца абрады, якія сімвалізуюць канчатковае далучэнне нявесты да новай сям'і: за сталом «адкрывалі» нявесту (здымалі з яе твару покрыва), благаслаўлялі маладых, вакол стала іх тройчы абводзілі (апошні абрад — сімвалічны аналаг абводу маладых вакол алтара ў царкве). У некаторых рускіх мясцовасцях быў вядомы звычай, па якому нявеста перад адпраўленнем да вянца цягнула за сабою стол да **парога,** «каб сяброўкі таксама выйшлі замуж».

**СТРАКАТЫ.** Гл. **Рабы.**

**СТРЫБОГ** — бог вятроў у старажытных славян-язычнікаў, адзін з багоў пантэону, які ўзначальваў **Пярун.** У «Слове пра паход Ігаравы» вятры названы «Стрыбожымі ўнукамі». У рускіх павер'ях Стрыбог дыхае роўна і спакойна, але калі разгневаецца — узніме страшную буру, наробіць шмат бяды. Ён уяўляўся гусляром, перабіраючым струны, з лукам і стрэламі — праваднікамі вятроў (гл. **Вецер**). Па ўкраінскіх уяўленнях Стрыбог — неўраўнаважаны лятун з вялізнай торбаю і батагом, якім ён паганяе падуладныя яму вятры; парусам Стрыбогу служаць шырокія шаравары.

Дзень Стрыбога ў язычніцкай традыцыі — нядзеля.

**СТРЫГА** — у беларускіх народна-міфалагічных павер'ях — міфічная істота, увасабленне небяспекі, якая падсцерагае цяжарных жанчын і малых дзяцей. Уяўлялася жанчынай высокага росту, худой, бледнай, з распушчанымі валасамі і з праваленымі вачыма **зялёнага** колеру. Па павер'ях, Стрыгу могуць бачыць толькі цяжарныя жанчыны, на якіх яна адмоўна ўздзейнічае. Таму цяжарныя, сустрэўшы Стрыгу, імкнуліся яе задобрыць, для чаго запрашалі ў хату на час родаў. Калі Стрыга прыходзіць, ёй усе

дагаджаюць, выказваюць асаблівую павагу, каб дзіця нарадзілася здаровым і парадзіха сябе добра адчувала. Стрыга не мае пастаяннага месца пражывання, па вечарах яна пераходзіць з аднаго двара ў другі ў пошуках кінутых без догляду дзяцей. Схапіўшы недагледжанае дзіця, Стрыга шматае яго так, каб маці пачула крыкі; калі яна вельмі ўз'юшыцца, то можа і забіць дзіця. Для засцярогі ад Стрыгі дзяцей купаюць перад заходам сонца, пасля чаго ваду адразу выліваюць; ні ў якім разе не выліваюць гэтую ваду пасля заходу сонца, калі ўся нячыстая сіла набывае найбольшую актыўнасць. Пазбягалі купаць дзяцей і ў **пятніцу.**

**СУБОТА** — шосты дзень тыдня, які ў народна-міфалагічнай традыцыі звязваўся са станоўчымі ўяўленнямі: гэта цотны, а значыць — шчаслівы, спрыяльны для чалавека дзень. Згодна з язычніцкімі ўяўленнямі, субота — дзень **Сімаргла.**

Як і **аўторак** і **чацвер,** субота лічылася спрыяльным днём для пачатку любой справы: веснавога севу, сватання, вяселля.

Разам з тым вядома забарона на працу ў суботу, асабліва ў суботу вечарам. Аб гэтым сведчыць змест былічкі, запісанай П. Дземідовічам (параўн. пры гэтым: **Нядзеля** — «міфічная істота»): «Шыла адна жонка позна вечарам у суботу. Так падпоўнач паказалася з-пад дзвярэй пяць пальцаў, а послі як пакоціцца той жонцы трупняя галава пад ногі, так яна і вамлела. Мусіць, гэта святая Нядзелька прыходзіла напалохаць гэтую жонку, каб яна больш гэтак не рабіла» (параўн. **Пятніца).**

**СЯКЕРА** — у міфалагічным асэнсаванні — прадмет, надзелены важнымі магічнымі (засцерагальнымі, прадуцыруючымі) уласцівасцямі.

Вытокі міфалагічных павер'яў аб сякеры звязаны, як лічаць вучоныя, з культам **Перуна,** абавязковым атрыбутам якога (акрамя **камянёў** і маланак) былі менавіта сякеры. Правобразам гэтай сучаснай металічнай прылады працы была старажытная каменная сякера, ад якой у час работы маглі адлятаць іскры. На падставе гэтай характэрнай прыкметы (сувязі з відавочным іскрэннем, а значыць, з **агнём**) сякера стала ўсведамляцца як зброя грознага, магутнага бога **Перуна,** якому падпарадкоўваўся «нябесны агонь» — маланка. Разам з тым Пярун асэнсоўваўся і як добры, «свой» бог, які не толькі выклікае маланкі (яны могуць спаліць дрэва, хату, забіць чалавека), але і пралівае на **зямлю** дажджы, спрыяе ўраджаю. Невыпадкова, што за сякерай як атрыбутам Перуна замацаваліся ўстойлівыя міфалагічныя асацыяцыі, звязаныя з ахоўнай магіяй, з забеспячэннем ураджаю, здароўя, з абаронай ад нячыстай сілы.

У якасці магічнага сродку сякера нярэдка выкарыстоўвалася ў народнай медыцыне. Так, на трэці пасля хрышчэння дзень у

некаторых мясцовасцях Расіі выконваўся абрад «смывки», які заключаўся ў рытуальным мыцці (для ачышчэння ад грахоў) рук парадзіхі, якая пры гэтым для ўмацавання здароўя і ад сурокаў станавілася правай босай нагою на сякеру. На Украіне ў час аналагічнага абраду («розмивки») парадзіха павінна была сядзець на сякеры. Хвораму на гарачку клалі пад падушку сякеру — каб адагнаць нячыстую сілу. З гэтай жа мэтай сякеру клалі пад ложак дзіцяці, якое пакутвала ад бяссонніцы (гл. **Начніцы**). Рускія сяляне Сібіры выкарыстоўвалі сякеру пры лячэнні крывацёку ў жанчын і пры малакроўі. Для гэтага раілі ўзяць старую сякеру, абліць яе вадой, пакласці ў сырое месца і пакінуць там да тых пор, пакуль яна ўся не пакрыецца іржою. Потым сякеру варылі ў вадзе і гэтую ваду пілі на працягу некалькіх дзён. Верылі, што дзякуючы гэтаму ў хворых спыняецца крывацёк, і ў жанчын з'яўляецца чырвань на твары.

Магчыма, рытуальнае варэнне сякеры так ці інакш адлюстравалася ў вядомым казачным сюжэце «Каша з тапара». Нельга не адзначыць, што пры ўсёй незвычайнасці, знешняй неверагоднасці прапановы салдата аб прыгатаванні **кашы** з сякеры скупая гаспадыня не здзіўляецца і не пярэчыць гэтай неверагоднай «ідэі», паколькі ў яе свядомасці (ці падсвядомасці) сякера (тым больш у руках незнаёмага, бывалага чалавека, магчыма, чараўніка) непарыўна звязвалася з чароўнымі, незвычайнымі ўласцівасцямі. Цікава, што ў слоўніку У. І. Даля прыводзіцца выслоўе *Солдат из бороньего зуба щи варил* (далей сцісла пераказваецца вядомы сюжет аб скупой гаспадыні і знаходлівым салдаце). У сувязі з гэтым нельга не адзначыць відавочнае падабенства магічных функцый двух прадметаў — **бараны** і сякеры.

Сякера ўвогуле ўспрымалася людзьмі як сімвал надзейнасці, жыццяздольнасці, здароўя і плоднасці. Так, рускія сяляне на Пскоўшчыне вешалі на сцяну хлява сякеру з упэўненасцю ў тым, што каровы ад гэтага будуць больш плоднымі і малочнымі. Каб быць здаровымі, дужымі і нарадзіць у будучым здаровых дзяцей, рускія дзяўчаты на **Вялікдзень** імкнуліся наступіць на сякеру. У паўднёвых славян (сербаў, славенцаў) існаваў звычай, згодна з якім сват, накіроўваючыся да дзяўчыны са шлюбнай прапановай, павінен быў пераступіць праз сякеру: у такім выпадку, як лічылі, словы яго будуць моцныя, надзейныя, як сякера.

Да сякеры як да магічнага сродку часта звярталіся пры выкананні розных іншых магічных дзеянняў. Адно з іх апісаў у свой час М. Я. Нікіфароўскі: выймаючы з кубла толькі што вылупіўшыхся з яек куранят, трэба кожнае з іх прапусціць праз дзірку ў абуху сякеры. Верылі, што кураняты, прапушчаныя такім чынам праз сякеру, будуць абавязкова несці моцныя яйкі і (што асабліва важна) будуць надзейна абаронены ад злога во-

ка. На **Вадохрышча** рускія сяляне з дапамогай сякеры адганялі ад жывёлы нячыстую сілу, для чаго высякалі сякерай на зямлі перад хлявом крыж. У дзень першага выгану жывёлы на пашу пастухі выконвалі засцерагальны абрад, у якім пэўная роля адводзілася і сякеры: старэйшы пастух браў у рукі рэшата з зернем, ставіў на яго ікону святога Георгія, клаў туды ж абломак касы і замок і, заткнуўшы за **пояс** сякеру, тройчы абыходзіў вакол статку (супраць ходу сонца), вымаўляючы замову з просьбай аб зберажэнні статку.

Для засцярогі адурокаў купленага каня гаспадар праводзіў яго ў двор праз сякеру, убітую ў бервяно. Сякеру бралі з сабой і ў першы дзень веснавой сяўбы, каб засцерагчы поле і будучы ўраджай ад шкоднага ўздзеяння **ведзьмаў** і **калдуноў**.

Каб адагнаць нячыстую сілу ад маладых, абараніць іх (асабліва нявесту) ад самых розных яе праяўленняў, беларусы гучна білі сякерай аб сякеру ў той адказны момант вясельнага абраду, калі малады прыязджаў з дружынаю да сваёй нявесты. Літоўцы з той жа мэтаю клалі сякеру на дарозе, па якой павінны былі праехаць маладыя. У Літве ж клалі сякеру таксама і пад ложак парадзіхі, каб засцерагчы яе ад урокаў.

Вельмі яскрава магічная значнасць сякеры, яе «чартагонныя» ўласцівасці выяўляюцца ў былічцы аб сустрэчы чалавека з **Русалкай**, якую прыводзіць у сваёй кнізе «Образы русской речи» В. М. Макіенка. У гэтым тэксце варта звярнуць увагу на тое, што сякера асэнсоўваецца інфармантам менавіта ў міфалагічным аспекце — як прадмет, перавышаючы па сваіх чароўных, магічных адзнаках нават такую грозную зброю, як стрэльба: «Сама не видела, врать не стану... В Гангозере они водятся, водятся в Онеге. Дядька мой видел. Раз ночью рыбу на озере ловил. Она (Русалка — У. К.) за лодку ухватилась, титины (грудзі — У. К.) свои выставила и глядит на него. А он говорит ей: «Изыди, нечистая сила!» И хрестится. Видит, не отчепливается, ружжо достал. А она ружжа-то не боится, тело её пули скрозь себя пропускает. Он тогда — за топор. Тут она заплакала и на дно снова ушла».

Паўднёвыя славяне (славенцы) клалі перад **Калядамі** пад стол сякеру, каб абараніць сям'ю ад нячыстай сілы, якая ў гэты перыяд асабліва небяспечная для чалавека.

З дапамогай сякеры ў рускім пахавальным абрадзе імкнуліся магічна засцерагчыся ад згубнага ўздзеяння **Смерці**: пасля таго, як нябожчыка клалі ў труну, хто-небудзь з прысутных старых жанчын біў сякерай па тым месцы, дзе да гэтага ляжаў нябожчык, «чтоб этим срубить смерть». Параўн. рытуальнае выкарыстанне **дзяжы** і **печы** ў пахавальным абрадзе.

Сякера ўсведамлялася людзьмі і як эфектыўная магічная зброя ў барацьбе супраць эпідэмій, якія персаніфікаваліся, уяўля-

ліся чалавекападобнымі істотамі (гл. **Халера, Каровіна смерць, Пошасць**). Так, пры эпідэміі чумы праводзіўся абрад рытуальнага **абворвання** вёскі, у якім важнае месца (разам з іншымі колючымі, рэжучымі прадметамі) адводзілася сякеры: ёю сяклі зямлю, каб стварыць магічную перашкоду на шляху хваробы (гл. **Абворванне**).

Рускія сяляне Маскоўскай губерніі (пачатак XX ст.) таксама сяклі зямлю на дарозе з мэтай процідзеяння смерці і хваробе, з прычыны якой памёр чалавек: перад пахавальнай працэсіяй (хавалі памёршага ад халеры) ішла дзяўчына, якая час ад часу сякла зямлю на дарозе, а ўдава, якая ішла апошняй у гэтай працэсіі, замятала мятлою сляды, пакінутыя на зямлі сякерай.

У тэкстах замоў, накіраваных супраць хвароб, часта сустракаюцца адрасаваныя гэтым хваробам устойлівыя формулы пагрозы, у якіх падкрэсліваецца важная засцерагаючая роля сякеры. Параўн. фрагмент тэксту замовы «ад зубішча»: «Зубішча, зубішча, ідзі на дубішча. А калі не пойдзеш, я прыду з косамі, з тапарамі, я цябе пакашу, парубаю...» Аналагічны пагражальны матыў гучыць і ў рускай замове «от коровьей смерти» (гл. **Каровіна смерть**): «Уж ты, смерть коровья, не ходи в наше село. Мы тебя запашем, заскородим, **кочергами** загребём, топорами зарубим...» З названымі ўяўленнямі, як можна меркаваць, суадносіцца зафіксаваны ў слоўніку У. І. Даля зварот *Нашего горя и топоры не секут* «пра вялікае гора».

Паколькі, як адзначалася, вытокі міфалагічных уяўленняў пра сякеру звязаны з культам Перуна, гэты прадмет знаходзіў выкарыстанне і ў разнастайных магічных дзеяннях, накіраваных на змены ў надвор'і (папярэджанне і спыненне граду і дажджу, выкліканне дажджу). «Дажджавая» магія з выкарыстаннем сякеры асабліва распаўсюджана ў паўднёвых славян. Напрыклад, калі пачынаўся град, балгары кідалі ўгару сякеры: лічылася, што з-за гэтага град «рассячэцца» і ператворыцца ў дождж. Яны ж (балгары) пры набліжэнні градавай хмары падстаўлялі пад падаючыя градзіны сякеру лязом угару: верылі, што град адразу спыніцца, як толькі першая градзіна трапіць на лязо сякеры. Сербы і славенцы пры набліжэнні вялікай чорнай хмары забівалі ў зямлю каля хаты або ў пень сякеру: для таго, каб адагнаць хмару ад сваёй мясцовасці і накіраваць яе ў іншы бок. Рускія чарадзейкі з мэтай рассейвання хмар і спынення дажджу вешалі кацялок на ручку сякеры, забітай у сцяну. Эстонскія сяляне вешалі сякеру на сцяне якой-небудзь пабудовы з адваротнай мэтай — каб натнаць дажджавыя хмары і выклікаць дождж.

Цесляры — прафесійныя **ведзьмары** — маглі выкарыстоўваць свой асноўны інструмент — сякеру — для нанясення шкоды гаспадару будуемага дома, калі той праявіў да іх непавагу або

дрэнна іх аддзякаваў, не пачаставаў і г. д. Для гэтага майстар-цясляр, задумаўшы пэўную шкоду (пажар, пажар ад маланкі, гніенне бярвенняў), крыжападобна біў сякерай па бервяну са словамі «Гак! Няхай будзе так!» Выканаўца гэтага шкоданоснага магічнага дзеяння быў упэўнены ў тым, што задуманае ім абавязкова здзейсніцца ў будучым.

# — Т —

**ТАЛАКА** — «калектыўная дапамога пры выкананні сельскагаспадарчых работ» — у духоўнай культуры беларусаў звязвалася са шматлікімі ўяўленнямі, звычаямі, абрадамі і магічнымі дзеяннямі: рытуальным спажываннем на полі кашы, ужываннем гарэлкі, пляценнем вянка, качаннем (куляннем) па зямлі, абліваннем вадой.

Так, абліванне **вадой** суадносілася як з імітатыўнай магіяй (прыпадабненне вады дажджу), так і з прадуцыравальнай магіяй (вада забяспечвае ўрадлівасць). Уяўленні аб рытуальным паліванні апошніх каласоў (пры дажынкавых талоках) адлюстроўваюць культавае ачышчальнае значэнне вады. Характэрнае для талочных дажынак качанне (кулянне) па ніве сімвалізуе максімальнае зліццё з зямлёй і стымулюе паспяховы рост збожжа, а таксама мае на мэце прафілактычнае перадухіленне звязанай са жнівом хваробы і вяртанне патрачанай сілы. Качанне па **«барадзе»** выяўляе непасрэдную сувязь са шлюбна-эратычнай тэматыкай, заснаваную на ўсведамленні апошніх каласоў як носьбітаў эратычнага сэнсу і як сімвала мужчынскага (апладняючага) пачатку. Вытокі гэтых уяўленняў — ва ўсведамленні «барады» як магічнага прадмета, які забяспечвае плоднасць, пладаноснасць, урадлівасць.

Талака ў народнай свядомасці разглядаецца як агульнапрыняты сродак, які спрыяе перадшлюбным адносінам моладзі і значна палягчае выбар спадарожніка жыцця. Месца правядзення талакі станавілася своеасаблівай сцэнай шматлікіх абрадавых практык ясна выражанага шлюбна-эратычнага характару.

Асноўнае рытуальнае значэнне аднаго з цэнтральных талочных сімвалаў — **вянка** — увасабленне новага ўраджаю, плёну, багацця. Круг вянка сімвалізаваў гаспадарчы кругаварот і цыклічнасць часу наогул. Акрамя таго, выява кола вянка як аховы ад небяспечных сіл, перажытак салярнага культу і сімвал дзявочай чысціні адыгрывала значную ролю ў талочнай абраднасці, садзейнічала замаўленню ўрадлівасці і дабрабыту, а таксама азначала канец паспяхова завершанай працы (параўн. дажын-

кавы вянок на ніве; вянок, які вешалі на дах пабудаванага дома, ускладалі на толькі што пакрытую страху і інш.).

Ужыванне ў час талакі кашы асэнсоўвалася не толькі як магічнае замаўленне гушчыні і ўрадлівасці пасеваў, але і як магічны кансалідуючы акт: сумеснае спажыванне кашы падкрэслівала прызнанне і зацвярджэнне кожнага ўдзельніка талакі ў прыналежнасці да дадзенага калектыву. Частаванне гарэлкай мела на мэце заклікание вільгаці і плёну, падкрэслівала аднясенне талакі да ліку старажытных земляробчых абрадаў.

Абавязковым на талочным стале лічыўся сыр, які (часткова дзякуючы свайму **беламу** колеру) асацыіруецца з жыццём, актыўным прадуцыйным пачаткам, з мужчынскай сілай. Зыходзячы з укладання сыра ў «бараду», тэкстаў тыпу «дасі сыру — родзіш сына», можна меркаваць, што сыр у народным уяўленні сімвалізаваў апладненне зямлі (жанчыны) і адначасова асэнсоўваўся як пасрэднік паміж светам рэальным і іншасветам (паводле Т. В. Валодзінай).

**ТАЎСЕНЬ.** Гл. **Аўсень.**

**ТРАСЦА.** Гл. **Ліхаманка.**

**ТРОІЦА** (Сёмуха) — свята народнага календара, якое адзначаецца ў сёмую нядзелю пасля **Вялікадня.**

У суботу перад Троіцай упрыгожвалі зелянінай (галінкамі **вярбы,** бярозы, кветкамі, травой, аерам) хаты (падлогу, столь), развешвалі яе на дзвярах, на варотах, на вокнах. Дзяўчаты на Троіцу завівалі ў лесе **вянкі** па колькасці блізкіх людзей, пра лёс якіх варажылі. Праз тыдзень правяралі захаванасць вянкоў: калі яны заставаліся свежымі, то гэта прадвяшчала шчасце задуманаму чалавеку; калі ж яны былі засохлымі — значыла, што век яго будзе кароткі.

Субота перад Троіцай («клячаная субота») была звязана з культам **продкаў** — адзначаліся Траецкія **дзяды:** людзі наведвалі могілкі, паміналі нябожчыкаў. Гэты звычай меў вельмі старажытную, язычніцкую аснову; спалучэнне ў ім элементаў жалобы і вяселля, характэрнае для язычніцкіх пахавальных абрадаў, асуджалася праваслаўнай царквою: «В троицкую субботу по сёлам и погостам сходятся мужи и жёны на жальниках и плачутся по гробам с великим причитаньем. И егда начнут играти скоморохи, и гудцы и перегудники, они же, от плача переставше, начнут скакати и плясати и в долони бити и песни сатанинские пети...» Параўн. звесткі аб «гульбішчах» з песнямі і скокамі на **Радаўніцу.**

На Троіцу рускія дзяўчаты таксама варажылі з дапамогай **вянкоў:** пускалі вянкі на рачную ваду і назіралі за імі. Чый вянок прыстане да берагу, тая дзяўчына застанецца ў дзеўках: чый паплыве па рацэ — тая выйдзе замуж; чый патоне — памрэ.

З наступнага пасля Троіцы дня (дня Сашэсця Святога Духа) пачынаўся Русальны тыдзень, які цесна звязаны з павер'ямі аб **Русалках**. Паводзіны людзей у гэты перыяд абмяжоўваліся шэрагам забарон. Верылі, што менавіта на Русальным (Граным) тыдні можна не толькі засцерагчыся ад Русалак, але і злавіць іх (параўн. змест былічкі аб тым, як Русалка трапіла ў **барану**). Аб гэтым жа сведчыць і наступная руская быліčка: «Мой прадед пошёл однажды на Русальной неделе лыки драть в лес. На него там напали Русалки, а он быстро начертал крест и стал на этот крест. После этого все Русалки отступили от него, только одна всё ещё приставала. Прадед мой схватил Русалку за руку и втащил в круг, поскорее набросив на неё крест, висевший у него на шее. Тогда Русалка покорилась ему; после этого он привёл её домой. Жила Русалка у прадеда моего целый год, охотно исполняла все женские работы. А как пришла следующая Русальная неделя, то Русалка снова убежала в лес. Пойманные Русалки, говорят, едят мало — больше питаются паром (параўн. **Душа**) и скоро бесследно исчезают».

Параўн. беларускія ўяўленні аб ператварэнні **Кікімары** ў *дзяўчынку*.

**ТЫТУНЬ** — у павер'ях і ўяўленнях усходніх славян — расліна, якая ўстойліва звязваецца са сферай нячыстай сілы. Вытокі гэтых уяўленняў — у наркатычных і галюцынацыйных уласцівасцях тытуню. Па звестках У. І. Даля, рускія раскольнікі мінулага стагоддзя называлі тытунь не інакш, як «поганое, блудное, антихристово, сатанинское зелье». У многіх народных паданнях тытунь характарызуецца як вынаходніцтва Чорта. Аб гэтым жа сведчаць і наступныя народныя выслоўі: *Эй, чэрці, хадзіце табаку церці!; Убірайцеся з абразамі, бо я прыйшоў з табаком!* Асаблівай негатыўнай маркіраванасцю вызначаецца ў народных павер'ях нюхальны тытунь. Так, у народным паданні «Курыш ці нюхаеш» чалавек на пытанне нячысціка: «Ты табак курыш ці нюхаеш?» адказвае: «Хто курыць, таго з пекла турацъ, а хто нюхае, той сам у пекла трухае». Згодна з народнымі ўяўленнямі аб міфічных істотах, тытунь любяць нюхаць Лесавік і Халера. Па павер'ях сялян Тульскай губерніі, чэрці замест хлеба ўжываюць у ежу ліставы тытунь (гл. **Чорт**).

У адной украінскай легендзе паходжанне тытуню напрамую звязваецца з Чортам: зерне тытуню было знойдзена на месцы гібелі нячысціка. Калі з пасеянага зерня вырасла трава, людзі не ведалі, як ёю карыстацца. Падыйшоўшы пан (Чорт) не толькі даў гэтай траве выключна станоўчую ацэнку («Травка очень хороша, людям пользуе. Її курить кожному чоловіку хороше, робиться полегкість»), але і навучыў людзей вырошчваць і апрацоўваць тытунь: «Росказав той чужий пан, щó коло табаку ро-

бить, як і пасинкувать. І тоди попрощавсь і каже своему кучерови: «Не журись, брате, наша фамілія не пропала, не пішла ні во що, скрізь будуть потреблять». У іншых украінскіх паданнях Чорт заманьвае селяніна, які ішоў у царкву, у лес, дае яму люльку і вучыць курыць; Чорт выкрадае і забірае да сябе дзіця, якое толькі панюхала тытунь.

**УСЕНЬ.** Гл. **Аўсень.**

## X

**ХАЛЕРА** — міфалагічная істота ў павер'ях усходніх славян, антрапаморфнае ўвасабленне небяспечнай хваробы. Знешне Халеру ўяўлялі па-рознаму, але найчасцей — у выглядзе старой жахлівай жанчыны («**чорная,** худая, страшная баба») з доўгімі светлымі валасамі і бліскучымі вачыма. Малюецца яна таксама халоднай прыгажуняй, якая махае з-за магільніка **чырвонай** ці **чорнай** хусцінай, з-за чаго людзі мруць, як мухі. Уяўлялі Халеру і як жанчыну на каровіных нагах, якая раз'язджае на тройцы вараных коней (гл. **Чорны колер**) і надзвычай любіць нюхаць таба́ку (гл. **Тытунь**). У адной беларускай легендзе Халера апісваецца як «дзяўчына ўся ў **белым** і сама белая, як малако, ды прытом такі дужа прыгожая». Па звестках, сабраных А. К. Сержпутоўскім, «Халера прыходзіць у вёску ці ў постаці старой жанчыны, ці каровы або якой-небудзь іншай жывёлы». Часам Халера прыкідваецца беднай жанчынай, якая просіцца, каб яе падвезлі, а як толькі яе давязуць да вёскі, дык яна пачынае касіць старых і малых.

Па беларускіх павер'ях, Халера асабліва актывізуецца вясною, калі яна раскідвае на вялікую адлегласць зерне хваробы, прымешваючы яго да агароднага насення. У некаторых рускіх мясцовасцях Халеру ўяўлялі ў выглядзе жанчыны, якая лётае ў паветры, раскідваючы атрутнае зерне (яно падае ў калодзежы, крыніцы, рэкі, на агароды, палі). Халера ўначы ходзіць па хатах, атручваючы рознае пітво: ваду, квас, бярозавік, малако, сыроватку. Таму ў час эпідэміі (і ўвогуле — нанач) усё пітво раілася шчыльна накрываць.

Для абароны ад Халеры на дарозе, якая вядзе да вёскі, раскладвалі **агонь,** які трэба было «выцерці» з дрэва. Гэты агонь павінен быў гарэць дзень і ноч. Таго, хто першы захварэў на халеру, раілі пахаваць яшчэ жывым: тады разам з хворым будзе пахавана і Халера. У беларускім паданні пра эпідэмію халеры ў 1856 годзе апісваецца выкарыстанне ў барацьбе з гэтай хваробай

**абворвання**: «Жыхары, шукаючы паратунку, адшукалі пару блізнят-валоў, а адзін гаспадар, таксама блізнец, залажыў валоў у саху і пайшоў абворваць вакол сяла, а за ім, з крыжам у руках ішоў свяшчэннік і ўвесь народ з хрэсным ходам». Названы рытуал быў вядомы і рускім *сялянам*: «В предупреждение холеры было произведено опахивание в предположении, что она не перейдёт за *магическую* черту. В первые дни после этого передавали, что ночью что-то **белое** подъезжало к селу, но, доехав до черты, повернуло назад» (канец XIX ст., Уладзімірская губернія).

Магічным сродкам засцярогі ад страшнай хваробы лічыліся таксама **ручнікі**, вытканыя на працягу аднаго дня ці адной ночы: іх трэба *было закапаць* у *абодвух* баках вёскі і паставіць на тым месцы крыжы.

Выразнае ўяўленне аб антрапаморфнасці Халеры і нават магчымасці яе фізічнага знішчэння **сякерай** дае наступная руская легенда:

«Ехал как-то вечером один мужик по дороге, и вдруг его кто-то окликает: «Стой, мужичок, подвези меня». Оглянулся мужик, видит — гонится за ним старуха, худая, слабая, зипунишка на ней изорванный, из-под платка волосы треплются, смоклась вся. Жаль стало мужику старуху, остановил лошадь, посадил старуху к себе на телегу. «Ну, спасибо тебе, — говорит старуха, — услужил ты мне, услужу и я тебе». «Чем же ты мне услужишь, бабушка?» — «Да ведь я Холера. Приду в деревню, пущу яд во все колодцы; кто из них напьётся, тот и захворает. А ты бери на семью воду из реки, покуда хворость пройдет, туда я не буду яд пускать». Посмотрел мужик на старуху, а она чёрная, страшная, глаза, словно уголья, горят. «Ну, — думает, — хорошо, что сказалась, угощу я тебя, старую ведьму». Привёз её к себе домой, водочки поднёс, угостил. Улеглась она на печку, захрапела. Мужик взял топор, подкрался, хвать её по шее — сразу голову отсек. Смотрит, а она вся начинена пузырьками с ядом...»

**ХАМУТ** — як магічны прадмет выкарыстоўваўся ў чараўніцтве, народнай медыцыне і вясельнай абраднасці.

Па рускіх павер'ях, надзяваннем хамута з закляццямі на чалавека вядзьмар выклікаў у яго цяжкае захворванне. Па беларускай легендзе, удзельнікі вясельнага поезда ператварыліся ў **ваўкалакаў** пасля таго, як яны пад уздзеяннем чараў ведзьмара пралезлі праз хамут. З другога боку, пралязанне ваўкалака праз хамут садзейнічала вяртанню яго да чалавечага ладу жыцця. У рускіх вёсках дзяўчаты, імкнучыся набыць адзнакі **ведзьмы**, перад варажбой надзявалі на шыю хамут.

Як магічны сродак, хамут выкарыстоўвалі пры лячэнні некаторых хвароб. Так, хворага на **ліхаманку** выводзілі на двор, надзявалі на шыю хамут і аблівалі з замовамі халоднай вадою. Ка-

лі, як лічылі, дзіця сурочанае, або дрэнна спіць і многа крычыць, яго тройчы з адпаведнымі замовамі працягвалі праз хамут.

У беларускай традыцыі вядома выкарыстанне хамута ў выпадку выяўлення «нячэснасці», г. зн. нецнатлівасці нявесты. М. Я. Нікіфароўскі, напрыклад, прыводзіць наступнае апісанне гэтага звычаю: «Калі вызначаецца, што маладая была са страчанай нявіннасцю, і калі яна страціла яе па-за зносін са сваім сапраўдным мужам, сваты жаніха надзяваюць хамуты са шляямі і, пасцёгваючы пугамі, перад гасцямі, якія сабраліся, аб'язджаюць па двары тры разы». Аналагічнае апісанне гэтага звычаю прыводзіць і А. К. Сержпутоўскі: «Калі маладая была не цнатліваю, дык вяселле зусім раскідаецца. Кажуць, што даўней у такім разе і бацьку, а больш усяго матцы маладое клалі на шыю хамут і вадзілі па вёсцы за тое, што яна не дагледзела свае дачкі, як Бог вялеў». Па звестках, сабраных П. П. Шэйнам, хамут у такім выпадку надзявалі хроснай маці або старэйшай сваццi, якія павінны былі сядзець на вяселлі з хамутом, пакуль малады не паднясе ім гарэлку — знак таго, што ён даруе жонцы. У некаторых рускіх мясцовасцях сям'я жаніха ў выпадку выяўлення «нячэснасці» нявесты вяртае яе бацькам увесь пасаг, кідаючы яго ў хамут.

**ХЛЕБ** у павер'ях і ўяўленнях усходніх славян асэнсоўваўся як сімвал жыцця, плоднасці і дзетароддзя, дабрабыту і матэрыяльнага дастатку; хлеб, акрамя таго, успрымаўся як магічны прадмет, што аказвае ўплыў на розныя бакі жыцця чалавека (параўн.: **Дзяжа, Печ, Каравай, Стол**).

Выключна важная роля адводзілася хлебу ў веснавых абрадах, перш за ўсё, прымеркаваных да севу. Гаспадар, які выходзіў першы раз араць поле пад яравое збожжа, звычайна браў з сабой і хлеб. (У Заходняй Украіне араты ў такім выпадку гаварыў: *Хліб з хлібом сіяти йду, аби був хороший вроджай*). З гэтым хлебам, прызначаным для рытуальнага выкарыстання, абыходзіліся па-рознаму: крышылі і змешвалі яго з зернем, якім потым засявалі поле; клалі на баразну, па вуглах нівы; закопвалі хлеб у зямлю (у апошнім выпадку выразна праглядаюцца рэшткі старажытных ахвярапрынашэнняў **зямлі**); прывязвалі ў анучцы да кошыка, у якім знаходзілася прызначанае для пасеву зерне. Пасля заканчэння сваёй работы ў першы дзень севу араты частку прынесенага хлеба з'ядаў у полі або карміў ім каня ці валоў (каб і сам, і жывёлы былі дужымі). У некаторых выпадках гэты хлеб падкідвалі ўгару, «каб рос высокі хлеб».

Сляды выкарыстання хлеба як ахвяры можна заўважыць і ў некаторых іншых звычаях: кіданні кавалачкаў хлеба ў **агонь** у час прыгатавання **каравая**; кіданні хлебных крошак пад **стол** для душ продкаў у час памінак; абмазванні хлебным цестам дрэў у лесе для задобрывання **Лесуна.** Рэшткі хлеба, прынесеныя з поля ці

з лесу, называюцца *заечым хлебам* і надзяляюцца магічнымі ўласцівасцямі ўплыву на рост і здароўе людзей (гл. **Заяц**).

Хлеб як сімвал сямейнага дабрабыту, **долі**, жыцця шырока выкарыстоўваўся ў абрадах пераходу ў новы дом. Усходнім славянам быў, у прыватнасці, вядомы звычай запрашаць на новае селішча **Дамавіка**, трымаючы пры гэтым у руках бохан хлеба. У Беларусі (на Віцебшчыне) у новы дом перш за ўсё пераносілі абразы, а потым стол, на якім ляжаў хлеб. А. М. Афанасьеў прыводзіць апісанне адпаведнага звычаю, характэрнага для беларусаў і рускіх: «Старший в роде, держа в одной руке икону, а в другой ломоть хлеба, произносит: «Дедушка Домовой! Прошу твою милость с нами на новожитье; прими нашу хлеб-соль, мы тебе рады!» В новопостроенный дом вносится наперёд икона, непочатый хлеб с горстью соли или квашня (гл. **Дзяжа**) с растворённым тестом».

Вядома рытуальнае выкарыстанне хлеба і ў дзявочых варожбах. Адзін з варыянтаў такой варажбы прыводзіць А. Я. Багдановіч: «Дзяўчаты, захапіўшы акраец хлеба, выбягаюць на «смалішча» (месца, дзе смалілі кабана) і, ядучы хлеб, слухаюць, у якім баку пачуецца гук—гамонка, сабачы брэх (параўн. **Сабака**) і г. д.,— туды ёй выходзіць замуж». Сабраўшыся разам, дзяўчаты «дапытвалі лёс» і наступным чынам: кожная дзяўчына кідала ў міску з вадой кавалачак хлеба і ў залежнасці ад таго, выплыве яе кавалачак наверх ці не, адпаведна вырашала, выйдзе яна замуж ці застанецца сядзець дома.

Лічылася, што два хлябы, якія зліпліся паміж сабою пры выпяканні, могуць уплываць на яднанне («зліццё») маладых: кавалкі гэтых хлябоў (з месцаў іх зліпання) ім давалі з'есці ў час вяселля. Як рытуальная, магічна адзначаная ежа асэнсоўваўся таксама хлеб, які гаспадыня забыла вынуць з печы — «забыты» хлеб: ужыванне ў ежу такога хлеба прыводзіць, па народных павер'ях, да таго, што чалавек становіцца забыўчывым, непамятлівым. У «Слоўніку ўкраінскай мовы» Б. Грынчанкі слова *забудьок* «забыты ў печы хлеб» суправаджаецца наступнай ілюстрацыяй: *Як забудька хто з'їсть, то все буде забувати.* «Забыты» хлеб давалі, у прыватнасці, з'есці тым, да каго ў час сну «прыходзілі» нябожчыкі (г. зн., такі хлеб з'ядалі з той мэтай, каб чалавек забыў, не «думаў» у сне пра нябожчыка, не баяўся яго).

Шырока выкарыстоўвалі хлеб і ў народнай медыцыне. Напрыклад, пры лячэнні ад шаленства **знахар** выробляў з хлеба маленькія шарыкі, якія ён качаў (з абавязковым вымаўленнем замовы) па целе хворага, а пасля гэтага даваў іх з'есці сабаку, хвораму на шаленства. Рабілася гэта ў спадзяванні на тое, што хвароба зможа «перайсці» да сабакі. Калі дзіця пакутавала ад начнога плачу, «крыксаў» (гл.: **Начніцы, Стрыга**), жанчыны ішлі

да знахаркі, якая (акрамя замовы «Ад начніц») звярталася і да рытуальнага выкарыстання хлеба. Е. Раманавым на Аршаншчыне былі запісаны наступныя звесткі аб гэтым рытуале: «Трэба ўзяць акрайчык жытняга хлеба, завязаць з соллю ў **белую** трапачку, перавязаць **чырвонай** ніткай; тады ўзяць дзіцёнку вузельчыкам етым галоўку пагладзіць і пад **печ** падкінуць. А тады тры разы пад печку пакланіцца, не перахрысціўшыся, і казаць: «Крыксы, крыксы, дарую я вас хлебам-соллю, белай рубашачкай, красным паясочкам — даруйце майго дзіцяці добрым здароўем і сном!». У некаторых вёсках на Гомельшчыне з той жа мэтаю гатуюць дзевяць хлебных галачак і, падыходзячы да куратніка, тройчы па тры падкідваюць іх угору з замовай (дзіця пры гэтым трымаюць на руках): «Добры вечар, куркі серыя, белыя! К вам хазяюшка прышла, хлеб-соль прынясла. Хлеб-соль вы з'ядалі, а майму дзіцёначку каб спаць далі». Некаторыя жанчыны, «каб дзіця ноччу не крычала», перакідвалі праз галаву хлебныя крошкі ў час вячэры, таксама вымаўляючы пры гэтым замову.

Хлеб мог выконваць і ролю прадмета, што прызначаўся для рытуальнага «адносу»: у выпадку хваробы чалавек павінен быў аднесці «нагавораны» хлеб (звычайна тры невялікія булачкі) на **ростані,** дзе і пакінуць яго з замоваю: «Добры дзень, добрыя людзі! Хлеб-соль ад мяне прыміце, а ад мяне балезнь забярыце». Калі аднос (нагавораны хлеб) «прымаўся» (праз ноч па нейкай прычыне знікаў), то чалавек, як лічылася, ачуняе. Натуральна, што нагавораны хлеб лічыўся небяспечным, таму гаспадар, які знаходзіў кавалак хлеба ў непрызначаным для гэтага месцы (каля хлява, каля варот, пад плотам і г. д.), быў перакананы, што гэта праяўленне шкоданоснасці злых людзей. Сродкам барацьбы з гэтым злом было кіданне такога хлеба ў **агонь:** лічылася, што пры гэтым агонь будзе пячы самаго зламысніка.

Асабліва небяспечным лічыўся «пусты» хлеб, з якога папярэдне выймалі мякіш. У адным рускім паданні расказваецца аб тым, як вядзьмар наслаў бяду на свайго суседа (у яго згарэла хата, здохла ўся жывёла), паклаўшы пад яго ганак бохан такога хлеба і зрабіўшы над ім замову.

**ХЛЕЎНІК** — у беларускай міфалогіі — дух, які жыве ў хляве. Знешне ўяўляўся скручаным, зморшчаным, худым чалавекам — «здаецца, нібы шкілет хлопчыка памясцілі ў скуру дарослага». Ён заўсёды знаходзіцца ў хляве, займаючы задні вугал, або ўзбіраецца на бэльку, на курынае седала, адкуль назірае за жывёлай. Хлеўнік падтрымлівае адносіны з коньмі і каровамі, рэдка — з авечкамі і ніколі — з козамі і свіннямі; увогуле не пераносіць

прысутнасці казла, і калі неабходна вывесці Хлеўніка, то варта дзеля гэтага паставіць у хляве разам з іншымі жывёламі казла.

Хлеўнік можа спрыяць гаспадару, калі апошні адносіцца да яго з павагай. Для задобрывання Хлеўніка вельмі важна ўлічваць масць жывёлы: Хлеўнік любіць вараных і шэрых коней, зусім не выносіць стракатых, «лапленых» жывёл: на стракатым кані, па павер'ю, Хлеўнік уязджае ў хлеў і псуе ўсю скаціну. У тым выпадку, калі Хлеўнік у добрых адносінах з гаспадаром, ён беражліва адносіцца да жывёлы: чысціць кожную з іх, прыносіць сена і ваду, коням нават заплятае грывы і хвасты, не дазваляе адным жывёлам крыўдзіць іншых і г. д.

Аднак у большасці павер'яў аб Хлеўніку пераважаюць негатыўныя адносіны да яго. Лічылі, што з-за прысутнасці ў хляве Хлеўніка марнее і нават гіне скаціна. А. Я. Багдановіч пісаў аб гэтым у кнізе «Перажыткі старажытнага светапогляду ў беларусаў» (1895 г.): «Як толькі дазнаюцца, што завёўся Хлеўнік, адразу ж стараюцца яго выжыць. Згодна павер'ю, ён псуе скаціну; ездзіць па начах на конях па канюшні і ад такой язды конь хутка худнее, слабее, і калі не пазбавіць яго ад Хлеўніка, неўзабаве акалее. Часам ён ездзіць папераменна то на адным, то на другім кані, а часам прычэпліваецца да якога-небудзь аднаго. Конь б'ецца, кідаецца, стараецца скінуць Хлеўніка, але яму гэта не ўдаецца. Ён іржэ, кліча на дапамогу гаспадара; той увойдзе — нікога няма, толькі конь узмылены і не можа аддыхацца. Так здараецца і з каровамі — і на іх Хлеўнік ездзіць. Каровы бегаюць па хляве, мычаць, хутка худнеюць і перастаюць даваць малако».

Захаваліся звесткі і аб спосабах барацьбы з Хлеўнікам. Адзін з іх падрабязна апісваецца ў названай кнізе А. Я. Багдановіча: «Трэба звіць з канаплі пугу ў тры столкі, на канцы завязаць тры вузельчыкі; па іх на адлегласці адной пядзі яшчэ тры, а праз пядзю і яшчэ тры. Вітую пугу навязаць на асінавае пугаўё. У ноч, калі настане маладзік (гл.: **Месяц**), перад варотамі паставіць жароўню з асінавымі палаючымі вугалямі. Калі ўсё гэта гатова, тады, узяўшы карову ці кабылу за хвост, трэба гнаць яе праз хлеў да дзвярэй, сцябаючы наводмаш пугай і стараючыся перагнаць цераз жароўню. Пры гэтым трэба прыгаворваць: «Пашла, хіра (немач, хвароба), на ўзвей вецер!». Цікавы спосаб уздзеяння на Хлеўніка прыводзіць М. Я. Нікіфароўскі ў сваёй кнізе «Нячысцікі». Хлеўніка, згодна з павер'ем, трэба падсцерагаць ноччу ў хляве з незапаленай **грамнічнай** свечкай: у такім выпадку ён не ўвойдзе ў хлеў, а будзе толькі свістаць і гучна шумець знадворку. Трэба перахрысціць свечкаю месца перад сабой і з насмешкай сказаць: «Прыходзіў ён і бачыў мяне, ды злякаўся і вярнуўся». Пасля гэтага прысаромлены Хлеўнік больш не падыдзе да скаціны.

Для засцярогі ад Хлеўніка лічылася таксама неабходным падвешваць на варотах хлява або ў самім хляве забітую **сароку.**

**ХОРС** — бог сонца ў старажытных славян-язычнікаў (гл.: **Дажбог**), адзін з багоў пантэону, які ўзначальваў **Пярун.** Хорс — добры бог, які дае цяпло людзям. Уяўляўся маладым прыгожым юнаком. Перамагчы яго ніхто не можа, таму што ён знаходзіцца высока на небе і падступіцца да яго нельга. Дзень Хорса — **аўторак.** На думку адных вучоных, слова *Хорс* персідскага паходжання і звязана з іншымі словамі з агульным значэннем «сіяючы». Іншыя гісторыкі мовы бачаць генетычную сувязь гэтага слова са словам *харошы.*

**ХУТ** — у беларускай міфалогіі — тое, што і **вогненны змей;** магчымая сувязь гэтага слова са словам *хуткі* (г. зн. істота, якая хутка, імкліва ляціць па небе).

Асноўныя адзнакі Хута тыя ж, што і ў вогненнага змея: спрыянне ў гаспадарцы, вогненная прырода, лятучасць, ужыванне Хутам яечні. У адрозненне ад вогненнага змея, які ператвараецца ў чалавека, Хут, як бачна са зместу наступнай легенды, можа ператварыцца ў нейкі прадмет:

«Хут, у каго дома жыве, вельмі таму спрыяе ў гаспадарцы: багацце ў дом прыносіць, снапы з чужых палёў у гумно, золата з няведамых скарбаў. Вечарам яго можна часам бачыць на небе, як ляціць вогненны, чырвоны — золата нясе, як цёмна, чорна — збожжа, снапы. Але яго трэба шанаваць, смачна карміць, яго любімая страва — яечня. Як спячэ гаспадыня яечню — нясе на тарышча, ставіць там і кліча:

— Хут, Хут, ідзі сюды, дам яечаньку, абарачаньку.

Ён тады прыходзіць і есць. І тады ўсё ў дом носіць. На тарышчы Хут жыве, а лятае дзе хоча, ніхто не ведае дзе. Можа перакінуцца ў што хочаш — у корч, у старое калясо, палена.

Кажуць, быў такі выпадак. Парабак падслухаў, як гаспадыня клікала Хута есці яечню, ды з'еў тую яечню сам. Хут вельмі разгневаўся: думаў, што гаспадыня кпіны састроіла, і спаліў увесь двор, і гумно, і дом. Гасілі людзі, гасілі і не далі рады. Стаяць, глядзяць на галавешкі. А тут калясо старое ляжыць (а гэта быў Хут: ён перакінуўся ў калясо, жыць яму ўжо не было дзе). Дык сусед кажа:

— А што ж яно тут будзе гарэць,—ды й перакінуў у свой двор.

Дак адкуль толькі што ўзялося ў яго! Усё яму пашло: і ўраджай. і ўсялякае дабро».

Мяркуюць таксама, што Хут — своеасаблівы вобраз **Дамавіка** — духа-апекуна дома і хатняй гаспадаркі.

## Ц

**ЦМОК** — па некаторых беларускіх павер'ях — тое ж, што і **вогненны змей.** Таму, хто жыве з ім у згодзе, Цмок прыносіць грошы і хлеб, робіць яго нівы больш ураджайнымі, а кароў гэтага гаспадара — больш малочнымі. Згодна з іншымі беларускімі народнымі ўяўленнямі, Цмок — пагардлівы і фанабэрысты нячысцік, ляніvы, тоўсты і маларухомы. «Прадбачлівая асцярожнасць захоўвае Цмокаў даўжэй, чым усіх нячысцікаў. Яны рэдка чапляюцца да простых вясковых людзей. На людзей сямейных Цмокі не нападаюць. Затое парушальнікі грамадскіх абавязкаў— першыя іх ахвяры» (М. Я. Нікіфароўскі) (гл. **Хут**).

## Ч

**ЧАРАДЗЕЙ.** Гл. **Вядзьмар.**

**ЧАРАЎНІК.** Гл. **Вядзьмар.**

**ЧАРНАБОГ** — злы дух у міфалогіі старажытных славян-язычнікаў; валадар падземнага царства, які процістаіць **Белабогу;** бог зімы, цёмных хмар, начных жахаў. Чарнабог кіруе хваробамі, эпідэміямі, голадам. Знешне Чарнабог мае выгляд льва. Месца яго знаходжання — **пекла.** Каб задобрыць Чарнабога, яму прыносілі крывавыя ахвяры, вымаўляючы пры гэтым жахлівыя закляцці.

Чарнабог як увасабленне ночы і смерці знаходзіцца ў пастаяннай барацьбе з Белабогам — увасабленнем дня і жыцця.

**ЧАЦВЕР** — чацвёрты дзень тыдня, які ў народна-міфалагічнай традыцыі звязваўся з ідэяй парнасці, цотнасці, спрыяльнасці. У старажытных славян-язычнікаў чацвер быў прысвечаны галоўнаму язычніцкаму богу — **Перуну.**

Як **аўторак** і **субота,** чацвер звязваўся з уяўленнямі аб спрыяльнасці любой справы (сватання, вяселля, гаспадарчых работ).

Асаблівай значнасцю надзяляўся чацвер на перадвялікодным тыдні *(Чысты чацвер)*. Асвечаныя ў гэты дзень свечы лічыліся засцярогай ад нябеснага агню **Іллі**-прарока. Шырока выкарыстоўвалася (асабліва ў народнай медыцыне) «чацвярговая соль» — соль, якую перапякалі ў гэты дзень на **патэльні** ў печы. Вялікае значэнне ў гэты дзень надавалася **вадзе:** да сонечнага ўсходу ўсе члены сям'і павінны былі памыцца ў лазні; мылі і жывёлу, асабліва коней, каб увесь год былі дужымі. Каб каровы былі малочнымі, у Чысты чацвер абмывалі вымя вадою, зачэрпнутай да ўсходу сонца з месца зліцця двух ручаёў. Верылі, што той, хто

адважыцца ў гэты дзень пакупацца ў палонцы, не будзе хварэць цэлы год.

На сценах дамоў і хлявоў у гэты дзень малявалі крэйдай крыжы для засцярогі ад нячыстай сілы. Для засцярогі дома ад нячысцікаў гаспадыня да світання голая абыходзіла вакол дома і абсыпала яго зернем.

На Чысты чацвер імкнуліся абавязкова што-небудзь пасеяць у полі ці ў агародзе: спадзяваліся, што ўсё вырасце чыстым, без пустазелля.

**ЧОРНЫ** колер у павер'ях усходніх славян (як і іншых народаў) надзяляўся негатыўнай сімволікай, звязанай з уяўленнямі аб ночы, цемры, безжыццёвасці, замагільным свеце, смерці і жалобе (параўн. процілеглыя ўяўленні, звязаныя з асноўнай семантыкай **белага** колеру). Персаніфікаваным увасабленнем названых уяўленняў у сферы язычніцкай міфалогіі быў **Чарнабог**. Чорны колер — абавязковы атрыбут нячыстай сілы (гл. **Вадзянік, Віхор, Вій, Мара, Палявік, Чорт**). **Халера** ўяўлялася не толькі як жанчына ў чорнай вопратцы, але і як істота, якая едзе на вараных конях. Жывёлы чорнага колеру (**кошкі, каты, казлы, сабакі, пеўні**) асэнсоўваліся як увасабленне нячыстай сілы (**ведзьмы** або **ведзьмары**-пярэваратні). Чорны кот або чорны певень — няэменныя спадарожнікі ведзьмы, жывёлы, якія надаюць ёй большую магічную сілу.

У народных замовах слова *чорны* можа выкарыстоўвацца для мэтанакіраванага «насычэння» тэкста, для надання яму большай таямнічасці і магічнай значнасці: «Ішоў чорны дзед чорнай дарогаю, чорныя пасталы, чорныя валокі, чорныя анучы, чорныя штаны, чорна рубашка, чорна світа, чорна папруга. Нёс на плячэ сякеру. Стаў чорнага дуба рубаці, сталі асколкі лятаці...» (Ад сурокаў карове); «Самі яны вароны чорныя, вочы іх чорныя, дзюбкі іх чорныя, кохці іх чорныя, кryллі іх чорныя...». (Замова на сон).

**ЧОРТ** — у міфалогіі ўсходніх славян і іншых славянскіх народаў — злы дух, істота з адзнакамі чалавека і жывёлы; слова *чорт* нярэдка ўжываецца як абагульненае абазначэнне нячыстай сілы наогул (**Лесавікоў, Вадзенікоў, Лазнікаў, Дамавікоў** і інш.).

Знешнасць Чорта ўяўляецца рознай. Найчасцей гэта чалавекападобная істота, пакрытая **чорнай** шэрсцю, з хвастом, казлінымі нагамі і рагамі; на руках — доўгія кіпцюры. Чорт можа мець знешнасць маладога хлопца, дзеда, падарожніка, старца, пана (паніча) і ніколі не прымае жаночай знешнасці. Па народных уяўленнях, Чорт таксама мог абярнуцца жывёлай (чорным **катом, сабакам, зайцам, баранам, казлом**), птушкай (савой) ці прадметам (кулем саломы, абгарэлым пнём, бочкай, незапрэжаным возам, колам, карчом). Адметнай асаблівасцю Чорта, які

набывае выгляд жывёлы пры сустрэчы з чалавекам, з'яўляецца яго павелічэнне ў вазе: «Калі пачнецца навальніца ці дождж, Чорт прыкінецца козлікам і пачынае жаласліва бляяць. Спагадлівы чалавек возьме яго ў крысо і нясе дадому, каб адагрэць. А Чорту толькі гэта і трэба: з хрышчонай душой яму бяспечней ад грымот, а таксама прыемна прымусіць чалавека паднесці сябе. Чым далей ідзе чалавек, тым козлік робіцца цяжэйшы. Чалавек, знемагаючы ад цяжару, ледзьве дыхае, а козліка шкада кінуць— так ён жаласліва бляе. Але вось ужо і дом. Тут козлік, выскачыўша з крыса, рассмяецца дзікім голасам, зробіць непрыстойнасць—і толькі яго бачылі...» (параўн. эмест рускай былічкі аб сустрэчы чалавека з Чортам у выглядзе **зайца**). У наступнай рускай былічцы таксама падкрэсліваецца звышнатуральная вага нячысціка: «Вот я сплю, а на меня кто-то и налёг, у меня на груди сидит кто-то с виду и не величек, а как будто десятипудовый куль на грудь-то поставлен. Всего на всё только немного кошки побольше, да и туловo похоже на кошкино, а хвоста нет; голова-то как у человека, а нос от горбатый-прегорбатый, глаза большущие, красные, как огонь, а над ними бровн черные, большие, рот широкущий, а в ём два ряда чёрных зубов, язык красный да шерховатый; руки как у человека, только ногти загнутые, да все обросли шерстью, как у кошки...»

Згодна з агульнавядомай легендай, чэрці па сваму паходжанню — гэта былыя **анёлы**, скінутыя Богам на зямлю: «Дамавікі, Лесуны і інш. раней былі анёламі, але на чале са сваім старшым хацелі пазбавіць Бога нябеснага ўладання, за што Бог паразіў іх грамамі, перунамі, і яны паляцелі на зямлю. Адны трапілі ў балота і засталіся там, іншыя апынуліся ў лясах, трэція трапілі ля чалавечага жытла». Асноўнае месца знаходжання Чорта — **пекла**. «Не ўсе, аднак, Чэрці сядзяць у пекле: жаданне шкодзіць, наколькі магчыма, людзям цягне іх на паверхню зямлі. З гэтай мэтаю Чорт падшуквае сабе жытло бліжэй да чалавека і туліцца ў тых месцах, дзе вельмі часта даводзіцца бываць чалавеку» (П. Дземідовіч). Паўсюднасць — адна з характэрных асаблівасцей Чорта: ён можа быць (у адрозненне ад **Лесуна, Вадзяніка, Дамавіка, Балотніка** і інш.) у самых розных месцах. Але, па народных павер'ях, ёсць і пастаянныя месцы знаходжання чарцей: **балоты** (параўн. прыказку *Абы балота, то і Чорт будзе*), **лазні**, ветраныя млыны, пусткі, пакінутыя сялібы, старыя і напаўразбураныя пабудовы, месцы самазабойстваў, перакрыжаванні дарог, яры. Адначасова існавала перакананне ў тым, што Чорт не можа знаходзіцца побач з тымі месцамі, дзе растуць лён, каноплі ці пшаніца, таму што з іх вырабляюць алей і прасфоры, якія пастаянна ўжываюцца ў царкве. Чорт не можа таксама знахо-

дзіцца ў вадзе ад **Вадохрышча да Купалля**, садзіцца на **вярбу** з вербнай нядзелі да Вадохрышча і на ўсе травы ад Купалля да зімы.

Галоўная функцыя Чорта — усяляк шкодзіць людзям. Параўноўваючы ў гэтым сэнсе Чорта з іншымі нячысцікамі, А. Багдановіч заўважае: «Чорт — гэта, так сказаць, прынцыповы праціўнік усякага дабра, гэта чыстае ўвасабленне зла. І Вадзянік, і Лясун, і іншыя стыхійныя богі могуць рабіць зло, але могуць і не рабіць яго; а Чорт не можа — такая ўжо ў яго натура... Ён неадступна сочыць за чалавекам, імкнецца выкарыстаць усякую магчымасць, каб зрабіць яму шкоду, увясці яго ў грэх, пагубіць яго душу». Па ўкраінскіх павер'ях, чалавек можа ўступіць у дагаворныя адносіны з Чортам і нават наняць яго на службу, паабяцаўшы яму за гэта ўласную душу. Такія «дагаворы» здзяйсняюцца ноччу на перакрыжаваннях дарог і зацвярджаюцца крывёю з мезенага пальца. Імкненне Чорта завалодаць душою чалавека падкрэсліваецца і ў адпаведных беларускіх уяўленнях: «Чорт, каб толькі ўзяць душу, усё можа даць чалавеку, здароўе, доўгае жыццё, шчасце, заступніцтва, дастатак, талент — адным словам, усё, чаго толькі чалавек можа жадаць».

Чорт прысутнічае на кожным вяселлі і імкнецца ўсімі шляхамі перашкодзіць выязду жаніха і нявесты ў царкву: нябачна трымае каня, які ўздрыгвае, пераступае з нагі на нагу, часта «абмірае». Па звестках, запісаных А. Ляцкім, у такім выпадку трэба перахрысціць прастору перад канём і перавесці лейцы з аднаго боку **хамута** на другі.

Сродкамі засцярогі ад Чорта з'яўляюцца крыж, асвечаная вада, малітва і ўвогуле — усе прадметы, якія маюць дачыненне да царквы, набажэнства. Параўн. у гэтай сувязі беларускія прыказкі *Баіцца як Чорт крыжа; Баіцца як Чорт свянцонай вады; Баіцца як Чорт папа; Дрыжыць як Чорт пад крыжам* і інш. Асабліва небяспечнымі для Чорта, згубнымі для яго з'яўляюцца перуны-маланкі, якія насылае на яго святы **Ілля**: «Чёрт смертен, он может быть убит молнией. Поэтому в грозу Чёрт прячется за различные предметы — за деревья, дома, даже за человека. Но стрелы Ильи-пророка находят его и там убивают, обычно вместе с тем человеком, позади которого он спрятался» (Д. К. Зяленін).

Адначасова Чорт (асабліва як персанаж народных казак) — даволі камічная, а ў асобных выпадках — нават бясшкодная для чалавека істота. Больш таго, ён можа прыносіць нейкую карысць, рабіць добрыя ўчынкі. Так, у беларускай народнай казцы «Мужык, Чорт і мядзведзь» Чорт расказвае мужыку, які пабудаваў сабе новую хату, аб тым, што пад печчу ў гэтай хаце ён захаваў цэлую скрыню золата. «Прыехаў мужык дадому, дастаў тыя грошы і на іх пастроіў у сваім сяле цэркаў і школу, і сабе зямлі ку-

піў болей, і стаў жыць вунь як добра...» У другой казцы — «Чорт-злодзей» — расказваецца аб тым, як малады Чорт украў у бедняка яго адзіную ежу — праснак. Пакрыўджаны чалавек паскардзіўся на гэтае злачынства старшаму Чорту, які строга паўшчуваў і справядліва пакараў злодзея: «Навошта ты праснак украў? Дзед — чалавек бедны, а ты ў яго крадзеш. Калі так, бяры, дзед, яго да сябе, няхай адслужыць за шкоду». У далейшым Чорт-злодзей поўнасцю выкупляе сваю віну: шляхам розных хітрыкаў і дасціпных выдумак ён падманвае пана і робіць бедняка багатым чалавекам. Увогуле Чорт у народных уяўленнях нярэдка звязваецца з грашыма, золатам, схаванымі ў зямлі **скарбамі** (параўн. прыказку *Багаты як чорт рагаты*). Чорт можа ў імгненне вока выканаць самую складаную, цяжкую і недарэчную работу. Пры гэтым разумовыя здольнасці Чорта ацэньваюцца невысока. Параўн. заўвагу, зробленую М. Федароўскім: «Народ лічыць, што хоць Д'ябал моцны, дужы і хітры, разам з тым ён крыху дурнаваты, бо чалавечых думак адгадаць не можа. Таму калі толькі чалавек хітры, дасціпны, ён заўсёды з лёгкасцю можа яго ашукаць». У барацьбе з Чортам таму чалавек звычайна выходзіць пераможцам. Адсюль вядомае прыслоўе *Не так страшны Чорт, як яго малююць.*

Разам з тым, агульнавядомым з'яўляецца павер'е аб небяспечнасці частага выкарыстання слова *чорт* у паўсядзённым жыцці: нячысцік насылае за гэта на чалавека цяжкую хваробу («садзіць мядзведзя на плечы»). У сувязі з гэтым выкарыстоўвалі для наймення Чорта іншыя сінанімічныя назвы: *Нялёгкі, Нячысты, Ліха, Яно, Штось* і інш. У народных прыказках адлюстравалася своеасаблівае «прызнанне» за Чортам пэўнай сілы, магутнасці, улады над чалавекам: *Трэба радзіць, як і з Чортам ладзіць; І Бога хвалі, і Чорта не гняві; Бога не гняві і Чорта не смяшы; На Бога спадзявайся, але і за Чорта трымайся; Бога прасі і Чорта ў злосць не ўводзь.*

Чорт у народных легендах выступае (разам з Богам) як стваральнік **зямлі**, у прыватнасці, тых перашкод і цяжкасцей, якія непазбежна сустракаюцца чалавеку ў яго жыцці. Так, у адной легендзе на пытанне Бога аб тым, навошта Чорт стварыў балоты, трасіны і горы, ён адказвае: «Ах, госпадзі, ета і харашо, што трудна. Аб вас успомніць чалавек і мяне-та не забудзець... Вот, як ён будзець, задыхаючыся, на гару падымацца, скажыць: — Памагі, Госпадзі! А як з гары станець спускацца, верна, і мяне ўспамянець: — Чорт мяне панёс на такую высату: тут галаву зламаць можна. Абаім нам будзець няплоха».

Згодна з народнымі паданнямі, менавіта Чорт навучыў людзей кавальскай справе, вынайшаў **агонь**, млын, дуду, гарэлку і **тытунь**.

**ЧУР** — ва ўсходнеславянскіх павер'ях — міфічная істота, добры дух, які засцерагае межы гаспадаркі. Пад абаронай Чура знаходзяцца знакі мяжы: невялікія ўзгоркі, агарожы, платы. Той, хто асмеліцца змяніць знакі мяжы або разбурыць агарожу, накліча на сябе гнеў Чура. Чур лічыцца таксама духам дома (гл.: **Дамавік**), які змагаецца са злымі нячысцікамі. Слова *чур* часта ўжываецца ў выразах тыпу *Чур мяне!* (звяртанне да Чура з просьбай аб абароне), *Чур маё! Чур разам!* (у гэтых выслоўях Чур выступае як абаронца правоў уласнасці). На думку некаторых даследчыкаў, гэтае слова звязана таксама з формай *шчур,* якая, у сваю чаргу, паходзіць ад слова *прашчур,* г. зн., продак, роданачальнік, што адпавядае міфічнаму зместу Чура (паводле А. Кіркора).

**ЧЫРВОНЫ** колер у павер'ях і абрадавых уяўленнях усходніх славян надзяляўся пераважна станоўчай сімволікай праз сваю відавочную сувязь з **агнём** і крывёю. Параўн. чырвоны колер велікоднага **яйка,** якое сімвалізуе перамогу жыцця над смерцю. Чырвоныя паяскі (гл. **Пояс**) і ніці шырока выкарыстоўваліся ў засцерагаючай магіі і ў народнай медыцыне. Напрыклад, для засцярогі ад сурокаў малым дзецям павязвалі на рукі чырвоныя ніці. Сродкам ад уздзеяння **ведзьмаў** лічылася і **рабіна** з-за чырвонага колеру сваіх ягад. На асацыятыўнай сувязі «чырвоны колер — здароўе, адсутнасць хвароб» заснаваны звычаі ўмывацца вадой, у якую пакладзена велікоднае яйка, а таксама пакрыванне галавы чырвонай хусткай пры першым громе. Гэты колер асацыіруецца таксама са знешняй прыгажосцю: «Чырвоны колер лічыцца ў сялян добрым, а таму дзяўчаты, каб надаць сабе больш прыгажосці і спадабацца хлопцам, апранаюць чырвоныя андаракі, сарафаны і павязваюць галаву ярка-чырвонымі хусткамі» (Е. Р. Раманаў).

У асобных (нешматлікіх) выпадках чырвоны колер выступае ў якасці атрыбута нячыстай сілы (**Дамавіка, Вадзяніка, Чорта**).

**ЧЭРЦІ** Гл. **Чорт.**

## Ш

**ШУЛІКУНЫ** — у рускай міфалогіі — дзеці **Вадзяніка,** злыя, варожыя чалавеку істоты; іншыя назвы — *шиликуны, шулюкуны, шликуны;* назва *шулікуны* паходзіць ад старажытнарускага слова *шуи,* якое мела значэнне «левы» і «дрэнны, нячысты».

Пасля **Вадохрышча** (6 студзеня), калі **вада** асвячаецца святым крыжам і каля рэчак, азёраў і калодзежаў адбываюцца набажэнствы, шулікуны выскокваюць з вады, баронячыся ад згубнага для

іх уздзеяння крыжа, і імкнуцца трапіць у чалавечае жыллё праз вокны і дзверы. Для таго, каб засцерагчыся ад нячысцікаў-шулікунаў, на дзвярах і вокнах перад Вадохрышчам малююць крэйдай крыжы.

Знешне шулікуны ўяўляліся вельмі маленькімі — ростам з кулак, з конскімі нагамі. Шулікуны, па народных уяўленнях, бегаюць па вуліцах з патэльнямі, на якіх ляжаць гарачыя вуголлі, якімі могуць абпаліць чалавека, зрабіць пажар. Сустракаюцца шулікуны і ў лесе, і побач з палонкамі, дзе яны дражняць п'яных, здзекуюцца з іх, штурхаючы ў гразь, але могуць заманіць у палонку і ўтапіць у рацэ. На Валагодчыне лічылі, што шулікунамі становяцца дзеці, якіх праклялі або забілі іх бацькі. Месца знаходжання шулікунаў — пустыя хлявы, нежылыя дамы; яны заўсёды жывуць «арцелямі» і ў тым выпадку, калі трапляюць у дом, выгнаць іх адтуль вельмі цяжка. Параўн. **Злыдні.**

Бліжэйшы міфалагічны «родзіч» шулікуна — **Кікімара.**

# Ю

**ЮРАЙ** Гл. **Юр'я.**

**ЮР'Я, ЮРАЙ** (6 *мая*) — свята пачатку сапраўднай вясны, дзень першага выгану жывёлы ў поле. Менавіта з Юр'я, згодна з павер'ем, пачынае куваць **зязюля.** Юрай (рус. *Юрий*, *Егорий*) у народнай свядомасці быў апекуном дзікіх звяроў (гл.: **Воўк**) і дамашняй жывёлы. У народных легендах ён ахоўвае на пашы жывёлу, дапамагае пастухам або карае іх за правіннасці; кіруе ваўкамі, размяркоўвае ім корм, паказвае, якую жывёлу яны могуць з'есці (параўн. у сувязі з гэтым рускую прыказку *Что у волка в зубах, то Егорий дал).*

У народзе ўяўлялі, што Юрай едзе на **белым** кані і замыкае пашчы дзікім звярам, пасля чаго тыя менш нападаюць на скаціну. Статак стараліся выгнаць зарань, на цудадзейную юраўскую расу — яна павінна забяспечыць вялікі дастатак малака. За лепшае лічылі, калі запасванне супадае з поўняю — «каб усяго было поўна». Перад тым, як выгнаць жывёлу, гаспадар тройчы абыходзіў яе з запаленай **грамнічнай** свечкай і апырскваў асвячонай вадою. Абкурвалі жывёлу падпаленымі купальскімі зёлкамі, а выганялі яе з хлява, пасцёбваючы асвячонымі на Вербніцу галінкамі **вярбы,** затым яе ўтыкалі ў хляве ад злых духаў і **ведзьмаў.** На парозе хлява перад жывёлай клалі розныя прадметы: курынае **яйцо** — каб каровы былі круглыя і поўныя; замкнуты замок — ахоўны сродак ад ваўкоў («Няхай так замкнецца яго пашча на ўсё лета»); **сякеру,** каб абараніць гавяду ад нячыстай

сілы; **пояс** — каб скаціна не адыходзіла ад дому; бязмен — каб жывёла павялічвалася ў вазе. Беларусы Гродзенскай губерніі спачатку выганялі скаціну вечарам напярэдадні Юр'я. Перад хлявом клалі кажух шэрсцю ўверх, на які ставілі хлеб і яйка і праганялі праз кажух усю скаціну. Потым пастух забіраў хлеб і яйка, кажух апранаў на сябе і гнаў скаціну на пашу. Кажух ён не павінен быў здымаць на працягу ўсяго дня . Вельмі цікавы і надзвычай архаічны абрад, у якім перапляліся заснаваныя на міфалагічных уяўленнях магічныя дзеянні і магічныя словы, быў запісаны на Аршаншчыне ў канцы мінулага стагоддзя П. В. Шэйнам. Змест і «ўнутраная логіка» абраду заключаліся ў імкненні засцерагчы жывёлу ад драпежнікаў. Выконваўся ён пастухамі, якія абыходзілі статак двойчы: зранку з іконай святога Георгія (Юрыя) і асвячонай **вярбою,** а ўвечары — з ячняй, якую нёс старэйшы пастух; астатнія пастухі ў гэтым магічным дзеянні выконвалі ролі людзей, жывёл і прадметаў: сляпога, **зайца** і **калоды.** Старэйшы пастух па чарзе звяртаўся да кожнага з іх: «Крывы, крывы, ці дойдзеш ты?» — «Не, не дайду, не бачу» — «Няхай жа і воўк не бачыць нашай скаціны»; «Заяц, заяц, ці горкая асінка?» — «Горкая» — «Няхай жа скацінка так будзе горка воўку»; «Калода, калода, ці павернешся ты?» — «Не, не павярнуся» — «Няхай жа воўк не павернецца да нашай скаціны»; «Калода, калода, ці гніла ты?» — «Гніла» — «Няхай жа ў воўка зубы будуць гнілы». Абыйшоўшы статак, пастухі з'ядалі яешню, а лыжкі падкідвалі ўгору — «каб наша скацінка так угору скакала».

Беларусы і ўкраінцы вялікае значэнне надавалі юраўскай расе, верылі ў яе гаючыя ўласцівасці. Лічылі, што скаціна, паеўшы травы, на якой захавалася юраўская раса, будзе заўжды дужая і здаровая. Расу лічылі карыснай і для людзей. Жанчыны збіралі яе: рассцілалі на полі палатно, а калі яно намокне ад расы, выкручвалі яго. Гэтай расой абмывалі хворыя часткі цела, асабліва вочы, абмывалі жывёлу, змешвалі яе з асвячонаю на **Вадохрышча** вадою і апырсквалі ёю жывёлу. Па народных павер'ях, чароўнымі ўласцівасцямі раса валодала таму, што сам Юрай ключамі адмыкаў зямлю, выпускаў цёплую расу, якая забяспечвае ўрадлівасць зямлі і здароўе людзей. Аб гэтым сведчыць змест беларускай народнай песні:

Юрай, уставай рана,
Адамкні зямлю,
Выпускай расу
На цёплае лета,
На буйнае жыта.

Завівай вяночкі
На годы добрыя,
На жыта густое,
На ядраністае,
На каласістае.

Моладзь (а ў некаторых вёсках — і дарослыя) качаліся па юраўскай расе, «каб увесь год быць здаровымі і прыгожымі».

Балгарскі звычай, у адпаведнасці з якім прадпісвалася качацца па юраўскай расе бясплодным жанчынам, якія хацелі нарадзіць дзіця, таксама сведчыць аб веры людзей у цудадзейную, апладняючую сілу юраўскай расы.

## — Я —

**ЯЙЦО.** Згодна з міфалагічнымі павер'ямі многіх народаў свету, яйцо з'яўляецца пershакрыніцай і сімвалам жыцця. У многіх міфалагічных традыцыях вядомы вобраз «сусветнага яйца», з якога ўзнікае сусвет або нейкая персаніфікаваная творчая сіла: бог-тварэц, культурны герой-дэміург, а іншы раз — і ўвесь род чалавечы. Часцей за ўсё сустракаюцца матывы паходжання з верхняй і ніжняй частак яйца неба, зямлі і сонца. Аб гэтым, у прыватнасці, гаворыцца ў вядомым фінскім эпасе «Калевала»: «Из яйца, из нижней части, вышла мать земля сырая; из яйца, из верхней части, встал высокий свод небесный...» А. М. Афанасьеў нагадвае запісанае старажытнагрэчаскім гісторыкам Герадотам паданне аб тым, што Сусвет быў створаны з яйца, пакладзенага казачнай птушкай Феніксам. Яйцо ўвогуле ўвасабляе магутную жыватворную сілу, якая процістаіць рознай нечысці. Па старажытнаму павер'ю, нячысцік (Чорт) можа быць забіты або маланкай, або яйцом, знесеным напярэдадні **Калядаў**, калі, па даўніх уяўленнях, нараджаецца сонца.

Выразную характарыстыку сімволікі яйца на прыкладзе казачнага сюжэта аб Кашчэі Бессмяротным прыводзіць акадэмік Б. А. Рыбакоў у манаграфіі «Язычніцтва старажытнай Русі». Вядомы гісторык лічыць, што месца знаходжання Кашчэевай смерці невыпадкова звязана з мадэллю сусвету — яйцом. Невыпадкова і тое, што зберагальнікамі, ахоўнікамі гэтага скарба з'яўляюцца ўсе стыхіі і іх прадстаўнікі: **вада** (мора, акіян), зямля (востраў), расліны (**дуб**), звяры (**воўк, мядзведзь, заяц**), птушкі (вутка). Казка, такім чынам, адпавядае старажытнаму мудраму міфу аб супярэчлівасці свету. Сусвет, сімвалам якога з'яўляецца яйцо, утрымлівае ў самім сабе не толькі станоўчы жыццёвы пачатак, але і кіраванне лёсам сусветнага зла. Міф гаворыць аб спрадвечнай барацьбе жыцця і смерці, дабра і зла. Да той пары, пакуль ніхто не змагаецца са злом, не замахваецца на нябачную, але існуючую ў свеце (у яйку) гібель зла, яно бессмяротнае, і толькі гераічныя подзвігі, заснаваныя на самаахвярнасці чалавека, і яго садружнасць з жывымі сіламі прыроды (з «удзячнымі жывёламі») могуць даказаць, што жыццёвы пачатак вечны, што жыццё непазбежна перамагае смерць.

Старажытныя славяне выкарыстоўвалі яйкі — сімвалы жыцця, плоднасці і ўраджаю — у многіх магічных дзеяннях і абрадах. Напрыклад, у дзень першага выгану жывёлы на пашу сяляне пагладжвалі яйцом па спіне каровы ці каня з заклінаннем: «Як гэтае яйцо гладкае і круглае, так і мая жывёла, будзь гладкай і круглай». Пачуўшы першы гром, дзяўчаты ішлі да крыніцы, дзе ўмывалі твар вадой — каб твар быў белым і прыгожым, як яйцо. Пры сяўбе ільну лужычане падкідвалі як мага вышэй яйцо, прыгаворваючы: «Няхай такі высокі вырасце лён!». Паўднёвыя славяне — сербы і македонцы — лічылі, што ў новым годзе ўсе работы будуць паспяховымі, калі рознымі прыладамі працы (лемяшом плуга, іголкай, верацяном і да т. п.) дакрануцца да яйца. У многіх рускіх вёсках гаспадары выходзілі вясной ў поле і каталі яйцо па руні, каб яна хутчэй узыходзіла. Згодна з нямецкім павер'ем, пры першай сяўбе ў полі араты (для забеспячэння добрага ўраджаю) павінен быў з'есці яйцо, а таксама (з гэтай жа мэтай) пакласці яйцо пад плуг.

Асаблівай магічнай значнасцю надзялялася велікоднае яйцо, якое невыпадкова знаходзіцца ў цэнтры абраду гэтага найвялікшага хрысціянскага свята: афарбаванае ў **чырвоны** колер яйцо сімвалізуе, згодна з хрысціянскімі ўяўленнямі, кроў, пралітую Ісусам Хрыстом дзеля збавення людзей ад іх грахоў. Ва ўсходніх славян да сёняшніх часоў захаваўся звычай (у форме гульні, забавы) на працяту ўсяго велікоднага тыдня катаць яйкі па зямлі (звычайна на ўзгорках). Першапачаткова ж гэтае дзеянне асэнсоўвалася як важны магічны акт: яйцо, сімвалізуючае зараджэнне новага жыцця, сваім датыкненнем да **зямлі** павінна абудзіць яе ад зімовага сну, зрабіць урадлівай. Да гэтага часу вядомы таксама звычай на **Радуніцу** класці велікоднае яйцо на магілах памерлых: яйкі ў гэтым выпадку выкарыстоўваліся ў якасці магічнага сродка, з дапамогай якога можна часова ажывіць памерлых. У зерне, падрыхтаванае да пасеву, клалі велікоднае яйцо, а ў час пасеву раскідвалі па полю шкарлупінне ад такіх яек. У Беларусі шкарлупіны ад велікодных яек затыкалі ў шчыліны бярвенняў у хаце, «каб прусакі не вадзіліся». Паўднёвыя славяне лічылі, што пафарбаваныя яйкі спрыяюць добраму ўраджаю і абараняюць ад граду, таму іх клалі на дрэвы, на зямлю, у пчальнік, а таксама абмазвалі **парог** цестам з дабаўленнем фарбаваных яек. Гаючыя ўласцівасці прыпісваліся і вадзе, у якой фарбавалі яйкі: гэтай вадой мылі дзяцей, на ёй замешвалі цеста, абціралі губы маладой хатняй жывёле.

**ЯРЫЛА** — старажытнае язычаскае бажаство, якое сімвалізавала вясеннюю абуджаную прыроду і пачуццёвае каханне. Імя Ярылы, як і іншыя словы з коранем *яр-*, звязана з уяўленнямі аб вясеннім пладароддзі (бел. *ярына,* рус. *яровой сев*) і аб маладых

жывёлах (*бычок-яровичок, тёлка-ярка*). У рускай мове слова *ярый* мае значэнні «гарачы, агнявы», а ўкраінскія словы *ярий, ярній* ужываюцца ў значэннях «веснавы, малады, поўны сіл, страсны».

Ярыла ўяўляўся ў выглядзе маладога, прыгожага юнака, які ездзіць на **белым** кані і ў **белай** вопратцы, на галаве ў яго — **вянок,** у руках — калоссі, ногі босыя. З'яўленне Ярылы сведчыць аб надыходзе сапраўднай вясны. У хрысціянскай традыцыі культ Ярылы быў заменены культам святога Георгія (**Юрыя**). Памяць гэтага святога адзначаецца ў календары 6 мая. У гэты дзень выконвалася адпаведная абрадавая песня:

А Юр'ева маці
Па небе хадзіла,
З Юр'ем гаварыла:
А Юр'ю мой, Юр'ю,
Падай Пятру ключы
Зямлю адамкнуці,
Траву выпусціці.

На гэтае свята на Беларусі прыбіралі Ярылаю і прыгожую дзяўчыну, саджаючы яе на **белага** каня. Вакол Ярылы збіраліся не толькі хлопцы і дзяўчаты, але і ўсе жыхары вёскі. Ярыла ехала (ехаў) па засеянаму полю, а карагод спяваў песню, у якой праслаўляўся Ярыла, яго дабратворны ўплыў на пладароддзе (параўн. **Каза**):

А дзе ж ён нагою —
Там жыта капою.
А дзе ж ён не зірне —
Там колас зацвіце.

Дзе Ярыла пройдзе — будзе добры ўраджай, на каго паглядзіць — у таго ў сэрцы разгарыцца каханне. Значнасць культу Ярылы праяўляецца ў тым, што ў народнай свядомасці ён атаясамліваўся з сонцам. Гэта выразна відаць з наступнага фрагмента тэксту да оперы А. Астроўскага «Снягурка».

Когда его встречаем — жизни сила,
Огонь любви торит у нас в очах.
Любовь и жизнь — дары Ярилы-Солнца.
Свет и сила, бог Ярила,
Красное солнце наше!
Нет тебя в мире краше!

Да Ярылы звярталіся з просьбамі аб каханні, аб цёплым лецe і добрым ураджаі.

Ушанаванне Ярылы праяўляецца і ў абрадзе яго сімвалічнага пахавання, якi адбываўся восенню. Ляльку-Ярылу з падкрэсленымі мужчынскімі (дзетароднымі) адзнакамі клалі ў труну і закопвалі ў зямлю; жанчыны, якія прысутнічалі пры гэтым, галасілі, як па нябожчыку. Абрад пахавання Ярылы сімвалізаваў развітанне з цёплым, ураджайным, жыццяносным летам і прадчуваннем халоднай, безжыццёвай зімы.



## ВЫКАРЫСТАНАЯ ЛІТАРАТУРА

*Афанасьев А. Н.* Древо жизни. М., 1983.

*Агапкина Т. А., Топорков А. Л.* Воробьиная (рябиновая) ночь в языке и поверьях восточных славян // Славянский и балканский фольклор. Реконструкция древней славянской духовной культуры: источники и методы. М., 1989.

*Байбурин А. К.* Жилище в обрядах и представлениях восточных славян. Л., 1983.

*Барташэвіч Г. А.* Магічнае слова: Вопыт даследавання светапогляднай і мастацкай асновы замоў. Мн., 1990.

*Баянов Д.* Леший по прозвищу «обезьяна»: Опыт демонологических сопоставлений. М., 1991.

Беларускія народныя абрады. Мн., 1994.

*Богданович А. Е.* Пережитки древнего миросозерцания у белорусов: Этнографический очерк. Гродна, 1895.

Бяздоннае багацце: Легенды. паданні, сказы / Склад. *А. І. Гурскі.* Мн., 1990.

*Валодзіна Т. В.* Талака ў сістэме духоўнай культуры беларусаў. Аўтарэферат дысертацыі на атрыманне вучонай ступені кандыдата філалагічных навук. Мн., 1994.

*Васілевіч У. А.* Беларускі народны каляндар. Мн., 1993.

*Виноградова Л. Н., Гура А. В.* Из этнолингвистического словаря славянских древностей. Бессонница // Русская речь, 1989, № 4.

*Воропай О.* Звічаі нашого народу. Етнографічний нарис. Частина 1—2. Київ, 1991.

Вяселле. Абрад. Мн., 1978.

*Гура А. В.* Заяц // Этнолингвистический словарь славянских древностей. Проект словника. Предварительные материалы. М., 1984.

Дай Божа знаць, з кім век векаваць: Беларуская народная варажба / Склад. *У. А. Васілевіч.* Мн., 1993.

*Даркевич В. П.* Топор как символ Перуна в древнерусском язычестве // Советская археология, 1961, № 4.

*Демидович П. П.* Из области верований и сказаний белорусов // Этнографическое обозрение, 1896, № 1; № 2—3.

*Добровольский В. Н.* Звукоподражания в народном языке и народной поэзии // Этнографическое обозрение, 1894, № 3.

*Добровольский В. Н.* Нечистая сила в народных верованиях // Живая старина, 1908, вып. 1.

*Завойко Г. К.* Верования, обряды и обычаи великоросов Владимирской губернии // Этнографическое обозрение, 1914, № 3—4.

Замовы / Уклад., сістэм. тэкстаў, уступ. арт. і камент. *Г. А. Барташэвіч.* Мн., 1992.

*Запольский М.* Чародейство в Северо-западном крае в XVII—XVIII вв. // Этнографическое обозрение, 1890, № 2.

*Зеленин Д. К.* Восточнославянская этнография. М., 1991.

Земляробчы каляндар: Абрады і звычаі. Мн., 1990.

*Киркор А. К.* Следы язычества в празднествах, обрядах и песнях // Живописная Россия. Отечество наше в его земельном, историческом, племенном, экономическом и бытовом значении. Литовское и белорусское Полесье. Мн., 1993.

*Коваль У. І. Новак В. С.* Беларускія народныя святы і звычаі. Гомель, 1993.

*Коваль У. І.* Чым адгукаецца слова: Фразеалогія ў абрадах, павер'ях і звычаях. Мн., 1994.

*Костомаров М. І.* Слов'янська міфологія. Вибрани праці з фольклористики й літературознавства. Київ, 1994.

Круглый год. Русский земледельческий календарь. Под ред. *Н. Ф. Некрыловой.* М., 1989.

*Кухаронак Т. І.* Радзінныя звычаі і абрады беларусаў: Канец XIX—XX ст. Мн., 1993.

Легенды і паданні. Мн., 1983.

*Лопатин Г. И.* О культе умерших и образах доброхожих // Наследие Кирилла Туровского и современная культурно-общественная жизнь. Материалы научной конференции. Гомель, 1994.

*Лукинова Т. В.* Лексика славянского язычества // Этимология 1984. М., 1986.

*Ляўкоў Э. А.* Маўклівыя сведкі мінуўшчыны. Мн., 1992.

*Ляцкий Е. А.* Представления белоруса о нечистой силе // Этнографическое обозрение, 1890, № 4.

*Ляцкий Е. А.* Болезнь и смерть по представлениям белорусов // Этнографическое обозрение, 1892, № 2—3.

*Максимов С. В.* Крестная сила. Нечистая сила. Неведомая сила: Трилогия. Кемерово, 1991.

*Милорадович В. П.* Українська відьма: Нариси з української демонології. Київ, 1993.

Міфы бацькаўшчыны / Уклад. *У. А. Васілевіч.* Мн., 1994.

*Мокиенко В. М.* Образы русской речи: Историко-этимологические и этиолингвистические очерки фразеологии. Л., 1986.

*Ненадавец А. М.* Святло таямнічага вогнішча. Мн., 1993.

*Никифоровский Н. Я.* Очерки простонародного житья-бытья в Витебской Белоруссии и описание предметов обиходности (Этнографические данные). Витебск, 1895.

*Никифоровский Н. Я.* Простонародные приметы и поверья, суеверные обряды и обычаи, легендарные сказания о лицах и местах. Витебск, 1897.

*Никифоровский Н. Я.* Нечистики. Свод простонародных в Витебской Белоруссии сказаний о нечистой силе. Вильна, 1907.

*Нікольскі Н. М.* Жывёлы ў звычаях, абрадах і вераннях беларускага сялянства. Менск, 1933.

*Носова Г. А.* Язычество в православии. М., 1975.

*Павлова М. Р.* Веретено и связанные с ним народные представления // Региональные особенности восточнославянских языков, литератур, фольклора и методы их изучения. Часть II. Тезисы докладов и сообщений III республиканской конференции. Гомель, 1985.

Персонажи славянской мифологии (Рисованый словарь). Сост.: *А. А. Кононенко, С. А. Кононенко.* Киев, 1993.

*Плачинда С. П.* Словник давньоукраїнської міфології. Київ, 1993.

Полесский этнолингвистический сборник. Материалы и исследования. М., 1983.

*Померанцева Э. В.* Мифологические персонажи в русском фольклоре. Л., 1975.

*Пропп В. Я.* Исторические корни волшебной сказки. Л., 1986.

*Романов Е. Р.* Белорусский сборник. Вып. 8. Вильна, 1912.

Русский народ: его обычаи, предания, суеверия и поэзия. Собр. *М. Забылиным.* М., 1990.

*Рыбаков Б. А.* Язычество древней Руси. М., 1986.

*Сержпутоўскі А. К.* Прымхі і забабоны беларусаў-паляшукоў. М., 1930.

Сказания русского народа, собранные *И. П. Сахаровым.* М., 1989.

*Соколова В. К.* Весенне-летние календарные обряды русских, украинцев и белорусов. М., 1979.

*Тайлор Э. Б.* Первобытная культура. М., 1989.

*Тарасаў К.* Памяць пра легенды: Постаці беларускай мінуўшчыны. Мн., 1990.

*Терновская О. А.* Борода // Этнолингвистический словарь славянских древностей. Проект словника. Предварительные материалы. М., 1984.

*Топорков А. Л.* Дежа // Этнолингвистический словарь славянских древностей. Проект словника. Предварительные материалы. М., 1984.

*Тульцева Л. А.* Рябина в народных поверьях // Советская этнография, 1976, № 5.

*Тульцева Л. А.* Символика воробья в обрядовом фольклоре // Обряды и обрядовый фольклор. М., 1982.

Українська минувшина: Ілюстрований етнаграфічний довідник. К., 1994.

*Фрэзер Д. Д.* Золотая ветвь: Исследования магии и религии. М., 1983.

*Харитонова В. И.* Черная и белая магия. М., 1990.

*Шейн П. В.* Белорусский сборник. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-западного края. СПб., 1890.

*Шахнович М. И.* Приметы в свете науки. Л., 1969.

## СЛОЎНІКІ І ЭНЦЫКЛАПЕДЫІ

Восточнославянский фольклор. Словарь научной и народной терминологии. Мн., 1993.

Выслоўі. Мн., 1979.

*Даль В. И.* Толковый словарь живого великорусского языка. Т. I—IV. М., 1980.

*Добровольский В. Н.* Смоленский областной словарь. Смоленск, 1914.

Мифологический словарь / Гл. ред. *Е. М. Мелетинский.* М., 1991.

Мифы народов мира. Т. 1—2. М., 1987—1988.

*Носович И. И.* Сборник белорусских пословиц. СПб., 1874.

Пословицы и поговорки русского народа. Из сборника В. И. Даля. М., 1987.

Прыказкі і прымаўкі. У дзвюх кнігах. Мн., 1976.

Словник української мови / Упорядкував *Б. Гринченко.* Т. I—IV. Київ, 1958.

Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. Т. I—IV. Мн., 1977—1984.

Тураўскі слоўнік. Т. I—V. Мн., 1982—1987.

Фразеологический словарь русских говоров Сибири / Под ред. *А. И. Фёдорова.* Новосибирск, 1983.

Этнаграфія Беларусі. Энцыклапедыя. Мн., 1989.

## ІНДЭКС СЛОЎ-МІФОНІМАЎ

# ЗМЕСТ

# Усім, у кім абуджаны душа і гістарычная памяць, хто шануе нашу мінуўшчыну,

## БЕЛАРУСКАЕ АГЕНЦТВА НАВУКОВА-ТЭХНІЧНАЙ І ДЗЕЛАВОЙ ІНФАРМАЦЫІ

адрасуе свае выданні. Мы будзем лічыць нашу працу не марнай, калі яна ў чымсьці будзе:

— садзейнічаць адраджэнню нацыянальнай самасвядомасці беларусаў,

— спрыяць паглыбленаму вывучэнню беларускай гісторыі і культуры,

— дапамагаць землякам-гамяльчанам пазнаваць і ведаць гісторыю роднага краю.

Рэалізацыі гэтых мэт служыць і праца У. І. Коваля «Народныя ўяўленні, павер'і і прыкметы: Даведнік па ўсходнеславянскай міфалогіі». У ёй раскрываецца дзівосны, таямнічы і непаўторны свет міфалагічнага светапогляду беларускага, рускага і ўкраінскага народаў. Кніга дазваляе больш поўна і дакладна зразумець карані нацыянальнай і агульначалавечай самасвядомасці, вытокі народнага менталітэту.

## БЕЛАРУСКІМ АГЕНЦТВАМ НАВУКОВА-ТЭХНІЧНАЙ І ДЗЕЛАВОЙ ІНФАРМАЦЫІ ВЫДАДЗЕНЫ КНІГІ:

У. І. КОВАЛЬ, В. С. НОВАК «Беларускія народныя святы і звычаі».

А. Ф. РОГАЛЕВ «Этнотопонимия Беларуси (на фоне этнической истории)».

А. Ф. РОГАЛЕВ «От Гомеюка до Гомеля. Городская старина в фактах, именах, лицах».

О. А. МАКУШНИКОВ «В поисках древнего Гомия».

В. С. НОВАК «Замовы».

А. Ф. РОГАЛЕВ «Белая Русь и белорусы (В поисках истоков)».

М. Ф. МАКАРЦОЎ «Каб не перасыхала крыніца... Фальклорна-тэатральная традыцыя на Гомельшчыне».

М. І. СКРЫННІКАЎ «Праўда аб гомельскім падполлі (жнівень 1941 — лістапад 1943 гадоў)».

## РЫХТУЮЦЦА ДА ВЫДАННЯ:

О. А. МАКУШНИКОВ «Старый Гомель: городская история до конца XVIII в.».

В. С. НОВАК «Таямніцы замоўнага слова».

В. П. ПІЧУКОЎ, М. І. СТАРАВОЙТАЎ «Беларускі нацыянальны рух (1863—1917 гг.)».

А. Ф. РОГАЛЕЎ «Назвы Бацькаўшчыны: тапанімічныя нарысы».

**БЕЛАРУСКАЕ АГЕНЦТВА НАВУКОВА-ТЭХНІЧНАЙ І ДЗЕЛАВОЙ ІНФАРМАЦЫІ**

**выказвае шчырую ўдзячнасць Гомельскаму абласному таварыству Кірылы Тураўскага за садзейнічанне ў выданні гэтай кнігі.**

**Запрашаем да супрацоўніцтва ў галіне выдання літаратуры ўсіх зацікаўленых асоб і арганізацыі.**

**Чакаем Вас з прапановамі па адрасу: 246050, г. Гомель, пр. Леніна, 3, пакой 312. Тэл.: 53-34-08; 53-01-77.**

*Навукова-папулярнае выданне*

**Коваль Уладзімір Іванавіч**

**НАРОДНЫЯ УЯЎЛЕННІ, ПАВЕР'І І ПРЫКМЕТЫ: Даведнік па ўсходнеславянскай міфалогіі.**

Гомель, Беларускае Агенцтва навукова-тэхнічнай і дзелавой інфармацыі.

Ліцэнзія ЛВ № 403 ад 10 сакавіка 1993 г.

246050, г. Гомель, пр. Леніна, 3.

Афармленне вокладкі мастака РЫЖОВА Г. Л., малюнкі мастака ЕЎТУХОВАЙ І. Г.

Здадзена ў набор 21.04.95 г. Падпісана ў друк 18.09.95 г. Фармат $60\times84^{1}/_{16}$. Папера афсетная № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Умоўн. друк. арк. 10,5. Тыраж 5000 экз. Заказ 852.

Друкарня БелДУТу, 246022, г. Гомель, вул. Кірава, 34.